# Маладосць


**7**

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(680) ЛІПЕНЬ, 2010**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**





**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:





Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*



Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 15.07.2010. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,16. Тыраж 2418 экз. Заказ 1678.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**

# НЯБАЧНЫ АЙСБЕРГ



***Заўжды, калі пачынаю думаць пра так званы сучасны літаратурны працэс, хочацца азірнуцца на гісторыю, дзе ў нейкіх далёкіх стагоддзях шматлікія дробныя княствы аб'ядноўваліся вакол якогасьці аднаго моцнага цэнтра… Прыкладам можа быць Полацкае княства, Вялікае княства Літоўскае — іншымі словамі, гэта ўжо былі дзяржавы з адпаведнымі дзяржаўнымі структурамі і прыярытэтамі.***

***Гэта ўсё так, але пры чым тут сучасны літаратурны працэс? — можа запытацца разважлівы чытач. І я паспрабую патлумачыць гэтае сваё параўнанне. Справа ў тым, что сённяшні літаратурны працэс надта ўжо раздроблены, дзе цяжка зарыентавацца чытачу, зрабіць пэўную выснову: што ж сабой уяўляе сучасная беларуская літаратура? Як мне тут не згадаць адну з тэлеперадач «Выбар», дзе гаворка ішла пра літаратуру. Хтосьці з удзельнікаў перадачы сказаў, што ў нас зусім няма літаратуры для дзяцей, маўляў, у кнігарнях стаіць толькі нейкая кніжачка пра рыб з серыі навукова-папулярных. І любы тэлегледач мог пагадзіцца з такім меркаваннем, але толькі не я, бо ведаю, колькі ў нас выходзіць цудоўных кніжак для дзяцей, прыкладам можна ўзяць толькі адну нашу рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Літаратура і Мастацтва»! Усё, што выходзіць у нашай установе, найперш дзецьмі сустракаецца з вялікім захапленнем! Людміла Рублеўская, Алена Масла, Генадзь Аўласенка, Таццяна Мушынская, Уладзімір Карызна; для падлеткаў — Андрэй Федарэнка, Алесь Бадак, Валерый Гапееў… Кнігі гэтых аўтараў вельмі запатрабаваныя, але як выхапіць, вылучыць іх з мора друкаванай кніжнай прадукцыі?! Літаратуразнаўчыя артыкулы просты чытач, як правіла, не чытае. Кніга не рэкламуецца па тэлебачанні, ды і ў кнігарнях за яе не зачэпіцца вока… Кідаюцца на разрэкламаваныя выданні. Існуе ж апошнім часам думка, што дзякуючы кнігам пра Гары Потэра, якія прайшлі праз такую магутную рэкламу, дзеці 4, 5, 6 класаў ахвотна чытаюць і цікавую кніжку не прамінаюць ужо. Вось і склалася сітуацыя, што літаратурны айсберг ёсць, ды яшчэ які (!), але ён, на вялікі жаль, масава нябачны, не кожны яго заўважае ў той размытасці, якая назіраецца.***

***У нас ёсць дзяржаўныя выдавецтвы і ёсць прыватныя. І, вядома ж, гэта цудоўна! Апошнія ў плыні бізнесу. Прынясе хоць хто рукапіс і за свае грошы — 50, 100 экземпляраў, калі ласка! Можна што заўгодна выдаць! Але такая сітуацыя канчаткова размывае літаратурны працэс, хаця, вядома, у прыватных выдавецтвах, дзякуй Богу, выдаюцца і выдатныя майстры мастацкага слова. Але ці дойдзе кніжачка тыражом у сто экземпляраў да чытача?! Гэта хутчэй за ўсё падарунак, які робіць выдавецтва для аўтара. Пра яе нават крытыкі могуць не ведаць. І яшчэ не магу не сказаць пра адно — тыя самыя прыярытэты! Для гэтага мушу азірнуцца назад, у той час, калі існавала краіна СССР, якая складалася з асобных рэспублік. І ў кожнай рэспубліцы — свая літаратура (зразумела, на сваёй мове). У Саюзе пісьменнікаў СССР нават кансультанты працавалі — па армянскай, беларускай, грузінскай, украінскай літаратуры… На адным з партыйных з'ездаў Хрушчоў аб'явіў рух да агульнай мовы, але сказаў, што тое будзе пры камунізме. Ідэя камунізму рухнула, не спрацавала, як не спрацаваў і той аб'яўлены рух… Дык, напэўна, у незалежнай краіне, дзе жывуць пераважна беларусы (яны і далі назву краіне), усё павінна працаваць на развіццё нацыянальнай беларускай літаратуры. Так спрадвеку існуе ва ўсіх краінах свету. Але ці працуе?***

***І ўсё ж ёсць чытач... І добра, што менавіта для яго ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» з'явіўся ўкладыш «Кніжны свет» — сумесны праект рэдакцыі і Нацыянальнай кніжнай палаты, адкуль можна дазнацца і пра ўсе кніжныя навінкі, і тое-сёе прачытаць пра айчынную кнігу, каб потым яе набыць, ці хаця б займець уяўленне: што ж такое сучасны літаратурны працэс?! Дык давайце ж адкрываць для сябе гэты айсберг!***

*З пачуццямі павагі і сардэчнасці —* Ф. Баравікова



*Паліна Лавецкая нарадзілася ў 1992 годзе ў Мінску. Скончыла Мінскую гімназію-каледж мастацтваў, цяпер вучыцца там жа (у каледжы). У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Паліна ЛАВЕЦКАЯ

# АКВАРЭЛЬНЫ ВЕЧАР

## ІМГНЕННЕ

Вакол імгненны акварэльны вечар,
Імгненнае маўчанне ліхтароў...
Пужае і цікавіць гэтая імгненнасць
Такіх ружова-шэрых вечароў...
Імгненнае чаканне той сустрэчы,
Якая не адбудзецца ізноў...
Імгненне, у якім дзівіцца нечым,
Але ў якім усёй зямлі любоў,
Што абдымае адзіноты плечы
Вяртаннем і вітаннем жаўрукоў.

## ПЛАЧ СЭРЦА МАЙГО

***Мастацкая інтэрпрэтацыя верша «Ціха дажджыць над горадам»***
Поля Верлена

Слёзы з сэрца глыбі
Лье на горад мой дождж
Па-над вуллем дамоў,
Дзе гасціць смутак зноў,
Кропляў шэптам пяе
Вокнам, стрэхам, зямлі
Думы іх і свае...
І душа менш баліць!
Сумна гэтай душы,
Бо не ўсмешка, а плач
Праз вакно ў яе лье
Сум і думы свае...
Няма ў сэрцы маім
Больш цяжкіх такіх хмар:
Праплылі ўжо над ім,
І сум гэты — не мой!..

Выпадкова шчыміць
У душы, што баліць
Без прычыны бядой.

**ІНШАЕ КАХАННЕ**

Калі глядзець у неба ранкам золкім
І ведаць — глупства пустату кахаць,
Убачыць можна ў небе тыя зоркі,
Якія будуць вечна суцяшаць...
Калі зайсці ў тралейбус ранкам золкім,
І сесці ля вакна, і засынаць,
То праз павекі можна ўбачыць звонкі
Прамень, што не навучыцца спяваць,
Пакуль не вернуцца дамоў,
да ночы, зоркі.
...І сэрца не захоча не кахаць!

**ЗОРНАЕ НЕБА**

Як добра мне, калі ты зоры бачыш
І крочыш да мяне праз Млечны Шлях...
Я ведаю — ты крыл сваіх не страціш,
Бо да мяне прыходзіш толькі ў снах.
Як добра да пляча твайго туліцца
Пад квеценню ў далёкім небе мар!
...Хачу, каб абяцаў ізноў прысніцца —
Тады міргнуць мне зоры з цемры хмар.

**УВЕЧАРЫ**

Змаўкае ўвечары завулак,
Яму больш не спявае вецер
І не шукае ў ім прытулку,
У самым ціхім гэтым свеце.
І аксамітам срэбна-белым
Мой вечар захінае гукі,
Ратуе тых, што не паспелі
Уліцца ў аднастайны грукат.
Змаўкае ўвечары завулак,
Не танчаць больш пад вецер крокі...
Шукае ў цішыні прытулак
Твой голас — блізкі і далёкі...





Наста Мігно нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску. Студэнтка філалагічнага факультэта Белдзярж-універсітэта. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

Наста МІГНО

# РУКАВІЧКІ

## *Апавяданне*

***«Добры дзень, — піша ў сваім лісце Наста. — Дасылаю вам апавяданне, якое, паводле слоў маёй аднакурсніцы, «узарвала ўсё на нашым факультэце». Прысвечана яно Дню Перамогі, тэма — вайна. Буду радая пачуць прафесійную ацэнку яму».***

***Наконт «узарванага факультэта» нічога сказаць не магу. Што да апавядання — яно друкуецца.***

Андрэй ФЕДАРЭНКА.

*Згубіліся рукавічкі.*

Вельмі старыя, зношаныя за доўгія гады, гэтыя рукавічкі трымала ў сваёй даволі вялікай кватэры адна жанчына. Нягледзячы на дастатковую колькасць грошай, Вольга Андрэеўна рупліва хавала гэтыя рукавічкі ў лакіраванай шкатулцы, зробленай з карэльскай бярозы, і амаль нікому не паказвала іх. Аднойчы рукавічкі назаўсёды зніклі са шкатулкі. І, здавалася, іх даўно ўжо патрэбна было выкінуць, каб яны не займалі месца. Толькі для жанчыны гэта была не проста некалі прыгожая рэч. Рукавічкі бачылі страшнае.

Яшчэ ў далёкім тысяча дзевяцьсот трыццаць восьмым годзе ў адзін зімовы вечар вясковая жанчына Вера сядзела ў звычайнай сельскай хаце і займалася сваёй звыклай працай. Трымаючы ў руках спіцы, пры святле газавай лямпы вязала яна для сябе рукавічкі. Побач займалася за сталом яе старэйшая дачка Волечка, якая ўжо хадзіла ў трэці клас. Яна старанна выконвала ў сшытку хатняе заданне, павольна выводзіла ў кожнай клетачцы лічбіны. Малодшы яе брат Жэня яшчэ не хадзіў у школу і цяпер гуляўся сам з сабою. Спачатку ён падышоў да ложка, на якім ляжала трохгадовая Акулька, упэўніўся, што сястрычка моцна спіць, затым палез пад лаўку. Там валяліся розныя дзіцячыя цацкі. Жэня выцягнуў самую вялікую Акулькіну ляльку, зняў з яе сукенку і патупаў да печы. На печы, раскінуўшы лапы, грэў пуза тоўсты кот. Сцягнуўшы разамлеўшага ад прыемнага цяпла ката, малы пачаў апранаць яго ў ляльчыну вопратку. Зразумела, кот не быў настроены

на такую гульню. Ён злосна зашыпеў, замяўкаў, пачаў вырывацца і драпаў малому рукі, але Жэня не выпускаў яго, намагаючыся здзейсніць сваю задуму. Пазіраючы, як хлопчык упарта змагаецца з катом, Волечка не вытрымала і звонка рассмяялася.

— Не чапай ката! — хаваючы ўсмешку, загадала Вера строга. — Вось як абдзярэ табе нос…

Але кот неяк здолеў вырвацца сам. Адчуўшы свабоду, ён ускараскаўся на шафу, адкуль хлопчык не мог яго дастаць.

— Мама! — ледзь не заплакаў малы, гледзячы, як кацяра з задаволеным выглядам вылізваецца на шафе. — Скажы яму…

У гэты момант дзверы зарыпелі. У хату з вуліцы дыхнула марозам. Прыйшоў бацька. Дзеці адразу кінуліся да яго. Услед за бацькам у пакой увайшоў яшчэ адзін мужчына — дзядзька Анатоль. Ён жыў у суседняй хаце і працаваў разам з бацькам. Ад яго несла дымам і холадам. Вера паднялася з месца. Бацька пацалаваў яе і сказаў, звяртаючыся да свайго сябра:

— Хадзем, Толя, зараз забярэш.

Яны выйшлі ў другі пакой. Гэты сусед некалі пазычыў бацьку грошы, а сёння якраз выпала магчымасць іх аддаць. Жэнька раптам успомніў пра ката:

— Мама, чаму кот не хоча са мной гуляць?

— Апранулі б на цябе сукенку! — са смехам адказала брату Волечка.

Так і жылі Ігнатовічы сваёй даволі вялікай сям'ёй: Вера з мужам Андрэем і іх дзеці: Волечка, Жэня, Акулька, Іван і самыя меншыя — Уладзік і Марынка. Жылі ў спагадзе і любові адно да аднаго. Амаль ніколі не сварыліся паміж сабой. Грошай ім хапала, трымалі гаспадарку. Добра жылі. Але нядоўга ім заставалася так жыць. Бяда ўжо чакала свайго часу…

Калі яна прыйшла, Андрэй адзін з першых пайшоў на фронт. У той трывожны дзень ён падняўся рана, трохі паеў і пачаў збірацца. Увесь час ён стараўся быць вясёлым, часта жартаваў. Але настрою ўсё роўна не было. Потым пайшлі праводзіць бацьку ў дарогу. Малых пакінулі ў хаце. Пакуль ішлі, Вера ўвесь час плакала. Гэта былі цяжкія хвіліны. Волечка назаўсёды запомніла сваё расстанне з бацькам. Андрэй абняў Веру, Волечку і Жэньку, загадаў ім «не сумаваць» і знік у натоўпе. Вера прытулілася да сцяны і плакала. Волечка ўбачыла, як бацька на хаду спрытна ўскочыў у вагон цягніка, з вокнаў якога весела пасміхаліся і махалі рукамі маладыя хлопцы ў шынялях. Ніхто не ведаў, што едзе ён назаўсёды...

Аб тым, што Андрэй загінуў на фронце, Вера выпадкова даведалася ад нейкага абарванага, змардаванага з выгляду чалавека, які ішоў праз вёску і папрасіўся пераначаваць. Аказалася, ён ваяваў разам з Андрэем. Ад гора і адчаю Вера нават забылася спытаць, дзе дакладна загінуў Андрэй, думала, што гэта вёска такая — Асвенцым. Недзе за Брэстам.

Але трэба было жыць далей.

Той жа зімою Жэнька, ужо не смешны малы, а не па гадах сталы хлопец, пайшоў у лес. Ён даўно марыў сустрэць атрад партызан, далучыцца да іх і адпомсціць фашыстам за свайго бацьку. Ды толькі неўзабаве Жэня прыбег дахаты. На руках ён трымаў дзяўчынку гадоў трох, якую, сінюю ад холаду, захутаў у свой кажух. Уляцеўшы ў хату, ён крыкнуў:

— Хутчэй! Грэйце ваду!

Волечка сарвалася з месца і кінулася па ваду. Вера ўзяла дзяўчынку, пасадзіла на лаўку, дзе толькі што шыла, расхінула на дзяўчынцы Жэнькаў кажух. Потым,

шукаючы ў шафе сухое Марынчына адзенне, не ўтрымалася і залілася слязьмі. Дзяўчынка была ўся ў сіняках і драпінах, худая, змардаваная ад голаду і сцюжы, ледзь жывая. Ад болю і стомы яна ўжо нават не плакала. У гэтыя моцныя каляднныя маразы на ёй не было нічога, акрамя сарочкі. На правай шчацэ запяклася кроў. Жэнька сказаў, што знайшоў дзіця ў снезе. Вера схапіла нейкую анучу і стала расціраць пасінелыя ад марозу, нерухомыя босыя ножкі дзіцяці. Разам з Волечкай яны нагрэлі вады, асцярожна абмылі дзяўчынку. Малая трохі ачуняла, пачала плакаць. Твар яе здаваўся Веры знаёмым. Вера раптам пахаладзела. Гэта была Ніначка, малодшая дачушка Саламона Ісакавіча, што жыў некалі ў іх вёсцы. Больш добрага і спагадлівага чалавека яшчэ не бачыў гэты свет. Разам са сваёй жонкай Соф'яй, такой жа добразычлівай жанчынай, яны часта заходзілі да Ігнатовічаў у госці. Дзядзьку Саламона ведалі ўсе. Гэты чалавек граў на скрыпцы. Маленькі і хударлявы, непрыкметны з выгляду, ён, узяўшы ў рукі сваю старую скрыпачку, станавіўся вялікім і дужым. На кожным вяселлі спявала Саламонава скрыпка. Яна смяялася так звонка, што нават стогадовы дзед Мікіта жвава пускаўся скакаць упрысядкі. А на хаўтурах скрыпка плакала разам з усімі, але не проста плакала, а натхняла на жыццё. У Саламона былі тры сыны і дачушка.

Думкі адна за адной вірам круціліся ў Верынай галаве. Колькі дзён таму фашысты былі ў вёсцы за лесам. Значыць, гэта Саламонава хата гарэла ўчора. Вера не ведала, што Саламон прыняў страшную смерць. Спачатку фашысты здзекваліся са скрыпкі, шморгалі струны, дралі па іх смычком, танцавалі пад гэты іржавы скрып. Нарэшце немец са смехам зламаў скрыпку аб калена. Так загінуў чароўны інструмент. На вачах старога забілі яго сыноў, а самога дзядзьку Саламона пасля катавання павесілі на варотах, прычапіўшы да грудзей брудную дошку з надпісам «Jude». Якім толькі цудам выратавалася гэтая дзяўчынка!

Усю ноч Вера сядзела над ёй. Малая то гарэла жарам, то яе кідала ў холад. Вера трымала ў руках абраз Багародзіцы і малілася за жыццё Ніначкі. Так прайшла ноч. Пад раніцу зразумелі: дзяўчынка будзе жыць. Малодшая дачка, як вырашыла Вера, будзе яшчэ адна з Ігнатовічаў, Ніначка. Свая, нічога, што яўрэйка.

У той чорны дзень, здавалася, сам д'ябал сышоў на зямлю. У шэсць гадзін вечара ў хату Ігнатовічаў увайшлі шасцёра фашыстаў. Разам з імі быў дзядзька Анатоль. Той самы, які некалі так моцна сябраваў з бацькам. Ён таксама трымаў у руках нямецкую вінтоўку. У хаце не было толькі Волечкі. Маці адправіла яе наламаць сухіх галін. У кожны момант яна магла вярнуцца. Астатніх Ігнатовічаў сагналі ў адзін пакой. Вера з надзеяй зірнула на Анатоля. Але той толькі крыва ўсміхнуўся.

— Шкура прадажная! — злосна прашыпеў Жэнька. Анатоль нешта па-нямецку сказаў самаму дужаму з фашыстаў і ўскінуў вінтоўку. Грымнуў стрэл. Жэнька ўпаў. Апошні раз ён зірнуў у матуліны прыгожыя, але ўжо зусім не лагодныя, блакітныя вочы. Цяпер у іх былі не слёзы і нават не страх — нешта іншае. Вера хацела сваімі ўласнымі рукамі забіць паліцая, ужо зрабіла крок да яго, як раптам убачыла, што адзін з немцаў са смехам падае Ніначцы цукерку...

Вера кінулася да Ніначкі. Выбухнуў яшчэ стрэл. Вера паваліліся побач з сынам. Абраз Багародзіцы выпаў з рук. Фашыст наступіў на яго і адкінуў нагой пад лаўку. Прагучалі яшчэ стрэлы...

Марынку і Уладзіка схапілі і некуды павялі. Неўзабаве вярнулася Волечка, ўбачыла ўсё і кінулася ўцякаць. Фашысты пачалі страляць ёй услед, але не патрапілі. На сваё шчасце Волечка звалілася ў нейкую канаву. Стрэлы заціхлі. Чуўся цяжкі пах

дыму. Дым ахутаў зімовае неба. Сваімі кудлатымі лапамі ён заграбаў яліны і нeяк зверху пазіраў на наваколле. «Мама… — ледзь чутна шаптала Волечка. — Мамачка мая…» Сілы пакідалі Волечку. Страціўшы прытомнасць, дзяўчынка ляжала ў снезе. На шчоках замярзалі слёзы. У сне яна бачыла жывымі маму, бацьку, малых брацікаў і сястрычак, родную вёску, свой так і не закончаны чацвёрты клас… Дым плаваў над лесам. Гарэла толькі што падпаленая хата. Гарэў і канчаткова рушыўся мост, які да гэтай пары яшчэ звязваў Волечку з яе дзяцінствам...

Вольга выжыла. Пасля вайны яна выйшла замуж за маладога афіцэра Сцяпана Астаф'ева. Лёс пачаў складвацца някепска. За дасягненні ў сакрэтных на той момант касмічных распрацоўках Сцяпан атрымаў званне генерала. Жыццё шчодра плаціла Вользе за ўсе яе страты. Толькі сівыя валасы і незагойны смутак у вачах засталіся ад таго страшнага дня. Яна захавала адзіную памяць — маленькія рукавічкі, тыя самыя, якія вязала некалі яе маці. Менавіта ў гэтых рукавічках у той дзень Вольга хадзіла ў лес. Яна хавала іх у шкатулцы. І вось яны зніклі.

А было ўсё так. Вольга выйшла ў магазін. У пакой заглянула малодшая дачка Вольгі, дзесяцігадовая Каця. Яна, хаця і ведала маміну таямніцу, вырашыла яшчэ раз памераць рукавічкі. Дастала іх са шкатулкі, памерала, але тут яе паклікаў старэйшы брат Алесь:

— Каця, хадзем на санках катацца!

Каця хутка апранулася, і дзеці пабеглі на вуліцу.

А вечарам Каця стаяла ўся ў слязах, вінавата глядзела на маці і нават не магла прыгадаць, дзе згубіла рукавічкі. Простыя рукавічкі. Два дні шукала Вольга іх, распытвала ўсіх тутэйшых дзяцей, суседзяў, старога дворніка, бабулю з кошыкам, трохгадовага Алёшку — ніхто не бачыў рукавічак. Вольга плакала, гледзячы на пустую шкатулку, з якой цяпер, нібы са старога цела, выляцеў апошні балесны стогн. Рукавічкі. Каб толькі Вольга магла іх вярнуць! Здавалася, аддала б жыццё за гэтую святую памяць, часцінку сваёй душы! Але ж не. Згубіліся рукавічкі — апошняя дошчачка разламанага моста.



*Віктар Вабішчэвіч нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Рубель Столінскага раёна. Скончыў гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце, дырэктарам Арлоўскай сярэдняй школы на Століншчыне. Цяпер настаўнічае ў сярэдняй школе № 1 у Давыд-Гарадку. Аўтар зборнікаў паэзіі «Чорны боль», «Кахаю і люблю», «Уражанне».*

Віктар ВАБІШЧЭВІЧ

# «ПАХ МЯДОВЫ НА СЦЕЖКАХ ЛІПЕНЯ...»

* * *

Пах мядовы на сцежках ліпеня —
Разаслаўся эдэмскі сувой.
Падступае спакуса вялікая,
І прыўзняты вакол настрой.

Палюбуйся шаўковымі травамі,
На палі паглядзі здалёк.
Ля кустоў з мурашамі рухавымі
Ціха спрэчку вядзе васілёк.

Азярцо патанае ў квецені —
У каханні купаешся ты.
Лозы хмелем густым пераплецены,
Шэпчуць нешта сваё чараты.

А душа нечакана паклікала,
І за ёю хацеў ты пайсці
У краіну вечнага ліпеня
У прыродзе і ў нашым жыцці.

## ПАРА ЮНАЦТВА

Ты — самая шчаслівая
І самая шчымлівая,
Жаданая і светлая,
Яскравая, адметная;
Ты — самая вясёлая,
Наіўная і кволая,
І славішся ты песнямі,
Світанкамі, прадвеснямі,
Жывеш ты летуценнямі,
Салодкімі імгненнямі,
Дзівоснымі жаданнямі,

Прыгожымі і раннімі.
Я веру: прыйдзе час —
Ты вернешся да нас.
З краіны мілых сноў
Да нас ты прыйдзеш зноў.

* * *

Я ўздымаўся
На высокую антычную вежу
Эпохі Рымскай імперыі,
А нехта, мабыць, быў
Нават на вяршыні піраміды Хеопса.
Я спрабаваў падняцца
Да самага даху званіцы Джота,
А нехта кранаў рукою крыжы
На больш высокіх і слынных святынях.
Я ўзбіраўся
На самыя высокія вяршыні Карары
І любаваўся белым мармурам,
А нехта ўзлазіў
На вяршыні Манблана і Джамалунгмы
І глядзеў уніз на густыя воблакі.
Ніхто не можа ўзняцца
Вышэй за мяне —
Толькі тады,
Калі я стаю
На родным высокім беразе ракі.

* * *

Шмат разоў
У розных асабліва цікавых мясцінах
Я, слухаючы парады колішніх мудрацоў,
Пакідаў манеты,
Каб аднойчы туды вярнуцца.
Але ніколі вяртацца туды
(І трэба ж гэтак не шанцаваць!)
Мне не даводзілася.
Ва ўсім Сусвеце
Ёсць толькі адна мясціна,
Куды я пастаянна,
А ў думках і штодзень,
Вяртаюся зноў і зноў,
Вяртаюся без ніякіх чараў і прымхаў.
Мясціна гэтая — родны дом.

**ЖЫЦЦЁ**

Як называць цябе, жыццё святое,
Свяшчэннае, прасветлае
І таямнічае ва ўсе стагоддзі?
Спрачаліся — не ведалі спакою,
Але адказаў зразумелых
Так і не знаходзяць.

Не трэба, мусіць, нам шукаць разгадку:
Імгненне мы знаходзімся ў жыцці —
Мы ў ім не болей чым праездам,
І ўсё вакол ідзе сваім парадкам.
Падумаў я:
Яно ў хаосе вечным —
Не болей чым палёт у бездань.

**РОЗДУМ ПРА ЗМЕНЛІВАСЦЬ**

Згасае светлы дзень няўхільна,
І ноч сплывае ў іншы свет.
Увагу страціць нават пільны.
Знікаюць цень і сілуэт.

Асілак падае без сілы.
Знікае смех — прыходзіць плач.
Замест герояў — іх магілы.
Няўжо так трэба? Растлумач.

Знікае, кажуць, нават сонца,
Зямля ад роспачы дрыжыць.
Змяніў жыццё сусвет бясконцы —
Не згіне толькі прага жыць.

**ПАДАННІ ПРА КРЫЖ**

Ля ціхай рэчкі на пагорку
Здаўна стаіць каменны крыж.
Людскую чуе ён гаворку
Пра Тураў стольны і Нясвіж.

І моўчкі слухае легенды,
Якія творыць грэшны люд,
Пра тыя ж грэцкія календы,
Пра тое, што бывала тут.

Тут паўтараюць слова ў слова
Прыгожы выдуманы сказ.

У ім геройская аснова —
Відочна кніжная якраз.

Даўно забылі пра здарэнне —
Такіх на свеце не злічыць.
І не відаць вякоў тых ценю,
А крыж — пазнака іх — маўчыць.

Разгадваць будзем да магілы
Сівой мінуўшчыны сляды,
А крыж ёсць сімвал Божай Сілы —
Пра гэта памятай заўжды.

## СТВОРАНЫ ЯНЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Калісь, у вельмі даўнія часы,
Стварыў Бог зоры — для таго,
Каб ноччу іх святло
Даходзіла заўжды да Беларусі.
Зямлі такой на свеце не было —
Была на гэта толькі Воля Бога.
І нарадзілася пад небам Беларусь —
Сваім з'яўленнем ашчаслівіла ўсе зоры:
Іх існавання нарадзіўся сэнс.
І зоры з тых часоў
Запальваюцца над маёй зямлёю,
А іх з'яўленне бачыць цэлы свет.
Калі б запальваліся зоры
Не для Беларусі,
То чым тады мажліва
Апраўдаць іх існаванне?

## ТЫ СЭРЦА АДДАВАЙ

Шмат рэчаў дзіўных
Ёсць у нашым свеце,
Якія не тлумачацца законамі прыроды.
Згадаць тут можна дабрыню і сэрца,
І нават зло,
Якое часта ходзіць побач, —
Чым болей іх ты хочаш мець,
Тым больш ты аддавай іх іншым.
Калі захочацца вялікае мець сэрца,
То сэрца ўласнага
Ніколі не шкадуй для іншых —
Заўсёды шчодра аддавай яго —
І чалавеку кожнаму,
І кожнай кветцы,
І дрэвам, і звярам, і птушкам —
Усяму, што ўбачыш.
Аддай ты сваё сэрца
Іншым,
Каб чалавекам быць
З вялікім сэрцам.

## СЛОВЫ

Паломніцтва. Вандроўка. Жыццё. Адвечны ход.
Дзяцінства. Спадзяванне. Бязлітасны ўзыход.
Заданні. Тэарэмы. І контуры пакут.
Сусвет. Планета. Космас. Мой мілы родны кут.

Падзенні. З'явы. Кветкі. Адчайны лістапад.
Памкненні. Думкі. Згадкі. І шчасце нарасхват.
Старэнне. Прымірэнне. Бяскрайні краявід.
Гарэнне. Азарэнне. Паветра і граніт.

Істоты. Здані. Дрэвы. І светлы зорны шлях.
Апошні. Змрочны. Першы. Ускормлены ў баях.
Паданні. Замкі. Словы. І песні салаўя.
Паэзія. Размовы. У вечным свеце й я.

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



# ГІСТОРЫІ ПАНІ

Ці шмат са мной здаралася незвычайнага? Гэта гледзячы як ацэньваць… Часам выпіты кубак кавы можа стацца падзеяй большай, чым землятрус.

Нашае жыццё — гэта наша памяць. А нічога больш няпэўнага за памяць няма. Што мы бачым, азірнуўшыся? Бляск разбітых шкельцаў? Раскіданыя там-сям рэдкія дыяменты? Але й яны з цягам часу трацяць бляск, пакуль не знікнуць пад пылам…

Занатаваць хоць нешта, стварыць самую сябе з мазаікі слоў… І таго досыць.

## ЯК У МЯНЕ БЫЛА ШВЕЙНАЯ МАШЫНКА «ЗІНГЕР»

Не скажу, каб я была такой ужо швачкай… Як спатрэбіцца — дык нешта пашыю, падумаеш, біном Ньютана. Але асаблівага фанатызму да вырабу адзежы за сабою не заўважаю.

А вось мая стрыечная бабуля Воля была швачкай найвыдатнейшай. Хоць нідзе адмыслова не вучылася, магла пашыць усё, што заўгодна, прыдумляла фасоны — з дэкальтэ, з фальбонамі, спадніцы «гадэ», рукавы «ліхтарык» і «матылёк»… Менавіта дзякуючы бабулі Волі ў нашай кватэры калісьці з’явілася машынка «Зінгер». Яшчэ дарэвалюцыйная, чорная, бліскучая, з залатым гербам з арлом… Машынка працавала амаль бязгучна. Яе дэталі рухаліся нібыта самі сабою, варта было крануць нагой кавануюпедаль… Але хутка я зразумела, якая мая машынка старая… Дужа старая… Бо ў школьным кабінеце працоўнага навучання — а настаўніцай працы ў мяне была, між іншым, маці Адама Глобуса — машынкі былі зусім іншыя. З белымі пластыкавымі карпусамі, электрычныя… І я пачала саромецца сваёй машынкі «Зінгер» і марыла, каб замест яе ў нашай беднай кватэры з’явілася сучаснае электрычнае дзіва… Ці хоць нажная машынка «Подолье» з роспісам пад хахламу, у адмысловай тумбачцы. Але грошай на новую машынку ў нас не было, і я здавольвалася «Зінгерам». Паслухмяным, пакорлівым, дакладным, як састарэлы майстар. Машынка бабулі Волі шыла ўсё — танюткі шоўк і тоўстую скуру, джынсавую тканіну і аксаміт…

*Людміла Рублеўская нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Скончыла Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве, потым перавялася на філфак БДУ. Працавала ў газетах «Наша слова», «ЛіМ», у часопісе «Першацвет», цяпер агляндальнік аддзела культуры газеты «Беларусь сегодня». Аўтар кніг «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», Сэрца мармуровага анёла», «Старасвецкія міфы горада Б.» і інш.*

Потым я даведалася, што гэтую машынку ў час вайны бабуля Воля валакла на сабе пешкі ажно з Ленінграда. Туды яны з маёй роднай бабуляй і яшчэ адной іхняй сястрой з'ехалі са свайго Ігуменскага павета пасля рэвалюцыі ў заробкі, а як пачалася вайна, вярнуліся з малымі дзецьмі на радзіму. У самае пекла. Як бабуля Воля даперла гэтую машынку ў вёску Люці — не ведаю... Як тая машынка перажыла ваеннае ліхалецце — уяўляю з цяжкасцю… Але зразумела, што гэта быў ратунак усёй сям'і — гарантаваны заробак, чорна-залаты выкаваны скарб…

Праз год пасля вяселля мы з мужам зразумелі, што машынка «Зінгер» займае надта шмат месца ў нашым пакоі. Быў час талонаў на адзежу і гарэлку. Шыць не было чаго. Мы з палёгкай разабралі «Зінгер» і вынеслі ў сутарэнне. Неўзабаве ўдалося па абвестцы купіць машынку «Подолье» ў парэпанай тумбачцы. «Подолье» пачало капрызіць ледзь не адразу, але гэта быў важкі набытак для маладой сям'і, сведчанне дабрабыту. Мы накрылі тумбачку махровым ручніком з памаранчавымі кветкамі, які муж прывёз з Грузіі, куды ездзіў атрымліваць літаратурную прэмію Маякоўскага, і лічылі сябе сапраўджанымі багацеямі.

Прайшло яшчэ колькі гадоў… Калі мы атрымалі сваю ўласную кватэру, «хрушчоўку-падменку», у якой жывём і дасюль, Віця наведаў сутарэнне… Але машынкі «Зінгер» там ужо не было. Нехта разламаў хліпкія дзверы з дошчачак і скраў спадчыну бабулі Волі… Мы тады не надта і засмуціліся. Так, трохі прыкра на душы…

Гэта пасля адзін паэт нам патлумачыў, якія мы дурні. І якія шалёныя грошы каштаваў такі антыкварыят… Паэт па такую машынку ездзіў да сваякоў у вёску, выпрошваў. І загнаў у горадзе за даляры…

Але я б нізавошта не прадала тую здраджаную мною машынку «Зінгер». Няма бабулі Волі… І ніколі мне не ўдавалася рабіць такія роўныя шыўкі, як на той старой машынцы — ні на «Подолье», распісанай пад хахламу, ні на цяперашняй камп'ютэрызаванай «Бразерс». Я і цяпер уяўляю, як кранаю нагой каваную педаль, вытанчаную па-дэкаданцку, і лёгка зрушваюцца механізмы, і машынка шаргоча гісторыю майго роду, і залаты арол распраствае крылы над прамінулым стагоддзем.

## ЯК Я БЫЛА ПРЫВІДАМ

Слова «шмоткі» для мяне з маленства было лаянкай. Але ўсялякія пераапрананні, старасвецкія строі і маскарады люблю страшэнна. І вядуся на гэта ўсё жыццё.

У канцы 1990-х пазванілі з тэлебачання, папрасілі запісацца для перадачы да ўгодкаў Адама Міцкевіча. Верш у мяне пра яго быў надрукаваны ў тэматычным зборніку. Ну чаму не… Кастрычнікззяў залатой лістотай, неба было класічна сіняе, паветра прахалодна-празрыстае — не дзень, а суцэльная пастараль.

Здымкі прызначылі ў парку Чалюскінцаў — і прырода, і перці далёка не трэба. Заехалі за мной на казённай машыне, а па дарозе малады рэжысёр, пульхны хлопец, знуджаны беллітаратурнай тэматыкай, угаварыў мяне ўзяць удзел у яшчэ адным праекце. Яны паралельна здымалі перадачу аб рамане Івана Шамякіна «Вялікая княгіня», пра лёс дачкі маскоўскага цара Івана Трэцяга Алены, якая стала жонкай польскага караля Аляксандра. Мне належала сыграць ролю тае Вялікай княгіні. Вось я і павялася, каб спрасціць жыццё тэлевізійнікам.

Заехалі на тэлебачанне, дзе тады была добрая касцюмерная (цяпер, кажуць, няма — «растрэслася» за часы ўнутраных рэформаў).

Мы доўга корпаліся ў гурбе старажытных строяў. Нарэшце я выбрала сабе доўгую сукенку з чорнага аксаміту, з белай шаўковай устаўкай спераду, а як не было кароны, прыхапілі сярэднявечную шапку з чорнага аксаміту, перавітую ніткамі перлінаў, і доўгі белы вэлюм.

Вось і парк Чалюскінцаў, гераічных савецкіх палярнікаў. Напачатку я мусіла шпацыраваць па прысадзе, па шорсткіх гурбах лісця, і пранікнёна чытаць верш пра Адама Міцкевіча. Але якраз у нейкіх сувораўцаў тут быў урок фізкультуры. Яны, стрыжаныя і ў аднолькавых спартовых касцюмах, наразалі кругі па засыпанай лісцём асфальтавай дарожцы. Іду сабе на камеру, чытаю верш — на апошняй страфе сувораўцы выбягаюць мне насустрач стрыжаным ланцужком, кадр сапсаваны. Я па новай — тое самае…

Нарэшце пасля некалькіх дубляў верш пра Міцкевіча запісалі.

Цяпер мне належала пераўвасобіцца ў Вялікую княгіню.

Рэжысёр з аператарам доўга не мудрылі з месцам здымання — знайсці б толькі тоўстае дрэва, на фоне якога паставіць кнігу Шамякіна, а тады з-за дрэва пакажацца постаць гераіні. Непадалёк ля ўвахода ў парк, за кустоўямі ля дарожкі хавалася палянка, а на ёй якраз расло некалькі прыстойных соснаў.

Пераапранацца мне давялося ў рафіку, які паставілі ля самай дарогі, метраў за дзвесце ад месца здымкаў. Я залезла ў машыну, старанна заторгнула ўсе фіранкі, так-сяк надзела сваю каралеўскую сукенку з чорнага аксаміту (самой зашпіляць аплікі на спіне — гэта цыркавы нумар!), уздзела шапку, перавітую каралямі з перлінаў, паўзверх закруціла вэлюм…

І пайшла здымацца.

Мая роля палягала ў тым, каб «выплыць» з-за дрэва, да якога прытулілася кніга, і меланхалічна хадзіць між трох соснаў, кідаючы задуменныя позіркі. Для разнастайнасці час ад часу трэба было краталь галінкі і ўздыхаць. А яшчэ паабяцалі, што ў фільме паўзверх маёй выявы пойдуць спецэфекты, так што ніхто мяне не пазнае. Напэўна, гэта павінна было мяне супакоіць.

Нарэшце рэжысёр здаволіўся маймі рамантычнымі перасоўваннямі і адправіў мяне пераапранацца. Каб не блыталася пад нагамі. А тэлевізійнікі яшчэ на палянцы нешта даздымуць.

Я засталася сам-насам з княгіняй Аленай.

Залатая восень. Сонечны дзень. Парк Чалюскінцаў. Паўсюль соўгаюцца людзі. Да машыны далекавата. А я на фоне жоўтай лістоты — у сярэднявечным строі, пышная сукенка з чорнага аксаміту, белы вэлюм развяваецца… Трэба ўлічваць, што ролевыя гульні тады не былі так папулярныя, як цяпер.

Можна было хуценька прабегчыся… Можна было надаць касцюму менш урачыстасці — зняць шапку з вэлюмам, падабраць падол…

Не ўжо, княгіня дык княгіня! І з кустоў ля цэнтральнай дарожкі парку Чалюскінцаў павольнай хадой, задуменна гледзячы перад сабой, выйшла дама ў чорным аксамітным строі. Белы вэлюм развяваецца, чорны аксаміт ціха шаргаціць па сухой траве… Каб не выходзіць з вобраза, я ішла вельмі ціха, ганарыста ўзняўшы галаву, у бакі не пазглядаючы…

Стаіць купка маладзёнаў, пабачылі мяне… Прыціснуліся адзін да аднаго… Дзяўчына спалохана завішчэла: «Ой, мамачка! Толькі гэта мне не ставала!» Хлопец усвядоміў, што павінен «нешта зрабіць», і выкрыкнуў у мой бок: «Згінь, нячыстая сіла!»

У хлапечым голасе чуўся спалох.

Чорная Дама парку Чалюскінцаў, вядома, не адрэагавала.

Людзі спыняліся, азіраліся… З'ява не мела тлумачэння. Музыкі не чуваць, нічога незвычайнага вакол, будні дзень… Адкуль? Хто гэта? Мужычок п'яны ішоў, таксама заазіраўся, ногі падвалокваючы. А потым адвярнуўся і як пабег да брамы! Магчыма, кінуў піць…

Што яшчэ вакол чынілася, не ведаю, бо прывіды ў бакі не глядзяць!

Я слізнула ў рафік і са шкадобай сцягнула вэлюм…

У перадачы ніякіх спецэфектаў па мне не пусцілі. Ну хіба што відарысы палаца, здаецца, кракаўскага. Але бачна мяне ўсё адно выдатна. Вядучая, Вольга Іпатава, апавядае, якой няшчаснай была Вялікая княгіня Алена, як занядбаў яе муж, кароль Аляксандр, як яна сумавала ў самотным палацы… А я лунаю сабе пад музыку, кратаю галінкі…

Недзе і цяпер ляжыць стужка з запісам тае перадачы.

А я веру, што жыве ў мінскім гарадскім фальклоры легенда пра Чорную Пані парка Чалюскінцаў. Я ж люблю міфы. І пераапрананні ў старасвецкія строі.

## ЯК Я ВАЗІЛА ТРАНЗІСТАРЫ. І РЭЗІСТАРЫ

Паводле першай адукацыі я архітэктар — дакладней, тэхнік-архітэктар. Так хацела вырвацца з сярэдняй школы каля турмы і чыгункі, што начхала на перспектыву залатога медаля і паступіла пасля васьмі класаў на найменш брыдкую спецыяльнасць, тым болей займалася ў ізастудыі. І паводле размеркавання дзякуючы стрыечнаму дзядзьку трапіла на вытворчае аб’яднанне «Гарызонт». Яно выпускала тэлевізары і радыёпрыймачы для ўсяго Савецкага Саюза. Але да тэлевізараў я дачынення мела не болей, чым касметолаг да тынкоўкі. Такіх, як я, сплаўлялі ў спецыфічнае праектна-канструктарскае бюро. Займаліся ў гэтай «шараш-мантаж-канторы шырокага профілю» аздабленнем працоўных інтэр’ераў — ад убудаваных шафаў і малюнкаў абліцоўкі да магільных агароджаў і насценгазет. А яшчэ час ад часу на аддзел прыходзіла разнарадка — з’ездзіць на братняе прадпрыемства па дэталі для радыёпрыёмнікаў-тэлевізараў. Дастаўка ўручную, праз выкарыстанне не дужа патрэбных работнікаў кшталту мастакоў-афармляльнікаў, напэўна, абыходзілася танней, чым іншы спосаб.

Асабліва баяліся кабеты, што іх пашлюць у Арменію, у горад Раздан. Адна наша архітэктарка цэлы год апавядала, як у ведамасным гатэлі барыкадавала дзверы сталом і тумбачкамі ад палкіх мясцовых мужчын, а на тамтэйшым складзе шчыра не разумелі, чаму павінны выдаваць дэталі чужой бабе без належнага бартэру ў якасці інтымных паслуг.

Мяне паслалі ў ціхі, прыстойны горад Шаўляй. Я мусіла прывезці адтуль нейкія транзістары-рэзістары. Мне паабяцалі, што дэтанькі дробныя, лёгкія… Ну і матывавалі па-камсамольску: калі я не дастаўлю пазаўтраму гэтыя скарбы на «Гарызонт», вытворчасць спыніцца!

Мне было дзевятнаццаць гадоў. Білеты давялося выпрошваць маёй маці ў касе для вайскоўцаў, ехаць — ноч, у агульным вагоне…

Шэры горад, мокры снег, супрацоўнікі роднаснага прадпрыемства лаюцца парасейску, між сабою гавораць па-літоўску… Гатэль пад назвай «Тры салдаты» і бетонны помнік тым тром салдатам… І, нарэшце, мае транзістары… І рэзістары.

Я з жахам глядзела на кучу пакункаў у мой рост. Малады летувіс Эдмундас, дохлы і бялявы, як сушаная рыбіна, няшчыра супакойваў, што ён дэтанькі з асобных маленькіх пушачак дастане, у адну вялікую скрынку ссыпле, і будзе файна! Якраз на мае дзявочыя сілы!

Атрымаліся два кардонныя пакункі, памерам са складзеныя раскладушкі… Эдмундас выклікаў таксі, закінуў маё заданне ў багажнік і адправіў мяне на вакзал.

Плаціць за таксі давялося самой.

На вакзале я зразумела, што падняць абодва пакункі разам не дам рады. Дый адзін праблематычна. Я па чарзе соўгала іх па мокрай і бруднай снежнай калатушы,

больш за ўсё баючыся, каб ніводзін не сперлі — бо мяне папярэдзілі, што каштуюць гэтыя транзістары-рэзістары столькі, колькі я за год у сваёй шараш-мантаж-канторы не зараблю. І я ж памятала, што калі назаўтра не прывязу гэтую радасць на завод, ён спыніцца!

У Мінск я прыехала ўночы. Цяпер згодна з інструкцыяй мусіла пакінуць прывезенае ў камеры захоўвання. Мабільных тэлефонаў не існавала, давялося самой соўгаць пакункі, кардон размок, я таксама ўся была мокрая… Нейкі мужык, не ў змозе назіраць за маймі пакутамі, узяўся дапамагчы… Завалок мае транзістары ў сутарэнне, да камер аўтаматычнага захоўвання… І пачаў уплішчваць у адну з тых камер. А яны не змяшчаюцца! Небарака сіліўся як мог… Яго балоневая куртка чапляецца за нешта, тканіна рвецца з злавесным трэскам, у доўгай дзірцы відаць белая падкладка. Энтузіязм у добраахвотнага памочніка некуды знік, і ён знік таксама. У мяне не было сілы нават падзякаваць.

Я плачучы выцягнула пакункі наверх і павалакла ранейшым спосабам — перабягаючы ад адной да другой, пхаючы па снезе — у іншую камеру захоўвання. Калі здаровы, як прафесійны барэц, прымач пабачыў мае пакункі, яго трохі перакленіла. Варта было іх прыўзняць — мокры кардон разышоўся і пасыпаліся маленькія цалафанавыя мяшэчкі з дэталькамі.

— Што гэта? — разгублена папытаўся дзядзька.

— Транзістары. І рэзістары, — сумленна адказала я праз рыданні.

Праз некалькі дзён мы з калегам пайшлі абмяраць гарызонтаўскія вокны, на якія меліся спраектаваць краты ў стылі арт-нуво (начальства, вядома, не падазравала, што гэта арт-нуво). Па левы бок даўжэзнага калідора знаходзіліся шкляныя перагародкі, і можна было зверху назіраць канвеер, за які пасадзілі, відаць, нейкіх практыкантаў. Хлопцы і дзеўкі ў белых халатах, як кланіраваныя Папялушкі, паныла сядзелі абапал спыненага канвеера і лена перабіралі насыпаныя на гумавую чорную паверхню рознакаляровыя дэталькі, быццам гарох і грэчку. Грэбліва ссоўвалі іх у розныя кучкі, безнадзейна перагаворваліся пра сваё… Гара неразабраных дэталек гарантавала плённы занятак да канца практыкі. «А за сцяной смяецца поле, зіяе неба з-за акна…» Я не хацела б, каб якая з тых Папялушак тады даведалася, хто прывёз гэтую гару.

У наступным годзе я паступіла ў Літаратурны інстытут. Колькі тэлевізараў і радыёпрымальнікаў займелі прывезеныя мною з Шаўляя дэталькі — не ведаю… Але й цяпер мне часам здаецца, што я ў чарговы раз гераічна прывезла, здабыла ў экзатычнай далечыні гару рознакаляровых незразумелых і дужа дарагіх дэталек, а небаракі школьнікі і студэнты, пазганяныя выкладчыкамі, корпаюцца ў іх, разбіраюць па вобразах і цытатах, адбываючы панылую практыку… Застаецца спадзявацца, што ў некага ўсё-ткі дзякуючы майму здабытку — верш, аповед, радок — запрацуе прымальнік, настроены на беларускую літаратуру.

## Я, ЛІТІНСТЫТУТ І КАЛЬВАРЫЯ

Люблю дэкаданс.

Не ў сэнсе манерных салонаў, а — закінутыя капліцы, паразбіваныя мармуровыя статуі, каваная магільная агароджа… Гатычная дэпрэснюга.

Я ж і вырасла побач з Кальварыйскімі могілкамі. І часам жартую, маўляў, у каго якая малая радзіма, а ў мяне — могілкі…

У дваццаць гадоў, з другой спробы, я прайшла творчы конкурс у Літаратурны інстытут імя Горкага і атрымала позву на іспыты. Пачуўшы пра гэта, адны знаёмыя

пачыналі кісла прызнавацца, што самі пішуць вершы і маглі б таксама паступіць у той інстытут, калі б толькі зажадалі… Але вось прынцыпова не жадаюць. Другія зацята пераконвалі, што такая сціплая і добрая дзяўчынка, як я, абавязкова загіне ў маскоўскім вяртэпе…

Не для таго я з чатырнаццаці гадоў кожны вечар заседжвалася да гадзіны ночы за пісьмовым сталом, каб слухаць зычліўцаў. З мяне было досыць двух гадоў на вытворчым аб’яднанні «Гарызонт».

Зразумела, перад ад’ездам у Маскву я пайшла на Кальварыю. Цэлую ноч праблукала з сябрам між магіл за медытатыўнымі размовамі. Жоўты ільняны пінжачок грэў слаба.

Застуда выявілася ўжо ў Маскве. Напачатку забалелі зубы, і гэта ўвагнала мяне ў дэпрэсію капітальна. Я замагільным голасам апавядала іншым абітурыенткам, як мне не падабаецца гэты брудны тлумны інтэрнат, і гэты афіцыёзны інстытут, і як мне не хочацца ў ім вучыцца… Дзяўчаты з Удмуртыі, Украіны і Сібіры дзіка паглядалі на мяне і адыходзіліся як далей. Я зачынялася ў пакоі з жоўтымі сценамі, спрэс у багемным графіці, даставала раман Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць», дзеянне якога адбывалася менавіта ў гэтым інтэрнаце, і спрабавала забыцца на боль зубоў ды іншыя сімптомы застуды...

Забыцца было нельга.

І гарачай вады ў інтэрнаце не было. Я прыдумала геніяльнае выйсце: пайсці ў маскоўскую цырульню (тут жа неадменна ўсе майстры супер-класа, не тое што ў Мінску), зрабіць прычоску. А заадно — і галоўнае — вымыць валасы.

Маскоўская цырульня знайшлася на другім паверсе панылага саўковага дома над капеечнай сталоўкай. Народу чакала процьма…

Трэба было ўцячы адразу пасля таго, калі на маіх вачах незадаволеная цёткацырульніца ператварыла цудоўную дзяўчынку з пушыстымі хвалістымі валасамі, падобную да Асолі, у стрыжаную дзетдомаўку… Але тут была гарачая вада!

І неўзабаве я стала таксама падобная да падрослай дзетдомаўкі з недарэчнай грыўкай і напалову аголенымі вушамі. Не ведаю, як называлася гэтая стрыжка, але да маёй дэпрэсіі яна якраз пасавала. Я сустракалася з патэнцыяльнымі аднакурснікамі і з сарказмам абвяшчала: «Так, так, вы не памыліліся, гэта я».

А чаго ім было здзіўляцца: адзін хлопец з нашае групы ўвогуле налыса пастрыгся — дэкляраваў, што гэтак зробіць пасля ўдалай здачы іспыту.

У інтэрнаце мне сталася зусім кепска. Удмуртка з групы перакладчыкаў, паводле прафесіі медсястра, абмалявала мяне «ёднымі секткамі»… Не дапамагло.

Уночы, гарачая, як забыты на патэльні імбрык, я спаўзла да вахцёркі і пачала прасіць пігулак ад тэмпературы. Вахцёрка паглядзела на мяне і выклікала хуткую дапамогу.

Прыехала брыгада з двух дужых хлапцоў-практыкантаў. Ім было цікава апынуцца ў легендарным літінстытутаўскім інтэрнаце. Хлопцы пабалбаталі, ушпілілі мне ўкол і параілі, з нястачы ў пакоі цёплай коўдры, накрыцца матрацам з другога ложка.

Так я і праляжала да раніцы між двума смярдзючымі, у плямах, паласатымі матрацамі, як у сапсаваным сэндвічы.

Назаўтра тэмпература знізілася, але я ўсвядоміла, што на далікатным месцы, куды зрабілі мне ўкол вясёлыя хлопцы-дактары, утварыўся канкрэтны гузак.

Мая іпахондрыя абвастрылася да сусветных межаў, думкі былі толькі пра смерць, гузак балеў, і я пабрыла ў паліклініку… Напрасілася на прыём — бедная паэтка з Беларусі. Доктар прапісаў прыкладаць бычыную жоўць.

На апошні іспыт, сумоўе з начальствам, я пайшла з бычынай жоўцю на задніцы.

Калі мяне спыталі, якія паэты падабаюцца, сказала першае, што згадалася: Уладзімір Някляеў і Леанід Мартынаў. У галаве было адно: ці не моцна патыхае ад мяне жоўцю.

Някляеў таксама вучыўся ў Літінстытуце, якія ўжо асацыяцыі ён выклікаў у выкладчыкаў, не ведаю, але ў памяці ўсіх была ягоная нядаўняя паэма пра БАМ. Сумоўе я прайшла. А вось аднаго мужыка, дырэктара цырка ліліпутаў са стэпавага рэгіёна, прадстаўнік камсамольскай арганізацыі спытаўся: «Вось, вы ўжо выйшлі з камсамольскага ўзросту… А што даў вам камсамол?» А той, простая душа, толькі пацісnуў пячыма: «Што даў? Ды нічога не даў!»

Адзінка па сумоўі — і наперад, у стэпы.

А я ў перапынках змагання за жыццё здала ўсе іспыты на «выдатна». Масква была заваяваная неяк мімаходзь і без асаблівай ахвоты.

Я вярнулася дадому з абстрыжанымі валасамі, з бутэлечкай бычынай жоўці ў сумцы і томікам Караткевіча пад пахай.

І найперш пасунулася на Кальварыю. Прайшлася між магіл… І нарэшце адчула сябе жывой.

## ЯК МЫ З МАМАЙ МЯЖУ ПАРУШАЛІ

Дужа люблю падарожнічаць. І вельмі зайздросціла маме, якая ў пяцідзесятых паспела папрацаваць медсястрой у вайсковай частцы ў Карл-Маркс-Штаце. Калі я вучылася ў школе, мы з аднакласніцамі кідалі ў паштовыя скрынкі прыгожыя лісты з адрасам «Любой дзяўчынцы ў ГДР» альбо «Балгарыя. Дзяўчынцы 10 гадоў» і верылі ў легенду, што нехта атрымаў адказ на такі ліст, пазнаёміўся з замежнай равесніцай, і пайшлі пасылкі з жуйкамі і джынсамі, а тады і ў госці ўдалося з’ездзіць…

Аднойчы паводле матчынай парады я паслала ліст у газету «Зорка» з просьбай пераслаць яго за мяжу і атрымала адказ з Баранавіч. Баранавіцкая равесніца таксама надумала пазнаёміцца з «дзяўчынкай з ГДР», вось нас і звялі добрыя журналісты. Праўда, ліставанне доўга не трывала на тле ўзаемнага расчаравання.

Затое частка маміных сваякоў пасля вайны апынулася ў Малдове, на саменькай мяжы з Румыніяй, у горадзе Кагул, які на той час быў вядомы як месца геройстваў расейскага вайскаводцы Суворава. Мужа мамінай стрыечнай сястры Тамары Ляпіч, партызанскага камандзіра Сяргея Чарвінскага, паслалі туды з Беларусі ўмацоўваць ідэалагічна складаны раён.

Мая мама нават скончыла ў Кагуле медыцынскую вучэльню. Малдаўскія сваякі слалі нам пасылкі з вінаградам, абрыкосамі, чарэшняй і айвой. Што рабіць з айвой, бабуля і маці так і не здагадаліся, бо на смак яна была зусім нясмачная і цвёрдая, як недаспелая груша.

За Кагулам зямля была ў белых ракавінках — цэлых, патрушчаных… Дно мора, на якім цяпер раслі вінаграднікі. Між вінаграднікаў цямнелі каналы, вада ў іх хавалася пад шчыльным слоем зялёнай раскі — жабін рай. За вінаграднікамі сінелі ўзгоркі Румыніі.

Але самая галоўная прынада ў Кагуле — незвычайнае возера з мінеральнай вадой. Вада выпраменьвала моцны ёдавы пах і была такая салёная, што калі патрапіць у вочы — хоць крычы… А яшчэ на той вадзе можна было ляжаць — як у Мёртвым моры. Гразь на дне нагадвала смалу, ёю абавязкова абмазваліся ў лекавых мэтах, і пляж набываў зусім экзатычны выгляд ад шматлікіх часовых мурынаў. З’язджаліся на тое возера хворыя з усяго свету… Румынкі ў накручаных на гала-

ву белых хустках заходзілі ў ваду проста ў панталонах. Інваліды падоўгу стаялі на мыліцах у салёных хвалях. Жудка худых дзяцей вадзілі пад пахі бацькі.

Мясцовая моладзь лічыла нявартым бавіцца на салёным возеры. Хадзілі на «прэснае», яно было большым, туды не цягаліся хворыя.

Але ў Кагул, памежжа з Румыніяй, прыязджалі толькі паводле адмысловых запрашэнняў. Зона! Часам мы дабіраліся туды з Кішынёва на маленькім самалёце-«кукурузніку». І неяк патрапілі ў навальніцу — самалёт кідае, як на атракцыёне ў парку, гуд такі, што галасоў не чуваць. А ў салоне — малдаване, авечкі і кавуны.

Неяк улетку мы з мамай зноў зазбіраліся ў Кагул. Але сваякі на гэты раз прамаруджвалі з запрашэннем. Мама мая, рашучы чалавек і вечны абаронца сваёй незалежнасці, пастанавіла: не хочуць запрашаць — усё роўна паедзем. Трэба пралячыцца на цуд-возеры. Прарвёмся. А на ўсялякі выпадак узяла з свайго страхавога агенцтва камандзіроўку ў Кагул. Ясная рэч, фіктыўную — каго яна магла там застрахаваць?

Да горада ішоў маленькі аўтобусік, звычайны вясковы, такія і ў нас дасюль целяпаюцца па разбітых правінцыяльных дарогах і цярпліва валакуць пенсіянераў на лецішчы. За вокнамі праплывала пыльная зеляніна. Менавіта так запомнілася мне Малдова — зялёнай і пыльнай.

Пад вечар здарылася тое, чаго мы з бояззю чакалі. Аўтобусік спынілі памежнікі. Хлапцы ў камуфляжы, з аўтаматамі і аўчаркай пільна аглядалі пасажыраў наконт выяўлення шпіёнаў, ну і правяралі дакументы…

Мы сядзелі на самым апошнім сядзенні, каля нас прытуліліся два малдаўскія чарнагаловыя смуглявыя хлопчыкі… Адзін нават прыдрамаў у мяне на плячы. Я падумала, што гэта дужа добра для маскіравання, і таксама прыплюшчыла вочы.

Вакол грувасціліся кошыкі і вёдры, надрываліся дуэтам курыца і маленькі сабачка… Памежнік слізгануў вокам па нашай жывапіснай групе і павярнуўся спінай.

Пад вечар мы прыехалі ў Кагул. Пыл знік, зеляніна сталася лазуркавай. Паўднёвая ноч, аксамітна-сіняе неба, буйныя, як не бывае, зоры… Цяпер, паводле планаў мамы, мы мусілі зняць кватэру.

І выйшаў аблом.

Ніхто не хацеў пускаць нас у дом ані за якія грошы.

Ці насельніцтва запалохалі перманентным шуканнем шпіёнаў і дыверсантаў, ці проста мы выглядалі занадта іншароднымі. Але пасля марнага цягання з валізамі і роспытаў тубыльцаў, а далёка не ўсе нас разумелі, давялося ісці ў гатэль. Гэткі барак з прыбіральняй на вуліцы. Краны з халоднай вадой таксама на двары. Але і ў гэтую раскошу нас адмовіліся засяляць без адпаведнага дазволу на ўезд у памежную зону.

Дарэмна маці паказвала адміністратарцы камандзіроўку страхавога агента з Мінска ў слаўны малдаўскі горад. Адміністратарка была няўмольная: ідзіце ў міліцыю, бярыце паперу на засяленне…

І мы пайшлі ў міліцыю.

Ноч. Малдова. Мянтоўка.

Мясцовыя міліцыянты злосна сычаць на маміну «камандзіроўку» і патрабуюць, каб мы вымяталіся з Кагула, а то арыштуюць за парушэнне мяжы. Бо незразумела: як мы сюды прабраліся?

Мама даводзіць, што прывезла хворанькую дачку падлячыцца на цуд-возеры… І вяртацца мы не можам. Я раблю трагічную фізіяномію… Што няцяжка, бо страшэнна хочацца спаць і ўвогуле — нейкай пэўнасці. І відаць, начаваць давядзецца ў камеры.

Урэшце міліцыянты злітаваліся, далі даведку — але толькі на адну ноч. З умовай, што назаўтра нас тут не будзе.

Як мы начавалі ў тым гатэлі — не памятаю… Памятаю, што назаўтра мама здушыла гонар і патэлефанавала сваякам. І праз колькі хвіляў ейная пляменніца, цудоўная, прыгожая і дабрэнная цётка Наташа, якая была, як выявілася, на апошнім месяцы цяжарнасці ад другога мужа-грузіна (першы быў кітайцам), прыбегла па нас і яшчэ парывалася сама цягнуць нашы валізы.

А запрашэнне сваякі нам усё-ткі выслалі — толькі прыйшло яно ў Мінск, калі мы ўжо былі ў Малдове.

Гэта быў апошні выпадак, калі мне давялося пабываць на цуд-возеры. Пасля, кажуць, яго прыватызавалі, вакол разбудавалі пансіянат… І нават калі я зноў прыеду да тых вінаграднікаў і ўзгоркаў, наўрад ці ўдасца паляжаць на пякуча-салёных хвалях. Цяпер я проста праязджаю праз Румынію, якая некалі здавалася таямнічанедасяжнай, па дарозе на балгарскія курорты.

А яшчэ страшэнна лянуюся адказваць на лісты сяброў з Нямеччыны ды Ангельшчыны — адвыкла пісаць папяровыя лісты.

## ЯК Я СВЯТКАВАЛА Ў ПРАЗЕ ДЗЕНЬ ПАЛЕННЯ ВЕДЗЬМАКА

Колькі разоў я перш апісвала мясціну, стварала для сябе міф пра яе — і толькі пасля трапляла туды напраўду…

Так здарылася з Прагай. Містычным горадам чарнакніжнікаў і алхімікаў, філасафаў і паэтаў… Горадам Скарыны і Кафкі, Майрынка і Забэйды-Суміцкага… Напачатку я апісала яго ў рамане «Скокі смерці», там інквізіцыя закатавала майго героя, сярэднявечнага лекара Бернацоні. І толькі на наступны год мы з дачкой Веранікай выправіліся туды на экскурсію. Гэта было ў апошнія дні красавіка. А першага траўня ў Чэхіі святкуюць Дзень палення ведзьмака — нешта падобнае да Масленіцы, толькі з ухілам у готыку.

Вядома, мы адарваліся ад нашай турыстычнай групы — што нам рабіць з абывацелямі, якіх не цікавяць Кафка і Скарына? — і з усведамленнем уласнай эксклюзіўнасці пачалі шукаць містыкі…

Містыкі было з каптуром. Мы блукалі па востраве, куды адусюль сыходзіліся ведзьмакі і вядзьмачкі ў чорных капелюшах і мантыях, хадзілі па Залатым Горадзе, чые вузкія брукаваныя вулкі хутка затапляў прыцемак, зазіралі ў сляпыя вокны сінагогі, на гарышчы якой, паводле падання, дасюль дрэмле Галем, злеплены раві Бен-Бецалелем, і чакае таго, хто ўкладзе ў ашчэраны гліняны рот паперку з імем Бога. Мы нават павячэралі ў кавярні Вядзьмачкі, у злавесным сутарэнні, аздобленым чучаламі чорных катоў і мётламі, дзе падавалі смажаныя пальцы мерцвяка і біфштэкс з сабакі Баскервіляў.

За гульні ў містыку трэба плаціць. Мы мусілі ад'язджаць з аўтастанцыі, якая знаходзілася недалёка ад станцыі метро Флараліс. Але Прага надумала пазабаўляцца з намі, як Лясун водзіць заблукалых у лесе гараджан, і мы з дачкой прыехалі на станцыю Флора. Хто ж ведаў, што іх дзве, з падобнымі назвамі — Флора і Флараліс?

На станцыі Флора знаходзіліся супермаркет і габрэйскія могілкі. Нашага аўтобуса не было.

Увогуле ніякіх турыстычных аўтобусаў не бачылася.

Час ад часу сам сабе кажаш: «Гэтага ніколі са мной не здарыцца». А якраз яно з табой і здараецца.

Надышоў час адпраўлення. Дарэмна мы бегалі паміж супермаркетам і могілкамі.

З рэчаў у нас была сумка з печывам і некалькімі бляшанкамі чэшскага піва, купленымі ў дарогу, дзве чорныя майкі з выявай Кафкі і блакітныя замшавыя красоўкі фірмы «Баця» для Веранікі.

Добра, пашпарты пры сабе.

Мы пачалі пытацца, як прайсці ў паліцыю. Месцічы незадаволена паглядалі на перапалоханых замежніц. Параілі звярнуцца да дзяжурнага паліцыянта ў метро.

Той выслухаў і задумліва прамовіў, што аўтобусная станцыя, здаецца, ёсць на станцыі Фларaліс… Гэта на іншай лініі…

Мы рванулі туды.

І праўда, там была міжнародная аўтобусная станцыя. Але наш аўтобус, зразумела, даўно з'ехаў.

Давялося зноў шукаць паліцыю.

А ў паліцыі таксама святкавалі першага траўня.

Руды паліцыянт у трэніках з іроніяй слухаў мае нервовыя тлумачэнні і просьбы звязацца з беларускім пасольствам. У яго былі светлыя вейкі, прыпухлыя блакітныя вочы, чырвоны твар і ніякага жадання напружвацца дзеля дзвюх замежніц. Ён быў падобны не да ведзьмака, а да таго, хто іх паліць. Паліцыянт паклікаў маладзейшага калегу, які валодаў расейскай мовай. Пра беларускую амбасаду, якая знаходзілася дзесьці каля заапарку, паліцыянты нічога не чулі. У іх было піва і Дзень палення ведзьмака.

Урэшце мне далі патэлефанаваць у амбасаду Расіі. Але, падобна, і ў тамэйшых супрацоўнікаў быў святочны настрой, і мне патлумачылі, што нічым дапамагчы не могуць.

Каб пазбыцца істэрычнай кабеты, паліцыянты адправілі нас у нейкую іншую, асабліва важную паліцыю…

Віза наша канчалася назаўтра. З сабою заставалася сто дзесяць еўра. Дым ад вогнішчаў спаленых ведзьмакоў асядаў над Залатым Горадам.

Мы з дачкой выйшлі на вуліцу, абняліся… І пайшлі ў невядомасць.

Ад аўтастанцыі нам насустрач бег мужчына.

— Гэта вы згубіліся?

— Мы!!!

— Пойдзем хутчэй, вас чакаюць…

У адчыненай кабіне нечай аўтафуры сядзеў наш экскурсавод і меланхалічна еў з кардоннай упакоўкі бульбяное пюрэ. Ён не надта здзівіўся нашаму з'яўленню.

— А, знайшліся…

Небараку давялося адправіць аўтобус з нашымі рэчамі ды іншымі турыстамі і застацца да высвятлення лёсу згубленых пасажырак. Іншыя беларускія кіроўцы, якія апынуліся на Фларалісе, дапамагалі нас адшукваць, адзін з іх і заўважыў дзвюх ненармальных, якія бегалі туды-сюды паўз аўтастанцыю.

Экскурсавод хуценька правёў нас на чыгуначны вакзал, купіў нам білеты да Мінска, дадаўшы сваіх грошай, прасачыў, каб мы селі ў цягнік, і з палёгкай уздыхнуў. Яго самога мусілі адвезці на Беларусь кіроўцы-землякі з Фларaліс.

Мы ўладкаваліся ў шыкоўным купэ на дваіх, не верачы, што нашыя прыгоды скончаныя.

Калі прыйшлі мытнікі, усё, што мы маглі ім паказаць — гэта некалькі бляшанак піва, дзве майкі з выявай Кафкі і блакітныя замшавыя красоўкі фірмы «Баця».

Але Прагу я ўсё роўна люблю. З усімі зданямі, брукаванкамі і містычнымі прыгодамі.

## ЯК Я Ў КІНО З «МАНАХАМІ» ХАДЗІЛА

Гэта здарылася ў эпоху, калі квіток у кіно каштаваў трыццаць капеек, а на вячэрні сеанс — пяцьдзесят.

Як мы любілі індыйскае кіно! Не тое каб я не разумела ягонага мастацкага ўзроўню — нават напісала ў вялікім сінім агульным сшытку, адведзеным пад уласныя філасофскія артыкулы, урачысты тэкст пад назовам «Штампы індыйскага кіно». Але на фоне бясконцага шэрага савецкіх фільмаў пра вытворчасць і вайну гэта было вакно ў іншасвет, дзе тканіны яркія, бы кветкі, тонкія смуглявыя рукі жанчын знізаныя бранзалетамі, шаблі ззяюць, як маладзік, і героі гатовыя аддаць жыццё, абы не сцярпець і найменшай плямы гонару…

Індыйскія фільмы паказвалі зазвычай у кінатэатрах «другога раду», але й там залі былі паўнюткія.

Толькі вось чаго я і дасюль не люблю — хадзіць у кіно самой.

Гэта ўсё роўна як сядзець самой увечары за рэстаранным столікам. Нібыта ўсе глядзяць на цябе і шкадуюць, што ты нікому не патрэбная, няма з кім правесці вечар…

Летнія вакацыі… Мама некуды паехала, я засталася з бабуляй, сяброўкі занятыя… А ў кінатэатры «Беларусь» (яшчэ не мультыплексным) паказвалі індыйскі фільм «Помста і закон». Вядома, двухсерыйны — мы яшчэ больш любілі індыйскія фільмы за тое, што яны былі доўгія. Мне заставаўся апошні сеанс, на дзевяць гадзін вечара. Я падумала, што ў прыцемку мая сціплая персона не будзе надта заўважная…

А вось з білетамі было цяжкавата. Дакладней, іх не было. Расчараваныя людзі тоўпіліся ля касы ў спадзеве на таямнічую «бронь», а шчаслівыя кіраваліся ў кіназал з загадзя набытымі брудна-сінімі квіточкамі ў руках…

Я трохі патапталася ў вестыбюлі, разумеючы, што індыйскіх уражанняў гэтым вечарам мне не свеціць…

— Дзяўчына, хочаце ў кіно?

Два барадатыя, таўставатыя, нейкія падобныя адзін да аднаго мужчыны запытальна глядзелі на мяне.

Я няўпэўнена хітнула галавою.

— Ну тады пойдзем!

Мужыкі, у якіх знайшоўся лішні білецік, пайшлі да білецёркі, і я пасунулася за імі, рыхтуючыся ўцячы… Але прынада была надзвычайнай! «Помста і закон»! Ужо ў вестыбюлі я разгледзела, чым мужыкі так падобныя… На іх былі аднолькавыя чорныя кашулі пад горла, з доўгімі рукавамі, запраўленыя ў старамодныя чорныя нагавіцы… А занадта доўгія ў іх, відаць, кашулі… Вунь як выпіраюць… Я зірнула на маладыя барадатыя твары, інтэлігентна-сарамлівыя… І раптам зразумела, што на маіх мецэнатах не кашулі, а расы! Яны іх, каб замаскавацца, запраўлі ў штаны. І ёсць яны хутчэй за ўсё служыцелямі культу!

«Манахі!» — мільганула панічная думка.

Сёння, вядома, цяжка ўявіць, якой небяспекай, якім выклікам успрымалася таннае пластыкавае распяцце на сцяне кватэры альбо прынесенае ў школу фарбаванае яйка… А святар, ды ўсякі, хто меў беспасярэдняе дачыненне да рэлігіі — гэта ж была ўвасобленая небяспека!

Маці маёй аднакласніцы працавала на тэлеграфе і часам прыносіла дадому найбольш цікавыя тэксты... У адной з тэлеграм віншавалі святара з санам біскупа. Вядома, нам было страшэнна цікава ўбачыць жывога біскупа!

Царкоўнік жыў у прыватным сектары… Перад вылазкай мы замаскаваліся, як у шпіёнскіх фільмах. Апранулі нейкую старызну. Гэтага падалося мала, і я ўдава-

ла з сябе кульгавую, а мая сяброўка — гарбатую. Супер-маскаванне на бязлюднай зялёнай вулачцы! Да таго ж мы нервова пасмейваліся і азіраліся ў бакі. Нават святар (калі гэта быў ён), сімпатычны руды барадач у юлёвым панскім халаце, які гутарыў з сябрам у дзвярах патрэбнага дома, праводзіў нас зацікаўленым позіркам.

А мы пасля яшчэ доўга чакалі наступстваў свайго дысідэнцкага ўчынку: пайсці паглядзець на біскупа!

І цяпер, у кіно, мне было страшнавата. Я, вядома, абсалютова не разбіралася, да якой канфесіі належалі мае дабрадзеі, ці былі яны семінарыстамі, ці кім яшчэ… На мае нясмелыя спробы вярнуць грошы за квіток «манахі» толькі весела махнулі рукамі…

Тым часам сеанс пачынаўся. І, ужо заходзячы ў залу, я ўсвядоміла, што сядзець мушу побач з гэтымі страшнымі асобамі!

На экране добрыя героі зацята змагаліся з бандытамі, бандыты неміласэрна шчэрылі белыя зубы і вырачалі вочы. Бойкі суправаджаліся ненатуральнымі гукамі ўдараў, нібыта гарбузы секлі. Гераіня ў бліскучым сары танчыла басанож на пабітым шкле, каб выратаваць свайго каханага… А я скоса назірала два барадатыя профілі.

Галоўнае — паспець уцячы!

Чаго я так баялася? Што маглі са мною ўчыніць два барадатыя аматары індыйскага кіно? Загіпнатызаваць і завесці ў секту, якую я ўяўляла паводле аповесці Герчыка «Вецер ірве павуціну»? Але як толькі на экране замільгалі цітры, я ўскочыла з месца, быццам яно мяне апякала, і кінулася да выхаду.

Мінуў час, індыйскае кіно страціла сваю прывабнасць, як плюшавыя дыванкі з аленямі і мода абклейваць сцены прыбіральняў кардонкамі з упаковак цыгарэт «Космас».

А вось за дзвярамі царквы мне адкрыўся свет, якога бракавала душы. І я зусім не ўспаміналa, як два, магчыма, семінарысты звадзілі мяне на індыйскае кіно «Помста і закон». Толькі цяпер вось успомніла…

Алесь ТАНКЕВІЧ



Алесь Танкевіч нарадзіўся ў 1986 годзе ў г. Вілейка Мінскай вобласці. Выпускнік факультэта прадпрымальніцтва і кіравання БДАТУ, цяпер вучыцца там жа ў магістратуры. Уваходзіць у склад рэдакцыйнай калегіі Вілейскага гісторыка-краязнаўчага выдання «Волат». Жыве ў Мінску.

# АДЧУВАННЕ НАДЫХОДУ ЖНІЎНЯ

## СОН, ШТО ВЯРТАЕЦЦА НА БЫЛОЕ МЕСЦА

вецер яднае ўсе навакольныя кропкі.
сябра, які згультаваў на даму, зрэшты,
адпрацаваў за братоў, збольшага быў без сродкаў
і без уласных рэчаў.

за адрыўныя талоны на дармавое каханне і
серпантыўны ўзлёт, казалі, сычэў дашчэнту.
гаспадар яго неяк замкнуў выпадкова
(*сам распавёў*) у ваннай
і запрасіў наперад арэнду

прынамсі такі расклад зганяў сумоту. на тыдзень
два альбо тры разы блукаў па вулках.
калі выходзіла браты нехта казаў у Мадрыдзе. адзін,
здаецца, у Турцыі,
наведвалі і былі цяжкімі па розных думках

сон, што вяртаўся на былое месца
па патрэбе, не быў жорсткім, але ўчэпістым, як ракфелер.
што за сваім часам караскаўся, не паспяваючы нават уесца,
ды з «Бітламі» ўжо зблізіўся толькі на небе

тры… чатыры… ці нават больш паветраных пацалункаў.
ён прачынаўся і загінаў рукою старонкі
святочных паштовак (сястра старэйшая была з Луцка,
яго запрашала да сябе, ды было няёмка)

цяжка заахвочвацца калі пад рукою адныя страты
і тыя не пад рукою а ў галаве.
выпаліш па цыгарэце ізноў раз'юшаны і стракаты
і выкажаш згоду вайне абы не самому сабе

цотныя сненні — устаеш на правы ступак
думаеш добра што цотныя
можна сёння проста НІЯК і без купкі ПАДЗЯК
і спаць развесіўшы вушы ў лоджыі

## УЦЁКІ АД РЭЧАІСНАСЦІ, ЦІ АДЧУВАННЕ НАДЫХОДУ ЖНІЎНЯ

я мару вясковымі сцежкамі бегчы бясконца доўга
заглядаць у сцюдзёныя вокны
пад гнуткія дахі
за цяжкія дзверы
я мару свой цень ухапіць за шкірку і так напалохаць
каб той знерухомеў на гэтым лістку паперы

пойдзем са мной у пекла там весела і неспакойна
я вывучыў колькі словаў што стануць мастком між намі
і тымі верлібрамі
ў якія апранаецца поўнач
там прорва — якую прайшлі
мы губляліся разам у абыход па дахоўцы нібы ў рэкламе

там вусціш там краты з сяброўскіх паштовак
і ў месцы дзе азірнуліся стужкі для беглякоў
ты станеш гарэзай пад дождж валасоў сябровак
патрапіш не сцягваючы парткоў

наседжаным месцам казыча табе ў носе
ад замілавання слядуй напрасткі ва ўсе бакі
з бабаю нават прасцей калі ведаеш што ў пекла на возе
і не гэтакі ж як я — гаваркі

я мару вясковымі сцежкамі чохаць наўпрост ад дому
і пекла з верлібрамі дахі пякучыя краты
і коўзкія прорвы з сяброўкамі з'есці разам з батонам
і збегчы ў жнівеньскі вечар
раз'юшаны і стракаты

## СТУПАКАМІ НА ПАЖАРНЫМ ТРОСЕ

калі бывала ты ішоў да яе са спазненнем у гадзіну дваццаць
а яна пад коўдрай і з кубкам кавы а ты на пажарным тросе
ты думаў як файна ўдвух вам жылося б у велізарным палацы
дзе на сорак пакояў акрамя вас Нікога і Ніхто не галосіць

бо пакояў у інтэрнаце як дзірак у самым смачным галандскім сыры
і недзе сярод іх твая а дзесьці тваёй сяброўкі
дзе побач кожнай раніцай ты ў метро стаіш як і многія з пасажыраў
ўхапіўшыся за поручань нібы за край развяз*а*най вяроўкі

ці за храсток пажарнага троса. І ўсё толькі дзеля таго
каб самкнуць мезенец стоп-крана і ўчасна паспець да яе

дзе яна спагадліва перад сяброўкамі пусціць цябе пад адхон
а потым дашле наўздагон дзякуй богу што ты са мною цалую цябе

бо ёй дваццаць два і ўпэўненасць што ўсё не выпадкова
і ты ўпэўнены што толькі выпадак занёс цябе на пажарны трос
поўня раставала ўвачавідкі і цяпер разагнутай падковай
зіркала ў цямноце каго яшчэ халера паклікала ці чорт занёс

а потым будуць разборкі але не ў бронксе а на суседняй пляцоўцы
а хто там ідзе навярнуўшы сто дваццаць грамаў
з дольцай сумлення й упэўненасці што тая твая сяброўка
будзе не горшай за жанчыну з водарам кавы

ці кавалерысткай з сцізорыкам для цвёрдага сыру
разразаючы ўсе патаемныя вуглы й перашкоды
знойдзе тваю сярод соцень падобных дзірак
каб і ты быў упэўнены што жывеш дзеля АСАЛОДЫ

* * *

***За ўцёсамі звычайна цяплей.***
***За імі нібы пад коўдрай…***

Тут і коўдра вагню сцеліць нізка, што можна ўбачыць хвалі
хроснага Нёмна, што толькі вярнуўся з балю.

Белыя чаіцы, як паплаўкі, не сябруючы з хабанерай,
шумна гарланяць наўсцяж у нязвыклай для іх манеры.

Нёман старанна дурэе з чаіцамі ў ватэрпола,
а тыя, нібы не дапетрыўшы, плывуць, абмачыўшы голаў.

Нехта ўскінуў — маркотная залева, трэба валіць пад скалы.
Толькі на пяць кіламетраў не бачна ніводнай хмары.

Бо пад скаламі ноч, і паўсюдна ноч, але ж тут асабліва роўна
раніца рупіць цагліну, каб дзень расчапіць пароўну.

Як каралеўна, з якой ты багоміў ісці цішком у абдымках.
З ёй размаўлялі пра эдэльвейс, Ганса Сакса, палын і,

нарэшце, пра рэха, і далей і далей і далей…
А раніца толькі на пяты табе наступала…

Мы чулі, як кожны шаптаў пад нос сабе «не будзь здарова»…
Шкада, што для балю цябе не хапіла, а яна —
была не гатова...

## ХРЭСЬБІНЫ ДАМАВІКА

Дамавік, што хавае таямніцы старога князя,
скончыць, нарэшце, кнігу і стане сусветна вядомы,
як першы ў Еўропе няпоўнакрывійны вязень
вялікакняжацкага ці гаспадарчага дома,

што заляцаўся да гувернанткі, а тая адказала згодай.
Але спачатку былі хрэсьбіны, а не вяселле.
А яшчэ раней — каралевіч, гультаяваты, але па-чартоўску модны,
маці, бацька-дублёр і браты-дуралеі.

А дамавік, як і раней, ішоў насуперак лёсу,
паласуючы ўсе нязгоды на *вені ведзі* ды *віцы.*
Ведаючы, што калі нехта кідае табе палкі ў калёсы,
выпадаюць толькі гнілыя спіцы.

А ты, ёлупень поўнай крыві і з лепшым начыннем,
сустракаеш адно махлярак і дорыш ім спадніцы.
І лепшыя свае тэксты прысвяціш толькі той дзяўчыне,
з якой хацеў бы ў соты раз наноў нарадзіцца,

на радзіме Сакса ці лотаса і сансары.
У казематах старых фартоў ці пад пахаю ў цёткі Клары.
І заставаўся б усё такі Ж і яна ўсё такая Ж.

Толькі хрэсьбіны ў дамавіка будуць заўтра,
але ляціш праз пралёт, нібы бартэр,
ускудлачаны, і да ночы чакаеш.



Сяргей КАВАЛЁЎ

# МАГІЧНАЕ ЛЮСТРА ПАНА ТВАРДОЎСКАГА

***Негістарычная драма ў 2-х дзеях***

**АСОБЫ:**

**Пан Твардоўскі,** чарнакніжнік.
**Барбара Радзівіл,** маладая віленская магнатка.
**Ганна Радзівіл,** яе сястра, яна ж — **Незнаёмая,** яна ж — **Вучань Ян.**
**Жыгімонт Аўгуст,** вялікі князь літоўскі, каралевіч.
**Суддзя,** ён жа — **Пасланец.**
**Гальшка,** карчмарова дачка.
**Кавалеры, Фрэйліны, Жаўнеры, Блазны.**

***Дзеянне адбываецца 13 ліпеня 1572 года ў прыдарожнай ліцвінскай карчме, а таксама ў розных іншых месцах у розныя часы.***

* * *

У Барнардынскай прысадзе шапочуць пажоўклыя лісці,
Ледзь прыкметны на сцежках блiскучыя скуркі каштанаў,
І вада ў Вялейцы, ад зімна сіней і празрысцей,
Гаманіць з камянём аб працёкшых гадах без устану…

…І выходзіць між дрэў, ў патаёмную вечара пору,
Князь апошні Літвы, ў хвалях гаснучых зыбкага свету,
З барадой кучаравай — даспелых каштанаў калёру,
Са струсёвым пяром, што як воблык, пад чорным барэтам.

І, суваючысь крокам павольным па сцежынках саду,
Ён усходзе на гору, падходзіць да вежы цаглянай
І, апёршысь рукой пад плашчом на злачоную шпаду,
На прыціхшае месца глядзіць аж да самага рана…

І чакае… пакуль не засмуціцца ноч над ракою,
Над вадой пабялеўшай прытуляцца сонныя мары
І ў празрыстай імгле паплывуць лебядзі чарадою,
А над іскрамі росаў праблісне апратка Барбары…

*Ігнат КАНЧЭЎСКІ,*
*«Вераснёвае пано» (1923)*



*Сяргей Кавалёў нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча). Аўтар зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання», «Шлях да Бэтлеему». П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі.*

## ПРАЛОГ

Няпэўны час, нерэальная прастора, нязнаныя абставіны.
Ці то наяве, ці то ў сне да чарнакніжніка Твардоўскага з’яўляецца Д’яблаў Пасланец.

**Пасланец.** Твае варункі прынятыя, чарнакніжнік. Наш уладар пасмяяўся з тваіх хітрыкаў, але пагадзіўся. Усё адно нас не ашукаеш.

**Твардоўскі.** Пабачым. *(Патрабавальна.)* Дзе магічнае люстра?

**Пасланец**. А можа, лепей возьмеш грошы? Шмат грошай, незлічонае багацце!

**Твардоўскі.** Люстра!

**Пасланец.** А каханне найпрыгажэйшых жанчын у свеце?

**Твардоўскі**. Аддаць несмяротную душу за няшчырыя абдымкі распусніц? Люстра!

**Пасланец.** А бязмежная ўлада над людзьмі?

**Твардоўскі.** Той, хто ведае будучыню, мае сапраўдную ўладу над светам. *(Нецярпліва.)* Люстра!

**Пасланец.** Які ты ўпарты! *(Пляскае ў далоні.)*

Двое слуг-чарцянят прыносяць вялікае люстра на драўлянай падстаўцы. Люстра закрыта палатном. Чарцяняты кланяюцца Пасланцу і знікаюць.

**Твардоўскі** *(падазрона)*. Тое самае?

**Пасланец.** Не сумнявайся. Мы супраць цябе, не ашукваем сяброў. Магічнае люстра Валентуса, з дапамогай якога можна зазірнуць у мінулае і ў будучыню, пагаварыць з нябожчыкамі або з уласнымі нашчадкамі. Можна здзейсніць і іншыя дзіўныя рэчы. Папярэджваю: не ўсе ўласцівасці люстра вядомыя, таму яно вельмі небяспечнае.

**Твардоўскі.** Не сумнявайся, я даведаюся пра ўсе яго ўласцівасці. *(Падыходзіць да люстра, з цікавасцю кранае бераг палатна.)*

**Пасланец** *(задуменна)*. Маг Валентус дорага заплаціў за сваё вынаходніцтва. У яго не было на гэтым свеце ні сяброў, ні блізкіх, ні каханай...

**Твардоўскі** *(абыякава)*. Кожны мудры чалавек самотны ў гэтым свеце. Веды — вышэй за ўсё.

**Пасланец.** Ну што ж. Зычу поспехаў. Магічнае люстра — тваё, твая неўміручая душа — наша.

**Твардоўскі.** Але памятайце пра маю ўмову: сваю душу я аддам вам толькі ў Рыме.

**Пасланец.** Памятаем. *(Іранічна.)* Дарэчы, чаму ты выбраў менавіта Рым?

**Твардоўскі.** Бо ніколі туды не паеду! *(Пераможна рагоча.)*

**Пасланец.** Мы так і зразумелі. Але памятай, чарнакніжнік: калі ты не прыедзеш у Рым, Рым з’явіцца да цябе. *(Знікае.)*

**Твардоўскі.** Патрэбны мне ваш Рым! *(Нецярпліва адхінае палатно.)* Ведаеш, шаноўнае люстра, што я папрашу паказаць мне найперш? Маю смерць. *(Шэпча магічны заклён.)* Пакажы, як славутаму чарнакніжніку Твардоўскаму ўдалося падмануць самога Д’ябла і дасягнуць несмяротнасці! *(Глядзіць у магічнае люстра.)*

Нечакана ў люстры з’яўляецца жахлівая выява: чэрці цягнуць няшчаснага чарнакніжніка Твардоўскага ў пекла і пераможна рагочуць.

**Твардоўскі.** Не, гэтага не можа быць! Я ж усё прадумаў... *(Адхінаецца ад люстра.)* Што за д’ябальскія жарты?! *(Крычыць.)* Я хачу разарваць дамову!..

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## З'ява першая

### *Арышт*

13 ліпеня 1572 года. Прыдарожная карчма недалёка ад Вільні. У пакоі на другім паверсе спыніўся чарнакніжнік Твардоўскі. Ён спіць на тапчане, не распрануўшыся, каля дзвярэй ляжаць нераспакаваныя рэчы, у куце на драўлянай падстаўцы стаіць закрытае палатном магічнае люстра.

Чуваць, як у горадзе трывожна б'юць званы ў касцёлах і цэрквах.

У пакой уваходзіць Гальшка, карчмарова дачка, з вялізным сподкам у руках.

**Гальшка.** Прачынайцеся, пане! Час снедаць.

**Твардоўскі** *(усхапляецца).* Я хачу разарваць дамову!.. Прэч, нячысцікі! Я не аддам вам свае душы!

**Гальшка** *(спалохана).* Ай!

**Твардоўскі** *(заўважае Гальшку).* Ты хто?

**Гальшка.** Я — Гальшка, карчмарова дачка. Учора, прыехаўшы, вы прасілі прынесці вячэру. Але калі я зазірнула ў пакой, пан ужо спаў. То, можа, з'ясцё сняданак?

**Твардоўскі** *(апамятаўшыся).* Прабач, дзяўчынка. *(Вінавата.)* Сніўся мне прыкры сон. Быццам два д'яблы б'юцца за маю душу, цягнуць яе ў розныя бакі, раздзіраюць на часткі, а Маці Божая назірае за імі з нябёсаў і гаротна плача.

**Гальшка.** Які жах!

**Твардоўскі.** Нічога, я ўжо прызвычаіўся. *(З цікавасцю.)* А што на сняданак?

**Гальшка.** Хлеб, масла, авечы сыр, гародніна. *(Стаўляе сподак на бераг вялізнага дубовага стала, дзе ляжаць нераспакаваныя запыленыя кнігі.)* Яшчэ пан заказваў учора бутэльку рэйнскага віна. *(Асуджальна.)* Але пачынаць божы дзень з віна — нядобра.

**Твардоўскі** *(сядае за стол).* Нядобра, Гальшка. Але ў мяне, старога чалавека, няшмат радасцей засталося ў жыцці. Увесь час я ў дарозе, некуды спяшаюся, ад некага ўцякаю. *(Налівае ў кубак віна і выпівае.)* Ні дома, ні сям'і, ні сяброў. Дык хоць боскага напою вып'ю. *(Прыслухоўваецца.)* А з якой нагоды б'юць званы ў Вільні?

**Гальшка.** Кажуць, у Кракаве памёр кароль.

**Твардоўскі** *(ад нечаканасці выпускае кубак з віном).* Жыгімонт памёр? *(Усхапляецца з-за стала.)* Гальшка, бяжы хутчэй да бацькі! Хай падрыхтуе мне вазок! Я мушу зараз жа выпраўляцца ў дарогу. *(Мітусіцца па пакоі, хапаецца за кнігі, прылады для доследаў, люстра.)* Уцякаць, пакінуць гэтую краіну як найхутчэй!

**Гальшка** *(здзіўлена).* Але ж вы толькі ўчора прымчаліся, пане! Хоць бы сняданак з'елі...

**Твардоўскі.** Бяжы, няма часу!

Гальшка здзіўлена паціскае плячыма і выходзіць з пакоя.

**Твардоўскі** *(сам да сябе).* Кароль Жыгімонт Аўгуст, апошні з Ягелонаў, пакінуў свет! Як даўно я не глядзеў на зоркі, стары п'яніца! *(Паспешліва капаецца ў сваіх рэчах, знаходзіць нейкі скрутак, разгортвае і чытае рукапіс.)*

Нечакана ў пакой уваходзіць Суддзя, які штурхае перад сабой спалоханую Гальшку. Суддзя вельмі падобны да Пасланца, можа здавацца, што гэта тая самая асоба.

**Гальшка** *(да Твардоўскага).* Пане, унізе поўна жаўнераў!

**С у д д з я.** Цыц, дурніца! *(Хапае Гальшку за руку і прыцягвае да сябе, каб закрыць дзяўчыне рот.)*

**Т в а р д о ў с к і.** Хто гэта? *(Углядаецца ў твар чалавека, які ўвайшоў.)*

**С у д д з я** *(з усмешкай).* Не пазнаеш старога знаёмага?

**Т в а р д о ў с к і.** Пан суддзя... А я ўжо было падумаў...

**С у д д з я.** Я ж абяцаў, што мы з табой яшчэ сустрэнемся, чарнакніжнік Твардоўскі!

**Т в а р д о ў с к і.** Мінула шмат гадоў, і я забыўся пра ваша абяцанне.

**С у д д з я.** Я не забыўся. Так што збірайся: пойдзеш спачатку ў вязніцу, а потым на вогнішча.

**Т в а р д о ў с к і.** Але ў мяне ахоўная грамата ад караля. *(Падае Суддзі скрутак.)*

**С у д д з я.** Памятаю, некалі чытаў. Але кароль памёр. *(Кідае скрутак пад ногі Твардоўскаму і паказвае чарнакніжніку іншы скрутак.)* І я маю судовы ордэр на твой арышт. *(Паказвае на Гальшку.)* Хто гэтая дзеўка?

**Т в а р д о ў с к і.** Пусціце яе. Гэта карчмарова дачка. Прынесла сняданак.

**С у д д з я.** Няхай пакуль што пасядзіць у тваім пакоі, каб не нарабіла лямaнту.

**Т в а р д о ў с к і.** Гэтулькі гадоў мінула... Чаму ты не пакінеш мяне ў спакоі, пане?

**С у д д з я.** Бо я мушу даведацца праўду і пакараць вінаватых. Хто напусціў чары на каралевіча Жыгімонта? Як у яго дайшло да шлюбу з распусніцай Барбарай Радзівіл? Ты адзіны сведка. Цябе чакае жорсткі допыт у катоўні, даражэнькі.

**Т в а р д о ў с к і.** Гэта доўгая і заблытаная гісторыя. У катоўні я наўрад ці раскажу яе падрабязна.

**С у д д з я** *(хітра).* Добра, я дам табе іншую мажлівасць. Вазьмі пяро, паперу і падрабязна апішы ўсё, што адбылося дваццаць гадоў таму. Твой далейшы лёс будзе залежаць ад таго, што ты напішаш. Не спрабуй уцякаць — пакой вартуюць жаўнеры. Я наведаю віленскага ваяводу і неўзабаве вярнуся.

**Т в а р д о ў с к і.** А дзяўчыну пусціце?

**С у д д з я.** Маё слова. Але без хітрыкаў! Пад акном таксама стаяць жаўнеры.

**Т в а р д о ў с к і.** Не ў тым я веку, каб скакаць праз акно, пане суддзя.

**С у д д з я** *(задаволена).* І то праўда. Таму бярыся за працу, нягоднік. *(Пакідае пакой.)*

Гальшка кідаецца да дзвярэй, грукае, штурхае, але дарма.

**Г а л ь ш к а** *(узрушана).* Яны нас зачынілі!

**Т в а р д о ў с к і.** Супакойся, дзяўчына, нешта прыдумаем.

**Г а л ь ш к а** *(з жахам і цікавасцю глядзіць на Твардоўскага).* Няўжо вы той самы Твардоўскі? Чарнакніжнік, які навучыўся ператвараць мышыныя каўцюшкі ў золата?

**Т в а р д о ў с к і** *(абурана).* Фэ, хто прыдумаў такое глупства?

**Г а л ь ш к а.** Чараўнік, які на заклад з бурмістрам перавярнуў дагары кракаўскую ратушу?

**Т в а р д о ў с к і** *(усміхаецца).* Можа, і было такое па маладосці, не помню.

**Г а л ь ш к а** *(захоплена).* Маг, які змяняў жолабы рэк, перасоўваў з месца на месца скалы, які здзейсніў падарожжа на месячык?!

**Т в а р д о ў с к і** *(зацікаўлена).* Падарожжа на месячык? Як гэта?

**Г а л ь ш к а** *(з веданнем справы).* Верхам на чорным пеўні!

**Т в а р д о ў с к і** *(з шкадаваннем).* Чуткі пра мае геройствы перабольшаныя. Каб я такое мог рабіць, то не сядзеў бы цяпер пад арыштам.

**Г а л ь ш к а** *(пасля паўзы, расчаравана).* Вы напішаце тое, пра што просіць суддзя?

**Т в а р д о ў с к і.** Гэта мяне не ўратуе. Суддзя прыдумаў фокус з прызнаннем, каб узгадніць мой арышт з віленскім ваяводам. Яму патрэбна мая смерць на вогнішчы, а не прызнанне.

**Г а л ь ш к а.** Што ж рабіць?

**Т в а р д о ў с к і.** Цябе яны выпусцяць. А за мяне не бойся. Хоць я і не лётаў на чорным пеўні на месячык, але ўсё ж я чараўнік. *(Падыходзіць да магічнага люстра і скідае з яго палатно. Моўчкі ўглядаецца ў цёмную матавую паверхню.)*

**Г а л ь ш к а** *(забыўшыся на страх, з дзіцячай цікавасцю).* Што гэта?

**Т в а р д о ў с к і.** Магічнае люстра.

**Г а л ь ш к а.** А я думала — карціна. Навошта люстра завешваць палатном? Нябожчыкаў тут няма...

**Т в а р д о ў с к і.** Бо глядзець у магічнае люстра небяспечна — яно зацягвае ў сваю глыбіню... Лепей табе адвярнуцца, дзеўча. Зараз я прамоўлю заклён і знікну ў магічным люстры. А ты потым зноў накрыеш люстра палатном.

**Г а л ь ш к а** *(спалохана).* Знікнеце? Назаўсёды?

**Т в а р д о ў с к і.** Не... Вярнуся праз дзень... Альбо праз год.

**Г а л ь ш к а** *(з жахам).* Праз год?.. Пачакайце, пане! Калі ласачка, раскажыце мне спачатку гісторыю пра караля Жыгімонта і Барбару Радзівіл. Я не вытрымаю цэлы год!

**Т в а р д о ў с к і.** Якая ты цікаўная... Хіба мала ты чула пра іх розных плётак?

**Г а л ь ш к а.** Але гэта толькі плёткі, як і пра чорнага пеўня. А суддзя сказаў, што вы адзін ведаеце, як было насамрэч!

**Т в а р д о ў с к і** *(важна).* Так. Ніхто, акрамя мяне, не ведае с а п р а ў д н а й гісторыі кахання караля Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл. *(Заклапочана.)* Толькі не да таго зараз.

**Г а л ь ш к а** *(з мальбой).* Пане Твардоўскі! Мяне праз вас зачынілі ў гэтым пакоі. Вы сабе знікнеце ў люстры, а я буду сядзець адна цэлы дзень!

**Т в а р д о ў с к і** *(вагаецца).* Хм!

**Г а л ь ш к а** *(у роспачы).* Дый сняданак вы свой не з'елі, нават віно не выпілі! *(Спрытна падбірае з падлогі кубак, выцірае фартухом і налівае Твардоўскаму віна.)*

**Т в а р д о ў с к і** *(па-філасофску).* І праўда: куды спяшацца? Перада мною — вечнасць. *(Сядае за стол.)* Добра, я раскажу табе гэтую незвычайную гісторыю, але дай слова, што захаваеш яе ў таямніцы.

**Г а л ь ш к а.** Клянуся! *(Сядае на тапчан і ўважліва слухае.)*

**Т в а р д о ў с к і.** Толькі адразу цябе расчарую: у каханні Жыгімонта і Барбары не было ніякай ваszármazбы, ніякіх мілосных эліксіраў, ніякіх магічных заклёнаў. Яны закахаліся адно ў аднаго з першага пагляду, з першага... танца. Здарылася гэта так. У Барбары Радзівіл была старэйшая сястра, Ганна…

Пакой знікае ў цемры, чуваць толькі голас чарнакніжніка Твардоўскага, які далятае з далечыні часу.

## З’ява другая

### *Сёстры*

Вільня, 5 верасня 1543 года. Баль у палацы вялікага князя літоўскага, каралевіча польскага Жыгімонта Аўгуста. Кавалеры і фрэйліны круцяцца па зале ў вясёлым, імклівым танцы. Сярод усіх вылучаецца каралевіч Жыгімонт, апрануты ва ўсё чорнае, і Ганна Радзівіл, апранутая ў белую сукенку. Калі танец канчаецца, галантны Жыгімонт і шчаслівая, задаволеная ўвагай каралевіча Ганна застаюцца разам і гамоняць.

**Жыгімонт** *(куртуазна)*. Вы цудоўна танцуеце, Ганна. І так прывабна выглядаеце ў гэтай белай сукенцы.

**Ганна.** Дзякуй за кампліменты, Ваша Вялікасць. *(Какетліва.)* Але ж вы іх гаворыце ўсім паннам, з якімі танцуеце.

**Жыгімонт.** Не ўсім. Толькі тым, якія мне падабаюцца. *(Ціха.)* Тым, якія ноччу чакаюць мяне ў сваіх спачывальнях.

**Ганна** *(з удаванай сарамлівасцю)*. Ваша Вялікасць!

**Жыгімонт** *(на вуха Ганне, па змоўніцку)*. Пасля балю, як звычайна.

**Ганна** *(вінавата азірнуўшыся, пераводзіць размову на іншую тэму)*. Ах, вы нават не ўяўляеце, васпане, як сумна было ў Вільні да вашага прыезду!

**Жыгімонт.** Якраз каб разагнаць ваш правінцыйны сум, я і прыехаў. А вы мне дапамагаеце гэта рабіць.

**Ганна** *(з дакорам)*. Не толькі я, але і іншыя віленскія панны. Вашы ўпадабанні — зменлівыя і недаўгавечныя.

**Жыгімонт.** Ну што вы, Ганна! У вас няма канкурэнтак.

У гэты час у залу ўваходзіць адзетая ва ўсё чорнае Барбара Радзівіл, нясмела разглядаецца на бакі, некага шукаючы.

**Жыгімонт** *(з цікавасцю)*. Хто гэтая красуня?

**Ганна** *(незадаволена)*. Вось бачыце, гутарыце з адной паненкай, а сочыце за іншымі. Гэта мая малодшая сястра. *(Кліча)*. Бася!

Барбара, убачыўшы сястру, радуецца. Падыходзіць да Ганны і Жыгімонта, кланяецца каралевічу.

**Жыгімонт.** Мы знаёмыя?

**Барбара** *(сарамліва апусціўшы вочы)*. Калі мне было сем гадоў, вы, Ваша Вялікасць, разам з бацькамі заязджалі ў наш маёнтак.

**Жыгімонт** *(смяецца)*. Мне было тады не нашмат больш! Прыемна пабачыць прыяцельку дзяцінства.

**Ганна** *(строга)*. У Барбары нядаўна памёр муж. Гэта яе першы выхад у свет пасля жалобы.

**Жыгімонт.** Муж? *(Раўніва.)* І кім быў гэты шчаслівы чалавек?

**Барбара** *(зачырванеўшыся)*. Ваша Вялікасць!..

**Жыгімонт** *(сумеўшыся)*. Выбачайце, выпадала б запытацца: хто быў гэты няшчасны?

**Ганна.** Станіслаў Гаштольд, віленскі ваяводзіч.

**Жыгімонт.** Старадаўні род. *(Глядзіць з-пад ілба на Барбару.)* Але, здаецца, выгас беззваротна?

**Барбара.** Так, у нас са Станіславам не было дзяцей.

Гучыць урачыстая, крыху тужлівая музыка.

**Ганна** *(спрабуе звярнуць на сябе ўвагу)*. Новы танец, Ваша Вялікасць!

**Жыгімонт** *(да Барбары).* Дазвольце мне выкупіць віну за сваю нетактоўнасць і запрасіць вас на танец, пані Барбара! *(З пачуццём годнасці.)* Спадзяюся, вы не адмовіце будучаму каралю?

**Барбара.** Я ваша пакорлівая служка, васпане. *(Схіляецца ў паклоне.)*

Жыгімонт з Барбарай ідуць танцаваць. Адзін з прыдворных запрашае разгубленую і незадаволеную Ганну. У час доўгага старадаўняга танца Жыгімонт не зводзіць з Барбары вачэй, а прыдворныя дамы і кавалеры кідаюць зацікаўленыя позіркі на каралевіча і ягоную партнёрку.

Калі танец канчаецца, Жыгімонт і Барбара кланяюцца адно аднаму і застаюцца стаяць разам. Да іх адразу падыходзіць Ганна Радзівіл.

**Ганна.** Барбара, з табой хоча пазнаёміцца малады граф Тэнчынскі! *(З надзеяй.)* А вы, Ваша Вялікасць, не пакінеце мяне ў адзіноце? Здаецца, баль неўзабаве скончыцца.

**Жыгімонт** *(суха).* На жаль, я мушу пакінуць вас да завяршэння балю. Пільныя дзяржаўныя справы. *(Да Барбары.)* Пані Барбара, вы ведаеце, што паводле закона маёнтак вашага мужа, як апошняга з роду, адыходзіць да каралеўскай маетнасці?

**Барбара.** Так, Ваша Вялікасць. Я гатова хоць заўтра пакінуць Геранёны і пераехаць у палац да маёй маці.

**Жыгімонт.** Не спяшайцеся. Мой абавязак як вялікага князя літоўскага — зрабіць інспекцыю маёнтка. Таму чакайце мяне неўзабаве ў Геранёнах!

**Барбара.** Для мяне гэта вялікі гонар, Ваша Вялікасць!

Жыгімонт імкліва адыходзіць, нават не развітаўшыся з Ганнай.

**Барбара** *(задумліва).* Няўжо гэта так пільна?

**Ганна** *(абурана).* Ты!.. Ты!.. Навошта ты сюды прыйшла, сястрычка! Сядзела б у сваёй нары і аплаквала мужа!

**Барбара** *(здзіўлена).* Ганна!

**Ганна.** Не здагадваешся, дзеля чаго ён прыедзе ў Геранёны? Дурнічку ўдаеш?

**Барбара** *(вінавата).* Ганна!

**Ганна.** Так заўсёды ў маім жыцці! Усё добра, пакуль не з’яўляешся ты з сваімі бессаромнымі вачыма і ўяўнай пакорай. Ненавіджу цябе! *(Выбягае з залы.)*

**Барбара** *(у роспачы).* Ганна, вярніся!

Зноў гучыць музыка. Барбара застаецца адна сярод пар, якія танцуюць. Да новай абранніцы каралевіча Жыгімонта ніхто не адважваецца падысці.

### З’ява трэцяя

### *Чароўны эліксір*

Вільня, 3 жніўня 1547 года. Невялікі пакой у доме, дзе пасяліўся чарнакніжнік Твардоўскі. Ён сядзіць за сталом і нешта піша; на стале — кнігі, астралябія, прылады для алхімічных доследаў, а яшчэ адкаркаваная бутэлька віна і абернуты келіх. У куце пакоя на драўлянай падстаўцы стаіць магічнае люстра, закрытае палатном.

Чуваць нервовы стук у дзверы.

**Твардоўскі** *(адрываецца ад працы).* Калі ласка! Заходзьце!

У пакой уваходзіць Незнаёмая ў прыгожым, багатым строі, твар яе закрыты вэлюмам.

**Незнаёмая.** Тут жыве славуты маг Твардоўскі?

**Т в а р д о ў с к і.** Ён перад вамі, пані. *(Устае з-за стала.)*

Жанчына з недаверам глядзіць на мага, потым уважліва аглядае пакой.

**Н е з н а ё м а я.** Гэта, напэўна, вы?

**Т в а р д о ў с к і.** А што — непадобны? *(Усміхаецца.)* Пані чакала ўбачыць карла з сівой барадой да падлогі?

**Н е з н а ё м а я.** Не. Але я думала, што славутыя магі выглядаюць іначай. Больш таямніча і велічна... *(Пагардліва.)* У вас парвана рукаво камзола.

**Т в а р д о ў с к і** *(разводзіць рукамі)*. Выбачайце, калі я не адпавядаю вашым спадзяванням. Чым магу дапамагчы?

**Н е з н а ё м а я.** Мне патрэбен мілосны эліксір. Мой кавалер перастаў звяртаць на мяне ўвагу. Бо закахаўся ў іншую...

**Т в а р д о ў с к і** *(пагардліва)*. Мілосны эліксір? Дзеля гэтай дробязі вы турбуеце прафесійнага мага? Яго вам зробіць любая вясковая варажбітка!

**Н е з н а ё м а я.** Мне патрэбны сапраўдны магічны сродак, а не нейкае там прываротнае зелле. Мілоснае пітво, такое, як выпілі некалі Трышчан з Іжотай. І пакахалі адно аднаго навекі.

**Т в а р д о ў с к і.** Так? Але помніцца, Трышчан меў праз гэта шмат клопату. Вы ўпэўнены, пані, што ваша каханне не прынясе клопату вашаму кавалеру?

**Н е з н а ё м а я.** Я вас шчодра ўзнагароджу. *(Падае Твардоўскаму скураны мяшэчак з грашыма.)*

**Т в а р д о ў с к і** *(узважыўшы мяшэчак на руцэ)*. А атрута вам, выпадкова, не патрэбная, пані?

**Н е з н а ё м а я.** Для каго?

**Т в а р д о ў с к і.** Для вашай саперніцы.

**Н е з н а ё м а я** *(узрадавана)*. Патрэбная! Я заплачу яшчэ больш! *(Падае Твардоўскаму яшчэ адзін мяшэчак.)*

**Т в а р д о ў с к і** *(здзіўлена)*. Ну што вы, я пажартаваў!

**Н е з н а ё м а я.** Шкада.

**Т в а р д о ў с к і.** Я зраблю вам мілосны эліксір, пані. *(Вінавата.)* Я збіраюся ўчыніць падарожжа ў Сарагосу, і грошы мне спатрэбяцца. Зробіць пані ласку назваць сваё імя?

**Н е з н а ё м а я** *(няўпэўнена)*. Я хацела б захаваць інкогніта.

**Т в а р д о ў с к і.** Але для таго, каб зрабіць эліксір, я павінен назваць у заклёне ваша імя.

**Н е з н а ё м а я.** Ганна.

**Т в а р д о ў с к і.** А імя кавалера?

**Н е з н а ё м а я.** Яно таксама патрэбна?

**Т в а р д о ў с к і.** Вядома. *(Узнёсла.)* Як Трышчан з Іжотай!

**Н е з н а ё м а я** *(неахвотна)*. Жыгімонт.

**Т в а р д о ў с к і.** А імя саперніцы?

**Н е з н а ё м а я** *(яшчэ больш неахвотна)*. Барбара.

**Т в а р д о ў с к і** *(кідае здзіўлены позірк на Незнаёмую, але стрымліваецца)*. Больш няма пытанняў. Зараз я прыгатую эліксір. Магу я папрасіць шаноўную пані пачакаць хвілінку за дзвярыма? *(Таямніча.)* Таямніцы прафесіі.

**Н е з н а ё м а я.** Зразумела.

Незнаёмая выходзіць. Твардоўскі пазяхае, хавае ў скрыню мяшэчак з грашыма.

**Т в а р д о ў с к і** *(задаволена)*. Восьмы мяшэчак ад закаханых паненак. І кожная з закаханых Іжот называе тое самае імя: Жыгімонт.

Потым вымае з шафкі невялікую парожнюю бутэлечку, налівае туды віна з бутэлькі, якая стаяла на стале. Паглядзеўшы на бутэлечку, незадаволена ківае галавой, адлівае крыху ў кубак.

**Т в а р д о ў с к і.** Зашмат. *(Выпівае з келіха віно. Затыкае бутэлечку спецыяльным коркам.)* Шаноўная пані, заходзьце!

Уваходзіць Н е з н а ё м а я.

**Т в а р д о ў с к і.** Магія споўнілася. Забірайце эліксір. *(Падае бутэлечку Незнаёмай.)*

**Н е з н а ё м а я** *(з недаверам глядзіць на бутэлечку)*. Дарэчы, калі раптам эліксір не паможа...

**Т в а р д о ў с к і.** Бывае, здараецца. *(Паспешліва.)* Але ў такім разе грошы я ўсё роўна не вяртаю.

**Н е з н а ё м а я.** Вам не патрэбен вучань, майстра? Дакладней, вучаніца...

**Т в а р д о ў с к і.** Вучаніца? *(Здзіўлена глядзіць на Незнаёмую.)* Ні ў якім разе! Я не хачу скончыць як чараўнік Мэрлін, якога ягоная вучаніца, Фата Маргана, жыўцом замуравала ў скале.

**Н е з н а ё м а я** *(расчаравана)*. Шкада. Я ўсё жыццё марыла навучыцца магіі і, як гамераўская Кірка, ператвараць у свіней тых мужчын, якія гэтага заслугоўваюць.

**Т в а р д о ў с к і.** Мілая пані, калі б ваша жаданне здейснілася, сусвет ператварыўся б у суцэльны свінарнік!

**Н е з н а ё м а я.** А хіба зараз ён лепшы? Ненавіджу… людзей. *(Пакідае пакой.)*

**Т в а р д о ў с к і.** Небяспечная кабета! Каралевічу Жыгімонту лепей трымацца ад яе далей. *(Сядае за стол.)* Але зоркі мяне не падманулі! Тут, у Вільні, адбываюцца важныя падзеі. *(Мармыча нешта на латыні і працягвае запісы.)*

Чуваць рэзкі, патрабавальны стук у дзверы.

**Т в а р д о ў с к і** *(нібыта гэтага чакаў)*. Што я казаў! Усім я раптам спатрэбіўся!

Дзверы ў пакой расчыняюцца, і на парозе з'яўляецца чалавек у чорным плашчы, з накінутым на галаву капюшонам.

**Т в а р д о ў с к і** *(спалохана)*. Прэч, нячыстая сіла! *(Усхапляецца з-за стала)*. Не, не сёння, мы так не дамаўляліся!

Чалавек у чорным плашчы скідае з галавы капюшон, і мы бачым, што гэта Суддзя.

**Т в а р д о ў с к і** *(пазнаўшы)*. Пане Суддзя? Але ж вы мяне напалохалі... Я прыняў вас за іншага... хм, чалавека.

**С у д д з я.** Цікава, за каго?

**Т в а р д о ў с к і.** Ды так, за аднаго старога знаёмага. *(З дакорам.)* Зноў вы хочаце мяне арыштаваць, пане? Я ж вам ужо казаў: я не праводжу забароненых доследаў і не знаюся з ерэтыкамі.

**С у д д з я.** Не бойся, бязбожніку, гэтым разам я не збіраюся цягнуць цябе ў суд. Наадварот, я прыехаў з карыснай для цябе прапановай.

**Т в а р д о ў с к і.** Слухаю, пане. *(Прапаноўвае госцю крэсла.)*

**С у д д з я.** Я прыехаў па даручэнні адной важнай асобы, імя якой называць не буду.

**Т в а р д о ў с к і.** Слухаю ўважліва.

**С у д д з я.** Да Кракава дайшлі чуткі пра любошчы каралевіча Жыгімонта з вядомай віленскай распусніцай Барбарай Радзівіл.

**Т в а р д о ў с к і.** І што з таго? Ці мала было ў каралевіча любошчаў?

**С у д д з я.** Гэтым разам любоўная сувязь будучага караля зайшла задалёка.

Кажуць, хітрая Барбара цалкам зачаравала легкадумнага Жыгімонта. А ўсім кіруюць яе браты, Мікалай Чорны і Мікалай Руды, якія збіраюцца пасадзіць сястру на каралеўскі трон.

**Т в а р д о ў с к і** *(з пагардай).* Палітыка, інтрыгі, я трымаюся далёка ад зямной мітусні. Мяне больш цікавяць таямніцы зорнага неба, чым таямніцы прыдворнага жыцця.

**С у д д з я.** Не ўдавай дурня, разумнік. *(Пагрозліва.)* Скажы, ці не з тваёй помаччу Барбара зачаравала Жыгімонта?

**Т в а р д о ў с к і.** Што вы, пане, хіба я б адважыўся ўмешвацца ў жыццё каралеўскай сям'і? Тая асоба, ад імя якой вы прыехалі, мне ніколі б гэтага не даравала.

**С у д д з я.** Твая праўда. Але каб давесці сваю вернасць каралеўскай сям'і, ты мусіш нам памагчы, чарнакніжнік. Трэба прыбраць Барбару з Жыгімонтавых вачэй.

**Т в а р д о ў с к і.** Што значыць прыбраць? Забіць? Але чаму пан прыехаў да мяне? Хіба пры двары каралевы Боны бракуе дасведчаных лекараў?

**С у д д з я.** Пакуль што ніхто яе забіваць не збіраецца. Ты зробіш такі эліксір, выпіўшы які, каралевіч і глядзець больш не захоча на каханку. *(Усміхаецца.)* А яшчэ лепш — такі эліксір, які б выпіла яна, і пасля гэтага ніхто б не хацеў глядзець на яе.

**Т в а р д о ў с к і** *(абурана).* Мяне, славутага вучонага і мага, трактуюць як нейкую вясковую вядзьмарку!

**С у д д з я.** Вясковую вядзьмарку так шчодра б не ўзнагародзілі. *(Паказвае Твардоўскаму цяжкі скураны мяшэчак з грашыма.)* Акрамя таго, табе даруюцца былыя грахі і правіны. Так што выбірай: узнагарода ці турма.

**Т в а р д о ў с к і.** Добра, я зраблю эліксір. Пачакайце хвілінку за дзвярыма.

**С у д д з я** *(абурана).* Гэта яшчэ чаму? Ты надумаўся нас ашукаць?

**Т в а р д о ў с к і.** Магія — рэч небяспечная. Раптам я прамоўлю заклён, і вы закахаецеся ў Барбару Радзівіл?

**С у д д з я.** Цьфу! *(Суддзя выходзіць з пакоя.)*

Твардоўскі бярэ з шафы яшчэ адну бутэлечку і налівае туды рэйнскага віна. Глядзіць, колькі засталося ў бутэльцы.

Т в а р д о ў с к і *(незадаволена).* Так і самому нічога не застанецца. Давядзецца ўвечары заказаць яшчэ адну бутэльку... Вядома, можна назваць мяне махляром і ашуканцам, але трэба ўлічыць, што я выкарыстоўваю рэйнскае віно найлепшага гатунку! *(Закаркоўвае бутэлечку.)* Заходзьце, пане Суддзя!

Суддзя ўваходзіць. Твардоўскі аддае яму бутэлечку, атрымлівае мяшэчак з грашыма.

**Т в а р д о ў с к і** *(узважвае на руцэ мяшэчак).* Сапраўды, каралеўская ўзнагарода! Перадайце неназванай асобе вялікі дзякуй, заўсёды рады ёй служыць.

**С у д д з я.** Не распускай язык, лотра!

**Т в а р д о ў с к і.** А як вы збіраецеся падліваць эліксір пані Барбары?

**С у д д з я.** Не твой клопат, у нас паўсюль ёсць людзі. Бывай, чарнакіжнік. І маліся сваім багам, каб эліксір паўплываў. Інакш я табе не зайздрошчу.

**Т в а р д о ў с к і** *(цяжка ўздыхае).* Чаму тут зайздросціць?..

Суддзя выходзіць. Твардоўскі ў задуменні ходзіць па пакоі.

**Т в а р д о ў с к і.** А яшчэ менш я зайздрошчу каханцы каралевіча Жыгімонта. Калі яны могуць неўпрыкмет падліць ёй у келіх гэты эліксір, то наступным разам — змогуць і атруту. *(Уздыхае.)* Час збірацца ў дарогу. За тыя грошы, што я сёння атрымаў, не толькі да Сарагосы, але і да Кітая можна даехаць.

Чуваць нясмелы стук у дзверы.

**Т в а р д о ў с к і.** Не, гэта ўжо занадта! Гэтулькі грошай мне не трэба! Дый рэйнскага ўжо не засталося. Хто там?

Уваходзіць жанчына, захутаная ў цёмна-сіні плашч.

**Б а р б а р а.** Добры дзень! *(Запытальна.)* Пане Твардоўскі?

**Т в а р д о ў с к і.** Перад вамі. *(Іранічна.)* А пекная пані, мусіць, хацела б застацца інкогніта?

**Б а р б а р а** *(скідае з галавы капюшон плашча).* Мяне завуць Барбара. *(З выклікам.)* Барбара Радзівіл.

**Т в а р д о ў с к і** *(ацаніўшы смеласць госці).* Чым магу служыць, пані Барбара? *(Прапануе Барбары сесці.)*

**Б а р б а р а** *(прысеўшы на ўслон).* Мне патрэбна вашая дапамога, майстру.

**Т в а р д о ў с к і.** Слухаю.

**Б а р б а р а** *(засмучана).* Я пакахала аднаго мужчыну... *(Замаўкае.)*

**Т в а р д о ў с к і** *(спачувальна).* І вам патрэбен мілосны эліксір, каб гэты мужчына пакахаў вас?

**Б а р б а р а** *(кідае здзіўлены позірк на Твардоўскага.)* Не. Ён мяне кахае.

**Т в а р д о ў с к і.** Тады, можа, эліксір, каб аднадзіць ад яго саперніцу?

**Б а р б а р а.** Я не баюся здрады.

**Т в а р д о ў с к і.** Тады вас застаецца толькі павіншаваць. Я не разумею, навошта вы да мяне прыйшлі.

**Б а р б а р а** *(уздыхае).* Наша каханне прыносіць яму шмат непрыемнасцей. І я баюся, што прынясе яшчэ больш. Плёткі, інтрыгі, кожны спрабуе выкарыстаць ягоныя пачуцці да мяне дзеля сваіх інтарэсаў.

**Т в а р д о ў с к і.** А вам гэтае каханне не прыносіць непрыемнасцей?

**Б а р б а р а.** Мне таксама. Сястра са мной не гаворыць. Браты крыўдуюць, што я не слухаюся іхніх парад. Былыя сяброўкі зайздросцяць мне і шэпчуцца па кутах. Але маё жыццё належыць толькі мне, а вось ягонае... Пане Твардоўскі, вы ж ведаеце, пра каго я гавару?

**Т в а р д о ў с к і** *(сціпла).* Для чалавека, які чытае па зорках, на зямлі няма сакрэтаў.

**Б а р б а р а.** Каб даведацца пра наша з Жыгімонтам каханне, не трэба глядзець на зоркі. Досыць зайсці ў першую карчму, каб пачуць гісторыю з усімі падрабязнасцямі.

**Т в а р д о ў с к і.** Спачуваю вам, пані. І дзякую за давер, які вы мне аказалі. Хоць па-ранейшаму не разумею, навошта вы прыйшлі.

**Б а р б а р а.** А я спадзяюся на ваша маўчанне. Інакш непрыемнасцей у мяне будзе яшчэ больш. *(Пасля паўзы.)* Я адкрыю вам таямніцу, якую не ведаюць ні самыя заможныя прыдворныя, ні п’яніцы ў корчмах. Каралевіч Жыгімонт хоча ўзяць са мной таемны шлюб.

**Т в а р д о ў с к і** *(уражаны).* Сапраўды, гэтая таямніца можа каштаваць мне нават галавы. Я ўяўляю, які ўздымецца вэрхал: без благаславення бацькоў, без ухвалы сойму!

**Б а р б а р а** *(сумна ўсміхаецца).* Будучы кароль, нашчадак Ягайлы, ажаніўся з ліцвінскай распусніцай і вядзьмаркай...

**Т в а р д о ў с к і.** У краіне можа пачацца бунт, нават вайна. Вас чакае цяжкае выпрабаванне, пані Барбара.

**Б а р б а р а.** О, Божа! Я не хачу гэтага шлюбу. Мне патрэбен толькі ён, мой Жыгімонт, а не каралеўская карона! Я згодна да канца дзён заставацца ягонай каханкай, нават не да канца дзён, а пакуль ён мяне не разлюбіць!

**Т в а р д о ў с к і** *(з павагай).* Вы па-сапраўднаму яго кахаеце, пані.

**Б а р б а р а.** Але Жыгімонт сказаў, што ягонае запаветнае жаданне — убачыць мяне ў каралеўскай кароне, і калі я адмоўлю яму, то зраблю найняшчаснейшым чалавекам у свеце.

**Т в а р д о ў с к і.** І што вы надумалі?

**Б а р б а р а.** Я хачу ведаць пэўна! Пане Твардоўскі, вы вялікі маг і чараўнік. Паглядзіце на свае зоркі і скажыце: ці ўбачыць мяне Жыгімонт у каралеўскай кароне і ці не страціць праз мяне сваю! *(Цвёрда.)* Калі праз мяне пачнецца вайна, то я лепш скочу ў Вілію і ўтаплюся.

**Т в а р д о ў с к і.** Варажыць па зорках можа ўсякі астролаг. Іх шмат пры каралеўскім двары. Але зоркі — альбо астролагі — часта хлусяць. І я таксама не магу чытаць будучыню па зорках.

**Б а р б а р а** *(разгублена).* Вы не зможаце мне дапамагчы?

**Т в а р д о ў с к і.** Змагу. Але мне не трэба пытацца ў зорак. Я пакажу вам вашу будучыню ў магічным люстры. Толькі — ц-с-с-с — нікому пра яго не кажыце. Давер за давер. Хадземце! *(Падводзіць Барбару да магічнага люстра).* Магічнае люстра рэч небяспечная. Яно можа ўцягнуць у сваю глыбіню недасведчанага чалавека. Я буду стаяць побач з вамі, пані Барбара, і прамаўляць заклён. А вы глядзіце, глядзіце ўважліва! *(Адкідвае палатно, якім закрыта люстра.)*

Барбара з хваляваннем чакае выраку лёсу. Мутная паверхня люстра святлее, і ў ім з’яўляецца выява: маладая і прыгожая Барбара Радзівіл у каралеўскай кароне ляжыць у труне, а побач стаіць няўсцешны Жыгімонт Аўгуст і аплаквае яе смерць.

**Б а р б а р а** *(ускрыквае).* Ах! *(Закрывае вочы рукой.)*

Твардоўскі прамаўляе чарговы заклён, выява ў люстры знікае, паверхня зноў мутнее. Чарнакніжнік хуценька захінае люстра палатном.

**Т в а р д о ў с к і.** Што вы ўбачылі, пані Барбара?

**Б а р б а р а** *(шэптам).* Я ўбачыла сябе ў каралеўскай кароне... Маладую, прыгожую... Але ў труне!

**Т в а р д о ў с к і** *(разводзіць рукамі).* Не ведаю, ці дапамог я вам, пані Барбара.

**Б а р б а р а.** Мне трэба ісці. *(Кіруецца да выхаду, але потым вяртаецца і падае Твардоўскаму мяшэчак з грашыма.)* Гэта вам, майстра!

**Т в а р д о ў с к і.** Што вы, пані Барбара! Я за такія прадказанні грошай не бяру!

**Б а р б а р а** *(абыякава).* Як хочаце! *(Паварочваецца да выхаду.)*

**Т в а р д о ў с к і** *(раптам).* Пані Барбара!

Барабара Радзівіл спыняецца і глядзіць на Твардоўскага, але думкі яе лётаюць недзе далёка.

**Т в а р д о ў с к і.** Што б вы ні надумалі — будзьце асцярожныя. Не піце з чужых кубкаў, не прымайце падазроных падарункаў. У вас цяпер шмат ворагаў і зайздроснікаў, якія прагнуць вашай смерці. Нават калі вы бачылі сябе ў труне — не спяшайцеся там апынуцца, пані Барбара.

**Б а р б а р а** *(сумна ўсміхаецца).* Дзякуй за перасцярогу. *(Выходзіць.)*

**Т в а р д о ў с к і.** І што яна цяпер зробіць?!

## З'ява чацвёртая

### *Таемны шлюб*

Праз некалькі дзён. Спачывальня Барбары ў віленскім палацы Радзівілаў. Прыгожа апранутая Барбара сядзіць ля начнога століка, глядзіцца ў маленькае люстэрка і папраўляе валасы.

У спачывальню імкліва ўваходзіць Ганна Радзівіл.

**Г а н н а.** Прывітанне, красуня! Чаму я апошняя даведваюся пра шлюб роднай сястры?

**Б а р б а р а** *(вінавата).* Ах, Ганна, я б сказала табе, але браты...

**Г а н н а.** Я ледзь вырвала ў іх гэтую таямніцу!

**Б а р б а р а.** Памятай, што гэта не толькі мая таямніца, але і Жыгімонтава... Калі ягоныя ворагі даведаюцца...

**Г а н н а.** Усё разумею. Віншую, сястрычка! *(Нахіляецца над Барбарай і цалуе яе.)*

**Б а р б а р а.** Я думала, ты мне ніколі не даруеш.

**Г а н н а.** Ну што ты, якія могуць быць крыўды? Што я, вораг уласнай сям'і? Парадніцца з будучым каралём — мара кожнага магнацкага роду.

**Б а р б а р а.** Ты разважаеш дакладна як нашы браты. А яшчэ невядома, ці адбудзецца наш шлюб.

**Г а н н а** *(зацікаўлена).* Праўда?

**Б а р б а р а.** Я не ведаю, што рабіць. Зараз прыйдзе Жыгімонт, і я мушу даць сваю згоду.

**Г а н н а** *(ненатуральна).* Не адмаўляйся ад свайго шчасця, сястра.

**Б а р б а р а.** Калі яно шчасце... *(Задумваецца.)*

**Г а н н а.** А я хацела б адправіцца ў падарожжа. Пабачыць Вену, Рым, Парыж, пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. Я стамілася ад Вільні, ад нашага правінцыяльнага жыцця. Чаму братам можна падарожнічаць па Еўропе, а нам з табой не? Толькі таму, што мы — жанчыны?

**Б а р б а р а** *(апамятаўшыся).* Што ты кажаш?

**Г а н н а.** Я кажу, што хацела б нарадзіцца мужчынам. Як моцна я ненавіджу мужчын, так і зайздрошчу ім.

**Б а р б а р а** *(усхапляецца).* Гэта ён, Жыгімонт! Я чую ягоныя крокі! *(Мітусіцца па пакоі.)*

У спачывальню ўваходзіць Жыгімонт, вясёлы і бадзёры. Сёстры кланяюцца каралевічу.

**Ж ы г і м о н т** *(убачыўшы Ганну).* І ты тут, Ганна? Рады цябе бачыць.

**Г а н н а.** Прыйшла павіншаваць сястру.

**Ж ы г і м о н т.** Выдатна! Забудзем былыя крыўды. Дарэчы, дзякуй табе за падарунак! Цудоўнае віно!

**Г а н н а** *(з раптоўнай надзеяй).* Вашай Вялікасці спадабалася?

**Ж ы г і м о н т** *(сканфужана).* Праўду кажучы, я так яго і не пакаштаваў. Якраз прыехаў ганец ад бацькі, і я мусіў заняцца справамі. Але мой падчашы, які згодна з пасадай першы пакаштаваў віно, а потым, відаць, прыкончыў усю бутэльку, быў проста ў захапленні. Усё распытваў, што за пані прыслала такое шляхетнае віно. Ён проста закахаўся ў вас, Ганна!

**Г а н н а.** Зычу шчасця! *(Выскоквае з пакоя, быццам варам на яе лінулі.)*

**Ж ы г і м о н т** *(здзіўлена).* Што гэта з ёй?

**Б а р б а р а.** Добра, што ваш падчашы першы каштуе віно. На маім століку ўчора знайшлі бутэльку з дарагім віном, ніхто не ведае, адкуль яна ўзялася.

**Ж ы г і м о н т.** От ліха! Трэба распытаць слуг.

**Б а р б а р а.** Мае браты ўжо заняліся гэтым. Але ніякіх вынікаў. Я баюся, Жыгімонт. Яшчэ можна адклікаць шлюб.

**Ж ы г і м о н т.** Любая мая! *(Абдымае Барбару.)* Хутка ўсё зменіцца!

**Б а р б а р а.** Калі? Адразу пасля шлюбу ты з'язджаеш у Кракаў і невядома калі вернешся.

**Ж ы г і м о н т.** Трэба падрыхтаваць бацькоў, пераканаць магнатаў, падкупіць бедную, але крыклівую шляхту. Ты ведаеш, у нашага шлюбу шмат ворагаў, але калі мы ўсіх пераможам — ты станеш каралевай!

**Б а р б а р а.** Ты ж ведаеш, не каралеўская карона мне патрэбна. *(Туліцца да Жыгімонта.)* Я хачу толькі, каб мы былі разам.

**Ж ы г і м о н т.** Узяўшы шлюб, мы будзем разам давеку, каханая! *(Пяшчотна цалуе Барбару.)*

**Б а р б а р а** *(задумліва).* Давеку... Якое дзіўнае слова... Скажы, любы, калі б ты ведаў, што гэтая вечнасць будзе доўжыцца ўсяго некалькі імгненняў, ты ўсё роўна б узяў са мной шлюб?

**Ж ы г і м о н т.** Лёс звёў нас з табой на зямлі, няхай Бог паяднае нас, калі мы будзем на небе! Хадзем, Барбара! Ксёндз ужо чакае ў замкавай капліцы.

**Б а р б а р а.** Але абяцай кахаць мяне так моцна, нібыта ў нас наперадзе не вечнасць, а адзін апошні пацалунак, апошні глыток паветра разам!

**Ж ы г і м о н т** *(урачыста).* Клянуся! Няхай так станецца! *(Бярэ Барбару пад руку і выводзіць са спачывальні.)*

Гучыць арган, як на ўрачыстым шлюбе ў касцёле.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява пятая

### *Карчма*

Перад вачыма ў гледачоў зноў узнікае пакой у карчме, дзе заварожаная Гальшка слухае аповед чарнакніжніка Твардоўскага.

**Т в а р д о ў с к і** *(узнёсла).* Менавіта каралевіч Жыгімонт хацеў гэтага шлюбу, ён шчыра пакахаў Барбару і прагнуў, каб яна, а не якая аўстрыйская прынцэса, стала ягонай жонкай і каралевай. Але звычайным людзям цяжка паверыць у чысціню пачуццяў вялікіх людзей, яны мераюць свет уласнай меркай і шукаюць іншыя, мізэрныя тлумачэнні іхніх паводзінаў. Незычліўцы пусцілі плётку, што Жыгімонта прымусілі ажаніцца з Барбарай яе хітрыя браты, завабіўшы легкадумнага каралевіча ў загадзя падрыхтаваную пастку. І, вядома, усе паверылі гэтай плётцы, нават суровы манах-летапісец, які ўвекавечыў яе на старонках летапісу. Якое глупства! Нібыта Жыгімонта Аўгуста, вялікага князя літоўскага, будучага караля польскага можна прымусіць ажаніцца, заспеўшы яго знянацку ў спачывальні каханкі! Ці мала ў яго было падобных прыгод у Кракаве ды Вільні? Не, я добра ведаў караля і магу пабажыцца, што нічога б не здарылася супраць яго волі. *(З павагай.)* Жыгімонта з Барбарай злучыла сапраўднае пачуццё: каханне, якое здараецца на гэтай зямлі раз на стагоддзе. *(З пагардлівай усмешкай.)* Але не сумнявайся, Гальшка, нашчадкі павераць словам летапісца, будуць апісваць бліскучую інтрыгу Радзівілаў у раманах ды п'есах!

**Г а л ь ш к а** *(перапыняе Чарнакніжнікавы разважанні).* Пане, што было далей?

**Т в а р д о ў с к і.** Далей? *(Важна.)* Далей я мусіў пакінуць Вільню і адправіцца ў Сарагосу. Як ты разумееш, пасля цудоўнага ператварэння рэйнскага віна ў чароўны эліксір у мяне з'явілася шмат ворагаў. Але акрамя ворагаў у мяне нечакана з'явіўся вучань...

**Г а л ь ш к а** *(нецярплівa)*. Ды не з вамі! Што было далей з Барбарай і Жыгімонтам?

**Т в а р д о ў с к і** *(разгублена)*. З Барбарай і Жыгімонтам? *(Паўза.)* Але спачатку я мушу расказаць табе пра свайго вучня! *(Усхвалявана.)* Пра надзвычай здольнага хлопца, які захацеў дзяліць са мной цяжар вандроўнага жыцця...

### З'ява шостая

### *Вучань чараўніка*

Вільня, 5 жніўня 1547 года.

У пакоі, дзе пасяліўся чарнакніжнік Твардоўскі, нейкі час нікога няма. На стале стаяць запакаваныя для ад'езду рэчы: мікраскоп, астралябія, прылады для алхімічных доследаў, некалькі пакункаў кніг.

У расчыненыя дзверы ўваходзіць Твардоўскі, за ім — малады хлопец Ян.

**Я н.** Майстра Твардоўскі, вазьміце мяне ў вучні!

**Т в а р д о ў с к і.** Я табе ўжо казаў: не вазьму. Вяртайся да сваіх бацькоў.

**Я н.** У мяне няма бацькоў, толькі цётка. І тая хоча зжыць мяне са свету.

**Т в а р д о ў с к і.** Калі ўлічыць тваю надакучлівасць і ўпартасць, я яе разумею.

**Я н.** Няпраўда, я ціхі, я магу маўчаць цэлы дзень. Я вам не буду замінаць.

**Т в а р д о ў с к і.** Я выбіраюся ў далёкае падарожжа, і мне не патрэбен лішні рот.

**Я н.** Я вам дапамагаць буду, як верны слуга буду! Вазьміце мяне ў вучні!

Твардоўскі бярэ некалькі рэчаў і выносіць з пакоя. Ян хапае два пакункі кніг і бяжыць за чараўніком.

Праз хвіліну Твардоўскі і Ян вяртаюцца.

**Т в а р д о ў с к і.** Які з цябе слуга, адразу відаць, што беларучка.

**Я н.** Я ўсяму навучуся! Затое я ўмею чытаць і пісаць, ведаю матэматыку і латынь!

**Т в а р д о ў с к і** *(іранічна)*. Ого, а грэцкую мову ты не ведаеш?

**Я н.** А што?

**Т в а р д о ў с к і.** Мне якраз патрэбен вучань з веданнем грэцкай мовы.

**Я н.** Я вывучу, я вельмі здольны да моў. Вось пабачыце!

**Т в а р д о ў с к і** *(паказваючы на люстра)*. Бярыся, дапаможаш мне вынесці люстра. Толькі асцярожна, хлопча!

Ян з радасцю хапаецца выконваць даручэнне чарнакніжніка, яны ўдвух выносяць люстра з пакоя. Праз некалькі хвілін вяртаюцца.

**Т в а р д о ў с к і.** Дзе ж ты навучыўся латыні і матэматыцы?

**Я н.** Калі быў жывы мой бацька, ён наймаў мне настаўніка. Хацеў адправіць у Кракаўскую акадэмію. Але потым бацькі памерлі, а ў цёткі няма ні грошай, ні жадання мяне вучыць.

**Т в а р д о ў с к і.** Бедны хлопча. Калі б я не ад'язджаў, я, можа б, і ўзяў бы цябе ў вучні. *(Бярэ ў рукі пакунак з кнігамі.)* Але падарожжа — далёкае і небяспечнае.

**Я н.** Вазьміце мяне з сабой, майстру! Я так хачу пабачыць свет! Пабываць у Вене, Парыжы, Рыме...

**Т в а р д о ў с к і** *(выпусціўшы з рук пакунак з кнігамі)*. Сціхні!

Чуваць злавесны смех. Пасярэдзіне пакоя ў клубах дыму з'яўляецца постаць Пасланца.

**П а с л а н е ц** *(пагрозліва ківаючы пальцам у бок Твардоўскага).* Час табе, чараўнік, адпраўляцца ў Рым. Мы цябе даўно чакаем.... *(З рогатам расплываецца ў паветры.)*

**Я н** *(спалохана).* Пане Твардоўскі! *(Паказвае на тое месца, дзе толькі што ўзвышалася постаць Пасланца.)*

**Т в а р д о ў с к і** *(хапае Яна за руку).* Ніколі, чуеш, хлопча, ніколі не вымаўляй пры мне назвы гэтага горада! Хадзем! *(Выводзіць разгубленага Яна з пакоя, не зважаючы ўвагі на пакункі з кнігамі і рэчы, якія яшчэ засталіся.)*

## З'ява сёмая

### *Кола Фартуны*

Перад вачыма ў гледачоў зноў узнікае пакой у карчме, дзе Гальшка слухае аповед Твардоўскага.

**Г а л ь ш к а** *(нецярпліва).* Я рада, што ў вас быў вучань, пане. Але раскажыце мне, што сталася з Барбарай і Жыгімонтам пасля таго, як яны ўзялі шлюб?

**Т в а р д о ў с к і.** З Барбарай і Жыгімонтам? *(Паўза.)* О, іх чакалі цяжкія выпрабаванні перш чым яны ўзышлі на трон... *(Доўгая паўза.)* Я пакажу табе іх лёс у чароўным люстры. *(Падводзіць Гальшку да люстра і шэпча магічныя словы.)*

Паверхня люстра праясняецца, з'яўляецца выява далёкага мінулага...

Фантасмагарычны баль-маскарад у вялікай троннай зале на Вавельскім замку ў Кракаве. На троне сядзіць кароль Жыгімонт Стары, побач з ім, на меншым троне — каралева Бона. Прыдворныя, апранутыя ў прыгожыя строі, танцуюць старадаўні танец.

У час танца раз-пораз узнікаюць доўгія рытмічныя паўзы, у гэты момант прыдворныя крычаць: «Няхай жыве кароль Жыгімонт Першы!», «Віват каралеве Боне!», «Слава нашаму непераможнаму ўладару!», «Вітаем мудрасць дабрароднай каралевы», «Дай Божа доўгіх гадоў жыцця каралю і каралеве!», «Няхай жыве!..», «Віват!..», «Слава!..» Прыдворныя схіляюцца ў паклоне, кароль і каралева ў адказ ківаюць галовамі, потым музыка гучыць зноў, і танец працягваецца.

Нечакана ў зале з'яўляецца постаць Смерці, якая няспешна плыве ў бок каралеўскай пары, за ёй двое блазнаў коцяць багата ўбраную труну на колцах. Смерць, блазнаў і труну ніхто не заўважае, яны набліжаюцца да трона, Смерць штурхае караля Жыгімонта Старога, і той падае проста ў труну, спрытна падстаўленую блазнамі. Музыка ператвараецца ў гармідар, потым зусім абрываецца, прыдворныя застываюць кожны на сваім месцы. З'яўляюцца яшчэ двое блазнаў, накідваюць на плечы каралевы Боны жалобную накідку. Потым Смерць накіроўваецца да выхаду, за ёй двое блазнаў коцяць труну, за трунoй ідзе, схіліўшы галаў, каралева Бона.

Жалобная працэсія пакідае залу, двое блазнаў, якія накідвалі на плечы Боне траурную накідку, зачыняюць за каралевай дзверы, але самі застаюцца ў зале.

Нейкае імгненне ў троннай залі пануе цішыня, ніхто не рухаецца. Але неўзабаве музыка пачынае гучаць зноў, блазны адчыняюць насцеж дзверы і абвяшчаюць: «Яго Вялікасць кароль Жыгімонт Другі Аўгуст!», «Яе Высокасць каралева Барбара!» У залу ўрачыста ўваходзяць святочна апранутыя Жыгімонт Аўгуст і Барбара Радзівіл, займаюць апусцелыя троны караля і каралевы. Музыка гучыць стройней, прыдворныя працягваюць танец, а як толькі ўзнікае паўза, крычаць: «Няхай жыве новы кароль!», «Віват маладой каралеве!», «Слава нашаму ўладару Жыгімонту Аўгусту!», «Няхай красуе хараство каралевы Барбары», «Дай Божа каралю і каралеве доўгіх гадоў жыцця!», «Няхай жыве!..», «Віват!..», «Слава!..»

Прыдворныя схіляюцца ў паклоне, Жыгімонт і Барбара шчасліва ўсміхаюцца, ківаюць галовамі, музыка гучыць зноў, і танец працягваецца.

Нечакана ў зале зноў з'яўляецца постаць Смерці, услед за ёй двое блазнаў коцяць багата ўбраную труну на колцах. Смерць, блазнаў ды труну і гэтым разам ніхто не заўважае, яны набліжаюцца да трона, Смерць штурхае Барбару Радзівіл, і тая падае проста ў труну, спрытна падстаўленую блазнамі. Музыка ператвараецца ў бязладдзе, потым зусім абрываецца, прыдворныя застываюць кожны на сваім месцы. З'яўляюцца яшчэ двое блазнаў, накідваюць на плечы караля Жыгімонта жалобны плашч. Смерць накіроўваецца да выхаду, за ёй двое блазнаў коцяць труну, за трунoй, схіліўшы галаву, ідзе кароль Жыгімонт Аўгуст.

Траурная працэсія пакідае залу, двое блазнаў, якія накідвалі на плечы Жыгімонту жалобную накідку, выходзяць з залы таксама і зачыняюць за сабой дзверы.

Ніхто з прыдворных не зварухнецца, у троннай зале пануе мёртвая ціша — здаецца, ужо навечна...

І зноў — пакой у прыдарожнай карчме, дзе чарнакніжнік Твардоўскі расказвае Гальшцы доўгую гісторыю пра каханне караля Жыгімонта і Барбары Радзівіл.

**Т в а р д о ў с к і** *(захінае палатном чароўнае люстра).* Вось такая гісторыя, даражэнькая. Не плач, ты ж ведала, чым яна скончыцца.

**Г а л ь ш к а** *(праз слёзы).* Ве-е-едала.

**Т в а р д о ў с к і.** Чаго тады галосіш?

**Г а л ь ш к а.** Усё адно шкада.

**Т в а р д о ў с к і.** Шкада. *(Пасля паўзы.)* Толькі гэта яшчэ не канец гісторыі.

**Г а л ь ш к а.** Як не канец? *(Пасля паўзы, з надзеяй.)* Праўда?

**Т в а р д о ў с к і.** А вось так. Выцірай слёзы і слухай далей. Я раскажу табе, як кароль апошні раз убачыў Барбару. *(Сумна.)* На жаль, я зноў мушу ўспомніць пра свайго вучня.

### З'ява восьмая

### *Прывід Барбары*

Позняя восень 1552 года, Кракаў, адзін з пакояў каралеўскага замка на Вавелі. Мінула больш за год пасля смерці Барбары Радзівіл. У крэсле сядзіць кароль Жыгімонт Аўгуст, побач на ўслоне — чарнакніжнік Твардоўскі, крыху далей стаіць вучань Ян. Пасярод пакоя — магічнае люстра, закрытае цёмным палатном.

**Ж ы г і м о н т.** Як яна і прасіла, яе пахавалі ў Вільні, дзе яе любілі, а не ў Кракаве, дзе ненавідзелі. Перад смерцю Барбара прызналася мне, што бачыла ў тваім магічным люстры сваю хуткую смерць.

**Т в а р д о ў с к і.** Так, Ваша Вялікасць.

**Ж ы г і м о н т.** Таму яна так не хацела браць шлюб. Баялася, што прынясе мне шмат пакут і болю.

**Т в а р д о ў с к і.** А вы, Ваша Вялікасць, не шкадуеце, што ажаніліся з Барбарай? *(Уважліва глядзіць на Жыгімонта Аўгуста.)*

**Ж ы г і м о н т.** Не. Я шкадую, што яна не ўзяла мяне з сабой. Без Барбары мне на зямлі няўтульна і самотна.

**Т в а р д о ў с к і.** Напэўна, яна вас там чакае.

**Ж ы г і м о н т.** Гэта мая адзіная надзея. Але скажы, чараўніча, ці можна было б пабачыць яе ў тваім магічным люстры хоць на імгненне?

**Т в а р д о ў с к і.** Дзеля гэтага вы і выклікалі мяне ажно з Сарагосы, Ваша Вялікасць?

**Ж ы г і м о н т.** Так. Я хачу яшчэ раз убачыць яе, хачу сказаць, што не забыў яе і буду кахаць вечна. *(З мальбой.)* Выканай маю просьбу, і я шчодра цябе ўзнагароджу. Прасі чаго хочаш.

**Т в а р д о ў с к і.** Добра, Ваша Вялікасць. Я пакажу вам Барбару. За гэта я папрашу пажыццёвую ахоўную грамату. Каб мяне больш не праследавалі ў гэтай краіне і не цягалі па судах.

**Ж ы г і м о н т.** Ты атрымаеш грамату, а ў дадатак — пажыццёвую рэнту з каралеўскай скарбніцы.

**Т в а р д о ў с к і.** Пры дапамозе магічнага люстра я выклічу прывід Барбары з іншасвету. *(Строга.)* Але памятайце, Ваша Вялікасць, вы не павінны набліжацца да здані і трывожыць яе.

**Жыгімонт** *(усхвалявана).* Мне б толькі ўбачыць яе, хоць адным вокам!
**Твардоўскі.** Ян! *(Робіць знак вучню.)*

Ян развязвае тасемкі на запакаваным з дарогі люстры, скідае палатно і адыходзіць убок.

**Твардоўскі.** Хадземце, Ваша Вялікасць! *(Падводзіць караля да люстра.)* Зараз я прамоўлю заклён, а вы глядзіце ўважліва, Ваша Вялікасць! *(Шэпча магічныя словы.)*

Мутная паверхня люстра паступова святлее, і ў ім з'яўляецца прыгожы твар Барбары Радзівіл. Твар такі выразны і пекны, што здаецца, Барбара ажыла і вярнулася да свайго любага Жыгімонта.

**Твардоўскі** *(шэптам).* Ваша Вялікасць…
**Жыгімонт Аўгуст** *(убачыўшы прывід Барбары, страчвае ўладу над сабой).* Барбара, каханая мая!!! *(Кідаецца да люстра, спрабуючы схапіць Барбару ў абдымкі.)*

**Твардоўскі** *(з жахам).* Ваша Вялікасць!

Жыгімонт пераварочвае люстра, Твардоўскі нейкім цудам паспявае схапіць яго ля самай падлогі.

**Твардоўскі** *(сярдзіта).* Што вы нарабілі, Ваша Вялікасць!
**Жыгімонт Аўгуст** *(ачуняўшы, прыўздымаецца на локцях і глядзіць на тое месца, дзе толькі што была здань).* Гэта была яна, мая Барбара...
**Твардоўскі** *(з дакорам).* Калі б люстра пабілася ў час сеанса, прывід Барбары ніколі б не вярнуўся ў краіну памерлых! *(Бярэ ў вучня накідку і захінае паверхню люстра.)*
**Жыгімонт Аўгуст** *(вінавата).* Прабач, дружа. *(Апраўдваецца.)* Яна была як жывая! Я гэтулькі хацеў ёй сказаць...
**Твардоўскі.** Усё, больш нельга трывожыць прывіда. Я выканаў вашу просьбу, Ваша Вялікасць.
**Жыгімонт.** Разумею. І выканаю сваё абяцанне. А зараз — бяры з сабой вучня і хадземце разам з'ямо вячэру.
**Твардоўскі** *(занепакоена).* Не! Ян застанецца пільнаваць люстра.
**Ян.** Так, майстру.

Кароль і чарнакніжнік выходзяць. Вучань праводзіць іх доўгім позіркам.
Калі дзверы пакоя зачыняюцца, Ян нядобра ўсміхаецца, падыходзіць да люстра. Скідае накідку, углядаецца ў паверхню, шэпча нейкія словы. Мутная паверхня люстра святлее, і ў ім зноў з'яўляецца твар Барбары Радзівіл. Гэтым разам ён сумны і пакутлівы.

**Ян.** Прывітанне, сястрычка! Не пазнаеш мяне? *(Здымае з галавы каптур.)* Гэта я, Ганна. Твой каханы хацеў пагаварыць з табой, расказаць, які ён няшчасны, як сумуе без цябе. Але ад хвалявання ледзь не пабіў люстра, таму ўсё табе раскажу я. Можа, ён і сумуе па табе, але суцяшэння шукае ў абдымках прыдворных распусніц. Ён сапраўды не можа цябе забыць, таму завёў сабе каханку на імя Барбара. Хоць яна простая кракаўская мяшчанка, але з выгляду, кажуць, вельмі падобная да цябе. І яшчэ кажуць, што Жыгімонт зноў збіраецца ажаніцца. З аўстрыйскай прынцэсаю. Можа, яна народзіць яму дзяцей, якіх не здолела нарадзіць ты?

Твар Барбары ў люстры крывіцца ад болю.

**Ян.** Бачыш, якія яны, мужчыны? Дык ці варта ім верыць? Я вось яшчэ крыху падвучуся ў майстра Твардоўскага, а потым зачарую Жыгімонта, прымушу кахаць толькі сябе. Я ўжо авалодала многімі сакрэтамі магіі! Спасцігла законы нябесных сфер і таямніцы марскіх глыбіняў, навучылася разумець мову жывёлаў і птушак. Я магу выклікаць духаў і загадаць ім танцаваць перада мной, магу з дапамогай люстра ўвайсці ў іншасвет і вярнуцца назад.

Пры гэтых словах Яна-Ганны з ім пачынае адбывацца дзіўная рэч. Нібыта віхор падхапляе яго і ўцягвае ў чароўнае люстра.

**Я н** *(з жахам)*. Не, не, пусці мяне! Я не змагу вярнуцца. Я хлусіла! Я яшчэ не ведаю магічных слоў! *(Знікае ў магічным люстры.)*

На падлозе застаецца ляжаць вучнёўскі каптур.
Праз нейкі час вяртаецца чарнакніжнік Т в а р д о ў с к і.

**Т в а р д о ў с к і.** Ян, ідзі павячэрай з прыслугай. *(Азіраецца.)* Дзе ты, хлопча? *(Аглядае пакой; бачыць адкрытае люстра і вучнёўскі каптур на падлозе. З жахам разумее, што адбылося. Асцярожна накрывае люстра накідкай, падбірае з падлогі каптур.)* Хлопча, хлопча, што ты нарабіў! Я ж не змагу вярнуць цябе назад... *(Выходзіць з пакоя.)*

## З'ява дзявятая

### *Апошняя варажба*

Вільня, 13 ліпеня 1572 года. У пакоі чарнакніжніка Твардоўскага ў прыдарожнай ліцвінскай карчме. Твардоўскі заканчвае свой доўгі аповед, Гальшка ўважліва яго слухае.

**Т в а р д о ў с к і.** Вось такі сумны фінал у гэтай гісторыі. Гісторыі пра вечнае каханне, чорную зайздрасць і магічнае люстра… Прызнаюся табе, Гальшка, што я невысока ацэньваю жаночы розум і простае мужчынскае сяброўства стаўлю вышэй за мілосныя дачыненні дамы і кавалера. Але перад мужнасцю Барбары я з павагай схіляю галаву. Ведаючы пра сваю блізкую смерць, яна не прызналася ў гэтым свайму каханаму і не азмрочыла роспаччу апошнія хвіліны іхняга шчасця.

**Г а л ь ш к а.** А мне здаецца, пане, вы не зразумелі ўчынку пані Барбары.

**Т в а р д о ў с к і** *(здзіўлена глядзіць на Гальшку)*. Як?

**Г а л ь ш к а** *(цвёрда)*. Вы не зразумелі ўчынку пані Барбары. Яна дала згоду на шлюб, бо хацела быць разам з Жыгімонтам давеку: не толькі на зямлі, але і на небе.

**Т в а р д о ў с к і** *(задумліва)*. Хм, пра гэты аспект я, прызнацца, не падумаў.

**Г а л ь ш к а.** Не падумалі, бо не верыце ў Бога і ў несмяротнасць душы.

**Т в а р д о ў с к і** *(ажно падскоквае)*. Цішэй, смаркачка! Што ты ведаеш пра чалавечую душу, пра несмяротнасць, пра Бога і д'ябла?!

**Г а л ь ш к а** *(пераканана)*. Важна не ведаць, а верыць. Я — простая дзяўчына, дачка карчмара, але бачу, што вашы веды, пане Твардоўскі, не прынеслі шчасця ані вам, ані людзям.

**Т в а р д о ў с к і** *(гнеўна)*. Цыц, няўдзячнае стварэнне! Дарэмна я марнаваў на цябе час! *(Адварочваецца ад Гальшкі.)*

**Г а л ь ш к а** *(апамятаўшыся, вінавата)*. Прабачце, пане. Я не хацела вас пакрыўдзіць.

Твардоўскі не адказвае.

**Г а л ь ш к а.** Сапраўды, хто я такая, каб павучаць славутага чарнакніжніка Твардоўскага? Лепей бы я зашыла вам падраны камзол.

**Т в а р д о ў с к і** *(прымірэнча)*. Можа, ты і маеш рацыю. У жыцці я зрабіў нямала памылак. *(Пасля паўзы.)* Калі б я не пакінуў Яна сам-насам з магічным люстрам — ён бы не загінуў. Я не змог уратаваць адзінага чалавека, да якога па-сапраўднаму прыкіпеў.

**Г а л ь ш к а.** Не дакарайце сябе, пане. Чалавек не можа ўсяго прадбачыць.

**Т в а р д о ў с к і** *(сумна)*. Нават чарнакніжнік, які аддаў за веды душу? *(Пасля*

*доўгай паўзы.)* Час развітвацца, Гальшка. Я і так расказаў табе зашмат. *(Падыходзіць да магічнага люстра.)*

**Гальшка** *(ціха).* Няхай літасцівы Бог дарує вам вашы грахі!

Твардоўскі прамаўляе шэптам магічныя словы. Але нічога не адбываецца. Здзіўлены чарнакніжнік паўтарае заклён яшчэ раз — і зноў без аніякага выніку.

**Твардоўскі.** Што за д'ябал! *(Зноў прамаўляе магічныя словы.)*

Раптам з люстра проста на чарнакніжніка вывальваецца Ганна Радзівіл у вучнёўскай вопратцы. Яна маладая і прыгожая, такая самая, як была дваццаць гадоў таму, калі знікла ў магічным люстры.

**Твардоўскі** *(здзіўлена).* Ян?!

**Ганна.** Не, цяпер ужо не Ян. Няўжо вы да гэтага часу не здагадаліся? *(З пагардай.)* А яшчэ называеце сябе вялікім магам і чарадзеем. *(Разглядае Твардоўскага.)* Вы пастарэлі, настаўнік. *(Глядзіцца ў люстра, задаволена.)* А вось я засталася такой, як была.

**Гальшка** *(спалохана).* Божухна, хто гэта?

**Ганна** *(з гонарам).* Я — Ганна Радзівіл. *(Да Твардоўскага.)* Памятаеце, як вы мяне падманулі, як дапамаглі маёй сястрычцы завалодаць сэрцам майго каханага? Але я адпомшчу ёй!

**Твардоўскі.** Ваша сястра памерла, Ганна. Дваццаць гадоў таму.

**Ганна.** От і цудоўна! Я з'яўлюся перад Жыгімонтам, маладая і прыгожая, і ён зноў мяне пакахае. І ніхто ўжо не перашкодзіць нашаму шчасцю.

**Твардоўскі** *(сумна ўсміхаецца).* Якая вы ўпартая. А калі не пакахае?

**Ганна.** Я прымушу яго. Цяпер я валодаю сапраўднай магіяй, набытай не ў фіглярскіх кнігах, а ў чароўным люстры!

**Твардоўскі.** На жаль, кароль Жыгімонт Аўгуст таксама памёр. І ніякая магія не дапаможа вам яго ўваскрасіць і завалодаць ягоным сэрцам.

**Ганна** *(расчаравана).* Памёр? Калі?

**Твардоўскі.** Учора.

**Ганна.** Значыць, я спазнілася! *(Падумаўшы.)* Але і Барбары ён не дастанецца. Яны размінуліся ў часе!

**Твардоўскі.** Зноў памыляецеся, пані. Гэта вы размінуліся. А яны якраз сустрэліся. Сустрэліся там, навекі. *(Падыходзіць да люстра і прамаўляе магічныя словы.)* Зірніце.

Мутная паверхня магічнага люстра праясняецца, і ў ім узнікае вобраз шчаслівай пары: Барбары і Жыгімонта, якія нарэшце сустрэліся пасля дваццацігадовага расстання.

**Твардоўскі.** Паглядзіце на гэтую шчаслівую пару, Ганна, і зразумейце, што ніякія інтрыгі, ніякая магія не разлучаць людзей, якім наканавана быць разам.

**Ганна.** Д'ябал! *(Кідаецца да магічнага люстра і з усяе сілы пхае яго.)*

**Твардоўскі.** Не! Не рабі гэтага! *(Спрабуе падхапіць люстра, але не паспявае.)*

Люстра падае на падлогу, Ганна ў злосці топча яго нагамі. Тое разбіваецца на дробныя аскепкі.

**Твардоўскі** *(бездапаможна).* Вар'ятка, ці ты разумееш, што ты ўчыніла?

Ганна істэрычна рагоча. Гальшка ўскрыквае ад страху і паказвае рукой на Ганну. Твар Ганны мяняецца проста на вачах і ператвараецца ў твар старой кабеты, чорныя як смоль валасы сівеюць, гнуткая постаць горбіцца. Ганна адчувае, што з ёй адбываюцца нейкія змены, яна ўжо не смяецца, разгублена абмацвае твар, а потым і ўсё цела, рукамі.

**Гальшка.** Пане, што з ёй? Які жах!

**Твардоўскі** *(сурова).* Жах — гэта калі на тваіх вачах гіне рэч, за якую ты не пашкадаваў аддаць душу. А тут... проста натуральны працэс старэння. Лёс не падманеш, Гальшка.

Пры гэтых словах чарнакніжніка ў пакоі невядома адкуль з'яўляецца Пасланец.

**Т в а р д о ў с к і** *(заўважыўшы Пасланца).* А, пане Суддзя... Вы атрымалі ў ваяводы згоду на мой арышт? Што ж, я гатовы. *(Пакорліва.)* Хадземце.

**П а с л а н е ц** *(загадкава ўсміхаецца).* Я не той, за каго ты мяне прымаеш.

**Т в а р д о ў с к і** *(углядаецца ў твар Пасланца, спалохана).* Але ж не!

**Г а л ь ш к а** *(да Твардоўскага).* Гэта не Суддзя?

**П а с л а н е ц.** Я прыйшоў па тваю душу, чарнакніжніча. Як і дамаўляліся.

**Т в а р д о ў с к і.** Ты забыўся пра нашу ўмову? Ці я сплю і замест Вільні апынуўся ў іншым горадзе?

**П а с л а н е ц.** А ты не звярнуў увагі на назву карчмы, калі пад'язджаў?

**Т в а р д о ў с к і** *(занепакоена).* Якую яшчэ назву? Было цёмна...

**П а с л а н е ц** *(да Гальшкі).* Скажы яму, дзяўчына.

**Г а л ь ш к а** *(вінавата).* Так... Па-сапраўднаму наша карчма называецца «Бутрым». Вельмі па-літоўску. Але днямі нейкі п'яны шляхціц адсек шабляй палову шыльды. І цяпер наша карчма мае іншую назву...

**Т в а р д о ў с к і** *(з жахам).* «Рым!»

**Г а л ь ш к а** *(вінавата).* Часова. Бацька ўжо заказаў мастаку новую шыльду.

**П а с л а н е ц** *(пераможна).* «Рым!» Хадзем, даражэнькі, мы цябе ўжо зачакаліся.

**Т в а р д о ў с к і.** Гэта падман! Ашуканства!

**П а с л а н е ц.** І хто гэта кажа? *(Кладзе руку на плячо Твардоўскага і на вачах аслупянелай Гальшкі растае разам з чарнакніжнікам у паветры.)*

**Г а л ь ш к а** *(зразумеўшы).* Не! Не забірайце яго! Ён добры! Ён верыць у Бога! *(Плача.)*

**Г а н н а** *(з нянавісцю).* А няго ж, верыць... Хацеў падмануць самога Д'ябла. І прайграў. Смажыцца яму цяпер у пекле. І ўсе мы прайгралі. *(Поўзае па падлозе і намагаецца скласці ў адно цэлае шматлікія аскепкі пабітага магічнага люстра.)*

**Г а л ь ш к а** *(пасля доўгай паўзы).* Не, ён не прайграў. Ён сапраўды верыў у Бога, толькі... забыўся пра гэта. *(Выходзіць у цэнтр пакоя і гаворыць усё больш упэўненым голасам.)* Было так. Калі чэрці схапілі славутага чарнакніжніка Твардоўскага і пацягнулі ў пекла, на яго напаў не страх, а шкадаванне і сорам. Шкада яму стала свайго жыцця, якое прамінула ў пагоні за марнай мэтай. Сорамна стала перад людзьмі, якія верылі ў яго, а ён падмануў іх спадзяванні.

Ганна кідае свой занятак і здзіўлена глядзіць на Гальшку.

**Г а л ь ш к а.** І ўспомніў у апошняе імгненне Твардоўскі малітву, якой навучыла яго ў дзяцінстве маці, і з усёй шчырасцю стаў прамаўляць словы гэтай дзіцячай малітвы. *(Узвышае голас.)* І такая сіла была ў гэтай малітве, такая вера, што ўсе жахлівыя гукі пекла не здолелі яе заглушыць. Узлаваўся Д'ябал, што нехта адважваецца ў ягоных уладаннях маліцца, схапіў чарнакніжніка за ногі і шпурнуў, як шытую лялька, на неба.

Сівая, згорбленая Ганна як зачараваная слухае Гальшку.

**Г а л ь ш к а.** І хоць не даляцеў Твардоўскі да раю, бо меў на душы шмат грахоў, але зачапіўся крысом камзола за рог месячыка і павіс паміж пеклам і раем, паміж днём учорашнім і заўтрашнім. Ён і цяпер жыве на месячыку, сядзіць там, маркотны, і грае ад няма чаго рабіць на жалейцы. Чуеце? *(Абрывае аповед.)*

Аднекуль з вышыні даносіцца журботны спеў жалейкі.

***З а с л о н а***



*Святлана Явар нарадзілася ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта і аспірантуру Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі. Працавала ў часопісе «Крыніца», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Аўтар паэтычных зборнікаў «Белы месяц», «Раніца ў туманах».*

Святлана ЯВАР

# ЛІПЕНЬСКІЯ ВЕРШЫ

* * *

Ліліся слёзы, і сышлі
Кудысьці ўдалеч боль і горыч…
І хоць з табою не гаворым —
Пачуцці нашы не прайшлі.

Як летні дождж, што змыў дарэшты
І бруд, і гора, і бяду,
Сваёй слязою змыю рэшту
Пакут — і да цябе прыйду.

Каб паглядзець, які зрабіўся,
Даведацца, чым ты жывеш.
Ад роднай чарады адбіўся
І ў завадзь ціхую плывеш.

Я так хачу пабыць з табою
Хоць пяць хвілін, хоць міг адзін.
З табою быць самой сабою
Магу — і буду. Пяць хвілін…

* * *

Чамусьці Бог мой не прыходзіў,
Хоць я чакала шмат гадоў.
Напэўна, іншых Ён знаходзіў,
Выказваў ім Сваю любоў.

Ды нечакана праз малітву
Сустрэлася я з Ім. Тады
Паклікаў Ён мяне на бітву,
Нявер’я сцёршы ўсе сляды…

* * *

А недзе там, у глыбіні душы,
Баліць усё, што заглушыў,
Шчыміць усё, што задушыў
Калісьці, быўшы на крыжы.

І адцураўся, каб застацца
Жыць, як усе, і спадзявацца
На лепшае, і ратавацца.
Прыйшлося з многім развітацца…

І вось цяпер з салодкім сумам
Парой дажджу, з таемным шумам,
Плыву ў мінулае і думаць
Больш не хачу з жахлівым сумам

Аб тым, чаго ўжо не вярнуць.

* * *

Мае ўспаміны болем адгукнуцца.
Заплачу я, бо не змагу вярнуцца
У той далёкі незабыўны свет,
Дзе быў адзіны ты
і не было больш мэт…

Дзе чыстыя надзеі на каханне
Развеяліся хутка, нібы дым,
Дзе веру і святыя спадзяванні
Знішчаеш ты навекі злом сваім.

* * *

Не ўтрымаць таго мігу, таго спадзявання,
Калі раптам удача з нябёсаў прагляне.
І ў вясёлкавым ззянні,
ў птушыным вясной шчабятанні
У душы раўнавага настане.

А яно, а жыццё моцай духу
трымаецца толькі.
Не падлічвай жа і не любі свае болькі!
Падаруе табе
Бог натхнення настолькі,
Палюбіў ты сябе наколькі…

* * *

Чаму з пагардай на мяне глядзіш,
Як быццам бы я ў нечым вінавата?
І міма позіркам сваім ляціш…
А я, як думала, знайшла сабе ўжо брата.

І цяжка адарваць мне вочы ад цябе,
І так баюся: нехта мо заўважыць,
Што, закахаўшыся, я страціла сябе.
Не-не, павінна яшчэ раз я ўсё узважыць!

Адно, што я любуюся табой
І ведаю: нашмат мацнейшы духам.
Аднак ты недасяжны. Я з журбой
Сачу за кожным — недасяжным! —
тваім рухам.

* * *

Сонца садзілася за небакрай.
Дзень абяцаў быць прыемным, як рай.
Музыка, грай! Музыка, грай!
Мілы, жаданы, кахай жа, кахай!

Дзе мне знайсці, мой каханы, замову,
Каб аб'яднала нас? Дзе знайсці словы?
Нас паглынулі таемныя сховы…
Вось, я ад чараў зрабілася новай.

Ты той адзіны, хто варты мяне.
Праўда, не варта я. Бачыла ў сне,
Як ты праходзіў кудысь паўз мяне…
…Я паддалася спакусе? О, не!



Мікола Касцюкевіч
нарадзіўся ў 1967 годзе
ў Мінску.
Скончыў СПТВ
№ 53 будаўнікоў,
вучыўся на філфаку
і журфаку
Белдзяржуніверсітэта,
працаваў будаўніком,
бібліятэкарам, ахоўнікам.
Аўтар зборнікаў
вершаў «Вяртанне»,
«Настальгія»,
«Германія».
Друкаваўся
ў часопісах «Крыніца»,
«Першацвет»,
«Маладосць», «Полымя»,
газеце «Літаратура
і мастацтва».

Мікола КАСЦЮКЕВІЧ

### *АПАВЯДАННІ*

# СУСТРЭЧА

***Віктар выбраўся з гасцей,*** калі ўжо добра-такі сцямнела. Ён меўся прайсціся пешшу, хоць позняя лістападаўская азыра прабірала праз шпацырку, а вецер задзімаў пад калашыны.

Сівыя рэўматычныя аблокі цяжка сунуліся па ліловым небе. Машын, лічы, не было, і рэха крокаў мякка згасала між дрэў, што стаялі абапал дарогі.

На вялікім мосце праз Свіслач трое дзецюкоў з выглядам філосафаў, абцяжараных думкай, недвухсэнсоўна спыніліся перад адзінотным мінаком. Было відаць, што іх даймала толькі адна, але дужа пякучая і надзённая думка: як разумней дачапіцца да незнаёмага чалавека.

Віктар, хоць мімаволі й адчуваў узбуджэнне, без боязі чакаў пачатку. Ён быў пэўны ў пругкасці сваіх някідкіх цягліц. Мусібыць, інтэлігентная вонкавасць ды акуляры выклікалі на шчырасць. Бо сучасныя «робінгуды» не сталі й выдурвацца наконт таго, каб дзяліцца курывам ці пытацца, чаму ён без капелюша, а сказалі проста й ясна:

— Чуеш, кент, патрэбныя грошы.

— Колькі? — спакойна запытаў Віктар.

Той, што вышэйшы і, відаць, галоўны, з крывым носам, яўна некалі перабітым — і ці не конскім капытом, — узяў яго за шпацырку і лаканічна, зычліва ўдакладніў:

— Усё. Усё, што ёсць! Плюс гадзіннік…

— Прабачце, і грошы, і гадзіннік мне самому патрэбныя…

Заадно Віктар пасміхнуўся і мякка, але ўпэўнена зняў з пляча чужую руку. Ён ужо канчаткова авалодаў сабой і не збіраўся быць лішне далікатным.

Крываносы злосна мармытнуў у адказ і раптам хапіў Віктара за грудзі, тузануў на сябе, спрабуючы стукнуць каленам пад жывот. Але той быў напагатове, адхіліўся і зрабіў падножку. Учэпістыя рукі незнаёмага трымалі моцна, і яны паваліліся парай. Заразом выйшла так, што Віктараў локаць лучыў хлопцу на горла. Той толькі сіпата хрыпануў, і ўчэпістыя рукі адразу ж аслаблі.

Не паспеў Віктар падняцца, як моцны, добра пастаўлены ўдар нагой у плечы шпурнуў яго на парэнчы. Ад непрыемнага кантакту галавы з жалезам вочы выпусцілі сноп знічак, і ён ледзь паспеў развярнуцца, каб перахапіць перад самым тварам шнураваную бутсу з тоўстай і, здаецца, металёвай падэшвай. Балазе, паспеўтакі — і толькі пяском шуснула ў падбароддзе і шыю. Становішча з задранай нагой у новага Бруса Лі было няўстойлівае, і праз імгненне гэты самаробны, як Віктар сабе зацеміў, «каратыст» жорстка гэхнуўся спінай на асфальт. А тады — ледзь не цэнтнер, апушчаны скокам на грудзі, канчаткова адбіў у яго ахвоту займацца ў бліжэйшы час чым-колечы, апроч нерухомага адпачынку.

Заставаўся апошні, нейкі ўвесь віхлясты, рухавы — наймаладзейшы, здаецца. Ён ішоў, нібы ўпрысядкі, няўклюдны, з наіўным дзіцячым тварам. Можна сказаць, чысты смаркач! Але за колькі хвілін гэтулькі моўных памыяў выплюнуў, што нармальныя вушы не ўспрынялі б і за год. Віктар хацеў сказаць яму што павучальнае і даручыць клопаты пра далейшы лёс таварышаў, але выхаплены нож і ашалелыя вочы віхлястага не пакінулі выбару — збіць нахабу з ног і двума ўдарамі дарэшты супакоіць. Віктар, добры і лагодны, як і належыць шчыраму мацаку, не любіў такіх метадаў. І толькі думка, што іншага выйсця яму не пакінулі, супакоіла сумленне.

Але на гэтым эпізод, здольны аздобіць які нехацявы кінабаевічок, не скончыўся. Толькі Віктар працёр і хуценька надзеў запасныя акуляры, каб зноў кіравацца дадому, як метраў за дзесяць ад сябе ўбачыў ладную купку малойцаў. Стаяць любыя: хто з ланцугом у руках, а хто проста шырокі ў плячах. І ўсе павольна, разыходзячыся на бакі, сунуліся да яго. «Нішто сабе, але ж мы так гуляць не дамаўляліся…» — непрыемны вільготны халадок прабег па спіне. І Віктар стаў паволі, трымаючы дыстанцыю, адступаць назад. Але чаму яны так марудзяць? Няўжо спадзяюцца, што ён будзе чакаць і не пастараецца выціснуць з сябе звышспрынтэрскіх здольнасцей? І толькі калі азірнуўся назад, усё стала ясна: адтуль таксама сунуўся ланцуг не менш наважлівых постацей. Упэўненасць, што ў патэнцыяльнай ахвяры няма, як у Карлсана, маторчыка з прапелерам, дазваляла самазванаму вулічнаму трыбуналу расцягваць задавальненне.

У галаве, з нейкай халоднай іроніяй, круціліся радкі «Аблажылі мяне, аблажылі…» з улюбёнага Высоцкага. І адразу, як гарачым лоем, свядомасць заліло жывёльным страхам. Трое несамавітых шукальнікаў прыгод каля ног зычылі невясёлую перспектыву. У найлепшым разе — рэшту жыцця працаваць на аптэку. Як зацкаваны звер, ён крутануўся туды, сюды… І цела, сляпы павадыр, не параіўшыся з галавой, кіраванае толькі інстынктам і прагай жыцця, прыняло ці не адзінае тут змеркаванне. З хуткасцю, як у добрага бар'ерыста, яно сiганула праз парэнчы і паляцела ў рэчку з прыгожым назовам. Віктар, у бясконцым лёце паспеўшы адчуць сябе яблыкам, што цаляе ў спацелую лысіну славутага фізіка, узбіў самкнутымі нагамі чорнае варухлівае люстра і з галавою знік у вадзе. Ногі зараз уперліся і спружынілі аб неглыбокі ў гэтым месцы дол. Ён, крыху агаломшаны ўпадкам, неўзабаве ўжо гроб да бліжэйшае палі…

Даўно скончаны купальны сезон не даваў змогі перачакаць небяспеку ў такім становішчы. Балазе, хоць дно было цвёрдае і пясчанае. Ляскочучы зубамі, ён прашлюхаў па пояс у вадзе, ускараскаўся на бераг і паспадзяваўся на волю лёсу ды ўласныя ногі. Невядома, дзе былі і пра што думалі ягоныя праціўнікі. Але Віктар стараўся як мага шпарчэй рухацца ў прасторы…

І наастачу яму зноў пашанцавала, бо даляцеў да пустога начнога прыпынку, а тралейбус, мажа, дзяжурны які, якраз прыпыняўся і ўжо стаў ад'язджаць. Ён паспеў заскочыць у расчыненыя дзверы так, што створкі зляпіліся адразу за плячыма. Позняя пасажыры, пэўна што, зважалі на яго і моцна дзівіліся. Толькі ён не браў такія глабальныя, сусветнага маштабу дробязі да галавы. Цяпер адзіны клопат — як

след аддыхацца ды неўпрыкмет праслізнуць у свой пакой, каб не расказваць маці: як… ды дзе… ды што за выгляд такі неахайны… З ладнай драпіны на лбе тачылася кроў. Ён выняў з кішэні вільготную насоўку. Падумаў чамусьці: от файна, і мачыць не трэба. І стаў прыкладваць да ранкі. Цела, здавалася, вось-вось выскачыць з уласнае скуры. А нутро працінала нейкая нервова-салодкая самазадаволенасць: «Ага, ну што, галубочкі…» І, як надакучлівая муха, кружыла думка: «На Бога спадзейся… а сам…»

* * *

Не даязджаючы чарговага прыпынку, тралейбус спыніўся, загароджаны міліцэйскім «уазікам». Віктар з задняй пляцоўкі бачыў, як у расчыненых пярэдніх дзвярах паказалася мардатая галава ў чорным барэце. За ёй — шырачэзныя шэра-камуфляжныя плечы і ўся магутная медзведзяватая постаць з укарочаным «Калашнікам» пад пахаю. Галава абыякава слізганула вачыма па салоне, сунулася ў кіроўцаву кабіну і рэкнула нешта ў траскучую рацыю.

«Во, блін! Калі трэба, дык іх няма, а тут… калі ласка, адразу вам, цэлая машына, — думаў сам сабе Віктар. А дзе ж вы, хлопцы, раней былі, калі мяне на мосце таўклі?» Добра, што гэта ён. А калі б хто слабейшы? Але дадумаць не паспеў, бо раптам усе тралейбусныя дзверы адчыніліся, і шэрай біямасай салон напоўнілі служкі парадку.

— Гэта што? На зайцоў такая аблава? — здзівіўся нейкі дзядок.

— Мульцікі. На заказ… — на хаду кінуў мардаты амапавец.

Ён пільна агледзеў паўпустыя месцы ў тралейбусе і, ведама ж, не мог абмінуць мокрага, сумнеўнага пасажыра…

Віктар, і ніхто іншы, у два мігі быў выцягнуты з салона і ляжаў на асфальце тварам у дол з бесцырымонна закручанымі рукамі, якія аздобілі пякучыя бранзалеты…

— А ты не абмыхнуўся, Малай? Можа, гэты не з моста? Яшчэ раз глянь арыенціроўку…

— Ты што! Зірні, і кроў на пысе… Ён, сучара! А рэшту вылавім… Я це навучу, — звярнуўся да Віктара, — …тваю маць, салавей-разбойнік…

Змена дэкарацый адбылася хутчэй, чым Віктар паспеў што ўцяміць. У «абязьяннік» яго запхнулі, не здымаючы наручнікаў. Ён ужо меўся грукаць нагамі ў дзверы і клікаць каго, патрабаваць тлумачэнняў, але раздумаўся: «Мо разбяруцца…» І як мага зручней уладкаваўся на падлозе, паспрабаваў счакаць, расслабіцца.

Думкі без ладу скакалі з пятага на дзесятае. Ён пачаў ужо думаць, ці не забіў каго на тым мосце. А хоць нават пакалечыў… І цяпер ты не ахвяра, а сапраўдны злачынца… З універа — і пытацца не будуць, ясная рэч, папруць… Час поўз, цягнуўся, тачыўся па кроплі. Боль у руках узмацняўся. Але чым мацнейшым рабіўся гэты боль, тым болей Віктар спакайнеў. Прыпаміналіся мянтоўскія гамоны ў машыне. Ён зразумеў, што ў гэтай справе з яго выйдзе някепскі сведка. Цяпер патрэбна адно: спакой і цярпенне. І ўсё ж надта рукі смыляць… Пагрукаць, ці што?..

Грукаць не спатрэбілася. І жарты на гэтым не скончыліся. Абітыя металам дзверы ўпэўнена расчыніліся, і… у камеру, адзін за адным, увах одзілі яго нядаўнія знаёмыя з моста. Мабыць, паздаравелыя і нават... упэўненыя нейкія. Былі тут і віхлясты «смаркач», і крываносы «галоўны», і «каратыст» у жалезных бутсах, і яшчэ нехта, і зноў нехта…

Новыя знаёмыя лёгка асвоіліся ў камеры. Відаць было, што яны яшчэ не ўцямілі ўсіх сваіх перспектыў. Большасць, пэўна што, мелася перабыць неспадзяванку. А для некаторых кампаньёнаў гэта й быў ужо «дом родной».

Урэшце яны шчыльным паўколам абступілі Віктара і сталі раглядваць, удаючы шчырае здзіўленне.

— Гля, Калян, я ж недзе бачыў яго.

— Опа-а! Какія ліца!

— Так ета ж наш стары карашок!

— А й праўда!

— Карціна Рэпіна… «Ня ждалі!» — цешыліся «робін-гуды» з моста, яны нават акрыялі ад нечаканасці.

— Во-о-о, лашуга! Ціпер ты паняў, што свет цесны? І што на раду напісана… — спрабаваў удаваць з сябе філосафа гарбаносы.

— А давай мы яму ныркі апусцім, — раптам агучыў супольную «светлую» думку «каратыст».

— Маліся, дыздамона… — ламаным хлапечым галаском падбрэхваў «смаркач».

— Ну што ты… За ныркі накіне таварыш пракурор.

— А мы яму акуратна…

— Не-е!.. Ныркі спусцім ва унітаз само сабою… А тады… Чуеш, лох? Мы цябе — апусцім! Як табе такая перспектыва? — мудраваў «галоўны»…

Віктар узважваў шанцы, штосілы намагаючыся ўдаваць спакой. Адзін мітуслівы рух мог стаць пачаткам канца. Ён стараўся суцешыць сябе: побач міліцыя… Там жа таксама людзі… Няўжо ім не рупіць? Урэшце ватнаю коўдрай абняла абыякавасць. Ён не чуў галасоў. Не чуў, як патроху сталі штурхаць у плечы. І, нібы ў тумане, перад тварам мільгалі рукі… Не чуў, як зноў расчыніліся дзверы камеры — яго некуды вялі.

Тыя, што запхнулі цёплую кампанію ў камеру, неўзабаве Віктара й забралі. Прабачэння, як гэта прынята ў галівудскіх фільмах, прасіць не сталі, але й на нервах чамусьці паленаваліся граць.

— Валяй! — быў кароткі і ясны для законапаслухмянага грамадзяніна сказ.

«Усё ў Божай волі…» — выдыхнуў Віктар і ўжо стаяў за варотамі каталажкі. Ні сведчыць на адных, ні дабівацца праўды ў другіх не хацелася. Толькі высушыць сваё макрыззе і забыцца на ўсё як мага хутчэй.

І мы зробім выгляд, што не было гэтай п’есы.

# КАНТАКТ

*Калі я спрабую расказваць* сябрам ці знаёмым, што меў кантакт з іншапланетнаю цывілізацыяй, ніхто не хоча даваць мне веры. Маўляў, на грудзі трэба менш прымаць, пісьменнік, тады й непатрэбных кантактаў будзе менш. А то… якая там яшчэ цывілізацыя! Нячысцік ён і ёсць нячысцік… Перахрысціся лепш ды раскажы, шчасліvenькі, адкуль такія жонкі файныя, як у цябе, бяруцца… Во дзе нябеснае стварэнне! А ты… Але халера з імі, з недаверкамі, я ж бо дакладна ведаю, як яно насамрэч усё было…

Помню я цёплае бясконцае лета… Горад ушчэнт размораны. Вуліцы і праспекты млявыя, прыгожыя і прасторна-пустыя. У сонечных старасвецкіх завулках з пацямнелай чырвонаю цэглай запанавала пыльна-зялёная ціша. Самы пачатак васьмідзесятых. Застойна-мірны — і наскрозь савецкі — час. Але й нагам і галаве заўсёды стае клопату. Душа не ведае спакою і разам з целам прагне радасці ды жыцця.

У той дзень, пасля чарговага бадзяння па рэдакцыях, я, з такім самым, як і сам, ужо геніяльным, але яшчэ не прызнаным літаратарам-пачаткоўцам завіс у адной з піўнушак Верхняга горада. Некалькі разамлелых мух гудзела над столікам — толькі што працёртым, але ўсё роўна ліпкім. Ні мухі, ні бруд нас лішне не даймалі. Мы цягнулі

з куфляў сваё халоднае піва і няспешна, але грунтоўна, разважалі. Чаму гэта розных замшэлых рамеснікаў ахвотна друкуюць, а такім сучасным і сапраўдным талентам, як мы, нідзе няма ходу? Прынясеш чарговы рукапіс у рэдакцыю, яго хаця-нехаця прачытаюць, пахваляць — і не возьмуць… Адным словам, настрой быў не надта.

— Зірні, якая лялька, — калега штурхануў мяне пад сталом нагой і кіўнуў на дзяўчыну, што адзінока курыла за суседнім столікам.

Я толькі цяпер звярнуў на яе ўвагу. А паглядзець сапраўды было на што: белыя, да плячэй, валасы, лёгкая жоўтая сукенка, перацягнутая на тонкай таліі чорным пасакам, і даўгія загарэлыя ногі. Плюс да ўсяго — яна спакойна, але даволі выразна паглядала ў мой бок.

— Па-мойму, ты ёй яўна спадабаўся, — падсумаваў нашую гутарку калега і падняўся, каб развітацца. — Ладна, не буду замінаць, трымай лапу…

Ах, якая гэта слодыч — ісці з прыгожай паненкай! Ды яшчэ калі толькі-толькі з ёю пазнаёміўся, і вы адразу лёгка паразумеліся, і ўсё тваё здаровае, маладое нутро сціскаецца ў прадчуванні нясцерпнай асалоды ды моцнай, сапраўднай і ўпэўненай будучыні…

Мая новая сяброўка адразу дала мне зразумець, што хаты ў яе няма, і я хуценька ўзважваў, куды нам падацца. Мы йшлі па ўтравелай брукаванцы Верхняга горада. Нізкаватае сонца залаціла крыжы Кафедральнага сабора. Пахла бэзам і пылам. І яшчэ нечым, што чамусьці абавязкова ўяўлялася як старажытнае ці, прынамсі, царкоўнае. Спыніліся каля дома масонаў.

— Што гэта за абгарэлая разваліна… — яна паправіла на асмужаным плячы раменьчык ад сумачкі і запытальна паглядзела на мяне.

Я паспрабаваў у некалькіх фразах абмаляваць трохвяковую гісторыю будынка.

— А ўсярэдзіне, што там? — тон быў абыякавы, але я адразу ўцяміў, куды яна хіліць.

А хіліла яна яўна ў той самы бок, куды і я ўжо — даўно ды ахвотна — не тое што хіліўся, валіўся нават.

Мы абышлі будынак і на задняй сцяне, над абрывам, знайшлі акно з аддзертай бляхай. Я хацеў падсадзіць дзяўчыну, але мая пасія даволі лёгка ўскараскалася сама, пазнаёміўшы мяне пры нагодзе з фасонам сваіх белых трусікаў. Натхнёны такім авансам, я ўхапіўся рукамі за створкі акна над галавой і адным моцным рухам, як гімнаст на колцах, ускінуў сваё прагнае цела ўслед за дзяўчынаю.

Затохлы змрок першага паверха праразалі палосы святла, што тачыліся з шчылінаў на забітых вокнах. Між друзу, спінак ад жалезных ложкаў і старых паламаных шаф мы прабраліся ўсярэдзіну і па сцертых брудных прыступках падняліся наверх. Тут былі толькі сцены з рэштамі выцвілых шпалер і парослая травой ды мохам падлога. Над галавой, чырванню і пазалотай, заміж даху свяцілася нізкае неба, а ў пустой аканіцы таемна шапацела густое лісце, нібы прыслухоўваючыся да невыразных вечаровых галасоў ля рэчкі ды шаргацення машын на недалёкім мосце цераз Свіслач. У гэтым ёсць свая хмельная, ні з чым не зраўнальная вабнасць. Цёплы летні надвячорак, паўразбураны будынак у бязлюдным месцы і незнаёмая красуня, якой хочацца таго самага, чаго й табе.

Цалавалася яна надзвычайна, а лёгкі пах парфумы ўзбуджаў не меней за пругкае гарачае цела.

— Мне будзе балець, ты вялікі… добра… яшчэ…

— Я асцярожна… як хочаш… не… вось так…

Нашыя рукі п’янелі радасцю пазнавання, а вусны хмяліла такая салодкая ўзаемнасць, што, здавалася, як гузік з мясам, мяне аддзерлі і ад ранейшага, і ад будучага. І менш за ўсё ў гэтыя імгненні я думаў пра сябе самога ды завяршэнне свайго ўласнага жадання. Будзе дык будзе, а не — дык і не. Калі яна баіцца, што ёй балюча, дык я гатоў вось так вось лашчыць яе хоць пальцамі, хоць языком, хоць носам… Ды

чым заўгодна і як заўгодна! Абы ёй ніколі не расхацелася, абы не скончалася чароўная мелодыя ўзаемнасці і кахання і не развеяўся гэты таямнічы зялёны паўзмрок з няўлоўным пахам гаркавай цвілі даўно пакінутага жытла, вечаровай свежасцю ад блізкай рэчкі, шалёным водарам бэзу і нясцерпнай пругкасцю целаў… О, гэты неймаверна салодкі аазіс магічных эратычных шэптаў між заўсёдных крыклівых рытмаў і прэснай, нібы шлюб па разліку, несціханай мітусні сталічнага мегаполіса…

— Малайчына, што прыйшоў… Ты мне патрэбен. — Па спіне як холадам лінула, я рэзка адхіснуўся ад дзяўчыны і азірнуўся на незнаёмы голас. Але побач з намі нікога не было.

— Ты што, коцік? — Расплюшчаныя вочы дзяўчыны бліснулі незадаволенымі агеньчыкамі.

— Так, нічога… Падалося… — я яшчэ раз азірнуўся і хацеў ужо зноў запусціць рукі пад сукенку.

— Табе не падалося, — той самы рэзкі чужы голас. — Але я пачакаю, пакуль ты скончыш.

Я адштурхнуў дзяўчыну — зараз нехта моцна пашкадуе. Такіх жартаў я не любіў, дый кожны, ведама ж, не залюбіў бы…

— Ды годзе табе торгацца, — паспрабавала затрымаць мяне каханка, але я адхіснуўся ад яе далоней.

— Няўжо ты не чуеш, што тут нехта хаваецца і цікуе за намі?

За праймай дзвярэй і на лесвіцы — ані духу. Суседні пакой — таксама пусты. У затохлай цішыні мёртвага будынку крыху пастаяў, наслухваючы, і, дарэшты збянтэжаны, вярнуўся да дзяўчыны, якая з пагардлівай усмешкай зашпіляла гузікі, паказваючы абражаную натуру.

— Няўжо ты нічога не чула? Нехта ж, во толькі што, выразна казаў… Быццам пачакае… пакуль мы скончым…

— Бедненькі… Страха паехала ад устрымання… — яна ўзяла з падваконня сумачку і, віхляючы клубамі, рушыла да праймы дзвярэй.

— Пачакай! — я быў кінуўся за ёю, але зноў нехта ўмяшаўся:

— Не трымай, хай ідзе.

Я аслупянеў. Голас гучаў недзе тут. Зусім побач. Хоць апроч мяне і дзяўчыны вакол нікагутка. Відаць, і праўда мая бедная страха некуды ехала. І то вельмі канкрэтна ды мэтліва.

— Шукай сабе іншай дурніцы! — данеслася з лесвіцы.

І раптам я зразумеў, што незнаёмы голас сапраўды ніадкуль не йшоў, а гучэў у маёй галаве. Ад такога нечаканага абароту я ажно сеў. Проста на падлогу. Я, ведама, выпісваў «Технику молодежи», любіў чытаць пра тэлепатыю, лятучыя талеркі, іншую ўсякую трасцу. Але ж каб насамрэч, ды яшчэ са мной!.. Ад такой нечаканасці я забыўся і на дзяўчыну з яе крыўднымі словамі, і на рэшту ўсяго.

А праз колькі часу я ўжо спакойна, і нават засяроджана, быццам так і трэба, без слоў гутарыў. Інакш кажучы, задаваў пытанні некаму, ці нечаму, у сабе самім.

— Ды ўрэшце-такі, хто ты?

— Я штучны розум… скажам так… малога карабля. У нас было пашкоджанне, і вашыя самалёты падбілі нас. Трэці дзень я сяджу ў гэтай будыніне. Ты мусіш мне памагчы.

— Збілі нашы самалёты?.. Тры дні таму?..

У гэта слаба верылася. Я чытаў, што амерыканцы збілі некалі лятучую талерку. А тут… Толькі што? Проста тут? У нас?.. Пра гэта абавязкова напісалі б…

Ён цярпліва і лаканічна тлумачыў далей, як настаўнік вучню:

— Звесткі ў прэсе — фантазія. Вашы вайскоўцы ведаюць больш за амерыканцаў.

Проста ў вас усё засакрэчана лепш. Да таго ж, нашы апараты ў відомым спектры, нават пашкоджаныя, зазвычай самаліквідуюцца. Застаецца толькі розум — модуль, які збірае інфармацыю…

Ужо добра-такі сцямнела. Толькі зверху, над цёмнымі сценамі, святлеў квадрат неба. А я ўсё слухаў і слухаў. І зрэдчас адважваўся задаваць пытанні. Хоць калі-нікалі падавалася, быццам я гэта ведаю ўжо — чуў ці недзе чытаў, але ж было й адчуванне нейкай надзвычайнай, незямной важнасці ўсяго, што зараз чынілася. І я слухаў як зачараваны: напоўніцу адкрыты, даверлівы і гатовы рабіць што хочаш, ісці хоць куды дзеля такога ўрачыстага моманту.

— Чым жа я магу табе памагчы?

— Мне патрэбна твая энергія.

— Дзе ты зараз знаходзішся?

— У куце… справа ад акна… — Пасля кароткай паўзы скіраваў мяне голас: — Нахіліся і бяры…

Я падпарадкаваўся. Кавалкі тынкоўкі на падлозе, сляды шпалер на сцяне і чэзлая трава ўздоўж плінтуса — у куце нічога не было. Я асцярожна працягнуў рукі ў пустату. На ўзроўні каленяў пальцы сутыкнуліся з нечым цвёрдым і нябачным.

Было такое ўражанне, быццам я трымаю ў руках ідэальна круглы паветраны шарык. Гладкі, вельмі цвёрды і зусім бязважкі. Я круціў яго, мацаў, падносіў да твару, толькі што лізнуць не наважваўся. І нічога між далоняў не мог разгледзець.

Я трымаў у руках дзіўны шарык, і з кожным момантам мне рабілася ўсё лягчэй і харашэй. Я адчуваў, як цела прыемна слабее, страчвае вагу, нібы правальваецца ў салодкі й шчаслівы сон, усё роўна як у далёкім-далёкім, паўзабытым дзяцінстве пад любімую бабуліну калыханку… Толькі яшчэ нечага не стае для спакойнага і пэўнага забыцця… Ага… бабуля ж вучыла заўжды, калі засынаеш, чытаць, хай сабе й ціха, малітву… «Ойча наш…» Так-так, гэта яно — менавіта: «Ойча наш…» — і было той апошняю рыскай у, лічы, забытых, але шчаслівых, такіх во, як і цяпер, салодкіх занурэннях у забыццё…

Прытомнасць вярнулася разам з тупым болем у галаве. Я адкрыў вочы і з хвіліну ляжаў, аслеплены нясцерпным сярэбраным ззяннем. Зыркі бляск знік, і я ўбачыў, што гэта ўсяго толькі белыя зорачкі на сінім начным небе. Было вельмі халодна і мулка. Я ляжаў на спіне з такім адчуваннем, нібы ўперад мяне з грукатам і свістам круцілі ў шалёнай пральнай машыне, а пад канец яшчэ й працягнулі між валікамі выціскалкі… Апошняе, што я помніў, — гэта дзіўная гала ў руках. Потым — якраз, калі чытаў «Ойча наш…» — здаецца, выбух, ці яшчэ нешта такое… І ўсё. Правал у чорную пустэчу. Адно распомніўся, што недзе ў кішэні згубіўся пачак «Беламору».

Я знайшоў яго, выцягнуў скамечаную папяросіну. Закурыў. Пачуліся асцярожныя крокі. Ад цыгарэтнага дыму ў галаве памутнела, і я зноў некуды праваліўся.

— Гэй, прачніся, што з табой? — нехта далікатна трос мяне за плечы.

Выплываючы з каламутнага небыцця, я расплюшчыў цяжкія павекі і прыемна здзівіўся, убачыўшы над сабой светлыя валасы і агністыя вочы прыгожай, даўно забытай незнаёмай, тае самай, у жоўтай сукенцы. Яна зноў сядзела побач, пры мне, спачувальна гладзіла мяне па шчацэ, а ў вялікіх вачах свяцілася непадробная трывога:

— Бедненькі… Ты што… Паміраць тут надумаўся?..

Пусты, знябыты і за адным разам упершыню шчыра шчаслівы, я ніяк не мог — дый дагэтуль не магу — нацешыцца сваёй страчанай і нанова адшуканай сяброўкай.

— Зараз паспрабую растлумачыць…

— Не трэба… Я ўсё ведаю… лепш за цябе… І ўжо не вярнуся туды. Ніколі! Чуеш?

Яна дапамагла мне падняцца, і мы, у шчыльнай цемры, разам пачалі шукаць выйсце.



Ганад Чарказян нарадзіўся ў 1946 годзе ў Арменіі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута. Працаваў у прафесійна-тэхнічным вучылішчы, інжынерам-тэхнолагам, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Піша на курдскай і армянскай мовах. Выдаў шмат паэтычных кніг у перакладзе на рускую і беларускую мовы.

Ганад ЧАРКАЗЯН

# ДОБРЫЯ ВЕСТКІ — ЛЮБЫЯ ГОСЦІ

* * *

Уперадзе цень мой
Віднеецца зданню,
На даўніх вятрах растае туманом.
Жыццё адыходзіць халодным дыханнем.
Лісты
Развітальным ляжаць дыванам.

Прыпынкаў не гэтак і шмат засталося.
Згубіла нябёсаў свой бляск цеплыня.
Дзе тая надзея,
Што ў зменлівым лёсе
Упарты мой дух маладзіла штодня?

Час выйграў
Халодную бітву бяскроўна.
Нікога параза мая не кране.
З сябе мне вяроўку
Не звіць усё роўна.
І не атрымаецца кветкі з мяне.

Усё, што я меў,
Ці раздаў, а ці страціў
І не атрымаў анічога ў замен.
Дзе золата мрояў
У радаснай хаце?
Сяджу жабраком
Ля разбураных сцен.

Нахабна смяецца
Над шчырасцю звада.
Расчынены дзверы
Для хітрай маны.
Зрабілася смелаю
Сквапная здрада.
У ваўкоў перакінуліся бараны.

Аглух я
Ў бязлітасным грукаце й гуле.
Знявер'е спаліла
Давер мой датла.

Дзе цёплыя слёзы
Далёкай матулі,
Што, як аблачынка,
Яна праліла?..

* * *

Рэчка розуму напоўніла даліны,
Дзе маколі ўсё жывое
Жорны войнаў,
Дзве дарогі ёсць.
І чалавек павінны
Выбраць тую,
На якой душы спакойна.

Па адной пайсці —
Загінуць марна,
Па другой падацца —
Жыць змагарна.

Кожны сам
Сваю дарогу выбірае,
Каб смялей
Ісці па ёй да небакраю...

* * *

А нехта некага чакае.
Ды не дачакаецца.
І пачынае пачуваць сябе
Журбота гаспадыняй,
А з некім нерашучым
Доля размінаецца.
І на пялёсткі спадзявання
Ападзе сцюдзёны іней.

А нехта з некім расстаецца
У немай роспачы,
Як быццам не было
Ані сустрэч, ані кахання.
Куліцца з камянямі стратаў
Поўны воз пачаў.
Расце гара турботаў.
І душы няма адхлання.

**РАЗВАГА**

Здрады страла
Мне спіну працяла.
І дагарае ў думках былое.
І не хапае надзеям святла.
Пройдзены шлях
Ахінуўся імглою.

Страх не дае
Азірнуцца назад.
Недасягальнымі
Сталіся далі.
Стомлена
Вечарэе пагляд,
Быццам сляды ад былога
Расталі.

Нехта нябачны
Прыстаў ад хады.
Марнымі робяцца
Ўсе намаганні.
А для чаго,
І навошта, й куды —
Гасне, як рэха глухое,
Пытанне.

**КАХАНАЯ ЖАНЧЫНА**

Каханая жанчына.
Чыгунка, цені ўзбоч.
Знаёмыя напевы,
Ўстрывожаная ноч...

Каханая жанчына.
Спатканне й ростань зноў.
І абяцанні, й слёзы.
Надзеі, мроі сноў...

Каханая жанчына.
Пытанняў зарапад,
З адзінаю адзіны
Сустрэць світанне рад...

Каханая жанчына.
Святло жыцця ў вакне.
І радасць, і журбота
Ў вачах на самым дне...

Каханая жанчына.
Расчуленыя дні.
Чаканая ўзаемнасць.
І сонца ў далані...

* * *

Пакой мне зрабіўся цесным
І цесным вялізны дом.
Мне стала горада мала,
Сусвет пацяснеў суздром.

Па пространі крочу,
Ды зоркі
Мне замінаюць ісці.
Шлях Млечны такі няроўны.
А Месяц —
Сусед па жыцці.

Куды размахнуўся, лежань,
На печы грэй плечы свае,
Пакуль не ўзлавалася жонка,
Пакуль унучка пяе...

Калі ж зрабілася цесна —
Хай думка спакой пячэ.
Бо можаш у нетрах Сусвету
На сонца наткнуцца яшчэ…

**УНУЧЦЫ**

Сёння, любая ўнучка,
Табе дзесяць год.
Аднагодак твой —
Век дваццаць першы.
Падрастай для надзей,
Для вясёлых прыгод.
Пасябруюць з табою
І дзедавы вершы.
І бабуля
Недасыпала начэй.
Кветкі і цябе гадавала.
Толькі б ты да святла
Прывыкала хутчэй.
Каб цябе не спаткала
Навала.
З раніцы
Чмель над кветкай гудзе —
Прыляцеў
На твой дзень нараджэння.
І вясна, як і ты,
Маладзее ў хадзе.
І не дрэмлецца
Светламу ценю.
Сёння радасць сваю
Ты не можаш стаіць.
Грае ўсмешка
Твая трапяткая.
І за брамкай падлетак
З букетам стаіць.
Гэта век дваццаць першы.
Чакае...

* * *

Добрыя весткі — любыя госці.
Ад хвалявання дрыжыць струна.
Помніцца спелы пах абрыкоса.
Помніцца смак маладога віна.

Іней халодны на вінаградзе
І прысмак мамінага лаваша.
Як старое кіно — апарат псуецца —
Хочаш глядзець, і цяплее душа.

Да гадоў шчаслівых і незадачных
Асцярожна вяртае ціхі ўспамін.
Да вытокаў усім вяртацца патрэбна,
Каб не парвалася сувязь часін.

Добрыя весткі — любыя госці.
Памяць жывая балюе зноў —
Віно, вінаград і лаваш духмяны,
І ў светлых думках
Вяртанне дамоў...

* * *

Настане дзень —
Растане сэрцаў лёд.
Адыдзе зло ў знямелае бязлюддзе,
За горы чорныя.
Запалымнее ўсход.
Ды толькі там
Ужо мяне не будзе.

Хто ўспомніць,
Што на свеце жыў дзівак,
Што ўсё хацеў дагнаць.
Бы ў нейкім гудзе,
Паразуменне пойдзе наўпрасцяк.
Ды толькі там
Ужо мяне не будзе.

Пачнуць усе
Не разбураць — ствараць.
Дзень узаемнай радасці прыбудзе.
І будуць памяць продкаў шанаваць.
Ды толькі там
Ужо мяне не будзе.

Хто русы, хто смуглявы, назусім
Пытанне вырашаць знямогуць суддзі.
І велічнага хопіць
Неба ўсім.
Ды толькі там
Ужо мяне не будзе.

Не стане месца
Зайздрасці, хлусні.
Настане ён,
Дзень розуму, аднойчы.
Я пагляджу
Аднекуль з вышыні.
І, ўсцешыўшы душу,
Заплюшчу вочы.

І рады буду —
Розум перамог.
І расцвіце зямля
Ў чаканым цудзе.
Шкада, што не знайду
Туды дарог.
Тады, на жаль,
Ужо мяне не будзе...

* * *

На паляванне не магу,
Бо хочуць лётаць птушкі
І хочуць мець сям’ю звяры
І немаўлятак гушкаць.

На рыбу не магу —
Зірні, як многа рыбы
Слёз пралілі
Ў марах блакітных,
Аж акіяны шырацца ўбакі
І растаюць паспешна леднікі.

І на хаўтуры не магу —
Каб адзіноціцца й не плакаць.
Не маю сілы адагнаць тугу,
Не гаснуць у лагоду адвячорку
На ўпалынелым,
Згорбленым пагорку.

І не магу на вуліцу —
Здаецца, на вайну іду
Альбо іду на паляванне,
Альбо на рыбу, на жуду
Альбо на пахаванне.

Усё збяссэнсілася, перагоркла,
Адна пакута вакол.
Застаецца толькі маліцца,
Покуль пройдзе смута вякоў.

*Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА.*




Ян ДЛУГАШ

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА*

## З «ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ»

## ГОД ГАСПОДНІ 1410

**ПРУСКІ МАГІСТР УЛЬРЫХ, АГЛЕДЗЕЎШЫ СВАЕ І ВАРОЖЫЯ ВОЙСКІ, ЗАЛІВАЕЦЦА СЛЯЗЬМІ, ВЫКЛІКАЎШЫ ГЭТЫМ ВЫМОВУ ВЕРНЕРА ТЭЦІНГЕРА, КАМАНДОРА ЭЛЬБІНГСКАГА.**

Тым часам магістр крыжакоў Ульрых фон Юнгінген, убачыўшы, што і каралеўскія, і яго войскі ў вялікім мностве сышліся і стаяць у баявым страі, па атрадах, гатовыя да бітвы, застрашыўся і, змяніўшы саманадзейнасць, якая ахапіла яго да дзёрзкасці, на трывогу, адышоў убок і не толькі аддаўся жалобе, але нават даў волю багата бягучым слязам. Тым часам такія паводзіны магістра вельмі не спадабаліся яго камандорам, натоўп якіх яго акружаў; эльбінгскі камандор Вернер Тэцінгер, падышоўшы да яго, пры ўсіх стаў папракаць, пераконваючы паводзіць сябе як мужчына, а не як жанчына, і лепш падаць прыклад мужнасці, чым маладушнасці сваім рыцарам, якія чакаюць ад яго знака да бітвы. Без гневу сцярпеўшы гэты папрок, магістр Ульрых адказвае, што ён праліў слёзы, якія ўсе бачылі, не па якой-небудзь нясмеласці ці маладушнасці, а ў сілу сваёй набожнасці і праўдзівай скрухі за тое, што менавіта пры яго магістэрстве і кіраванні будзе праліта так многа хрысціянскай крыві, што нават той, хто не стане відавочцам, зможа атрымаць пра гэта ўяўленне. Ён страшыцца таксама, як бы ўжо пралітая кроў і тая, што цяпер будзе праліта, не была б спагнана з яго, і таму ён не ў сілах схаваць трывогі ці смутку і гаротных прадчуванняў. Ён дадаў таксама, што як муж рашучы пойдзе ў бітву без страху і ў гадзіну выпрабаванняў будзе цвёрды да канца, на чый бы бок ні выпала жэрабя. А Вернер Тэцінгер хай лепш глядзіць за сабой, клапоцячыся пра сябе, сваю асобу, званне і становішча; хай ён не ўяўляе пра сябе і пра свае сілы гэтак напышліва і высакамерна, каб, калі наступіць бітва, не пасці з той найвялікшай ганьбай, чым напышлівей ён узнімаецца над іншымі.

Гэта перасцярога не была дарэмнай: бо магістр Прусіі Ульрых загінуў, ваюючы грудзі ў грудзі з ворагам, лічачы недастойным перажыць паразу свайго войска. Вернер жа Тэцінгер, камандор эльбінгскі (які ганебна збег з поля бітвы і не мог спыніцца ў сваіх уцёках, пакуль не дасягнуў Эльбінга), стане для ўсіх прыкладам выхвальства і пыхі, не пакінутых беспакаранымі.

---

* *Працяг. Пачатак у нумарах 1, 2, 3, 4, 5, 6 за 2010 г.*

**СПАКОЙНА ПРЫНЯЎШЫ ГАНАРЫСТАЕ ПАСОЛЬСТВА УЛЬРЫХА, МАГІСТРА ПРУСІІ, І ДАСЛАНЫЯ ІМ ДВА АГОЛЕНЫЯ МЯЧЫ, КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ПРЫЗНАЧАЕ САБЕ ЦЕЛААХОЎНІКАЎ І ЗАГАДВАЕ ДАЦЬ ЗНАК ДА БІТВЫ.**

Атрымаўшы каралеўскі загад, Мікалай, падканцлер Польскага каралеўства, выступіў быў наперадзе караля да абозу; тым часам, калі кароль ужо жадаў надзець шлем на галаву і рынуцца ў бітву, раптам апавяшчаюць пра прыбыццё двух герольдаў; адзін з іх нёс сцяг караля рымлян, менавіта з чорным арлом на залатым полі, а другі — князя шчэцынскага, з чырвоным грыфам на белым полі. Герольды выступілі з варожага войска, несучы ў руках два аголеныя мячы без ножан, патрабуючы, каб іх адвялі да караля, і былі прыведзены да яго пад аховай польскіх рыцараў, каб пазбегнуць абраз. Магістр Прусіі Ульрых паслаў іх да караля Уладзіслава, каб заахвоціць яго неадкладна завязаць бітву і пазмагацца ў страі, дадаўшы да таго ж яшчэ і дзёрзкія даручэнні. Убачыўшы герольдаў і мяркуючы, што яны, як гэта і было, прыйшлі з нейкім новым і незвычайным пасольствам, Уладзіслаў, кароль польскі, загадаў выклікаць назад падканцлера Мікалая і выслухаў аб'яву герольдаў у прысутнасці яго і некаторых вяльможаў, што неслі асабістую ахову караля, а менавіта: князя Мазовіі Земавіта малодшага[1], пляменніка па роднай сястры караля, Яна Менжыка з Дамбровы, чэха Залавы, сакратара Збігнева з Алясніцы[2], Дабеслава Кабылы, Воўчка Рокуты, Багуфала, загадчыка кухні, Збігнева Чайкі з Навадвора, носьбіта каралеўскай дзіды, носьбіта малога сцяга Мікалая Мараўца і Данілкі з Русі, носьбіта каралеўскіх стрэл. З прычыны таго, што вялікі князь Літвы Аляксандр спяшаўся на бой і быў заняты пастраеннем сваіх войскаў, выклікаць яго не атрымалася. Аказаўшы каралю належную павагу, герольды выказалі на нямецкай мове мэту свайго пасольства, прычым перакладаў Ян Менжык такім чынам: «Найсветлы кароль! Вялікі магістр Прусіі Ульрых дасылае табе і твайму брату (яны апусцілі як імя Аляксандра, так і званне князя) праз нас, герольдаў, якія прысутнічаюць тут, два мячы як заахвочванне да хуткай бітвы, каб ты з імі і са сваім войскам неадкладна і з большай адвагай, чым ты выказваеш, уступіў у бой і не ўтойваўся даўжэй, зацягваючы бітву і адседжваючыся сярод лясоў і гаёў. Калі ж ты лічыш поле цесным і вузкім для разгортвання твайго строю, то магістр Прусіі Ульрых, каб выманіць цябе на бой, гатовы адступіць, наколькі ты жадаеш, ад роўнага поля, занятага яго войскам; ці абяры любое Марсава поле, каб больш не ўхіляцца ад бітвы»[3].

Так сказалі герольды. І ў самы момант гэтай аб'явы было заўважана, што войска крыжакоў, у пацвярджэнне сказанага герольдамі, адступіла на значную адлегласць, каб відаць было, што яно на справе пацвярджае пэўнасць заявы герольдаў. Гэта заява была, вядома, глупствам, якое не адпавядала набожнасці крыжакоў: як быццам бы ім было вядома, што поспех знаходзіцца ў іх уладзе і тое, што каму лёс вызначыць у гэты дзень. Уладзіслаў жа, кароль Польшчы, выслухаўшы дзёрзкае і ганарыстае пасольства крыжакоў, прыняў мячы з рук герольдаў без усякага раздражнення і абурэння, а са слязамі, без якога-небудзь асуджэння, але з дзіўнай, як бы нябеснай

---

[1] Земавіт — сын Земавіта IV (гл. № 1/2010, 1387 г., ст. 101, заўв. 4) і сястры Уладзіслава-Ягайлы Аляксандры.

[2] Збігнеў з Алясніцы — у 1423—1455 гг. біскуп кракаўскі, кардынал.

[3] Некалькі інакш эпізод з прысылкай Уладзіславу-Ягайлу мячоў ад магістра Ордэна выкладаецца ў іншай крыніцы, вядомай пад назвай «Хроніка вайны Уладзіслава, караля польскага, з крыжакамі». Паводле яе, герольды ўручаюць адзін меч каралю, а другі — Вітаўту, і звяртаюцца з прамовай да абодвух. У гэтай прамове нічога не гаворыцца пра прапанову магістра адвесці свае войскі, каб вызваліць частку раўніны для польскага войска. Магістр толькі заклікае палякаў не хавацца ў лесе, а выходзіць на раўніну і пачынаць бой.

пакорай, цярпеннем і сціпласцю даў герольдам адказ: «Хоць у мяне і майго войска досыць мячоў і я не маю патрэбы ў варожай зброі, аднак дзеля большай падтрымкі, аховы і абароны маёй правай справы і гэтыя пасланыя маімі ворагамі, якія прагнуць маёй і майго народа крыві і знішчэння, два мячы, дастаўленыя вамі, я прымаю ў імя Бога і звярнуся да яго як да найсправядлівейшага суддзі нясцерпнай ганарыстасці, да яго маці, панны Марыі, і заступнікаў маіх і каралеўства майго, святых Станіслава, Адальберта, Венцаслава, Фларыяна і Ядвігі[1]. Я буду маліць іх звярнуць гнеў свой на іх як на гэтакіх жа дзёрзкіх і ганебных ворагаў; бо ворагаў маіх нельга суцішыць і ўлагодзіць ні справядлівасцю, ні пакорай, ні прапановамі маімі, пакуль яны не пральюць кроў, не раздзяруць чэрава і не надзенуць нам на шыю ярма. На надзейнай абароне Божай і яго святых і іх падтрымцы і клопаце трымаецца мая ўпэўненасць, што яны падтрымаюць мяне і мой народ сіламі сваімі і сваім заступніцтвам і не дапусцяць, каб я і народ мой былі зрынуты такімі лютымі ворагамі, у якіх гэтак часта я шукаў міру. І ў дадзены момант я не адпрэчыў бы міру, калі б ён быў магчымы на справядлівых умовах; я адвёў бы хоць зараз занесеную для бітвы руку, калі б нават бачыў у гэтых двух мячах, прынесеных вамі, відавочны нябесны знак, які прадвяшчае мне перамогу ў баі. Выбару ж поля бітвы я для сябе не патрабую і не дамагаюся гэтага, але, як належыць хрысціяніну, чалавеку і каралю, усталяванне яго я аддаю Боскай волі, каб атрымаць тое месца для бітвы і той зыход вайны, якія будуць вызначаны Боскай міласцю і шчасцем цяперашняга дня. Я ўпэўнены ў тым, што ўсявышні пакладзе лютасці крыжакоў канец, якім і цяпер, і на будучы час утаймавана будзе іх такая ганебная і нясцерпная ганарыстасць, бо я цвёрда ведаю, што Боскія сілы будуць стаяць за правую справу. Поле, на якім мы знаходзімся і дзе нам належыць змагацца, і Марс, роўны для абодвух бакоў і справядлівы суддзя, задушыць і зняважыць вялікую, да нябёсаў, ганарыстасць маіх ворагаў, па спадзяванню майму, што Бог акажа дапамогу мне і майму народу ў хуткай бітве». (Згаданыя два мячы, дзёрзка пасланыя крыжакамі ў дапамогу польскаму каралю, захоўваюцца і дагэтуль у каралеўскай скарбніцы ў Кракаве, служачы заўсёды новым і неўвядальным напамінкам на будучы час пра дзёрзкасць і паразу аднаго боку і пра пакору і трыумф другога.)

Сказаўшы гэта і перадаўшы герольдаў пад ахову рыцара Дзівіша Мажацкага, герба Яліта, а падканцлеру зноў загадаўшы ехаць у лагер, кароль надзявае шлем на галаву і ў імя Госпада загадвае войску выступаць і даць сігнал да бою, а рыцарам — пачынаць бітву. Кароль заклікае і моліць Усявышняга звярнуць свой гнеў на крыжакоў як на парушальнікаў дамоў і людзей бязбожнай ганарыстасці, якія пагарджаюць усялякай справядлівасцю, а доблесць яго рыцараў натхніць і падтрымаць, бо найпакорлівейшы кароль нават пад скрыгат і звон зброі і пад рэзкія гукі труб імкнуўся да справядлівага рашэння, гатовы адставіць усю зброю, абы скласці мір на справядлівых умовах. Аднак, выслухаўшы абразлівае і ганарыстае пасольства крыжакоў, кароль адмовіўся ад гэтай думкі; ён адклаў усякую надзею на мір, якую захоўваў да гэтай гадзіны, лічачы дарэмным сваё старанне пры тым, што крыжакі ўсюды трубілі пра сваю вялікую ганарыстасць. Гэта быў, бясспрэчна, найлепшы кароль, які перамагаў сваіх ворагаў не столькі мячом, колькі пакорнасцю і справядлівасцю, ваюючы больш царкоўнымі службамі і малітвай, чым зброяй. Так было пастаноўлена і па цвярозым абмеркаванні вырашана, каб Уладзіслаў, кароль польскі, не станавіўся ні ў якую вызначаную харугву, пад якім бы сцягам яна ні была; найгалоўным клопатам у той дзень было ўсяляк ахоўваць яго жыццё, і было дадзе-

[1] Станіслаў, Адальберт, Венцаслаў, Фларыян, Ядвіга — нацыянальныя святыя, заступнікі Польскага каралеўства.

на вельмі яснае распараджэнне, каб сам кароль трымаўся ў выдаленым і надзейным месцы, невядомым не толькі ворагам, але нават сваім, агароджаны світай і адборнай аховай войска з целаахоўнікаў і рыцараў. У розных месцах былі пастаўлены таксама хуткія коні, змяняючы якіх, кароль мог бы пазбегнуць небяспекі ў выпадку перамогі ворагаў, таму што аднаго караля ацэньвалі ў дзесяць тысяч рыцараў. У атрадзе каралеўскіх целаахоўнікаў быў (як мы згадалі вышэй) маленькі сцяг з белым арлом у якасці герба. Яго сцяганосцам быў Мікалай Маравец з Кунашоўкі, герба Повала. Сам жа атрад целаахоўнікаў складаўся з шасцідзесяці рыцараў-дзіданосцаў[1]. Галоўнымі каралеўскімі целаахоўнікамі былі наступныя: Земавіт-малодшы, князь Мазовіі, сын Земавіта-старэйшага, пляменнік караля па роднай сястры; Фядушка, інакш Феадосій, літоўскі князь[2], са значным атрадам ваяроў і Жыгімонт-Карыбут, літоўскі князь, пляменнікі караля па бацьку; гэтыя тры князі былі яго сваякамі. Акрамя таго, пры каралю былі: Мікалай, падканцлер каралеўства Польскага, герба Тромба, пасля гнезненскі архібіскуп; Збігнеў з Алясніцы, герба Дзенбна, пасля кракаўскі біскуп і кардынал; Ян Менжык з Дамбровы, герба Вадвіц, пасля ваявода леапольскі; Ян Залава, чэшскі барон, герба Тавачаў; Беняш Веруш з Бялы, галоўны каралеўскі спальнік, герба Веруша; Генрых з Рогава, герба Дзялоша, пасля падскарбій Польскага каралеўства[3]; Збігнеў Чайка з Навадвора, герба Дзенбна, які нёс каралеўскую дзіду; Пётр Мадаленскі, герба, які мае два плужныя лемяхі, павернутыя спінкамі адзін да аднаго на блакітным полі, якія завуцца па-польску ...[4]; чэх Ян Сокал і многія іншыя. Аляксандр жа Вітаўт, вялікі князь Літвы, які аддаў ахову свайго жыцця і волі аднаму Богу, скакаў, раз'язджаючы па ўсім як польскім, так і літоўскім войску, часта змяняючы коней, з нешматлікімі спадарожнікамі, але без усякіх целаахоўнікаў[*]. Князь аднаўляў у многіх месцах разладжаныя шэрагі літоўскага войска, зноў ішоў у бой і гучным крыкам і воклічамі да самага канца ўсяляк, але дарэмна ўтрымліваў сваіх ад уцёкаў.

### ПАЛЯКІ І КРЫЖАКІ СЫХОДЗЯЦЦА, І АДБЫВАЕЦЦА САМАЯ ЛЮТАЯ БІТВА.

Як толькі загучалі трубы, усё каралеўскае войска гучным голасам заспявала айчынную песню «Багародзіца», а затым, патрасаючы дзідамі, рынулася ў бой. Войска ж літоўскае па загадзе князя Аляксандра, які не трываў ніякага прамаруджання, яшчэ раней пачало бітву. Ужо Мікалай, падканцлер каралеўства Польскага, накіроўваючыся разам са святарамі і натарыямі ў каралеўскі лагер і праліваючы слёзы, павярнуў убок, згубіўшы з вачэй караля, калі адзін з натарыяў прапанаваў яму некалькі прыпыніцца і дачакацца сутыкнення такіх магутных войскаў, — відовішча, вядома, выключнага, якога ніколі потым не ўбачыць! Пагадзіўшыся на яго прапанову, Мікалай звярнуў твар і позірк на бітву, што завязалася. У гэты самы час абодва войскі, падняўшы крык, які звычайна выдавалі, накіроўваючыся ў бой, сышліся пасярод раўніны, што падзяляла іх, прычым крыжакі пасля сама меней двух стрэлаў з бамбард імкнуліся разбіць і зваліць польскае войска; аднак высілкі іх былі дарэмныя, хоць прускае войска кінулася ў бой з мацнейшым націскам і крыкам і з больш

---

[1] Г. зн. рыцараў, якія ўзначальвалі «коп'і», самыя малыя баявыя адзінкі ў войску таго часу.

[2] Фядушка быў сынам Любарта, дзядзькі Уладзіслава-Ягайлы, — такім чынам, не пляменнікам, а стрыечным братам караля.

[3] Генрых з Рогава быў падскарбіем у 1421—1423 гг.

[4] Назва гэтага герба, прапушчаная Длугашам, была Ларысса.

[*] *Асцярожнасць, часам падобная на трусасць, і адчайная смеласць, часам падобная на безразважнасць — у гэтым характары Уладзіслава-Ягайлы і Вітаўта.*

высокага месца. На месцы сутыкнення стаяла шэсць высокіх дубоў; на галіны іх узлезла шмат людзей (невядома, з каралеўскага войска ці з войска крыжакоў), каб бачыць зверху сутыкненне пярэдніх шэрагаў і поспехі таго і другога войска. Калі ж шэрагі сышліся, то падняўся такі шум і грукат ад ломячыхся дзід і ўдараў аб даспехі, як быццам бурыўся нейкі велізарны будынак, і быў такі рэзкі ляск мячоў, што яго выразна чулі людзі на адлегласці нават некалькіх міль. Нага наступала на нагу, даспехі ўдараліся аб даспехі, і лёзы дзід накіроўваліся ў твары ворагаў. Калі ж харугвы сышліся, то нельга было адрозніць нясмелага ад адважнага, мужнага ад баязліўца, бо тыя і іншыя згрудзіліся ў нейкі клубок і было нават немагчыма ні змяніць месца, ні прасунуцца на крок, пакуль пераможца, скінуўшы з каня ці забіўшы саперніка, не займаў месца пераможанага. Нарэшце, калі дзіды былі пераламаны, шэрагі таго і другога боку і даспехі з даспехамі настолькі самкнуліся, што выдавалі пад ударамі мячоў і сякір, насаджаных на тронкі, страшны грукат, які робяць молаты аб кавадлы, і людзі, хоць іх расціскалі коні, біліся; і тады сярод тых, хто змагаўся, самы адважны Марс мог быць заўважаны толькі па руцэ і мячу.

### ЛІТОЎЦЫ, ПАКАЗАЎШЫ ТЫЛ, БЯГУЦЬ ДА САМАЙ ЛІТВЫ.

Сышоўшыся адно з адным, абодва войскі ваявалі амаль на працягу гадзіны з нявызначаным поспехам; і паколькі ні тое, ні другое войска не падавалася назад, з наймоцнай зацятасцю дамагаючыся перамогі, то нельга было ясна распазнаць, на чый бок хіліцца шчасце ці хто атрымае верх у бітве. Крыжакі, заўважыўшы, што на левым крыле супраць польскага войска завязалася цяжкая і небяспечная сутычка (бо іх пярэднія шэрагі ўжо былі знішчаны), звярнулі сілы на правае крыло, дзе стаяла літоўскае войска. Войска літоўцаў мела больш рэдкія шэрагі, горшых коней і ўзбраенне, і яго, як больш слабое, здавалася, лёгка было адолець. Адкінуўшы літоўцаў, крыжакі маглі б мацней ударыць па польскім войску. Аднак іх разлік не цалкам апраўдаўся. Калі сярод літоўцаў, рускіх і татараў закіпела бітва, літоўскае войска, не маючы сіл вытрымліваць варожы націск, апынулася ў горшым становішчы і нават адышло на адлегласць аднаго югера[1]; калі ж крыжакі сталі напіраць мацней, яно было вымушана зноў і зноў адыходзіць і нарэшце пусцілася наўцёкі. Вялікі князь літоўскі Аляксандр дарэмна імкнуўся спыніць уцёкі біццём і гучнымі крыкамі. Ва ўцёках літоўцы захапілі з сабой нават вялікую колькасць палякаў, якія былі нададзены ім у дапамогу. Ворагі секлі і забіралі ў палон бегшых, праследуючы іх на адлегласці многіх міль, і лічылі сябе ўжо цалкам пераможцамі. Бегшых жа ахапіў такі страх, што большасць іх спынілі ўцёкі, толькі дасягнуўшы Літвы. Там яны паведамілі, што кароль Уладзіслаў забіты, забіты таксама і Аляксандр, вялікі князь літоўскі, і што, звыш таго, іх войска зусім знішчана. У гэтай бітве рускія рыцары Смаленскай зямлі зацята ваявалі, стоячы пад уласнымі трыма сцягамі. Толькі яны адны не пусціліся наўцёкі[2] і тым заслужылі вялікую славу. Хоць пад адным сцягам яны былі жорстка пасечаны і сцяг іх быў утаптаны ў зямлю, аднак у двух астатніх атрадах яны выйшлі пераможцамі, ваюючы з найвялікшай адвагай, як і належыць

[1] Югер, польск. морг, складаў трохі больш за палову гектара. Незразумела, чаму Длугаш для вымярэння адлегласці выкарыстаў меру плошчы, а не даўжыні.

[2] На аснове аповеду Длугаша пра ўцёкі літоўскага войска ствараецца ўражанне, нібы бегла ўсё літоўскае войска ў цэлым, акрамя трох смаленскіх палкоў. Тым часам у «Хроніцы» Посільге паведамляецца пра ўдзел літоўцаў у канчатковым разгроме ордэнскага войска ў той самы дзень (Possilge. Chronik, стар. 316). Ды і сам Длугаш у далейшым кажа пра літоўскае войска пад Марыенбургам і пра вяртанне яго ў Літву. Таму праф. Кучыньскі мяркуе, што большая частка літоўскага войска нікуды не бегла з поля бітвы (S. Kuczyński. Wielka wojna, стар. 253).

мужам і рыцарам, і нарэшце злучыліся з польскімі войскамі; і толькі яны адны ў войску Аляксандра-Вітаўта здабылі ў той дзень славу за адвагу і геройства ў бітве[1]. Усе ж астатнія, пакінуўшы палякаў ваяваць, кінуліся ўрассыпную наўцёкі, праследуемыя ворагам. Аляксандр жа Вітаўт, вялікі князь літоўскі, вельмі засмучаючыся ўцёкамі свайго войска і асцерагаючыся, што з-за няшчаснай для іх бітвы будзе зламаны і дух палякаў, пасылаў аднаго за адным ганцоў да караля, каб той спяшаўся без усякага прамаруджання ў бой. Пасля марных просьбаў князь спешна прыскакаў сам, без спадарожнікаў, і ўсяляк упрошваў караля выступіць у бой, каб сваёй прысутнасцю надаць змагаючымся больш натхнення і адвагі.

### РЫЦАРЫ ЧЭШСКІЯ І МАРАЎСКІЯ, З БАЯЗЛІВАСЦІ ЦІ ПА НАМЕРЫ СВАЙГО НАЧАЛЬНІКА ЯНА САРНОЎСКАГА, СЫХОДЗЯЦЬ З ШЭРАГАЎ ВОЙСКА Ў БЛІЖЭЙШЫ ЛЕС; ЗАТЫМ ВЯРТАЮЦЦА Ў БОЙ З-ЗА ПАПРОКАЎ ПАДКАНЦЛЕРА, А ІХ НАЧАЛЬНІК ГУБЛЯЕ РЫЦАРСКІ ГОНАР.

У той жа час пусцілася наўцёкі таксама і харугва святога Георгія на каралеўскім крыле, у якой служылі толькі чэшскія і мараўскія найміты і якую далі весці чэху Яну Сарноўскаму. З усімі чэшскімі і мараўскімі ваярамі харугва сышла ў той гай, дзе перад бітвай Уладзіслаў, кароль Польшчы, узнагароджваў верных ваяроў рыцарскімі пасамі, і стаяла ў гэтым гаі, не думаючы вяртацца ў бой. Падканцлер Польскага каралеўства Мікалай заўважыў яе, але палічыў не за чэшскую, а за харугву рыцара Дабеслава з Алясніцы, яго роду і сям'і (бо белы крыж, намаляваны на іх сцягу, меў некаторае падабенства з белым крыжом, які насіў у якасці герба на сцягу Дабеслаў з Алясніцы). Ахоплены моцным абурэннем, падканцлер выбягае з каралеўскага лагера разам з натарыямі і святарамі, прыбывае да самага месца стаянкі харугвы і, лічачы, што там знаходзіцца Дабеслаў з Алясніцы, звяртаецца да яго з лаянкай і дакорам у такіх словах: «Як ты мог, няверны і бессаромны рыцар, звярнуцца ў ганебныя ўцёкі ў той час, як кіпіць бітва за твайго караля і твой народ, а твае паплечнікі адважна ваююць, знаходзячыся ў крайняй небяспецы? І табе не сорамна хавацца ў гэтым лесе, ухіляючыся ад бітвы, табе, які некалі так часта атрымліваў перамогі ў асабістых паядынках, дзякуючы тваёй выключнай сіле?! Ці адпавядае гэта твайму гонару? Ты кляйміш сябе і ўвесь твой род такім бязмерным злачынствам, што ніколі не знойдзеш досыць моцнадзейных вод, каб змыць яго». Моцна зачэплены такой гаворкай, згаданы сцяганосец, чэх Ян Сарноўскі, мяркуючы, што яна звернута да яго, падняўшы забрала свайго шлема, адказаў віцэ-канцлеру Мікалаю: «Не страхам і не сваёй воляй, шаноўны бацька, але націскам і натоўпам тых, хто бег з бітвы і стаяў пад маім сцягам я занесены сюды». Аднак чэшскія і мараўскія рыцары, якія стаялі пад сцягам — Явар, Жыгімонт, Ракавец з Ракава і іншыя — сказалі: «Клянёмся табе, годны муж, што нас пагнаў у гэты лес з поля бітвы гэты нягоднік, наш начальнік, і каб ніхто не асудзіў нас за злачынныя ўцёкі, мы вяртаемся ў бой, пакінуўшы нашага начальніка і сцяг, які ён нясе». Сказаўшы гэта, яны неадкладна пакідаюць Яна Сарноўскага і сцяг і як мага хутчэй вяртаюцца на поле бітвы і далучаюцца да шэрагаў польскіх рыцараў[2]. Згаданы ж чэх Ян Сарноўскі пазбавіўся з таго часу гонару, так што нават яго ўласная жонка, па вяртанні

---

[1] Мяркуецца, што смаленскімі палкамі камандаваў таленавіты палкаводзец, брат Уладзіслава-Ягайлы, Лінгвен-Сямён (S. Kuczyński. Wielka wojna, стар. 349).

[2] Амаль такі ж аповед пра сыход чэшскага атрада з поля бою Длугаш змясціў вышэй. Там не паказаны толькі ініцыятар сыходу, Ян Сарноўскі. Мабыць, у абодвух выпадках гаворка ідзе пра адзін і той жа эпізод. Напэўна, Длугаш карыстаўся тут рознымі крыніцамі.



*Ягайла пасля Грунвальдскай бітвы. 1860 г.*

яго з каралеўства Польскага пасля бітвы, упарта не жадала прымаць яго ні ў замак, ні на ложа, ставячы яму ў віну подлыя ўцёкі. Пад цяжарам такіх абраз і дакораў ён пражыў нядоўга і загас, змарнеўшы ад сталай нуды і смутку. Бо здрада і маладушнасць, выяўленыя ім у той дзень у стаўленні да Уладзіслава, караля польскага, калі гэты рыцар добраахвотна збег з поля бітвы, дайшлі да ўсеагульнага ведама і сталі вядомымі і пры двары Жыгімонта, караля венгерскага, і сярод чэшскіх і мараўскіх баронаў. Гэты ўчынак нельга было нічым згладзіць, змыць ці сцерці з памяці нават з цягам часу. А ці здзейсніліся ўцёкі і адпадзенне згаданага Яна з маладушнасці, ці ён быў падкуплены золатам крыжакоў, у дакладнасці невядома.

**ПАЛЯКІ ЗНОЎ УЗНІМАЮЦЬ СЦЯГ, ЯКІ ЗВАЛІЎСЯ ПАД НАЦІСКАМ ВОРАГАЎ. ПРУСАКІ, ВЯРНУЎШЫСЯ ПАСЛЯ ПРАСЛЕДАВАННЯ ЛІТОЎЦАЎ, АДНАЎЛЯЮЦЬ БІТВУ, І АДНАГО З ІХ, ЯКІ З УСЁЙ СІЛАЙ НАКІРАВАЎСЯ НА КАРАЛЯ, ЗАБІВАЕ БЯЗЗБРОЙНЫ ЗБІГНЕЎ З АЛЯСНІЦЫ, КАРАЛЕЎСКІ НАТАРЫЙ.**

Пасля таго як літоўскае войска пусцілася наўцёкі і страшны пыл, які засцілаў поле бітвы і байцоў, быў прыбіты прыемным невялікім дажджом, у розных месцах ізноў пачынаецца жорсткі бой паміж польскім і прускім войскамі. Тым часам як крыжакі сталі напружваць усе сілы для перамогі, вялікі сцяг польскага караля Уладзіслава з белым арлом (які нёс Марцін з Врацімавіц, харунжы кракаўскі, рыцар герба Палукозы) пад варожым націскам падае на зямлю. Аднак дзякуючы вельмі

дасведчаным і заслужаным рыцарам, якія знаходзіліся пры ім і тут жа затрымалі яго падзенне, сцяг паднялі і ўзнялі на месца. Калі б адборны атрад адважнейшых рыцараў не ўстаў каля яго грудзьмі, абараняючы яго сваімі целамі і зброяй, то сцяг не ўдалося б зноў узняць. Каб загладзіць гэта ўніжэнне і крыўду, польскія рыцары ў лютым націску кідаюцца на ворагаў і ўсю тую варожую сілу, якая сышлася з імі ў рукапашным баі, скідваюць на зямлю і забіваюць. Тым часам вяртаецца войска крыжакоў, якое праследавала беглых літоўцаў і рускіх. Ведучы з сабой мноства палонных і трымаючы сябе пераможцамі, крыжакі, вельмі задаволеныя, спяшаюцца ў прускі лагер. Але, убачыўшы, што бой прымае неспрыяльны зварот для іх зброі і сіл, яны кідаюць палонных і здабычу і скачуць у бой на падмогу сваім, якія да таго часу ваявалі ўжо меней ахвотна. З падыходам новых ваяроў барацьба паміж войскамі становіцца разлютаванай. І паколькі з абодвух бакоў пала мноства ваяроў і войска крыжакоў панесла цяжкія страты рыцарамі, а да таго ж яго атрады змяшаліся і правадыры іх былі перабіты, то з’явілася надзея, што яно пусціцца наўцёкі. Аднак дзякуючы зацятасці крыжакоў Ордэна і рыцараў чэшскіх і нямецкіх бітва, якая ўжо была заціхала ў многіх месцах, аднавілася.

У той час як бітва паміж войскамі яшчэ працягвала кіпець, Уладзіслаў, кароль польскі, стаяў, назіраючы здалёк за мужнасцю змагаючыхся. Усклаўшы спадзяванне на літасць Божую, кароль моўчкі чакаў уцёкаў і канчатковага разгрому ворагаў, якія, як ён бачыў, у некалькіх месцах былі ўжо адкінуты і зрынуты. Тым часам у бітву ўступілі шаснаццаць свежых варожых харугваў (пад столькімі ж сцягамі), цэлых, якія яшчэ не выпрабавалі ваеннага шчасця. Павярнуўшы шэрагі ў той бок, дзе стаяў кароль Польшчы толькі з целаахоўнікамі, яны, здавалася, накіраваліся на яго, патрасаючы дзідамі. Кароль жа, мяркуючы, што варожае войска кінулася на яго ў разліку на малалікасць яго аховы, і страшачыся крайняй небяспекі, адпраўляе Збігнева з Алясніцы, свайго натарыя, да размешчаных паблізу ваяроў, якія стаялі пад сцягам палацавых рыцараў. Кароль загадвае спешна ісці яму на дапамогу, каб адхіліць грозную небяспеку, якой падвергнецца жыццё іх караля, калі яны не падаспеюць досыць хутка. Але і гэта харугва якраз збіралася ўступіць у бой. Таму каралеўскі рыцар Мікалай Келбаса, герба Наленч, адзін з тых, хто стаяў пад гэтым сцягам, агаліўшы шаблю супраць каралеўскага весніка, натарыя Збігнева, грозным голасам лае яго, загадваючы выдаліцца. «Хіба ты не бачыш, няшчасны, што на нас нападаюць ворагі, а ты прымушаеш нас, пакінуўшы хуткую бітву, ісці на абарону караля! Што ж гэта — як не бегчы са строю і, адыходзячы, падстаўляць спіну ворагу, каб, калі нашы сілы будуць зламаны, падвергнуць нас і караля відавочнай небяспецы?» Атрымаўшы адпор такімі папрокамі, Збігнеў з Алясніцы сыходзіць з палацавай харугвы, усярэдзіну якой ён зайшоў. Адразу ж каралеўскія ваяры сыходзяцца з ворагам і, ваюючы з найвялікшай мужнасцю, адціскаюць і зрынваюць яго. Тым часам Збігнеў з Алясніцы, вярнуўшыся да караля, паведамляе, што ўсе рыцары пойдуць у бітву, і дадае, што тыя, хто ваюе ці збіраецца ўступіць у бой, не могуць прыняць ні рады, ні загаду. Да іншых жа харугваў, якія вялі бой, сказаў каралю Збігнеў, ён не падыходзіў, бо з-за шуму і мітусні яны не маглі б прыняць ні рады, ні наказу. Тады малы каралеўскі сцяг, які насілі за каралём, з белым арлом на чырвоным полі ў якасці герба, з асцярожнасці панеслі, каб не выдаць знаходжання тут караля, і схавалі па распараджэнні каралеўскіх целаахоўнікаў. Караля ж Уладзіслава захілілі конямі і людзьмі, якія абступілі яго, каб не здагадаліся, што ён там стаіць. Кароль Уладзіслаў імкнуўся ў бой з вялікім запалам і даваў каню шпоры, парываючыся рынуцца ў самую гушчу ворагаў, так што яго насілу ўтрымлівалі абступіўшыя целаахоўнікі. З-за гэтага чэха Залаву, аднаго з целаахоўнікаў, які занадта груба схапіў каралеўскага каня за аброць, каб ён не мог ехаць далей, кароль стукнуў канцом сваёй дзіды, але не моцна. Кароль патрабаваў пусціць яго ў бой, пакуль яго не адгаварылі і не

ўтрымалі просьбамі і рашучым супраціўленнем усе целаахоўнікі, якія засведчылі, што яны пойдуць на любую крайнасць перш чым гэта адбудзецца. Тым часам рыцар прускага войска, немец родам, якога звалі Дзіпольд Кікерыц фон Дзібер, з Лузацыі, з залатым пасам, у белым тэўтонскім плашчы (які па-польску мы завём jakka)[1], з ног да галавы закаваны ў даспехі, выскачыў на рудым кані з шэрагаў вялікай прускай харугвы (якая знаходзілася ў ліку згаданых шаснаццаці); затым, падскакаўшы да самага месца, дзе стаяў кароль, і трасучы дзідай навідавоку ўсяго варожага войска, якое стаяла пад шаснаццаццю сцягамі, здавалася, збіраўся напасці на караля. Тым часам кароль Уладзіслаў, імкнучыся адбіць яго напад, і сам узмахнуў дзідай. Збігнеў з Алясніцы, каралеўскі натарый, без даспехаў і бяззбройны, папярэдзіўшы ўдар, які пагражаў каралю, абломкам дзіды ўдарыў рыцара ў бок, скінуўшы яго з каня на зямлю. Кароль Уладзіслаў стукнуў ворага, які бездапаможна біўся, лежачы на спіне, са звернутым угару шлемам, кап'ём у лоб, не прычыніўшы таму шкоды*. Рыцары, што ахоўвалі караля, тут жа забілі ворага, а пешыя ваяры знялі з яго зброю і даспехі. Ці мог хто-небудзь здзейсніць у той бітве штосьці больш удалае? Вядома, не было здзейснена нічога больш мужнага, нічога больш адважнага, чым подзвіг Збігнева; бо ён адважыўся без зброі і даспехаў напасці на ўзброенага з галавы да ног, юнак на мужа, і прытым яшчэ неспрактыкаваны ваяр — на заслужанага рыцара. Абломкам дзіды ён пераадолеў даўжэзную дзіду і, скінуўшы грознага ворага з каня, адхіліў не толькі ад свайго караля, але і ад цэлага войска небяспеку, якая магла здарыцца ў выпадку ранення ці смерці караля. Целаахоўнікі караля навыперадкі сталі ўзносіць перад каралём адвагу Збігнева, і Уладзіслаў, польскі кароль, выказаў моцнае жаданне адзначыць яго, апяразаўшы рыцарскім поясам ва ўзнагароду за гэты слаўны подзвіг. Аднак высакародны юнак не дапусціў, каб кароль адрозніў і ўвасобіў яго такім гонарам; ён запярэчыў каралю Уладзіславу, які збіраўся ўскласці на яго знакі рыцарскай доблесці, што ён падлягае залічэнню ў шэрагі не свецкага ваярства, а царкоўнага; і ён аддае перавагу назаўжды застацца лепш ваяром Хрыстовым, чым караля зямнога і смяротнага. Тады кароль Уладзіслаў сказаў: «У гэтым ты абраў лепшую долю. І калі я застануся жывы, я не забудуся адзначыць цябе для ўбрання вышэйшым духоўным санам, каб узнагародзіць твой подзвіг». І з гэтага часу кароль яшчэ больш палюбіў Збігнева, аказваючы яму перад усімі выключнае спрыянне і літасць. Затым, з цягам часу, аблашчаны літасцю караля, ён быў узведзены ў сан біскупа кракаўскага, пасля таго як здзейснены тады грэх быў адпушчаны папам Марцінам Пятым[2].

**ПАСЛЯ РАЗГРОМУ І РАССЕЙВАННЯ ПРУСАКОЎ ІХ ЛАГЕР ПАДВЯРГАЕЦЦА РАБАВАННЮ. ЗНОЙДЗЕНЫЯ ТАМ КАЙДАНЫ, ПРЫГАТАВАНЫЯ ПАЛЯКАМ, НАКЛАДАЮЦЦА НА ШЫЮ ВОРАГАЎ. ВІНО З РАЗБІТЫХ ПА НАКАЗЕ КАРАЛЯ БОЧАК, ЗМЯШАНАЕ З КРЫВЁЙ ЗАБІТЫХ, ЦЯЧЭ ЧЫРВОНЫМ РУЧАЁМ.**

Атрад крыжакоў, які стаяў пад шаснаццаццю сцягамі (з якога хутчэй неабдумана, чым з дзёрзкай адвагай, выехаў місненскі рыцар Кікерыц[3], каб напасці на караля), убачыўшы, што згаданы рыцар Кікерыц забіты, тут жа пачаў паварочваць

[1] Польск. jakka наогул азначае «кафтан».

* *Ударыць бездапаможнага рыцара дзідай у твар — зусім не каралеўскі ўчынак.*

[2] Пацвярджаючы ў 1423 г. абранне Збігнева Алясніцкага ў біскупы, папа Марцін (1417—1431) папярэдне адпусціў яму здзейснены ім, з пункта гледжання царквы, падчас Грунвальдскай бітвы грэх, а менавіта ўдзел у вышэйапісаным забойстве нямецкага рыцара.

[3] Вышэй Длугаш паказвае, што рыцар Кікерыц быў з Лужыц. Гэта па суседству, але не адно і тое ж.

назад. Пры гэтым адзін крыжак, які вёў харугвы, седзячы на белым кані, прымушаў дзідай рыцараў, якія знаходзіліся пад сцягамі, да адступлення, крычаў па-нямецку: «Herum, herum!»[1] І, павярнуўшы, атрад паехаў у правы бок, дзе стаяла вялікая каралеўская харугва, якая ўжо разграміла ворагаў, з некаторымі іншымі каралеўскімі харугвамі. Большая частка каралеўскіх рыцараў, убачыўшы войска пад шаснаццацццю сцягамі, палічыла яго за варожае (як гэта і было), іншыя ж, схільныя па слабасці чалавечай спадзявацца на лепшае, прынялі яго за літоўскае войска з-за лёгкіх дзід, інакш суліц, якія ў ім меліся ў вялікай колькасці, і таму не адразу напалі на гэты атрад, стоячы ў нерашучасці. Тым часам сярод іх нарастала спрэчка пра ўзніклы сумнеў. Жадаючы яго вырашыць, Дабеслаў з Алясніцы, рыцар герба Крыж, які завецца Дзенбна (польск. Dębno), адзін пагнаў каня на ворага, трасучы дзідай. Супраць яго выехаў з прускага войска крыжак, які вёў конныя харугвы і пешыя атрады, і, паскакаўшы насустрач Дабеславу, што ехаў на яго, адбіў уверх дзіду, накіраваную Дабеславам, сваёй кідальнай суліцай, прапусціўшы дзіду над галавой. Таму што спачатку Дабеслаў Алясніцкі кінуў дзіду, якой крыжак пазбег адным невялікім адхіленнем і апушчэннем галавы, — нават падняўшы сваю дзіду ўгару, — і тым ухіліўся ад удару Дабеслава, які спрабаваў у яго трапіць. Дабеслаў жа, убачыўшы, што прамахнуўся, і лічачы безразважным ваяваць з усім варожым атрадам, паспешна паскакаў назад, да сваіх. Крыжак пагнаўся за ім, прышпорыўшы каня, і ў сваю чаргу, размахнуўшыся, пусціў згубную дзіду ў Дабеслава і нанёс каню Дабеслава скрозь пакрыццё (якое мы завём kropyerz)[2] рану ў сцягно, аднак не смяротную. Затым ён паскакаў, каб не быць у сваю чаргу захопленым польскімі рыцарамі, і далучыўся да сваіх[3]. Тады польскія шэрагі, адкінуўшы ўсялякі сумнеў, пад многімі сцягамі кідаюцца на ворагаў, якія стаялі пад шаснаццаццю сцягамі (да іх збегліся і іншыя ацалелыя з харугваў, пабітых пад іншымі сцягамі), і сыходзяцца з імі ў смяротным баі. І хоць ворагі яшчэ некаторы час аказвалі супраціўленне, аднак нарэшце, акружаныя з усіх бакоў, былі зрынуты і раздушаны мноствам каралеўскіх войскаў. Амаль усе ваяры, якія змагаліся пад шаснаццаццю сцягамі, былі перабіты ці ўзяты ў палон. Калі гэты варожы атрад быў перабіты і зрынуты і стала вядома, што ў ім палі вялікі магістр Прусіі Ульрых, маршалы Ордэна, камандоры і ўсе найслынныя рыцары прускага войска, то астатняя маса ворагаў павярнула назад і, паказаўшы тыл, кінулася ўжо ў відавочныя ўцёкі. Уладзіслаў, кароль польскі, яго войска атрымалі хоць і познюю і цяжкую, але поўную і несумнеўную перамогу над магістрам і Ордэнам крыжакоў. Вось тады рыцар Георгій Керцдорф, які ў войску крыжакоў нёс сцяг святога Георгія, палічыў за лепшае сумлення здацца ў палон, чым ганебна бегчы і, падышоўшы з сарака паплечнікамі да польскага рыцара Пшэдпелка Капідлоўскага, герба Дрыя, схіліўшы калені да зямлі і здаўшы сцяг, быў узяты ў рыцарскі палон, як ён таго і прасіў. Захоплены былі таксама ў палон і абодва князі, якія з уласнымі ваярамі і пад сваімі сцягамі ўдзельнічалі ў бітве на баку крыжакоў: Казімір Шчэцынскі — Скарбкам з Гур, а Конрад Белы Алясніцкі — чэхам Ёштам з Зальца. Акрамя таго, узяты былі ў палон і многія іншыя рыцары розных войскаў і народнасцей. Большая ж частка рыцараў, якая разбеглася з прускага войска і шукала абароны ў прускім абозе пры лагеры, падверглася нападу каралеўскіх ваяроў, якія ўварвалі-

[1] Нямецк. herum азначае «кругом», «назад».

[2] Польск. kropyerz азначае «полаг, покрыў».

[3] С. Кучыньскі схільны разглядаць выступ Дабеслава Алясніцкага як адказ на такі ж выступ рыцара з боку Ордэна, што, відавочна, было прынята ў рыцарскім асяроддзі (S. Kuczyński. Wielka wojna, стар. 360).

ся ў прускі абоз і стан. Яны былі перабіты ці захоплены ў палон; і варожы стан, поўны рознага дабра, абоз і ўся маёмасць прускага магістра і яго войска таксама былі разрабаваны польскімі рыцарамі. Пры гэтым у крыжацкім войску было знойдзена некалькі вазоў, нагружаных толькі кайданамі і ланцугамі, якія крыжакі везлі з сабой, каб закоўваць палонных палякаў, прадвяшчаючы сабе, не спытаўшы Божага дазволу, дакладную перамогу і думаючы не пра бітву, а пра трыумф. Знойдзены былі і іншыя калёсы, нагружаныя хваёвай лучынай, змазанай тлушчам і смалой і, звыш таго, абгорнутай у змочаныя тлушчам і смалой анучы, каб (пры наступленні цемры) з дапамогай іх праследаваць пераможаных і беглых. Пры гэтым крыжакі ў сваёй ганарлівай упэўненасці ў перамозе наперад уявілі, не лічачыся з магутнасцю Божай, быццам яны здзейсняць справу, якая знаходзілася ў руках Божых. Аднак гэтымі ланцугамі і кайданамі яны самі былі скуты палякамі, бо праведны Бог растаптаў іх саманадзейнасць. То была справа, годная сузірання, і відовішча дзіўнае для адзнакі лёсу спраў чалавечых: свае ж кайданы і ланцугі скавалі ўласных уладальнікаў, а варожыя вазы, якія перавышалі колькасцю некалькі тысяч, на працягу чвэрці гадзіны былі разрабаваны каралеўскім войскам так, што ад іх не засталося нават і наймалога следу. Было, акрамя таго, у прускім стане і ў абозе шмат бочак з віном, да якіх каралеўскае войска пасля разгрому ворагаў, стомленае бітвай і летняй спёкай, збеглася было, каб здаволіць смагу; некаторыя рыцары для здаволення смагі чэрпалі віно шлемамі, другія — пальчаткамі, іншыя нават ботамі. Але Уладзіслаў, кароль польскі, з асцярогі, каб войска яго, ап'янёнае віном, не стала бескарысным, так што ў выпадку нападу яго лёгка мог перамагчы нават слабы вораг, і каб ад празмернага пітва на яго не напалі хвароба і бяссілле, загадаў разбіць і знішчыць бочкі з віном. Калі яны па загадзе караля былі разбіты, віно палілося на трупы загінуўшых, якіх на месцы варожага стану былі немалыя кучы, утвараючы ў змешванні з крывёй забітых людзей і коней чырвоны ручай. Было бачна, як ён сцякаў да сенажаці паселішча Тамберга[1], утвараючы сваёй плынню рэчышча і берагі накшталт дажджавога патоку. Ад гэтага, кажуць, паўстала нагода для распаўсюджвання ў народзе выдумак і баек, быццам у гэтай бітве было праліта гэтулькі крыві, што яна цякла як ручай. Затым у невялікім гаі, недалёка ад варожага стана, засаджаным дрэвамі (якія мы завём multicoraces)[2], было знойдзена сем варожых сцягоў, кінутых уцекачамі і толькі ўваткнутымі ў зямлю, як бы на яе апеку; іх неадкладна даставілі да караля. Камандор тухольскі Генрых, які патрабаваў, каб перад ім насілі два мячы і якога ніякімі добрымі радамі нельга было адгаварыць ад гэтай пыхі, быў нагнаны праследавацелямі ў той час, калі, ганебна збегшы з поля бітвы, дабраўся да паселішча Вельгнова. Ён быў вартым жалю чынам забіты адсячэннем галавы і панёс бясслаўную, але заслужаную кару за сваю безразважную ганарыстасць.

Некаторым жа набожным і богабаязным людзям і тым, каму было падаравана гэта ўгледзець па Божым пажаданні, бачны быў у паветры падчас бітвы нейкі шаноўнага выгляду муж у біскупскім уборы, які бесперапынна бласлаўляў польскае войска, пакуль ішла бітва і пакуль перамога не схілілася да палякаў. Лічаць, што гэта быў найблажэнны Станіслаў, біскуп кракаўскі, заступнік палякаў і першапакутнік, заступніцтвам і дапамогай якога палякі, як вядома, атрымалі такую славутую перамогу.

---

[1] Г. зн. Таненберг.

[2] Слова multicoraces, відавочна, звязана з cortex — «кара». Па ласкавым тлумачэнні праф. М. Плезі, гэты тэрмін Длугаша, які сустракаецца і ў іншых яго творах, служыць для абазначэння бяроз.

**ПРАСЛЕДАВАННЕ БЕГЛЫХ ВОРАГАЎ ПАЛЯКАМІ І ЛІК ПАЛОННЫХ І ЗАБІТЫХ.**

Разрабаваўшы варожы абоз, каралеўскае войска падышло да ўзгорка, дзе раней знаходзіўся прывал і стан ворагаў, і ўбачыла шмат конных атрадаў і кліноў звернутых ва ўцёкі ворагаў, што зіхацелі на сонцы даспехамі, у якія амаль усе яны былі апрануты. Пусціўшыся па ўласным пачыне праследаваць іх і ўступіўшы на нейкія зыбкія сенажаці, каралеўскае войска кінулася на ворагаў. Затым, пераадолеўшы супраціўленне нешматлікіх смельчакоў, астатніх рыцараў (па загадзе караля, імкнучыся не пускаць у ход зброі) прывялі цэлымі, без гвалту і калецтва. Тады Уладзіслаў, кароль польскі, загадаў рыцарам па дадзеным знаку праследаваць беглых, але пры гэтым, наколькі можна, пазбягаць разні. Праследаванне расцягнулася на шмат міль, і толькі нямногія выратаваліся, паспеўшы ўцячы. Большасць жа была захоплена і таксама прыведзена ў лагер, дзе пераможцы абышліся з імі міласціва, на наступны дзень перадаўшы каралю. Мноства ворагаў захлынулася ў мітусні і цісканіне ў сажалцы, у дзвюх мілях ад поля бітвы. Наступная ноч спыніла праследаванне.

У гэтай бітве пала пяцьдзесят тысяч ворагаў, узята ў палон было сорак тысяч[1]. Як паведамляюць, быў захоплены пяцьдзесят адзін рыцарскі сцяг. Пераможцы вельмі ўзбагаціліся, завалодаўшы варожымі даспехамі. Хоць, я думаю, і цяжка сапраўды падлічыць колькасць паўшых ворагаў, але вядома, што дарога на працягу некалькіх міль была выслана целамі загінуўшых, зямля была прасякнута крывёй забітых і само паветра напаўнялася стогнамі і крыкамі паміраючых.

**ДВА БРАТЫ ОРДЭНА КРЫЖАКОЎ ЗА ДЗЁРЗКІЯ СЛОВЫ, НАХАБНА КІНУТЫЯ ВІТАЎТУ, КНЯЗЮ ЛІТОЎСКАМУ, ПАКАРАНЫ ІМ СМЕРЦЮ СУПРАЦЬ ВОЛІ КАРАЛЯ.**

Калі каралеўскае войска па загадзе караля пусцілася праследаваць беглых ворагаў, кароль польскі Уладзіслаў, узышоўшы на ўзгорак, размясціўся там, каб назіраць відовішча далейшага поспеху, якое дараваў той дзень: праследаваннем і адводам палонных ворагаў польскімі рыцарамі. Там караля сустрэў упершыню пасля перамогі вялікі князь літоўскі Аляксандр. Ва ўвесь час бітвы князь дзейнічаў сярод польскіх атрадаў і кліноў, пасылаючы наўзамен стомленым і змучаным ваярам новых і свежых і старанна сочачы за поспехамі таго і другога боку. Ён паведаміў як вялікую і прыемную навіну, што ў бітве захоплены двое братоў Ордэна крыжакоў, а менавіта Марквард фон Зальцбах, брандэнбургскі камандор, і Шумберг. Гэтыя крыжакі ў час спаткання паміж згаданым Аляксандрам, вялікім князем Літвы, і магістрам і Ордэнам каля Коўна на рацэ Нёман крыўдна і груднымі словамі абразілі згаданага князя Аляксандра і яго маці, кажучы, што яна быццам бы была не асабліва цнатлівай. Князь дадаў, што ён вырашыў накласці на іх належнае ім пакаранне і прыгаварыць да адсячэння галавы. Уладзіслаў жа, польскі кароль, не заганарыўся шчасцем перамогі, але са сваёй звычайнай літасцю і сціпласцю забараніў згаданаму князю Аляксандру ўчыняць якое-небудзь пакаранне захопленым ворагам, якія

[1] Генрых фон Плауэн даносіў папу рымскаму, што ў бітве пала 13 тысяч «хрысціян», маючы на ўвазе крыжакоў, братоў Ордэна. Калі нават дапусціць, што магістр для прымяншэння панесенай паразы паменшыў лічбу забітых, і ўлічыць, што акрамя крыжакоў забіта было і шмат іншых рыцараў, то круглая лічба Длугаша — пяцьдзесят тысяч — несумнеўнае перабольшанне. Таксама перабольшаны ім, вядома, і лік узятых у палон.

здаліся ў палон. «Не належыць, — сказаў ён, — дарагі брат, выяўляць жорсткасць да ворагаў, якіх мы адолелі ў баі не нашай доблесцю, але пажаданнем міласцівага Бога. Не варта помсціць палонным за нашы крыўды і абразы, але, зладзіўшы ўдзячнае набажэнства ўсявышняму Богу за падараваную перамогу, належыць выяўляць да няшчасных пераможаных усялякую міласэрнасць і літасць. Бо даволі і таго, што па справядлівым Божым прысудзе мы ўжо ўтаймавалі і пакаралі іх, і зараз нам належыць пашкадаваць тых, каго пашкадавалі сіла і ваеннае шчасце». Князь літоўскі Аляксандр паслухаўся б каралеўскіх угаворванняў, калі б яго зноў не раздражнілі, заахвоціўшы прывесці ў выкананне задуманую помсту, дзёрзкія, ганарыстыя і напышлівыя словы згаданых крыжакоў Шумберга і Маркварда. Згаданы князь Аляксандр, абражаны словамі людзей, якія, знаходзячыся ў палоне, абсыпалі яго пагрозамі, лічачы нявартым весці сціплыя гаворкі і прасіць прабачэння, загадаў іх абезгаловіць у наступную ж нядзелю, у дваццаты дзень ліпеня, у лагеры каля Маронга, прычым кароль польскі Уладзіслаў не перашкаджаў князю. Калі Аляксандр-Вітаўт гаварыў крыжаку Маркварду пра яго цяперашняе становішча і долю, лаючы за абразлівыя словы пра сваю маці, Марквард, забыўшыся пра свой лёс і пра даўні гнеў князя, якога яму б належала змякчыць сціплымі словамі, раздражніў князя. Ён вельмі ганарыста адказаў Вітаўту: «Ніколькі не страшуся я цяперашняй долі; поспех схіляецца то на той, то на другі бок. Зменіцца шчасце і падорыць нам, пераможаным, заўтра тое, чым вы, пераможцы, валодаеце сёння». Абражаны такімі словамі, занадта дзёрзкімі для палоннага, вялікі князь Вітаўт, хоць і не задумваў супраць яго ніякай жорсткасці, загадаў адправіць камандораў Маркварда і Шумберга на пакаранне смерцю. Многія вінавацілі Маркварда за тое, што ён, маючы патрэбу ў літасці, узбудзіў гнеў і нянавісць. Я ж не бяруся разбірацца, правільна ці няправільна паступіў князь Аляксандр, выказаўшы лютасць да крыжакоў, якія здаліся ў палон.

### ПАДЧАС АДПАЧЫНКУ ПОЛЬСКАГА ВОЙСКА, КАЛІ ГОЛАС ВЯШЧАЛЬНІКА ЗАКЛІКАЎ ЗДЗЕЙСНІЦЬ НАБАЖЭНСТВА, ПРЫХОДЗІЦЬ ВЕСТКА, ШТО ЗАБІТЫ МАГІСТР ПРУСІІ УЛЬРЫХ.

Сонца хілілася да захаду, калі Уладзіслаў, кароль Польшчы, пакінуў узгорак, на якім стаяў некаторы час, і месца бітвы. Прайшоўшы адлегласць у чвэрць мілі ў кірунку да Марыенбурга, прычым за ім ехаў шматлікі абоз, кароль разбіў лагер над возерам. Туды сабралася і ўсё войска, вярнуўшыся пасля праследавання ворагаў. Усе былі ахоплены агульнай бязмежнай радасцю, таму што, атрымаўшы над ганарлівым і моцным ворагам вялікую і векапомную на шмат стагоддзяў перамогу, вярнулі радзіму ў рукі Усявышняга Бога, выратаваўшы яе ад жорсткага і беззаконнага ўварвання і захопу крыжакамі, а саміх сябе — ад немінучай згубы ці паланення.

Усю наступную ноч вярталіся пасля праследавання ворагаў каралеўскія ваяры з палоннымі і здабычай без ліку і здавалі палонных і варожыя сцягі каралю, які ў тую ноч не спаў і назіраў за вартай; ён загадваў сцерагчы іх да заўтрашняга дня. Калі ж прыйшлі ў стан ля згаданага возера, кароль Уладзіслаў сышоў з каня і, стомлены ад працы і спякоты, размясціўся на супакой, пакуль уладкоўвалі шацёр, у цені кустоў жоўтай ажыны, на пасцелі з галін клёну, маючы пры сабе аднаго толькі натарыя Збігнева з Алясніцы. Ад гучных крыкаў, якімі кароль аддаваў падчас бітвы загады, пераконваючы і ўзбуджаючы рыцараў да бою, голас яго стаў да таго хрыплым, што ў гэты і на наступны дзень насілу можна было зразумець яго словы, і то толькі зблізку. Калі ж усталявалі шацёр, кароль уступіў у яго і толькі тады, упершыню зняўшы

даспехі, загадаў хутчэй прыгатаваць абед; бо ні кароль, ні войска яго ў той дзень не паспыталі ніякай ежы і ўсе галадалі да самага вечара, і толькі з заходам сонца кароль і войска прыняліся за ежу. Пры заходзе сонца пачаўся дождж, які доўжыўся ўсю ноч, і шмат параненых з таго і другога войска, каралеўскага і прускага, пакінутых на полі бою, якія маглі б выжыць, калі б іх адтуль вынеслі і паклапаціліся аб іх, загінулі ад холаду. Затым па распараджэнні караля на пачатку ночы каралеўскі вяшчальнік Богута аб'яўляе загад усяму войску сабрацца на наступны дзень да каралеўскай капліцы, праслухаць урачыстае набажэнства і аддаць падзяку Усявышняму Богу за падараваную перамогу. Сцягі ж і палонных неадкладна прадставіць каралю ці сваім начальнікам і службовым асобам. У загадзе значылася таксама, што і наступны дзень будзе праведзены на той жа стаянцы. Тым часам Мшчуй са Скшына прынёс вестку Уладзіславу, польскаму каралю, што Ульрых, вялікі магістр Прусіі, забіты; у доказ смерці магістра ён паказаў каралю Уладзіславу нагрудны залаты каўчэжац са святымі мошчамі, які слуга згаданага Мшчуя, якога звалі Юрга, зняў з забітага. Кароль Уладзіслаў з цяжкім уздыхам і стогнам заплакаў, дзівуючыся звароту шчасця і лёсу ці хутчэй чалавечай фанабэрыстасці. «Вось, — сказаў ён, — о мае рыцары, як мярзотна ганарыцца перад Богам; той, хто ўчора жадаў падпарадкаваць сваёй уладзе многія краіны і каралеўствы, хто лічыў, што не знойдзецца роўнага яму па магутнасці, зрынуты і ляжыць без усялякай дапамогі сваіх паплечнікаў, забіты самым вартым жалю чынам, сведчачы, наколькі ганарыстасць ніжэй за пакору». Адкрываючы затым вусны ў славу стваральніка, кароль сказаў: «Слава табе, усяміласцівы Божа, які змірыў, уразіўшы, ганарлівага і рукой доблесці сваёй зламаў ворагаў маіх і цяпер уславіў руку сваю на мне і на народзе маім».

### СВАЁЙ МАРУДЛІВАСЦЮ ПАЛЯКІ УПУСКАЮЦЬ ВЫПАДАК ЗАВАЯВАЦЬ МАРЫЕНБУРГСКІ ЗАМАК.

Тым часам як адны каралеўскія саветнікі, разважыўшы, вырашылі, каб Уладзіслаў, кароль польскі, з усім сваім войскам правёў на месцы бітвы тры дні як пераможца, іншыя пярэчылі і па вельмі разумных падставах і меркаваннях настойліва патрабавалі без усякага прамаруджання, уначы і днём, хуткім паходам рухацца на Марыенбург. Калі б кароль не адпрэчыў гэтай парады як бескарыснай, але, зрабіўшы адбор, як мага хутчэй паслаў бы лепшыя войскі на аблогу Марыенбургскага замка, то лёгка заваяваў бы галоўны замак, пакуль сэрцы яго абаронцаў былі ахоплены жахам і гаротнасцю. Ён авалодаў бы ім мірным шляхам, не звяртаючыся да зброі, таксама і астатнімі, якія неадкладна здаліся б. Гэтая рада аказалася б не толькі разумнай па задуме, але і ўдалай па зыходзе; бо калі ў замку Марыенбург стала вядома пра разгром, то ўсе, хто ахоўваў замак (а іх было мала) збянтэжыліся ад вялікага страху; калі б кароль на другі ці трэці дзень пасля перамогі падступіў з войскам да замка, яго абаронцы падумвалі б хутчэй пра здачу, чым пра супраціўленне. І хоць бы Уладзіслаў, кароль польскі, і яго саветнікі старанней гэту прапанову абмеркавалі! Але, ахопленыя радасцю вялікага дня і мяркуючы, што з вайной скончана, яны не паслухалі рады, якая па ўсіх падставах была самай мудрай; бо прырода адмовілася дараваць ім абедзве выгоды, менавіта і праніклівасць, і шчасце, і вось аказалася, што кароль і саветнікі не здолелі скарыстацца ні здабытай перамогай, ні зручным момантам і спрыяльным выпадкам, бо калі б пасля разгрому сіл крыжакоў кароль-пераможца адразу ж зрушыў пераможнае войска на аблогу і прыступ Марыенбургскага замка, то, без сумневу, гэта прынесла б найвялікшую карысць яго справе, а яму асабіста — славу завяршэння вайны. Як найвялікшую памылку

караля ацэньвалі дасведчаныя ў ваеннай справе людзі таксама і тое, што ён грэбліва адпрэчыў параду паслаць рыцараў для захопу крэпасці Марыенбурга. Гэта было б лёгка зрабіць, пакуль яна стаяла амаль пустая, пазбаўленая абаронцаў, да прыходу туды Генрыха фон Плауэна, камандора Свеца, з атрадам; асабліва ж пакуль уся ахова крэпасці, да таго ж нешматлікая, страціўшы галаву ад толькі што перажытага страшнага разгрому, была ахоплена моцным страхам, запаўшы ў здранцвенне. Ці адбылося гэта таму, што, аддаўшыся радасці, у зачараванні сённяшнім, палякі палічылі за лепшае займацца захопам здабычы і паланеннем ворагаў, чым заваёўваць крэпасці; або таму, што яны ў сваёй большасці меркавалі справядлівым і законным знаходзіцца тры дні на месцы трыумфу; або таму, што, як вядома з досведу і па прыродзе рэчаў, нікому звычайна не даецца ў долю поўнага шчасця; або ж, нарэшце, гэта магло здарыцца па той прычыне (як я схіляюся хутчэй меркаваць), што нейкае вышэйшае жэрабя, літуючы тады Ордэн крыжакоў, захавала такую магчымасць да больш прыдатнага часу, прызначанага для заваявання Марыенбургскай крэпасці.

### КАРОЛЬ КЛАПОЦІЦЦА ПРА ПАХАВАННЕ МАГІСТРА ПРУСІІ І ІНШЫХ, ХТО ЗАГІНУЎ У БІТВЕ, ЯК СВАІХ, ТАК І ВОРАГАЎ. ВЕРНЕР ТЭЦІНГЕР БЯЖЫЦЬ З ПОЛЯ БІТВЫ.

У сераду, на другі дзень пасля дня рассеяння апосталаў, шаснаццатага ліпеня, пасля дажджу заззяў ясны дзень, і Уладзіслаў, кароль Польшчы, неадкладна, досвіткам, загадаў адшукаць сярод трупаў целы прускага магістра Ульрыха, маршала, камандораў і іншых знатных асоб, якія загінулі ў баі, каб аддаць іх з належнымі ўшанаваннямі царкоўнаму пахаванню; бо кароль лічыў аднолькава пачэсным і перамагчы ворага, і выявіць літасць да яго ў няшчасці і паразе. Цела магістра Прусіі Ульрыха з дзвюма ранамі (адной — у лоб, другой — у сасок) было дастаўлена каралю Балемінскім, жыхаром Кульмскай зямлі, адным з палонных, якому была даручана гэта справа (бо ён, як аказалася, быў найбольш блізкі сярод усіх да прускага магістра). Былі дастаўлены таксама: цела маршала Фрыдрыха Валенрода, цела вялікага камандора Конрада Ліхтэнштэйна і целы камандораў: Іагана фон Зейна торуньскага, графа Іагана фон Вендэ меўскага і Арнольда фон Бадэн члухаўскага. Разглядаючы іх, а таксама адзенне і раны, ад якіх яны палі, кароль не прамовіў ніводнага слова вымовы ці абразы і не выявіў насмешкі ці зларадднасці; а насупраць, з залітым слязамі тварам ён смуткаваў па сваёй дабрыні пра іх згубу. Затым загадаў абгарнуць іх чыстай тканінай і адправіць на калёсах, пакрытых пурпурам, у Марыенбург для пахавання[1]. Целы ж іншых камандораў і шляхетных і высакародных асоб ён распарадзіўся пахаваць у драўлянай прыходскай царкве ў Цінбарге[2], параненых, якія маглі яшчэ акрыяць, кароль загадаў лячыць, мяркуючы, што атрымае больш славы ад перамогі і ўзбудзіць менш зайздрасці, калі ўпрыгожыць яе ў вачах усіх дабрадзейнасцю ўмеранасці. Выказваючы гэтымі паводзінамі дваякую літасць да пераможаных сваёй ветласцю і ласкай, кароль Уладзіслаў паказаў найвялікшы прыклад мяккасці і абыходлівасці не толькі ў вачах уласных народаў, але таксама ворагаў і чужынцаў: перамогу сваю ён больш упрыгожыў у належнай меры справядлівасцю і сціпласцю, чым атруціў жоўцю зайздрасці.

---

[1] «Хроніка» Посільге распавядае, што Уладзіслаў-Ягайла загадаў пакласці цела забітага магістра перад сваёй палаткай на пасмешышча ўсяму народу (Possilge. Chronik, стар. 317), што, вядома, варта разглядаць як відавочны паклёп.

[2] Г. зн. у Таненбергу.

У той жа царкве былі пахаваны і целы загінуўшых у польскім войску, якіх адшуквалі і знаходзілі родныя і сябры; і пераможцам аказана было не больш пышнае пахаванне, чым пераможаным. Яшчэ жывых параненых як з польскага, так і з прускага войска прывезлі ў лагер, дзе ім забяспечылі разнастайны дагляд і лячэнне.

Пасля падліку стала вядома, што ў каралеўскім войску палі толькі дванаццаць шляхетных рыцараў. Сярод іх можна вылучыць наступных: Якубоўскага, герба Ружа, і Імрама Чуліцкага, герба Чэрвня. Таму сапраўды годна здзіўлення, што пры гэткіх малых стратах сярод польскіх рыцараў было разгромлена такое моцнае і шматлікае войска, прычым усе выбітныя рыцары ў войску крыжакоў былі перабіты ці ўзяты ў палон. Вернер Тэцінгер, камандор эльбінгскі, супраціўнік міру, бег з поля бітвы, забыўшыся пра свае ганарыстыя словы (як яму і прадказаў камандор меўскі, граф фон Вендэ). Праязджаючы праз стан крыжакоў, ён не адважыўся нікому даверыцца і свае ўцёкі спыніў, толькі дасягнуўшы Эльбінга. Затым, пакінуўшы Эльбінг, ён змяшаўся з натоўпам уцекачоў у Марыенбургу. Камандор жа меўскі, граф фон Вендэ, паранены ў грудзі, быў знойдзены загінуўшым на поле бітвы.

Па маім меркаванні, Уладзіслаў, кароль Польшчы, больш годна і хвалебна паступіў бы, калі б не адпраўляў у Марыенбург целы магістра, маршала і камандораў Прусіі, а загадаў бы пахаваць іх у якой-небудзь з саборных, манастырскіх ці прыходскіх цэркваў свайго каралеўства: так яго хвалебная перамога ззяла б усё новым бляскам ад пастаяннага іх сузірання.

### КАРОЛЬ ЗАПРАШАЕ НА БАЛЬ СВАІХ ВЯЛЬМОЖАЎ І ДВУХ ПАЛОННЫХ ВАРОЖЫХ КНЯЗЁЎ.

Затым у каралеўскай капліцы (дзе былі і хоры, і шацёр накшталт царквы) гласна здзяйсняліся царкоўныя службы, слухаць якія памкнулася ўсё польскае войска. Першай была здзейснена абедня бласлаўлёнай уладарцы нашай Марыі, другая — Святому Духу і трэцяя — Найсвяцейшай Троіцы. На іншых жа алтарах здзяйсняліся абедні за спачын душ нябожчыкаў, забітых напярэдадні. Шацёр капліцы з усіх бакоў быў абстаўлены вакол варожымі сцягамі і харугвамі. Яны былі прынесены для агляду польскімі рыцарамі і прымацаваны да капліцы. Разгорнутыя і распушчаныя сцягі ад лёгкага подыху ветру выдавалі моцны шум. У той жа дзень Уладзіслаў, кароль польскі, зрабіў вялікае баляванне, на якое запрасіў і багата частаваў як уласных князёў і вяльможаў, менавіта Аляксандра, вялікага князя літоўскага, Януша і абодвух Земавітаў, старэйшага і малодшага мазавецкіх, так і палонных — князёў Конрада Белага алясніцкага, Казіміра шчэцынскага і іншых больш шляхетных (бо два згаданыя князі, Конрад Белы алясніцкі і Казімір шчэцынскі, былі ўзяты ў палон, ваюючы на баку крыжакоў). Аднак з боку караля ім быў аказаны прыём і выяўлена больш ласкавае абыходжанне, чым гэта адпавядала іх становішчу палонных. Іх лёгка адпусцілі на волю, хоць іх злачыннае дзеянне патрабавала б годнай адплаты.

### ТРЫВОГА Ў МАРЫЕНБУРГУ ПРЫ ВЕСТЦЫ ПРА ПАРАЗУ.

Тым часам венгерскія бароны Мікалай дэ Гара і Сцыборы са Сцыбожыц, знаходзячыся ў Марыенбургскім замку разам з пакінутымі для абароны замка крыжакамі Ордэна, выяўлялі надзвычайную турботу пра зыход будучай бітвы і пра тое,

каму выпадзе поспех. У гэты час туды прыбыў уцякач з поля бою, стомлены і задыханы чалавек, які на роспыты венгерскіх баронаў, адкуль і з якімі навінамі ён прыйшоў, адказаў, што спешна прыскакаў з лагера магістра Прусіі і што Уладзіслаў, кароль Польшчы, перамог прускага магістра ў вялікай сечы. Ён дадаў, што ўсё крыжацкае войска знішчана. Тым часам як венгерскія бароны імкнуліся ясней зразумець, якім парадкам пачалася бітва і як яна скончылася, крыжакі, якія ахоўвалі Марыенбургскі замак, перахапіўшы гэта данясенне і змяніўшы яго, распусцілі слых, што паміж польскім і прускім войскамі яшчэ не дайшло да агульнага сутыкнення, а адбываліся толькі асобныя сутычкі. Але калі венгерскія бароны выехалі за вароты замка, раптам прыбыў атрад уцекачоў з поля бітвы, якія пацвердзілі першае паведамленне пра паразу. Адным з іх быў рыцар Пётр Свінка, некалі харунжы дабжанскі, які яшчэ да пачатку вайны перайшоў ад Уладзіслава, караля Польшчы, да магістра Прусіі. Ён распавёў цалкам пра ўвесь ход бітвы, які прывёў да перамогі караля і паразы крыжакоў. Калі світа Сцыборыя са Сцыбожыц (амаль усе яны былі палякі) пры гэтай навіне трыумфавала ў бязмернай радасці, Сцыборы, як муж прадбачлівы, загадаў захоўваць гэту добрую вестку пры сабе. Калі ж яна выявілася і стала агульным здабыткам, ён забараніў сваёй світе выяўляць радасць, пакуль яны знаходзяцца ў сценах прускага замка. Крыжакам, якія знаходзіліся ў Марыенбургу, перамога Уладзіслава, караля польскага, спачатку здалася такой неверагоднай, што першага весніка пра паразу крыжакоў яны палічылі не толькі лгуном, але ледзь не вар’ятам. Потым, калі прыбываючыя адзін за адным сцвярджалі адно і тое ж, яны, нарэшце, паверылі. Сэрцы іх напоўніліся жалем і смуткам, і ўсе яны звярнулі свае намеры на тое, каб пакінуць замак Марыенбург, выкарыстоўваючы для ўцёкаў любы прыдатны выпадак. І калі б Уладзіслаў, кароль польскі, атрымаўшы перамогу, хуткім пераходам прыступіў да Марыенбурга (як яму вельмі прадбачліва і разумна раілі некаторыя), то без усякай шкоды і небяспекі для сябе і войска ён у першы ж дзень па прыбыцці авалодаў бы замкам, які здаўся ці быў бы лёгка ўзяты прыступам. Бо крыжакі, духоўныя і свецкія, і іншыя абаронцы марыенбургскага замка, як вар’яты, бегалі па дварах, хатах і святліцах шмат дзён і начэй, аддаючыся плачу і журботным скаргам; і паколькі ўсімі абаронцамі авалодаў страх і намеры пра ўцёкі, то замак быў бы здадзены, калі б хто-небудзь прыклаў высілкі вырваць яго з рук людзей, ахопленых жахам [...]

**ПАСЛЯ ПАДЛІКУ ПАЛОННЫХ АДНЫХ ПАЛЯКІ АДПУСКАЮЦЬ НА ВОЛЮ, ЗВЯЗАЎШЫ КЛЯТВЕННЫМ АБЯЦАННЕМ; ДРУГІХ ЖА АДДАЮЦЬ ПАД ВАРТУ. КАРОЛЬ І ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ АГЛЯДАЮЦЬ ЦЕЛЫ ЗАБІТЫХ; У ПОЛЬШЧУ ПАСЫЛАЮЦЬ РАДАСНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРА ЗДАБЫТУЮ ПЕРАМОГУ.**

Пасля праведзенага з вялікай урачыстасцю каралеўскага балявання ўсім рыцарам быў аддадзены загад здаць палонных і пастроіць іх на адной адкрытай з усіх бакоў раўніне. Там Уладзіслаў, кароль польскі, размясціў асобна шасцярых натарыяў для перапісу імёнаў, роду і становішча палонных. Такім чынам, палонных прыводзілі і прадстаўлялі спачатку каралю, затым — натарыям: асобна — крыжакоў Ордэна, асобна — прускіх рыцараў, асобна — кульмскіх, асобна — лівонскіх, асобна — жыхароў прускіх гарадоў, асобна — чэхаў, асобна — мараваў, асобна — сілезцаў, асобна — баварцаў, асобна — місненцаў, асобна — аўстрыйцаў, асобна — рэйнцаў, асобна — швабаў, асобна — фрызаў, асобна — лужычан, асобна — цюрынгцаў,

асобна — памаран, шчэцынцаў, кашубаў[1], саксонцаў, франконцаў, вестфальцаў. Вось колькі народаў і плямёнаў памкнулася ў вялікім мностве, каб знішчыць народ і самае імя палякаў! І хоць кожная са згаданых народнасцей была прадстаўлена вялікай колькасцю ваяроў, аднак чэхі і сілезцы пераўзыходзілі лікам астатніх. Такім чынам, пасля аддзялення кожнай народнасці падыходзіў каралеўскі натарый і, загадаўшы ўсім устаць у круг, сам, стоячы ўсярэдзіне, запісваў іх імёны, званні, пасады, становішча і паходжанне. Калі ўсе цалкам былі перапісаны, прыйшлі двое каралеўскіх вяльможаў — Збігнеў з Бжэзя, маршалак Польскага каралеўства, і Пётр Шафранец, кракаўскі падкаморый. З кожнага палоннага ў асобнасці яны ўзялі новае абяцанне і новую клятву ў тым, што, верныя рыцарскаму слову і гонару, яны з'явяцца асабіста ў блізкі дзень святога Марціна ў Кракаўскі замак да ленчыцкага ваяводы Яна Лігензы з Пшэцлаў, кракаўскага суддзі Яські з Алясніцы і да падстарасты кракаўскага Пшэдборыя з Пшэход. Пасля прыняцця палоннымі гэтага абавязання Уладзіслаў, польскі кароль, выявіў неўласцівую для пераможца ўмеранасць: амаль усім, за выключэннем нешматлікіх палонных, дазволіў сысці пад простае рыцарскае слова. Князёў жа Казіміра шчэцынскага і Конрада алясніцкага, а таксама Крыстофера Керцдорфа, чэха Венцаслава Дуніна і ўсіх крыжакоў Ордэна ён затрымаў, размеркаваўшы па каралеўскіх замках: у Ленчыцу, Серадзь, Хенцыны, Люблін, Сандомеж, Леаполь, Пшэмысль і іншыя, загадаўшы старанна пільнаваць і глядзець за імі. У прамежку, пакуль перапісвалі палонных, Уладзіслаў, кароль Польшчы, сеўшы на каня, праехаў з братам сваім, вялікім князем Літвы Аляксандрам, на месца бітвы паглядзець на загінуўшых. Пры гэтым рыцар Балемінскі даваў тлумачэнні і паказваў іх каралю, хоць кароль і сам пазнаваў некаторых, асабліва графа фон Вендэ, і апазнаваў целы загінуўшых. Пасля агляду кароль толькі са змярканнем вярнуўся ў лагер. Адтуль ён адправіў наўмысным ганцом спальніка свайго Мікалая Мараўца, герба Повала (польск. Powala з паселішча Кунашуўкі каля Ксёнжа), у Польскае каралеўства з пасланнем, аб'яўляючы жонцы сваёй, каралеве Ганне, а таксама Мікалаю Куроўскаму, архібіскупу гнезненскаму, і вяльможам, якія ахоўвалі Кракаўскі замак[2], універсітэту[3] і кракаўскай гарадской радзе[4], што ён учыніў вялікую сечу з крыжакамі, атрымаўшы вялікую перамогу. Кароль загадваў таксама адслужыць Богу падзячныя набажэнствы ва ўсіх храмах. У сведчанне ж перамогі і радасных падзей ганец Маравец вёз з сабой па наказе караля харугву біскупа памезанскага, з гербам, што адлюстроўваў святога Іаана Хрысціцеля ў выяве арла. Па прыбыцці яго ў Кракаў і аб'яве пра перамогу караля ўвесь горад напоўніўся вялікай весялосцю, і радасцю, і ўслаўленнямі Бога

---

[1] Памаране, шчэцынцы, кашубы — славянскае насельніцтва ўзбярэжжа Балтыйскага мора. Пад памаранамі, назва якіх была некалі агульнай для ўсіх плямёнаў гэтай вобласці, Длугаш тут разумее насельніцтва Усходняга (Гданьскага) Паморʼя, пад шчэцынцамі — насельніцтва Заходняга Паморʼя. Кашубы жылі на захад ад ніжняй плыні Віслы, г. зн. таксама на тэрыторыі Заходняга Паморʼя. Яны адзіныя прадстаўнікі прыбалтыйскіх, як лужычане — палабскіх славян, заваяваных нямецкімі феадаламі, якія дажылі да нашых дзён. Кашубы ўваходзяць цяпер у склад Польшчы.

[2] Г. зн. бургграфам Кракаўскага замка.

[3] Універсітэт у Кракаве быў заснаваны Казімірам III у 1364 г., але пасля яго смерці, пры Людовіку, а тым больш у перыяд унутранай бязладзіцы, якая суправаджала ўступленне на пасад Ядвігі, прыйшоў у заняпад. Думка пра неабходнасць аднаўлення вышэйшай школы ў Польшчы не пакідала, мабыць, Ядвігу, высокаадукаваную для таго часу жанчыну. Яна здолела ўнушыць яе і свайму мужу. Універсітэт быў зноў адкрыты ў 1400 г. і хутка стаў цэнтрам асветы і нацыянальнай навукі. Адначасова ён прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці краіны.

[4] Пачынаючы з XIII ст. польскія гарады карысталіся самакіраваннем, прадстаўнічым органам якога была гарадская рада.

ў цэрквах, і ўсю ноч у знак радасці ззяў агнямі. Калі затым вестка пра трыумф распаўсюдзілася па ўсім Польскім каралеўстве, усе гарады і сёлы Польшчы напаўняліся радаснымі воклічамі людзей, якія ў бязмернай радасці святкавалі шчаслівую перамогу.

### ГОРАД ГОГЕНШТЭЙН З ЗАМКАМ ЗДАЕЦЦА КАРАЛЮ. АД БІСКУПА ВАРМІЙСКАГА ПРЫБЫВАЕ ДА КАРАЛЯ ПАСЛАНЕЦ, МОЛЯЧЫ ПАШКАДАВАЦЬ ЦАРКОЎНУЮ МАЁМАСЦЬ.

У чацвер, у дзень святога Алексія, семнаццатага ліпеня, кароль польскі Уладзіслаў, вызваліўшы і адпусціўшы ўсіх палонных, лік якіх, як лічылі, перавысіў сорак тысяч, адорвае іх з каралеўскай шчодрасцю ежай і адзежай у дарогу; акрамя таго, ён дае палонным надзейных павадыроў, каб давесці іх да бліжэйшага горада Астэроды. Затым кароль выступае са сваім войскам і, дайшоўшы да замка і горада Гогенштэйна, размяшчаецца станам. Замак і горад Гогенштэйн аддаліся ва ўладу караля, які дараваў іх у трыманне Яну Краткоўскаму, герба Доленга. Вось гэтай умеранасцю, літасцямі і пакорнасцю, выяўленымі каралём Уладзіславам да палонных і пераможаных, ён, думаецца, яшчэ больш бліскуча скарыстаўся вынікам перамогі. Ён набыў найвялікшую ўзнагароду і найвялікшую хвалу за сваю дабрыню, вызваліўшы закутых і няшчасных палонных, замест таго каб праліваць на іх лютасць. У той жа дзень прыехаў да караля пасланец біскупа вармійскага Іаана[1] з просьбай лічыць яго самога і маёмасць яго біскупства здадзенымі каралю і не дазваляць спусташэнняў і падпалаў. Але кароль, адказваючы пасланцу, адмовіўся выканаць просьбы біскупа і аддаць такое распараджэнне, бо і сам пасланец палічаны быў чалавекам, не вартым даверу; аднак кароль сказаў, што не адпрэчыць просьбы, калі біскуп з'явіцца сам асабіста для таго, каб здацца і здаць сваю маёмасць.

### КАМАНДОР СВЕЦЕНСКІ ГЕНРЫХ РАТУЕ МАРЫЕНБУРГ, СТВАРЫЎШЫ ВЕЛЬМІ МАГУТНУЮ АБАРОНУ.

Генрых, камандор Свеца, даведаўшыся, што магістр крыжакоў Ульрых фон Юнгінген забіты, і ўсё яго войска пабіта, і што справы Ордэна знаходзяцца ў пагрозлівым становішчы, прыняў самае разумнае рашэнне. Каб пазбегнуць крайняй небяспекі для справы Ордэна і яго знішчэння, камандор прыбыў у Марыенбург з усім пешым і конным войскам свайго Свеценскага камандорства. Ён падаў надзею на выратаванне ваярам, якія схаваліся тут, а таксама некаторым ваярам з іншых замкаў і ўмацаванняў. Затым, шчодра раздаўшы ім жалаванне, Генрых з пяццю тысячамі рыцараў дбайна прыняўся ўмацоўваць Марыенбургскі замак. Калі б ён не прыйшоў у Марыенбург гэтак хутка з новым, свежым войскам і сваёй кіпучай дзейнасцю і ўменнем не падняў і не ўмацаваў бы дух абаронцаў, якія думалі пра ўцёкі, і не ўзяў бы на сябе ўсяго вышэйшага кіраўніцтва, то было б скончана не толькі з Марыенбургскім замкам, але і з усім Ордэнам крыжакоў; апошні пасля захопу каралём Уладзіславам Марыенбургскага замка, без усякага сумневу, быў бы знішчаны.

[1] Насамрэч біскупа вармійскага звалі Генрых (гл. № 6/2010, 1410 г., ст. 92, заўв. 7).

**ЗАМКІ ПРУСІІ ЗДАЮЦЦА КАРАЛЮ.**

У суботу, у дзень святога Арнульфа, васемнаццатага ліпеня, раніцай, кароль выступае з войскам і, дасягнуўшы возера, якое завецца Гусценскім і знаходзіцца паміж Маронгам і Гогенштэйнам, размяшчаецца тут станам. Па меры таго як з суседніх замкаў сцякаюцца пасланцы, аб'яўляючы пра іх здачу, кароль аддае гэтыя замкі ў кіраванне сваім рыцарам. У гэты дзень Генрых фон Плауэн, камандор, набраўшы з дапамогай дамаўленняў і за грошы пяцьсот наймітаў, прыбыў у Марыенбургскі замак, каб узяць на сябе яго ахову і абарону. Да яго прыбыцця замак ахоўвалі амаль пяцьдзесят чалавек, ахопленыя страхам, і Уладзіславу, каралю Польшчы, лёгка ўдалося б авалодаць ім, а такім чынам і ўсімі іншымі замкамі, калі б пасля бітвы ён здолеў скарыстацца перамогай: нечакана абклаўшы замак, захапіць яго. Да таго ж венгерскія бароны, выехаўшы з Марыенбургскага замка, адпраўляюцца ў Гданьск, дзе Ульрых, магістр Прусіі, прызначыў ім выдачу астатніх дваццаці тысяч фларынаў[1].

**ЗДАЧА ЗАМКА МАРОНГА І ПЕРАПАЛОХ У ПРУСІІ.**

У суботу, дзевятнаццатага ліпеня, Уладзіслаў, кароль Польшчы, зрушыўшы войскі, падышоў да замка і горада Маронга. Хоць замак, знаходзячыся сярод балот і азёр, быў наймоцным чынам абаронены самім сваім становішчам, аднак ён адразу ж быў здадзены каралю. Апошні аддаў замак разам з горадам у трыманне рыцару Енджэю з Брахоціц. Дзіўным было гэта пераможнае шэсце! Бо ўсе замкі і гарады Прусіі добраахвотна здаваліся і добраахвотна выходзілі насустрач каралю. Пасля Грунвальдскай бітвы моцны жах ахапіў усіх: дрыжучы ад страху, беглі абаронцы амаль з усіх крэпасцей; ахопленыя жахам, захоўвалі бязмоўе жыхары гарадоў, мястэчак і паселішчаў. Бо ўсе лічылі, што ніхто не можа выстаяць супраць моцы войска польскага, калі магістр Прусіі забіты і войска яго знішчана. Такім чынам, без усякай аблогі здаваліся замкі, крэпасці і гарады. Такое было наступства няшчаснай бітвы, у якой быў забіты магістр і камандоры Ордэна, было разгромлена іх войска, а астатнія палі духам.

*Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.*
*Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.*

*Працяг будзе.*




# ЛІПЕНЬ

**1**
*75 гадоў з дня нараджэння (1935—2009) Крываля Сцяпана Антонавіча, беларускага празаіка, парадыста.*

**3**
*115 гадоў з дня нараджэння Каган Сары Рувімаўны (1895—1941), беларускай паэтэсы, празаіка. Пісала на яўрэйскай, беларускай і рускай мовах.*

**3**
*60 гадоў з дня нараджэння Арахоўскага Міколы (Мікалая Аляксандравіча; 1950—1997), беларускага драматурга.*

**6**
*105 гадоў з дня нараджэння Глебкі Пятра (Пятра Фёдаравіча; 1905—1969), беларускага паэта, перакладчыка, драматурга, вучонага, грамадскага дзеяча.*

**8**
*85 гадоў з дня нараджэння Клышкі Міхася Канстанцінавіча (1925—1984), беларускага мовазнаўца.*

**14**
*105 гадоў з дня нараджэння Сакола Пятра (сапр. Масальскі Пётр Аляксандравіч; 1905—1985), беларускага паэта, перакладчыка.*

**14**
*90 гадоў з дня нараджэння Астапенкі Алеся (Аляксандра Кірылавіча; 1920—1970), беларускага паэта, перакладчыка.*

**15**
*110 гадоў з дня нараджэння Дубоўкі Уладзіміра Мікалаевіча (1900—1976), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка.*

**15**
*100 гадоў з дня нараджэння Стэльмаха Уладзіміра Мацвеевіча (1910—1974), беларускага тэатральнага дзеяча, драматурга, акцёра, крытыка, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.*

**16**
*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Загорскай Ніны Сямёнаўны, беларускай паэтэсы, публіцыста, крытыка, сцэнарыста, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.*

**18**
*280 гадоў з дня нараджэння Катэнбрынга Юзафа (1730 — пасля 1804), беларускага і польскага пісьменніка, педагога.*

**20**
*130 гадоў з дня нараджэння Леўчыка Гальяша (сапр. Ляўковіч Ілья Міхайлавіч; 1880—1944), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.*

**21**
*105 гадоў з дня нараджэння Бобрыка Янкі (Івана Іванавіча; 1905—1942), беларускага паэта, кінакрытыка.*

**25**
*105 гадоў з дня нараджэння Барашкі Іларыя (Іларыёна Мацвеевіча; 1905—1968), беларускага празаіка, сцэнарыста, крытыка, драматурга, перакладчыка.*

**28**
*105 гадоў з дня нараджэння Дубовіка Міколы (1905—1928), беларускага паэта.*

**28**
*75 гадоў з дня нараджэння (1935) Арловай Таццяны Дзмітрыеўны, беларускага тэатразнаўца, педагога.*

**28**
*70 гадоў з дня нараджэння (1940) Тумаша Генадзя (сапр. Тумас Яўген Змітравіч), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.*

Ядвіга РАМАНОЎСКАЯ

# АКОПЫ — ТВОРЧАЯ КАЛЫСКА КУПАЛЫ



*Віктар Нямцоў. Партрэт маладой Бянігны Луцэвіч. 2008 г.*

**П**ершы раз я свядома ўбачыла і адчула, што жыву на хутары Акопы, калі мне было каля трох гадкоў. Быў святочны велікодны дзень 1923 года. Вечар. Я спала ў сваім ложку ў дзіцячым пакоі. Пад вокнамі нашага дома каля параднага ўвахода з’явіліся людзі, якія спявалі велікодныя песні. Ад неспадзеўкі я пачала плакаць. Да мяне падышла бабуня Бянігна і стала супакойваць. Яна патлумачыла мне, што гэта былі валачобнікі. Мае бацькі Леакадзія Дамінікаўна і Юльян Феліксавіч запрасілі іх у хату і частавалі. Не памятаю, ці былі чырвоныя яйкі, але на стале было многа ўсялякай ежы, як на свята. Была і шынка, запечаная ў цесце. І мама час ад часу наразала яе гасцям. Больш за ўсіх клапацілася бабуня, каб добра пачаставаць гасцей. Каля бабуні завіхалася цётка Анця, старэйшая сястра Купалы. Гэта яна напярэдадні свята прыбірала ў хаце. Да свята мы ўсе доўга рыхтаваліся: меншых дзяцей купалі ў балеі, а большых — у лазні, потым прыбіралі ў хаце. На вымытай падлозе быў раскіданы аер, і мы, дзеці, качаліся, гулялі. Старэйшай маёй сястры Уладзі тады ішоў ужо сёмы год, Янінцы — пяты. У гэты час мама хадзіла цяжарная Уладкам.

Мяне доўга не хрысцілі, мабыць, не было часу. А калі ўжо сабраліся і павезлі хрысціць, дык ксёндз сказаў: «Гэту дзяўчынку можна замуж аддаваць, а вы прывезлі яе хрысціць». Маёй хроснай маці была Ядвіня Гіляраўна Аўлачымская з Вялікага Рубяжа (прататып Купалаўскай «Паўлінкі»), а бацькам — Доўнар, які жыў недалёка ад Акопаў, у хаце каля рэчкі.

Нас, дзяцей, вядома, гадавалі наша мама, бабуня і цётка Ганна. Цётка вучыла нас пацерам. Але гэта яе навучанне хутка скончылася. У Акопах размаўлялі толькі па-беларуску, хаця ведалі рускую і хатнюю польскую мовы.

Сама гісторыя Акопаў вельмі цікавая. Сядзіба, зямля і будынкі належалі пані Ардынцавай, а пасля яе смерці хутар па спадчыне перайшоў да пляменніцы Марыі Жалігоўскай. Кантракт аб арэндзе сядзібы з будынкамі, зямлёй і сельскагаспадарчымі прыладамі быў падпісаны паміж Бянігнай Луцэвіч і Марыяй Жалігоўскай у 1909 годзе. Вясной 1910 года Луцэвічы пасеялі гарох, а 11 красавіка пераехалі на сталае жыхарства. Па ўспамінах маёй мамы стрыечныя сёстры Марыя і Ядвіня Аўлачынскія прыйшлі на хутар Акопы ўпершыню з хутара Вялікі Рубеж, недалёка ад Акопаў. Прынеслі на наваселле прыгожы медны самавар. Помню, што

было цёпла, бо яны былі апранутыя ў белыя сукенкі і басанож.

Дом у Акопах стаяў на пагорку, быў даволі вялікі, на два канцы. У адным канцы спачатку жылі Харэвічы, у другім — Луцэвічы. Дом быў у прысадах, вакол раслі кусты язміну, шыпшыны, брызгаліны. Для Янкі Купалы быў адведзены асобны пакой, два вакны якога выходзілі ў сад. Перад вокнамі цвілі рознакаляровыя кветкі, ружавелі кусты шыпшыны. Удалечыні зеляНеў рознымі адценнямі лес.Былі відаць дубы, клёны, елкі, сосны.

Перад хатай стаяла студня з жураўлём і вялікі цэбар, куды налівалі ваду. Паблізу размяшчалася клець, крыху далей — гумно, пуня, хлявы, свіран. Ад былой гаспадыні дома засталіся некаторыя рэчы, якімі карысталіся былыя гаспадары. Гэта шафа, што стаяла ў прыхожай (цёмным пакоі), шэсць мяккіх крэслаў, дыван, столік і два фатэлі. У пакоі дзядзькі Янкі стаяў пісьмовы стол, палічка з кнігамі, некалькі крэслаў. У двух пакоях — гасцінай і сталовай — была пафарбавана падлога, а ў астатніх пакоях — нефарбаваная. У гасцінай стаяў стол з трыма шуфлядамі пад сталешніцай, за якім працаваў дзядзька Янка.



*Ядвіга Раманоўская. 1965 г.*

За парадкам і чысцінёй у гэтых пакоях пастаянна сачыла цётка Анця (так мы называлі Ганну Дамінікаўну Луцэвіч). Тут пастаяннага догляду патрабавалі тры вялікія вазоны: пальма, фікус і мірт, які цвіў маленькімі чырвонымі кветачкамі. Зімой гэтымі двума пакоямі амаль не карысталіся. Таму і печы прапальваліся слаба, толькі каб не памерзлі вазоны. Добра помню, калі мы, усе тры дзяўчынкі, захварэлі на запаленне лёгкіх, дык каб нас ізаляваць ад Уладзіка, паклалі хварэць у гасцёўні. У гэтым пакоі стаяў чорны раяль. І мы, дзеці, лезлі да яго, брынчалі па клавішах. А як паправіліся, нас забралі ў наш дзіцячы пакой. А вось дзядзька Янка, хаця ніколі не вучыўся граць на раялі, прыязджаючы ў Акопы, даволі лёгка падбіраў мелодыі, імправізаваў.

Дзе ж, едучы з Мінска ў вёску, Янка Купала збочваў з гасцінца на Акопы? Адразу за Жукаўкай, пераехаўшы мост цераз невялікую рачулку. Тут побач, у Здарэнні, стаяў шынок і пры ім дзве-тры хаткі. Была пры шынку яшчэ і стадола, дзе ставілі на ноч коней. Дарэчы, адзін з ранніх псеўданімаў Купалы — Здарэнец. За шынком ад гасцінца збочвала дарога да Лявіцкіх у Карпілаўку і далей на Акопы.

Калі прыязджалі да нас у Акопы дзядзька Янка і цётка Уладзя — гэта было сапраўднае свята. Мы да яго старанна рыхталіся. Дзеці падмяталі дзядзінец, наводзілі адпаведны парадак у нашым дзіцячым пакоі: парадкавалі кніжкі і стужкі, якімі павязвалі валасы. Уладзя, старэйшая мая сястра, звычайна ў суботу мыла падлогу ў нашым пакоі і раскідвала па падлозе аер.

Дзядзька Янка вельмі любіў краявіды Акопаў. Ён мог прайсціся знаёмымі сцежкамі, палюбавацца наваколлем, часам заходзіў у суседнія вёскі, фальваркі, ведаў там многа людзей, быў у курсе мясцовых падзей. Ён часта бываў на хутары Айчызна і ў засценку Ляўшова. Там жыла сям’я яго сястры Марыі. Бывала, з намі, дзецьмі, хадзіў у лес па грыбы і ягады. Дома грыбамі займалася бабуня Бянігна, зрэдку гэтую справу рабіла цётка Уладзя. Часам не давяраў ёй займацца гэтым і дзядзька Янка. Рабіў заўвагу, што яна дзякуючы свайму тэмпераменту выкідвае заадно і добрыя грыбы. Ягады варылі на зіму — паземкі і маліну. Гэтыя ягады бабуня лічыла лекавымі. Іх прыносілі даволі многа дзяўчаты з суседніх вёсак — Карпілаўкі і Харужанцаў. Бабуня ў дзяўчат купляла ягады, каб нарыхтаваць на зіму. А мама ў вялікай меднай місцы варыла іх на трыножніку на двары.

Бліжэй да восені ездзілі на павозцы па брусніцы з дарослымі, без бабуні і дзядзькі Янкі. Аднойчы паехалі па брусніцы ў



*Пляменнікі Янкі Купалы,
дзеці ягонай сястры Леакадзіі Раманоўскай (злева направа)
Уладзіслава, Яніна, Ядвіга і Уладзіслаў. 1925 г.*

было дома, мы, дзеці, нейкім чынам залазілі на гэтую шафу, разглядалі і гулялі з цацкамі. А калі хто-небудзь прыходзіў з дарослых, мы скакалі з шафы. Цяпер дзіўлюся, як мы сабе не паламалі ногі. Ужо дарослая, я пра гэта запыталася ў цёткі Ганны. Яна мне адказала: «Як вы скакалі з шафы, то вам анёлы падсцілалі мяккія пасцілачкі, таму вы і не паламалі сабе ножкі».

Вельмі добра памятаю, як мая мама, Леакадзія Дамінікаўна, пад шум кола швейнай машынкі любіла ціхенька спяваць народныя песні. Гэта песні «Сіроткі», або «Каля хацінкі», ці Ул. Сыракомлі «Груган» у перакладзе Янкі Купалы. Чаму я запомніла гэту песню? Мне было страшна, як груган у дзюбе трымаў белую руку. Я нават пыталася ў мамы: «Як выглядаў той груган?» На што яна адказвала: «Звычайна груганы ў вайну налятали на пабоішча. Там ім многа нажывы. Яны вялікія, чорныя, з выгнутай дзюбай. Іх многа было ў Першую імперыялістычную вайну».

Чаму для Янкі Купалы Акопы былі крыніцай творчага натхнення? На працягу амаль семнаццаці гадоў паэт пры першай магчымасці прыязджаў у Акопы з Пецярбурга, Вільні, Мінска. Тут добра адпачывалася, многа і плённа працавалася. Як пазней успамінаў дзядзька Янка: «Пісаў па 200 радкоў у дзень і амаль нічога не правіў». Толькі за два першыя канікулярныя прыезды з Пецярбурга ў Акопы, калі яшчэ быў студэнтам вячэрніх агульнаадукацыйных курсаў А. С. Чарняева, напісаў цэлы россып лірычных вершаў: «Жняя», «Гэй, наперад!», «Як у лесе зацвіталі», «За свабоду сваю», «Зоркі», «Дзве таполі», «Ты прыйдзі». Летам 1912 года закончыў «Паўлінку», восенню 1913 года завяршыў паэмы «Бандароўна», «Магіла льва», драму «Раскіданае гняздо», вадэвіль «Прымакі», незакончаную паэму «Гарыслава».

Адно лета разам з Купалам адпачы-

Манысльскі лес, пад Манылы. Паставілі на воз невялікую бочачку, але сабралі там брусніц нямнога. Перабраўшы, зварылі іх з яблыкамі і грушамі.

Хадзілі мы ў лес Зыгмунда Чаховіча, паўстанца 1863 года, да якога Ясь бегаў па кнігі. У тым экзатычным лесе раслі дрэвы розных парод, рэдкіх для Беларусі: піхта, лістоўніца і інш. Калі і хто садзіў — невядома. Хадзілі мы туды, каб палюбавацца на прыгажосць таго лесу і сабраць арэхі, якія раслі вялікімі кустамі, амаль дрэвамі. Плады на арэшніку таксама былі незвычайныя. Яны былі больш падобныя на фундук, але не круглыя, а авальнай формы і плоскія, з патоўшчанай скурай.

Залезці на гэта дрэва было немагчыма, сагнуць таксама. Іншы раз прыходзілася пад куст падсцілаць зрэбныя посцілкі і трэсці. Натрасалі даволі многа, перабіралі, сушылі, а зімою — ласаваліся.

Памяць вяртае да тых сумных гадоў, калі пачалася антырэлігійная прапаганда. Было забаронена святкаваць Каляды, Вялікдзень, фарбаваць яйкі, а на новы год ставіць і ўпрыгожваць ёлачкі. У нас было многа цацак для ўпрыгожвання ялінкі. Але як забаранілі святкаваць Боганараджэнне і Новы год, нехта з дарослых паклаў гэтыя цацкі на высокую шафу ў вітальні. Як толькі дарослых не

ваў у Акопах студэнт Чарняеўскіх курсаў Аляксандр Гарцаў з Краменчуга. Быў такі цікавы выпадак.

Закончыліся канікулы, і трэба было вяртацца ў Пецярбург. Малодшая сястра Янкі Купалы, мая мама Леакадзія Дамінікаўна, адвозіла Івана Дамінікавіча і Гарцава ў Мінск на вакзал. Трэба было выязджаць позна вечарам. Па дарозе, у каляіне, у павозцы зламалася вось. А недалёка ад дарогі — вёска. У адной з хат гарэла святло. Іван Дамінікавіч прапанаваў прывязаць каня, пакінуўшы сястру Леакадзію, а самі рушылі да тае хаты прасіць дапамогі. Прайшло колькі часу. Леакадзія Дамінікаўна сядзела на возе, стала холадна. Тады яна пайшла паглядзець, чаму іх так доўга няма. Прыходзіць у хату, адчыняе дзверы і бачыць, што іграе музыка, а Янка і Аляксандр з дзяўчатамі танцуюць лявоніху, а потым і полечку. А моладзь была вельмі задаволена, што на іх вечарынку завіталі такія паважаныя госці. Добрыя людзі далі дэталь да кола павозкі, і так яны спраўна дабраліся ў Мінск на вакзал.

Часам Янка Купала затрымліваўся ў Мінску ў гасцініцы «Адэса», калі не было падводы, каб прыехаць у Акопы.

Трэба дадаць, што Леакадзія Дамінікаўна ездзіла да Янкі Купалы ў Яхімоўшчыну, ратавала, калі ён абварыў рукі, працуючы на бровары. Была ў Вільні, месяц жыла ў Полацку, калі паэт служыў у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін.

У 20-х гадах у Акопах была пастаўлена купалаўская «Паўлінка». У гумне на таку рыхтаваліся да пастаноўкі спектакля. На гэту падзею адразу адрэагавалі дзеці. У прыўзнятым настроі хадзілі за дарослымі. У гумне дарослыя пачалі ладзіць сцэну, а дзеці бегалі па таку, лазілі па сельскагаспадарчых прыладах і механізмах. Пры дапамозе старэйшай сястры Уладзі я таксама залезла на арфу. Яна сказала: «Ты там сядзі, а я цябе буду арфаваць». Уладзя пакруціла ручку арфы, а я ўсунула свой пальчык у шасцярню. І тут моцна закрычала ад болю. Збегліся дарослыя і ўбачылі, што фаланга пальчыка адрэзана і трымаецца толькі на скурачцы. Хутчэй схапілі мяне і павезлі ў Мінск да хірурга. Дзядзьку Янку быў добра знаёмы прафесар Яўген Клумаў, а рабіў аперацыю доктар Шапіра (сын таго Шапіры, які аперыраваў Дамініка Ануфрыевіча Луцэвіча).

Памятаю, што мяне палажылі на вялікі стол. Я плакала і крычала. Можа, мне не так ужо і балела, але было страшна, бо я не ведала, што са мною будуць рабіць. Прафесар Клумаў, параіўшыся з прафесарам Шапірам, сказаў: «Па правілах трэба было б зусім адрэзаць фалангу». У мамы на вачах слёзы. Яна кажа: «Дзяўчынка, ды без пальца». Тады прафесары вырашылі прышыць фалангу. І іх залатыя рукі зрабілі добрую справу. Фаланга прырасла, палец зросся, добра гнецца. Вось чаму мне так помніцца пастаноўка «Паўлінкі» ў Акопах, якая каштавала мне многа слёз і ўласнай крыві.

А спектакль адбыўся. За артыстак былі Ядвіня Аўлачымская, Стася, Зося і Ружа Туміловічы. Сыгралі на выдатна.

На хутары Малы Рубеж было ўсяго некалькі хат. Там жылі Антаніна і Стэфан Харэвічы і сям'я Івана Хадасевіча, якога ўжо на той час не было, ён памёр.

У хуткім часе ўсе яны пакінулі хутар. Хто падаўся на заробкі ў Мінск, а некаторыя пераехалі да іншых арандатараў. Жонка Івана Хадасевіча была невялікага росту, гарбаценькая. У яе было трое дзяцей: сыны Казімір, Пётрык і дачка Зося. Калі яны выязджалі з хутара Малы Рубеж, маці прывяла малую Зоську ў Акопы да Бянігны Іванаўны і сказала: «Няхай мая Зоська ў вас пажыве, можа, калі з дзецьмі пагуляе». Так Зося засталася жыць у нашай сям'і. Маці яе больш не прыходзіла ў Акопы, мабыць, памерла. Памёр і старэйшы яе сын Казімір.

Расказвалі, што Пётрык быў вельмі прыгожы — высокі, плячысты. Жаніўся. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў прызваны ў армію, пайшоў на фронт, дзе і загінуў.

А Соф'ю Іванаўну Янка Купала забраў у Мінск. Яна жыла ў сям'і паэта з 1927 па 1941 год, памагала на хатняй гаспадарцы. Калі адкрыўся Літаратурны музей Янкі Купалы, працавала наглядчыцай залаў. Дарэчы, цёця Зося (Соф'я Іванаўна) многае ведала і помніла з даваеннага часу, калі жыла ў Купалы. І ўжо старэнькая дапамагала супрацоўнікам музея пры рэканструкцыі ў экспазіцыі музея кабінета і гасцёўні Купалы, якія былі ў доме 40 па вул. Кастрычніцкай. Калі мы ўдакладнялі, ці было ў хаце Купалы крэсла-качалка, то самае канкрэтнае і найбольш верагоднае сцверджанне было ў цёці Зосі: «Як жа мне

гэтыя рогі ад крэсла абрыдлі, заўсёды лезлі ў вочы, калі я мыла падлогу ў хаце».

У 1922—1924 гг. мае сёстры Уладзя і Яніна вучыліся ў Карпілаўскай пачатковай школе. Туды ж хадзілі і дзеці Марыі Дамінікаўны Аўлачымскай, сярэдняй сястры Янкі Купалы. Яны жылі недалёка, на хутары Ляўшова. Настаўніца Ганна Мікітаўна Весялоўская вельмі любіла вясковых дзяцей, была для іх як родная маці.

Пасля ўрокаў сёстры вярталіся дадому, іх сустракала бабуня Бянігна. Карміла, цікавілася школьнымі справамі. Пасля адпачынку сёстры садзіліся за ўрокі. Я лезла паглядзець, што яны пішуць, і, вядома ж, перашкаджала. Было і такое: хуценька паабедаю з імі і бягу ў бабунін пакой. Там схаваюся пад стол або пад ложак, а сёстры заходзяць у пакой і, не ўбачыўшы мяне, радуюцца: «Добра, што Лялькі няма. Не будзе перашкаджаць нам рабіць урокі». Зачыняюць дзверы на ключ. Тады я вылажу са сваёй схованкі. Уладзя і Яніна хочуць мяне вывесці, а я плачу і кажу: «Я таксама хачу “огурочки” пісаць!» Мабыць, яны ў той час пісалі літару «О». Тут ужо за мяне ўступалася бабуня.

Нарэшце і я пачала хадзіць з сёстрамі ў школу. У класе за адной партай са мной сядзела Вацлава Аўлачымская, дачка Марыі Дамінікаўны. Аднойчы на ўроку Ваця сказала мне нешта смешнае. Мы пачалі смяяцца. Настаўніца, убачыўшы нашы паводзіны на ўроку, строга сказала: «Ядзя і Ваця! Ідзіце да печкі». Печка ў класе выходзіла вуглом, утвараючы два куткі. Туды і загадала нам стаць Ганна Мікітаўна. Мы хуценька сталі, трохі яшчэ прадаўжалі смяяцца, а потым пачалі плакаць. Настаўніца ўбачыла, што мы плачам, пашкадавала нас і дазволіла сесці на месца.

У нашым класе вучыўся хлопчык. Ён быў кульгавенькі на адну нагу, але вельмі добры па характары. Па нашай просьбе на пераменцы ён нам завастраў ножыкам прыгожыя алоўкі. Я навучылася ад яго і ўсё жыццё вельмі добра рабіла гэтую справу — і на працы, і дома.

Настаўніца Ганна Мікітаўна Весялоўская часта бывала ў нас у Акопах, асабліва тады, калі прыязджалі дзядзька Янка і цёця Уладзя. Прыходзіла яна да нас і са сваімі дзецьмі, якія і цяпер памятаюць жыццё ў Карпілаўцы. Вось што напісала мне дачка нашай настаўніцы Дзіяна Весялоўская:

«Родилась наша мама Анна Никитична Веселовская в 1888 году под Белостоком в очень бедной крестьянской семье. Отец умер рано, оставив мать с тремя детьми. Мать отдавала все силы, чтобы выучить детей и ради этого бралась за всякую черную работу. С братом сумели окончить учительскую семинарию. С 17-ти лет стала учительствовать зимой, а летом приезжала в своё село и нанималась на сельские работы, чтобы как-то помочь матери.

В Первую мировую войну, потом в революцию, в гражданскую войну испытала все тяготы, связанные с ними. В 1915 году с семьёй бежала в Курскую область, потом перебралась на Украину. Голодали, потеряла там мать, сестру, племянницу, оставшуюся после смерти сестры на её руках, мужа, троих своих детей.

В 1921—1922 годах перебралась в Минск, потом устроилась работать учительницей в д. Карпиловке. Недалеко от Карпиловки, в Окопах, жили мать и сёстры Янки Купалы: Анна и Леокадия с мужем и детьми. Племянницам Янки Купалы пришлось учиться в Карпиловке, у мамы. Зимой, когда трудно было добираться до Окопов, девочки жили у мамы, где их навещал иногда Янка Купала. Это и послужило их знакомству и дружбе. Он приезжал в Карпиловку, мама со своими детьми часто бывала в Окопах, вместе проводили время.

В Окопах бывал Якуб Колас и другие писатели. Собирались, читали стихи, обсуждали вопросы образования, да и Янка Купала любил общение с людьми. Это общение было просто и доступно, вызывало у всех почтительное уважение.

Мама рассказывала, что жизнь ее не ограничивалась только работой в школе, а была наполнена и общественной деятельностью: боролись с безграмотностью, читали лекции, устраивали вечера самодеятельности на школьной сцене. Спектакли придумывали сами и сами же в них играли. Писали на темы, близкие живущим рядом крестьянам, относившимся к этим спектаклям с большим одобрением. После Карпиловки мама переехала и работала в Гастиловичах. Встречались они с Янкой Купалой и в Минске, где он хотел устроить маму работать учительницей. Но мама решила остаться на прежнем месте, т. е. в Гастиловичах.

В 1935 году мама переехала в Москву, где работала и жила до самой смерти в 1969 году. В Москве было много пережито: во время Великой Отечественной войны никуда из Москвы не уезжала. Пережила голод, потерю убитого на фронте сына, работала на трудовом фронте, а когда стало немного легче, устроилась воспитательницей в детский сад.

Вообще прожила очень трудную, но наполненную жизнь. Видела много разного — хорошего и плохого, горького и радостного, но не ожесточилась, не теряла своего оптимизма, до конца была доброжелательным, жизнелюбивым, интересующимся всем человеком.

«Как же интересно жить!!!» — эта фраза сопровождала ее до конца жизни. Вот это немногое, что я могу сообщить Вам о маме…»

Такая была наша настаўніца.

А цяпер памяць пераносіць зноў у Акопы. Гэта цудоўная мясціна сілкавала, наталяла душу Янкі Купалы нечуванай энергіяй натхнення. Тут быў зроблены вершаваны пераклад «Слова аб палку Ігаравым» (1921), напісана трагікамедыя «Тутэйшыя» (1922), вершы: «За ўсё», «І прыйдзе…», «Улетку», «У лесе», «Гутарка аб кепскім гаспадару», «Праз гультайства». Акопы былі месцам сустрэчы Янкі Купалы найперш з Ядвігіным Ш. у суседняй Карпілаўцы, сюды да паэта прыязджалі Антон Грыневіч, Якуб Колас, Змітрок Бядуля.

Карпілаўка — невялічкая вёска, і таму Купала ведаў усіх вяскоўцаў, прыходзіў да іх на поле, на сенажаць, распытваў пра жыццё, чытаў што-небудзь цікавае. Так мясцовы настаўнік Мечыслаў Несцяровіч успамінаў, як аднойчы паэт чытаў карпілаўцам «Новую зямлю» Якуба Коласа, а яму падараваў кнігу М. Гогаля «Тарас Бульба».

Мы, дзеці, у Акопах на канікулах дапамагалі пасвіць скаціну, прыбіралі дзядзінец. А я з мамай хадзіла на поле жаць збажыну. Да гэтага часу захаваліся ў мяне на левай руцэ рубцы — парэзы сярпом. Гаварылі, што я добра жала. Асабліва цяжка было жаць жыта, шмат лягчэй — пшаніцу і авёс. Не любіла жаць ячмень, бо асцюкі калолі рукі і лезлі ў твар.

Была ў Акопах і жняярка, на якой працаваў мой тата. Але яна была старая, часта псавалася. Тата сам яе і рамантаваў. Ён быў даволі адукаваным і любіў тэхніку, пазней працаваў на Прыямінскай МТС. Гэта ён пазнаёміў Купалу з перадавіцай Таняй, пасля чаго ў 1936 годзе з'явіўся верш пад назвай «Песня Тані-трактарысткі з Прыямінскай МТС».

У выданне збору твораў Янкі Купалы 60-х і 70-х гадоў верш не ўключаўся, таму нагадаю некалькі сонечных радкоў:

Трактар, мілы трактар,

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пахавалі гора,
Гора ды няволю,
Як пайшлі з табою
Па шырокім полі.

Сонца нам смяецца,
Нібы строіць жарты.
Месячык святлееўь,
Служыць нам за варту…

Дзядзька Янка любіў вёску і хацеў, каб чалавеку-працаўніку, селяніну жылося добра на зямлі, каб ад сваёй працы ён меў і прыбытак, і задавальненне. Аднаго разу прыслаў у Акопы двух парасят нейкай надта добрай пароды. Яны былі белыя, нават ружаватыя, аблавухія, з тупымі мордачкамі. Елі больш




*Мікола Купава. Акопы. 1981 г.*




*Мемарыяльны знак у Акопах — камень-валун. 1982 г.*

сухаватую ежу: калі вараную бульбу, то перацёртую мукой, ваду пілі асобна. Адным словам, раслі, як кажуць, не па днях, а па гадзінах. Любілі яны ляжаць у пясочку і грэцца на сонейку.

У другі раз дзядзька Янка даслаў у Акопы курэй, якія мелі назву «плімутрокі». Яны былі вялікія, шэрыя, неслі вялікія яйкі. Гаспадарка ў Акопах станавілася культурнай. Гэта яго радавала, і ён дапамагаў, чым мог.

У лісце з Акопаў да Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы Янка Купала пісаў: «На вёсцы цяпер… хараша». Гэтым паэт як бы падкрэсліваў свой светлы душэўны стан, які заўсёды выклікала ў яго наведванне Акопаў.

У тыя ж 20-я гады ў Малых Бясядах — былой сядзібе Зыгмунда Чаховіча — быў сельсавет. На 1 Мая і 7 Лістапада там наладжваліся ўрачыстасці. Мы, вучні Карпілаўскай школы, разам з настаўніцай Г. М. Весялоўскай ішлі з чырвоным сцягам з Карпілаўкі ў Малыя Бясяды. Спявалі «Марсельезу» («Ад веку мы спалі і нас разбудзілі»), «Інтэрнацыянал» і іншыя песні. Усе песні спявалі на беларускай мове.

У Малых Бясядах дэкламавалі вершы беларускіх і рускіх паэтаў. Удзельнічалі ў інсцэніроўцы «Босыя на вогнішчы» паводле твора Міхася Чарота. Галоўную ролю выдатна выконвала мая сястра Яніна Раманоўская. У яе цераз плячо была павязана шырокая стужка, на якой вялікімі літарамі выдзялялася слова «ВОЛЯ». Яна мела добры голас, прыгожа спявала.

Там жа была наладжана латарэя, у якой удзельнічалі дарослыя і дзеці. Памятаю, як мяне прыціснулі да стала, дзе разыгрываліся латарэйныя білеты, што ледзь не задушылі. Але мне выпаў выйгрыш — я атрымала французскую булку і бутэльку напітку.

Там жа, у Малых Бясядах, мы разам з настаўніцай аглядалі сядзібу Зыгмунда Чаховіча — паўстанца 1863 года. Менавіта Янка Купала карыстаўся яго багатай бібліятэкай, упершыню ў доме Чаховіча пазнаёміўся з нелегальнымі выданнямі.

Вучоба ў Карпілаўскай школе была закончана. Мая мама Леакадзія Дамінікаўна

пачала весці гутарку з Іванам Дамінікавічам аб тым, што дзеці павінны прадаўжаць вучобу ў Мінску. Паўстала пытанне аб набыцці дома ў горадзе.

У дзяржаўным архіве Мінскай вобласці захаваліся дакументы 1926 года, якія сведчаць аб куплі-продажы дома па вуліцы Кастрычніцкай, д. № 36. (Пазней нумарацыя дома змянілася на № 40). Першы дакумент — гэта заява гр. Ізыгзона Лейбы Меерава, Луцэвіча Івана Дамінікавіча і Раманоўскай Леакадзіі Дамінікаўны ў Мінскі камунальны аддзел аб тым, што гр. Ізыгзон Л. М. з прыналежнай яму нерухомай маёмасці хоча прадаць драўляны дом з будкай гр. Луцэвічу І. Д. і Раманоўскай Л. Д. і просіць дазволу на права продажу. Уладальнік дома таксама просіць выдаць неабходныя даведкі для прадастаўлення ў натарыяльны аддзел на прадмет ажыццяўлення куплі-продажу азначанага дома і будкі для сабакі.

Такая даведка была дадзена. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што гр. Ізыгзону Л. М. з боку камунальнага аддзела Менакрвыканкама не сустракаецца перашкод да продажы гр. Луцэвічу І. Д. і Раманоўскай Л. Д. аднаго дома з будкай з уладання па Кастрычніцкай вул. № 36 і абазначанага на плане пад літарамі «а» і «в» з участкам зямлі плошчай 1409,5 м кв.

Цікава і тое, што ў гэты ж камунальны аддзел была пададзена заява ўладальніка дома аб тым, што ён жадае, каб у купчую ўвайшоў фруктовы сад з 29 дрэў.

Акрамя гэтага ў Мінскі акруговы выканаўчы камітэт былі прадстаўлены дзве даведкі ад Луцэвіча Івана Дамінікавіча і Раманоўскай Леакадзіі Дамінікаўны аб тым, што ні ён (Янка Купала), ні яго жонка, ні Раманоўская Л. Д., ні яе муж, ні іх непаўналетнія дзеці не маюць у горадзе ніякіх пабудоў.

І апошняе: дадзены дзве падпіскі пакупнікоў, Луцэвіча І. Д. і Раманоўскай Л. Д., аб тым, што яны сапраўды даюць падпіску камунальнаму аддзелу С. Р. і К. Д. г. Мінска аб тым, што ні Луцэвіч І. Д., Луцэвіч Ул. Ф., ні Раманоўская Л. Д., Раманоўскі Юльян і іх дзеці — Уладзіслава, Уладзіслаў, Яніна — не валодаюць у г. Мінску ніякімі будынкамі.

Так быў куплены дом у Мінску, у якім мы жылі з 1927 па 1941 год.

Чаму ж так здарылася, што Акопы доўгі час не былі абазначаны, не шанавалася памяць пра гэтыя мясціны на Лагойшчыне? Увогуле, пэўны час у афіцыйных справах яны не ўзгадваліся. Ды і дарогу да Акопаў з Мінска не добраўпарадкоўвалі, а ездзілі ўсё больш праз Лагойск. А да месца былой сядзібы ў Акопах нават сцежкі не было. Таму і сталі на нейкі час Акопы забытым куточкам беларускай зямлі. А менавіта ў Акопах з'явіліся творы, што ўзвысілі паэта да вышыні народнага песняра, генія, якія сталіся гонарам беларускай літаратуры.

Але гісторыя праведна вяршыць і суд, і славы прышэсце. У 1989 годзе настала неабходнасць ушанавання Купалавых мясцін на Лагойшчыне. Шмат парупіліся пра гэта ўраджэнец гэтых краёў, народны паэт Ніл Гілевіч, гаспадары раёна і новы (з 1986 г.) дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы — Жанна Казіміраўна Дапкюнас. Калі ўзнікла пытанне аб размяшчэнні будучага філіяла, доўга выбіралі месца. Некалькі брыгад пісьменнікаў, супрацоўнікі Міністэрства культуры і мінскага аблвыканкама, прадстаўнікі раённых улад з Лагойска выязджалі ў гэтыя мясціны ў пошуках адпаведнага месца ў гэтым раёне. І ўрэшце, агледзеўшы мясціну ў канцы вёскі Харужанцы па дарозе на Акопы, Ніл Гілевіч сказаў: «Калі ёсць мясціна, якая вельмі падыходзіць для стварэння філіяла, то лепей не можа быць: і хата будзе стаяць на ўзгорку, а не ў балоце, і прастора навокал, ды і самой прыродай створана пляцоўка для правядзення свят паэзіі, сустрэч аматараў творчасці Янкі Купалы, ды і з вёскі заўсёды будзе добра відаць будынак філіяла». Так і вырашылі — у Харужанцах будзе філіял музея «Акопы».

(У пачатку XX стагоддзя вёска Харужанцы была вядомай далёка за межамі Лагойшчыны сваімі кірмашамі. На свята Пакровы, 14 кастрычніка, сюды з'язджалася і сыходзілася шмат народу: з Мінска, Вілейкі, Даўгінава, Радашковічаў, Заслаўя, Смалявічаў. Ладзілі гандаль садавінай, гароднінай, печывам. Янка Купала любіў пахадзіць сярод людзей: знаёміўся з імі, услухоўваўся ў гамонку, штосьці занатоўваў.

У 30-я гады вёска разраслася, увабрала ў сябе вядомыя хутары Ляўшова і Міхалішкі).

І пачалося стварэнне трэцяга філіяла музея Янкі Купалы «Акопы». Архітэктар аблвыканкама прыступіў да пошуку праекта

тыповай хаты канца XIX — пач. XX стагоддзя, пад кіраўніцтвам мастака Эдуарда Агуновіча пачаўся збор матэрыялаў, распрацоўка тэмплана будучай экспазіцыі і генплана па добраўпарадкаванні тэрыторыі, пачалася праца над паркавай скульптурай маладога Купалы.

Сваю былую гасціннасць вёска набыла са стварэннем філіяла музея. Зараз тут бывае шмат гасцей, экскурсій, асабліва летам. На тэрыторыі філіяла першым наведвальнікаў сустракае прыгожы велізарны камень-валун, на якім чытаем словы песняра:

...К табе, о Божа,
І я ў дзень гэты просьбу шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Уваскрэсне к вольнаму жыццю!

*1911 г.*

Па дарозе да філіяла музея, на ўзбочыне сцяжынкі гасцей вітае рамантычны помнік паэту. Малады Купала ў росквіце жыццёвых і творчых сіл. Аўтары помніка Андрэй Заспіцкі і Генадзь Мурамцаў імкнуліся ўвасобіць у пластыцы бунтарскі дух маладога паэта, яго повязь з родным краем… Янка прысеў на камяні, акрылены, горды і мужны. Адкінуўся, высока ўзняў галаву, спасцігаючы векавую далячынь.

Філіял Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы «Акопы» адкрыты 29 жніўня 1992 года, калі Беларусь святкавала 110-годдзе з дня нараджэння паэта. Філіял складаецца з дзвюх частак — літаратурная ў Харужанцах і мемарыяльная на месцы колішняга фальварка Акопы за 2 км ад вёскі Харужанцы.

Сёння на месцы былой сядзібы Акопы — утравелыя адноўленыя падмуркі ад будынкаў хаты і гаспадарчых пабудоў… Дрэвы, што з двух бакоў абступаюць былое селішча. Сімвалічны зруб на месцы, дзе раней струменіў з глыбінь жывую ваду калодзеж. Рачулка, якая жывіла сажалку, ператварылася ў невялікі ручаёк. На валуне, што ляжыць у шыракалістай папараці, на якім Янка Купала адпачываў, абдумваў свае творы, прымацаваны мемарыяльны знак (1982) са словамі з верша «З кутка жаданняў»:

Песню стварыці ясну, як неба,
У кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём —
Гэткіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуццём…

З мэтаю захавання купалаўскіх мясцін на Лагойшчыне па ініцыятыве музея Купалы былі распрацаваны адпаведныя дакументы і ў 2000 годзе створаны ландшафтны заказнік «Купалаўскі», плошча якога складае болей за 3800 гектараў.

* * *

Завітайце ў Акопы. Вы натоліце сваю душу водарам чароўнай купалаўскай паэзіі. Вы пабачыце ўсю прыгажосць таго кутка, што стварыў сімфонію фарбаў і гукаў, якія мацнеюць і мацнеюць, ператвараючыся ў святочны гімн Чалавеку-творцу, Краіне, Прыродзе, Сусвету.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# ЗВОНКАЯ ПЕСНЯ, ЗВОНКАЕ СЭРЦА

## БРОЎКА ДУМАЎ ПРА ЛЮБАНШЧЫНУ

Дарога знаёмая. Знаёмыя і назвы населеных пунктаў, праз якія праходзіць рэйсавы аўтобус Мінск—Жыткавічы. І на тым шляху, дзе ён, пакінуўшы Слуцк, кіруецца на Палессе, таксама. Праўда, калі мінае вёску Вялікая Сліва — гэта тэрыторыя суседняга Слуцкага раёна, — з правага боку паўстае краявід зусім не палескі. Здаля ад дарогі відаць тэрыконы, што складаюцца з адходаў, якія ўтвараюцца пры здабычы калійнай солі: Салігорск жа адсюль за некалькі кіламетраў.

Памятаю, як у 1972 годзе, працуючы літаратурным супрацоўнікам аддзела сельскага жыцця слуцкай аб'яднанай газеты «Шлях Ільіча», прыехаў у Вялікую Сліву, якая тады была цэнтрам калгаса імя Красіна. Выконваючы рэдакцыйнае заданне, трапіў на адну з калгасных ферм. Загадчык яе, расказаўшы аб тым, чым жыве працоўны калектыў, нечакана, усміхнуўшыся, зазначыў глыбакадумна:

— Пад намі здабываюць калійную соль.

— Як здабываюць? — здзівіўся я.

Ён жа, застаўшыся задаволены жартам, патлумачыў:

— Недзе тут, глыбока пад зямлёй, працуюць шахцёры, бо іхнія праходы даўно мінулі тэрыторыю Салігоршчыны.

Што ў такім разе наконт гэтага казаць сёння. Безумоўна, як і ў многіх выпадках, атрымліваецца, што палка з двума канцамі. Карысць ад калійнай солі, канечне, відавочная, але тыя ж тэрыконы прыносяць нямала шкоды прыроднаму асяроддзю. У рэшце рэшт, сёння няма адназначнага стаўлення і да меліярацыі, але ж менавіта з асушэння Мар'інскіх балот у 30-я гады мінулага стагоддзя і пачаўся росквіт Любаншчыны.

Так, усё неадназначна. Жыццё ўвогуле складаецца з супрацьлегласцей. Толькі, бадай, ёсць тое, што, нягледзячы на ўсе варункі і складанасці, не страчвае сваёй першароднасці — прырода, якая на нашай зямлі паўсюдна прыгожая, што, дарэчы, цудоўна выказаў у адным са сваіх вершаў народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка:

У Беларусі ясныя вочы,
Многа любові ў грудзях:
Звонкае поле,
Звонкія сосны,
Звонкі і сонечны шлях.

У Беларусі
Кожны куточак,
Дзе ты ні пойдзеш, пяе...
Звонкае слова,
Звонкая песня,
Звонкае сэрца яе.

Атрымліваецца, што Пятрусь Усцінавіч думаў і пра Любаншчыну.

## ПАЭЗІЯ І ХАМУТ... НА СЦЯНЕ

Калі я нагадаў пра ўсё гэта начальніку аддзела культуры Любанскага райвыканкама Васілю Каткаўцу, Васіль Сцяпанавіч пагадзіўся са мной:

— Сапраўды, беларуская зямля такая, што ёю нельга не захапляцца.

Гэта я чуў ад яго і падчас свайго папярэдняга прыезду сюды роўна год назад. Але гэтым разам, як мне падалося, Каткавец гаварыў з яшчэ большым захапленнем.

— Разумееце, — ён быццам угадаў мае думкі, — да таго, што з'яўляецца паэзіяй — і не толькі як жанрам літаратуры, але і паэзіяй у самым шырокім значэнні гэтага слова — ніколі нельга прывыкнуць. Наадварот, пройдзе час, і абавязкова адбыва-

ецца пэўная пераацэнка ўжо знаёмага табе. Аднак, што асабліва важна, яна вымагае не нейкага адмаўлення, а яшчэ большага захаплення. Калі гэта ўсё сапраўднае, тое, што ідзе ад самога жыцця. Менавіта так мы, любанцы, — працягваў ён, — нанава адкрываем для сябе і тых пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў нашых мясцінах. Адначасова стараемся і падтрымаць іх у выданні новых кніг.

— Добрыя намеры, — пагадзіўся я, — каб так рабілася, ды ва ўсіх раёнах. Тым больш што з кожнага выйшла нямала пісьменнікаў.



*Васіль Каткавец.*

— Найпершая ўвага, — адзначыў Васіль Сцяпанавіч, — няхай не ў крыўду іншым будзе сказана, — удзяляецца Івану Муравейку. Іван Андрэевіч — гэта той чалавек, з якім заўсёды хочацца кантактаваць. Да ягонага голасу, ягоных меркаванняў нельга не прыслухоўвацца. Што яшчэ здзіўляе, дык гэта ягоная вялікая творчая працаздольнасць. Вось і сёлета ў яго выйшлі дзве кнігі. Адну выдалі мы самі, а другая — «Я — Іван з Беларусі» — пабачыла свет дзякуючы РВУ «Літаратура і Мастацтва». Абедзве яны, можна сказаць, для нашага слыннага земляка знакавыя. Дый для нас, ягоных чытачоў, таксама, бо, перачытваючы творы Івана Андрэевіча, лішні раз упэўніваешся, наколькі шмат дадзена сапраўднаму таленту.

Наколькі любанцы любяць творчасць свайго вядомага земляка, засведчыла і прэзентацыя кнігі «Я — Іван з Беларусі», што прайшла ў рамках мерапрыемстваў, прысвечаных 65-годдзю Вялікай Перамогі. Дый змест твораў адпаведны. У зборнік уключаны франтавыя запісы, якія ўзнаўляюць падзеі сорак першага года, перададзеныя відавочцам іх, а Муравейка прайшоў Вялікую Айчынную вайну з першых яе дзён да апошніх. Увайшлі ў кнігу і апавяданні, вершы, балады, паэмы, якія пісаліся ў перапынку паміж баямі. Змешчаны таксама нарысы Івана Андрэевіча. Дарэчы, прэзентацыя кнігі выклікала вялікую зацікаўленасць у чытачоў, і многія з іх з задавальненнем атрымалі аўтографы аўтара.

— Па тым, з якім захапленнем вы пра гэта гаворыце, — заўважыў я, — бадай, можна зрабіць выснову, што Любанскі аддзел культуры і ў далейшым будзе падтрымліваць пісьменнікаў-землякоў у выданні сваіх кніг?

— А як жа інакш. Для прыкладу, у кастрычніку гэтага года спаўняецца 75 гадоў яшчэ аднаму нашаму выдатнаму земляку — паэту і празаіку Уладзіміру Паўлаву. Мы наведвалі яго ў Мінску. Дамовіліся, што да гэтага юбілею выпусцім кнігу, у якой будзе прадстаўлена як паэзія, так і проза.

— Ва Уладзіміра Андрэевіча ёсць што прапанаваць нават самаму патрабавальнаму чытачу.

— Нягож, — развівае маю думку Каткавец, — і гэта тычыцца самых розных вершаў. У тым ліку і тых, у якіх у той ці іншай ступені закранаецца тэма Вялікай Айчыннай вайны. Узяць хоць бы гэты верш, — прамаўляе Васіль Сцяпанавіч і пачынае з натхненнем дэкламаваць:

У Замошшы маім паміраюць мужчыны.
Нібы тыя дубы пасярод пажарніц,
Узмахнуўшы здаровай яшчэ верхавінай,
У камлі надламаўшыся, валяцца ніц.

У Замошшы маім паміраюць мужчыны –
Залатыя дзядзькі, дарагія сваты.
Ім праз дваццаць гадоў дзень блакадны
нішчымны
І заходзіць у тыл, і адольвае тыл.

На іх век дасталася нялёгкая ноша.
Між сабой яны часта дзялілі бяду.
Ды ўсё меней мужчын застаецца ў Замошшы,
Што прайшлі на франтах праз агонь і ваду.

— Увогуле, — працягвае ён, — літаратурнае жыццё Любаншчыны — гэта не толькі тыя імёны, якія пастаянна на слыху. Скажам, агульнавядома, што наведваўся ў нашыя мясціны народны пясняр Янка Купала. Тое, што ён напісаў паэму «Над ракою Арэсай». Але далёка не ўсе ведаюць, што наш раён прапісаўся і ў біяграфіі Алеся Жаўрука.

— Сапраўды, штосьці не даводзілася чуць пра гэта.

— Алесь Жаўрук, ён жа па пашпарце Аляксандр Сінічкін, у 30-я гады мінулага стагоддзя працаваў выкладчыкам на рабфаку ў Соснах, у вядомым на ўсю рэспубліку саўгасе «10-годдзе БССР». Менавіта ў Соснах ён сустракаўся з Янкам Купалам, Платонам Галавачом, Уладзімірам Хадыкам.

— Атрымліваецца, што ўсіх іх паяднала любанская зямля...

— Гэта акурат такі літаратурны пласт, да якога, думаецца, мы яшчэ звернемся. Тым больш што, наколькі мне вядома, пра гэтыя стасункі ў гісторыі літаратуры па сутнасці не згадваецца. Таму тут шырокі прастор і для бібліятэчных работнікаў. Штосьці шукаць, нешта знаходзіць. Ва ўсякім разе, можна ствараць літаратурныя кампазіцыі, а гэта, несумненна, зацікавіць чытачоў. Узяць таго ж Алеся Жаўрука. Ён прысвяціў Любаншчыне шмат вершаў, што былі змешчаны ў кнігах «Ручаіны» і «Дняпро выходзіць з берагоў». А хіба не цікавы такі факт? Менавіта з Любаншчыны Жаўрук паехаў на вучобу ў маскву ў Інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры.

Слухаць Васіля Сцяпанавіча адно задавальненне. Здавалася б, больш-менш ведаеш яго, прынамсі, па ранейшай сустрэчы, калі ён з гэткім жа задавальненнем расказваў пра Уладзіслава Сыракомлю і Паўла Шпілеўскага. Ды калі чалавек неардынарны, то абавязкова цягам часу раскрыецца нейкай сваёй новай якасцю. Захапленне Каткаўца літаратурай нельга не падзяляць, бо, не будзем забываць, — яна, літаратура, адзін з асноўных носьбітаў духоўнасці.

Васіль Сцяпанавіч падыходзіць да кніжнай паліцы. Як бы апраўдваючыся, прамаўляе:

— Запамятаваў, на жаль, але ў гісторыка-дакументальнай хроніцы «Памяць» Любанскага раёна ёсць надзіва шчыры лірычны верш Жаўрука, у якім гучыць наша, любанская тэма.

Узяўшы том у рукі, ён пачынае шукаць неабходную старонку.

Нарэшце з задавальненнем прамаўляе:

— Вось, калі ласка!

Небывалая дагэтуль,
Нечуваная нідзе,
Над Рэчанскім сельсаветам
Поўнач зорная ідзе.

І выходзіць к травам ніцым
Праз лябёды і званец
Закаханы ў бліскавіцы
Масці светлае хлапец.

Ён праходзіць праз фурманкі
У край сялібы,
У ночны дым,
Дзе за трактарнай стаянкай
Спяць арцельныя сады.

Дзе вартуе свет зялёны
Ад зайздрослівых вачэй
Дзед з унучкаю Алёнай,
Сярод дзён,
Сярод начэй.

І тут я заўважаю на сцяне.... хамут.

— Гэта што яшчэ такое? — задаю недарэчнае пытанне, бо сумнення не застаецца: што ёсць, тое ёсць.

— Хамут, — як ні ў чым не бывала, спакойна тлумачыць Васіль Сцяпанавіч.

— Але адкуль ён узяўся ў вашым кабінеце?

— Падарылі.

— Хамут?

— Хамут, — на твары Каткаўца з'яўляецца ўсмешка.

— Усе-такі нейкі дзіўны падарунак для начальніка аддзела культуры райвыканкама, — нічога не разумею я.

— Гледзячы з якога боку, — адказвае Каткавец. — Як-ніяк, а ў адной упражцы з культурай ужо пятнаццаць гадоў.

— Маеце на ўвазе стаж работы на пасадзе начальніка аддзела?

— Але. Віншавалі мяне такім чынам удзельнікі ансамбля «Расіяначка» з горада Багародска, з якім у нас даўнія творчыя сувязі.

Такі, як на першы погляд, дзіўны падарунак расійскія госці выбралі невыпадкова. Калі добра разважыць, то тым, хто працуе ў галіне культуры, сапраўды даводзіцца, як таму цяглаваму каню, несці на сабе асноўны цяжар работы. Калі ж глядзець шырэй і

далей, дык той жа хамут — рэч традыцыйна сялянская, а традыцыйнай культуры на Любаншчыне надаецца вялікая ўвага. Так што сапраўды — падарунак арыгінальны.

## ГРАЙ, ГАРМОНІК, ГРАЙ!

У кабінет заходзіць падцягнуты, хоць і не маладога ўжо ўзросту, мужчына. Але гэтая стройнасць маладзіць яго.

— Знаёмцеся, — прадстаўляе мужчыну Васіль Сцяпанавіч, — Іван Раманчук, мастацкі кіраўнік ансамбля народнай музыкі і песні «Любанскі гармонік».

— Здаецца, — выказваю я меркаванне, — ёсць яшчэ і «Менскі гармонік»?

— То Іван Мікалаевіч раней ім і кіраваў, — тлумачыць Каткавец. — А увогуле — ён чалавек цікавейшай біяграфіі.

«Чалавек цікавейшай біяграфіі» ахвотна расказвае пра сябе. Раманчук нарадзіўся ў вёсцы Яменск, але прыкладна ў шасцігадовым узросце ад бабулі, у якой выхоўваўся, трапіў у Сталінград, дзе на той час жылі ягоныя бацькі — бацька быў накіраваны туды на аднаўленне разбуранага нямецка-фашысцкімі захопнікамі горада. У Сталінградзе Ваня Раманчук скончыў вучылішча, набыў спецыяльнасць слесара па рамонце прамысловага абсталявання, а адпрацаваўшы паўтара года, трапіў на Ваенна-марскі флот.

Пасля звальнення ў запас можна было, канечне, і далей працаваць па набытай спецыяльнасці. Балазе заробак меў нават больш, чым бацька. Ды захацелася яму стаць дэфектолагам. На той час атрымаць гэтую спецыяльнасць можна было толькі ў сямі гарадах Савецкага Саюза. Раманчук выбраў Мінск — як-ніяк родныя мясціны. Пасля атрымання дыплома аб вышэйшай адукацыі давялося працаваць і ў Смалявічах, і ў Плешчаніцах. Калі ажаніўся, перабраўся ў Мінск, дзе працаваў спачатку ў школе глухіх, у другой дзіцячай бальніцы. І ўвесь час не развітваўся з гармонікам, ігрой на якім захапіўся яшчэ ў дванаццацігадовым узросце, калі на той час жыў у роднай вёсцы. Праз год так дасканала авалодаў ім, што нават запрашалі на розныя святы.

— Чацвёртым музыкам лічылі мяне ў Яменску, — не без гонару гаворыць Іван Мікалаевіч. — На танцы збіралася не толькі мясцовая моладзь. Многія з суседніх Трайчанаў прыходзілі. Дзяўчаты так утрамбоўвалі пляцоўку, што яе вадой залівалі. Пазней бабуля казала: лепшага току для абмалоту жыта не было.

Працуючы ж у бальніцы, так часта адлучаўся ў Палац прафсаюзаў, што аднойчы



*Ансамбль «Любанскія музыкі» ў час свята. На пярэднім плане справа — Іван Раманчук.*

галоўны ўрач не вытрымала і сказала, каб выбіраў адно: медыцыну ці культуру. Ён аддаў перавагу культуры, бо ўжо без музыкі не ўяўляў сабе жыцця. У 1987 годзе стаў мастацкім кіраўніком ансамбля «Гармонікі». Давялося і іншымі калектывамі кіраваць, часам нават паралельна, пакуль канчаткова не звязаў свой лёс з «Менскім гармонікам», што вырас з ансамбля «Гармонікі». Так працягвалася да той пары, пакуль не прыйшоў час ісці на пенсію.

— Тады Іван Мікалаевіч, — падхоплівае размову Каткавец, — і вырашыў вярнуцца на Любаншчыну. — Пайшоў насустрач сваёй маці, якая была ўжо цяжка хворая і хацела памерці на радзіме. Купіў кватэру... І стварыў ансамбль «Любанскі гармонік».

У складзе гэтага ансамбля апроч самога мастацкага кіраўніка яшчэ сем чалавек. Старэйшаму, Віктару Гецюку, споўнілася 66 гадоў. Малодшай, Алене Вярэнік, — 35. Розняцца ўдзельнікі «Любанскага гармоніка» і сваімі прафесіямі, але, канечне ж, ёсць тое, што, аб'ядноўваючы іх, дазваляе гаварыць аб ансамблі як аб дружнай творчай сям'і — любоў да музыкі, песні. Сам Іван Мікалаевіч выступае ў дуэце з Сяргеем Конухавым, які працуе ў гаргазе. Заявіў жа аб сабе не толькі як выканаўца, а і як паэт, кампазітар. Прытым піша не толькі песні, а і інструментальную музыку. Як кампазітар-песеннік, вядома ж, аддае перавагу тым вершам, што кладуцца, як кажуць, на душу. Таму ў рэпертуары «Любанскага гармоніка» гучаць песні на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Яўгеніі Янішчыц, Міхася Пазнякова...

«Любанскі гармонік» — з тых ансамбляў, што вядуць актыўнае творчае жыццё. Толькі летась самадзейныя артысты далі 36 канцэртаў. Пабывалі яны на фестывалі «Фальклор без межаў», які па традыцыі праходзіць на радзіме Каткаўца ў вёсцы Тышкавічы Іванаўскага раёна. І ў мясцовым санаторыі выступалі. Выязджалі на Украіну. Вялікі канцэрт прайшоў у Мінску ў Доме літаратара, калі свой юбілей адзначала пісьменніца Вера Буланда.

З'яўляючыся вялікім прапагандыстам ігры на гармоніку, Іван Мікалаевіч стараецца класці на музыку такія творы, якія б дазвалялі лепей адчуць усю непаўторнасць гучання гэтага музычнага інструмента. Прынамсі, прагледзеўшы некалькі кніг, ён зацікавіўся вершам «Сустрэча з домам» паэтэсы Ніны Гарагляд, якая жыве ў Камянцы. Сёння гэты твор з'яўляецца свайго роду візітоўкай не толькі «Любанскага гармоніка», а і значыцца ў рэпертуары многіх калектываў, сярод якіх такі вядомы, як ансамбль «Бяседа».

Адметнасць «Любанскага гармоніка» яшчэ і ў тым, што на ўсіх кацэртах ягонае выступленне адбываецца, як кажуць, ужывую, ніякая «фанера» не выкарыстоўваецца. Так было і на юбілейным вечары самога Раманчука з глыбока сімвалічнай назвай «Салаўіны напеў у маім сэрцы жыве». А як жа іначай, калі Іван Мікалаевіч толькі роднай Любаншчыне прысвяціў каля 10 сваіх песень. Сярод іх, для прыкладу, «Яменскі гармонік» і «Соснаўскія суседзі». Шмат якія з гэтых твораў добра вядомы не толькі тым, хто прыходзіць на канцэрты «Любанскага гармоніка», бо яны яны запісаны на некалькі дыскаў, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю.

## КНІГА І ДА КНІГІ

Чалавек на сваім месцы — толькі так можна сказаць і пра дырэктара Любанскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Таццяну Астрэйку. Таццяна Іванаўна нарадзілася ў пасёлку Урэчча. Перш чым быць прызначанай на гэтую адказную пасаду, прайшла па сутнасці ўсе службовыя прыступкі. Пачынала ж сваю працоўную біяграфію пасля заканчэння Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума метадыстам. Вышэйшую спецыяльную адукацыю атрымала завочна ў Мінскім інстытуце культуры. На пасадзе дырэктара — 20 гадоў. У падначаленні яе 37 бібліятэк, што для такога раёна, як Любанскі, нямала.

Кадры стараюцца рыхтаваць самі. Не абыходзяць і такой формы, як перакваліфікацыя. Скажам, дайшло да Астрэйкі, што Наталля Бышык шукае работу, — прапанавала ёй паступаць у бібліятэчны тэхнікум. Ці ўзяць Валянціну Рагалевіч, якая спачатку працавала ў ашчаднай касе, але скарацілі. Таццяна Іванаўна адразу кінула на яе вока. Даведалася, што Рагалевіч — чалавек ініцыятыўны, то чаму ёй не звязаць свой лёс з бібліятэчнай справай. Што выйшла на гэтых дзвюх жанчын, Астрэйка не пашкадавала. Прайшло не так і шмат часу, як яны на новай рабоце праявілі сябе належным чынам.

Прынамсі, Бышык, працуючы ў Камунараўскай сельскай бібліятэцы, вялікую ўвагу надае прапагандзе беларускіх традыцый. Сведчанне таму — стварэнне клуба народнага харчавання. Для тых, хто праяўляе да гэтага цікавасць, выдзелены спецыяльны пакой. У ім ёсць нават макет сялянскай печы. Тут жа прыводзяцца разнастайныя рэцэпты прыгатавання самых розных страў. Нават усім добра вядомыя дранікі, аказваецца, маюць шмат варыянтаў прыгатавання. З рэцэптамі іх з асаблівай цікавасцю знаёмяцца маладыя наведвальнікі, якія маюць магчымасць лішні раз упэўніцца ў тым, наколькі багатая нацыянальная кухня.

Дзякуючы Рагалевіч у Кузьміцкай СБ з'явіўся асобны куток, куды асабліва ахвотна заходзяць дзеці. Хоць бібліятэка знаходзіцца ў прыстасаваным памяшканні, ды Валянціна Аркадзьеўна — з тых, хто мае залатыя рукі. Да ўсяго яна добры арганізатар. Знайшла аднадумцаў, і яны сваімі рукамі зрабілі рамонт.

Супрацоўнікі Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна, наведаўшыся ў Сасноўскую СБ, былі настолькі ўражаны, што назвалі яе «бібліятэкай-святам». Безумоўна, у гэтым заслуга гаспадыні Жанны Міхаленка. Менавіта гаспадыні, а не проста бібліятэкара, бо Жанна Дзмітрыеўна пераўтварыла памяшканне гэтай установы культуры ў тое, што і сапраўды патрапляе пад вызначэнне свята.

Бібліятэка мае экалагічны накірунак, а таму ўсё робіцца для таго, каб як мага лепш прапагандаваць тое, што звязана з прыродай. Бадай, больш ні ў адной бібліятэцы Любаншчыны не ўбачыш столькі вазонаў, як у гэтай. Некаторыя з іх пры жаданні можна і прыдбаць. А каб не памыліцца ў выбары, на кожным змешчана назва, тлумачыцца, як лепей яго дагледзець. Можна пазнаёміцца і з творамі самой Міхалені — Жанна Дзмітрыеўна займаецца лозапляценнем. Настолькі захапілася гэтым заняткам, што, каб павысіць сваё майстэрства, нават скончыла спецыяльныя курсы. Дарэчы, у яе нядаўна адбылося яшчэ адно свята — ёй уручаны ключы ад новага дома. Паспрыяў гэтаму сам старшыня Любанскага райвыканкама Васіль Акуліч.

У філіяле ж № 1 Урэцкай пасялковай бібліятэкі асабліва шырока прадстаўлены краязнаўчыя матэрыялы. Чаму выбраны менавіта такі накірунак у рабоце, той, хто ведае нацыянальную гісторыю, лёгка здагадаецца. Пры Радзівілах у гэтым населеным пункце працавала знакамітая Урэцкая гута, вырабы якой карысталіся шырокай вядомасцю не толькі на Беларусі, а і за яе межамі. Таму бібліятэкар Галіна Корбут на гэтым аспекце і засяродзіла асноўную ўвагу.

Аднак Галіна Мікалаеўна не задаволілася толькі звесткамі, што добра вядомы, а і звярнулася ў архівы, каб адшукаць там такія матэрыялы, якія ў шырокі ўжытак не ўведзены. Але яе цікавіць не толькі даўніна, а і тыя падзеі, што адбываліся бліжэй да нашых дзён. Так, Г. Корбут сабрала шмат матэрыялаў пра творчасць паэта, настаўніка па прафесіі Мікалая Жука. У гэтым ёй нямала дапамагла ягоная дачка, доктар філалагічных навук Таццяна Дасаева.

Падобных прыкладаў, якія сведчаць аб тым, наколькі любанскія бібліятэчныя работнікі не абмяжоўваюцца толькі прапагандай сярод чытачоў літаратуры, а разнастаяць сваю работу, імкнуцца, каб бібліятэкі пераўтвараліся і ў свайго роду цэнтры духоўнасці на сяле, шмат.

Калі гутарка прыйшла да свайго лагічнага завяршэння, Астрэйка заўважыла:

— У нас, можна сказаць, юбілей!

— Які яшчэ юбілей? — зацікавіўся я. — Чаму ж вы пра яго не гаворыце? Ці, можа, з-за паўсядзённых працоўных будняў не да свят?

— Як вам сказаць... Ёсць жа юбілеі і больш важныя. Але для нас і гэты істотны, — працягвала Таццяна Іванаўна. — На Любаншчыне да 1917 года бібліятэк не было. Хіба што пры цэрквах і царкоўнапрыходскіх школах існавала невялікая колькасць рэлігійных кніг. Аднак ужо ў 1919 годзе пасля вызвалення краю ад немцаў валасны рэвалюцыйны камітэт прыняў пастанову аб адкрыцці ў тагачасным мястэчку Любань Народнага дома з бібліятэкай. Але ў хуткім часе прыйшлі новыя акупанты, польскія, таму сістэматычная культурна-асветніцкая работа пачалася толькі з 1920-га. Ужо ў 1924 годзе ў раёне працавала дзве хаты-чытальні — у Асаўцы і Забалацці. Праз шэсць гадоў такіх устаноў культуры стала восем. Было створана таксама некалькі чырвоных куткоў. Перад вайной жа ў Камуне, Асаўцы, а таксама ў Загаллі працавалі свае бібліятэкі.

— Так што працягваеце традыцыі?

— Працягваем. Але і назапашваем новае, таму імкнёмся як мага больш разнастаіць сваю работу.

## ВАБІЦЬ ДА СЯБЕ ПАРК

Гаворачы аб тым, у чым Любаншчына адметная сваім культурным жыццём, Каткавец згадвае і парк культуры і адпачынку, што з'яўляецца філіялам Любанскага музея народнай славы, а сёлета адзначае сваё 20-годдзе. Ініцыятарам стварэння яго выступіў тадышні намеснік старшыні Любанскага райвыканкама Віктар Карпіевіч. Ён жа склаў схему будучага парку, распрацаваў ягоную сістэму, а да ўсяго даў канкрэтнае заданне пэўным арганізацыям, бо стварэнне гэтага парку задумвалася метадам народнай будоўлі. Што і пачало ажыццяўляцца, калі даводзілася да ладу тэрыторыя, прылягаючая да ракі Арэсы.

На сённяшні дзень добраўпарадкавана каля 8 гектараў. Даўно набраліся сілы некалі пасаджаныя дрэвы, падрастаюць тыя, што з'явіліся нядаўна. Вабяць вока дэкаратыўныя кусты, дагледжаныя дарожкі. Усё зроблена такім чынам, каб тыя, хто прыйшоў у парк, знайшлі тое, што ім асабліва падабаецца. Тым больш гэта не так і цяжка зрабіць, бо парк падзелены на некалькі зон, кожная з якіх мае свой функцыянальны накірунак.

Адна з самых запатрабаваных — тая, дзе ўстаноўлены розныя атракцыёны, у тым ліку і навейшыя. А гэта яшчэ адно пацвярджэнне таму, што культурнае жыццё ў Любані — ніколькі не правінцыяльнае. Ёсць у парку і тое, што напаткаеш і далёка не ў кожным з тых, якія размяшчаюцца нават у вялікіх гарадах. У затоцы, што знаходзіцца непадалёку ад русла Арэсы, можна пакатацца на катамаранах. Такой магчымасцю, дарэчы, з асаблівым задавальненнем карыстаюцца прыезджыя.

Парк даўно стаў цэнтрам правядзення масавых свят і народных гулянняў. У першую чаргу не абыдзены ўвагай такія, як дзень Вялікай Перамогі, вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, ён жа Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Шырока адзначаецца і Купалле, правядзенне якога становіцца асабліва масавым і відовішчным.

Практыкуюцца і тэматычныя праграмы. Летась, паколькі паводле Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь гэты год быў аб'яўлены Годам зямлі, прайшла вялікая акцыя «Радзімы мілы на Любаншчыне куточак». Удзел у ёй прымалі не толькі самадзейныя артысты, а і народныя майстры, якія літаральна на вачах прысутных паказвалі, на што здатныя. Шмат, для прыкладу, было жадаючых пабачыць, як звычайны кавалак дрэва хутка ператвараўся ў прыгожанькі, быццам толькі што знойдзены ў лесе грыбок.  Не менш знаходзілася і тых, хто спяшаўся пакаштаваць тую ці іншую страву беларускай нацыянальнай кухні. Балазе гэта было зрабіць нескладана — гандлёвыя работнікі тут жа, у парку, разгарнулі свае палаткі. Падвядзенне ж свята завяршылася ўручэннем лепшым выканаўцам, калектывам і нават сельсаветам ганаровых грамат Любанскага райвыканкама.

Кожны сезон у парку па традыцыі адкрываецца 1 мая.

— Гэты дзень, — гаворыць Каткавец, — выбраны невыпадкова. Сам жа парк па сутнасці своеасаблівы сімвал працы. У такім разе дзе, як не ў ім, адзначаць Дзень працы.

З Васілём Сцяпанавічам нельга не пагадзіцца, як і з тым, што перасяленне Любанскай школы мастацтваў у новы будынак адкрые яшчэ больш шырокія ўмовы для эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення.

## БУДЗЕ НОВАЯ ШКОЛА

Да гэтага перасялення, як кажуць, засталося ўсяго нічога. Ужо нават заказана мэбля, але, на жаль, завяршэнне работ вядзецца ўсё ж не так хутка, як таго хацелася б. Прычына банальная: не стае фінансавых сродкаў. Тым не менш наваселле не за гарамі. Пакуль жа школа размяшчаецца ў трох будынках, што, безумоўна, нязручна як для саміх педагогаў, так і для навучэнцаў. Дый умовы ў гэтых будынках — далёка не ідэальныя.

Толькі, як кажуць, да цяжкасцей тым, хто сее ў дзіцячых душах зерні духоўнасці, не прывыкаць. Школа карыстаецца такой папулярнасцю, што некаторыя бацькі прывозяць на вучобу сваіх дзяцей з вёсак, бо ведаюць, што менавіта ў сценах яе хлопчыкі і дзяўчынкі атрымаюць належную музычную ці

мастацкую адукацыю, а некаторыя змогуць самасцвердзіцца, прыняўшы ўдзел у тых мерапрыемствах, што ладзяцца тут.

Вядомасць набыла ўзорная эстрадная група «Цэнтр», якой кіруе Мікола Шагаў — чалавек, апантаны сваёй справай, цудоўны музыкант і кампазітар, многія песні якога набылі немалую папулярнасць. У тым ліку і «Як ляцелі лебедзі» на словы Муравейкі, якую з задавальненнем выконваюць не толькі любанцы, а і калектывы з іншых гарадоў.

Чарговы раз напаткаў поспех юных любанцаў у так званым адкрытым расійскім конкурсе эстрадных выканаўцаў «Залаты ключык». Навучэнка Алена Міхаленя заняла на ім трэцяе месца. Дарэчы, яе маці Ала Міхаленя з'яўляецца хормайстрам «Цэнтра».

Пры школе працуюць і такія самадзейныя калектывы, як народны аркестр народных інструментаў, які ўзначальвае Валянціна Лагун, духавы аркестр на чале з Сяргеем Кубецам, эстрадны ансамбль (кіраўнік Міхась Жураўскі), баянны аркестр — ім апекуецца Тамара Князева. Дый і іншыя калектывы і выканаўцы заслугоўваюць таго, каб пра іх гаварыць з пачцівасцю.

Мяркуецца, што з адкрыццём новага будынка школы мастацтваў вырашыцца і праблема з выставачнай залай. Гэта тым больш важна, што ў музеі для такіх экспазіцый няма належных умоў. Задумак жа ў музейшчыкаў дастаткова, таму зручнае памяшканне ім вельмі прыдасца і ў ім будуць арганізоўвацца не толькі выстаўкі, а і праводзіцца шмат якія іншыя мерапрыемствы.

Калі ў Любані праходзіла чарговая Ноч музеяў, то прысвяцілі яе Году біялагічнай разнастайнасці. З Мінска на гэтае мерапрыемства прыязджаў вядомы археолаг, ураджэнец вёскі Сосны Мікола Крывацэвіч, які праводзіў раскопкі ва ўрочышчах Азярное, Старыя Юркавічы. Прысутныя змаглі пазнаёміцца з вынікамі гэтых даследаванняў, праслухаўшы цікавую лекцыю, што суправаджалася паказам слайдаў.

### ЧАМУ Б НЕ ПАЕХАЦЬ У САРАЧЫ

Васіль Каткавец прапанаваў:

— Як гледзіце наконт таго, каб з'ездзіць у Сарачы?

— У шаплыкаўскія?

— Яны самыя, гэта ж зусім побач з Любанню.

Зразумела, я не мог адмовіцца ад такой прапановы, бо хоць і чуў нямала пра некалі славуты калгас «Чырвоная змена», які ўзначальваў двойчы Герой Сацыялістычнай Працы Кузьма Шаплыка, але так і не давялося пабываць у гэтай гаспадарцы. Да ўсяго, будучы ў Любані годам раней, даведаўся, што менавіта ў Сарачах свой працоўны шлях пачынаў і Каткавец. Прыехаць яго з жонкай туды падахвоціў не хто-небудзь, а Фёдар Крупянькоў, які па-ранейшаму ўзначальвае мясцовы Палац культуры.

Па дарозе ўжо Васіль Сцяпанавіч патлумачыў мне, што, паводле адной з версій, назва Сарачы з'явілася ад таго, што даўным-даўно ў гэтых мясцінах у зарасніках вербалозу і чароту збіралася шмат сарок. Спачатку такі назоў мела ўрочышча. Сама ж вёска адносна маладая. Сваю гісторыю яна адлічвае з 60-х гадоў XIX стагоддзя, калі пасля адмены прыгоннага права паблізу ад гэтага месца сяляне атрымалі 22 надзелы зямлі.

Сучасны выгляд Сарачы набылі пасля таго, як пачалося ажыццяўленне праекта планіроўкі і забудовы гэтай вёскі, распрацаванага ў 1969 годзе Інстытутам Белдзяржпрамсельбуд. У аснову паклалі галоўную вуліцу, ад якой уздоўж берага ракі Арэсы адыходзіць бакавая з аднабаковай забудовай чатырохпавярховымі дамамі. Адміністрацыйна-грамадскім і культурным цэнтрам стала добраўпарадкаваная газонамі, кветнікамі і басейнам плошча. На ёй, поруч з іншымі будынкамі грамадскага прызначэння, знаходзіцца і Палац культуры, які тады называўся Палац культуры і спорту. Праект яго распрацоўваў знакаміты архітэктар Георгій Заборскі.

Урачыстае адкрыццё Сароцкага палаца культуры і спорту адбылося 1 жніўня 1980 года, а ўжо ў верасні ў ім праходзіў Усесаюзны семінар работнікаў культуры. Наколькі гэтае мерапрыемства мела высокі статус, сведчыць тое, што ў рабоце семінара прымалі ўдзел усе намеснікі саюзнага міністра культуры, а таксама ўсе міністры культуры саюзных рэспублік.

Што ж, у Сарачах было што паказаць і чаму падзівіцца. І працоўнымі поспехамі калгаса «Чырвоная змена», які з'яўляўся адным з лепшых не толькі на Беларусі, а і ва ўсім Савецкім Саюзе. Дый самім палацам,



Палац культуры ў Сарачах.

бо хоць у той час і не шкадавалі грошай на аналагічныя пабудовы, тым больш у гаспадарках, якія былі на слыху, але індывідуальны праект ёсць індывідуальны праект. У такіх выпадках праекціроўшчыкам дазвалялася як заўгодна праявіць сваю творчую фантазію, прымаючы пад увагу тое, што ў будучым недахопу ў фінансавых сродках не будзе. Таму Заборскі, хоць і праектаваў палацы ў іншых месцах (прынамсі, гэта ён надаў ярка выражаны індывідуальны твар не менш вядомым «Верцялішкам»), у Сарачах не паўтарыўся, а таксама знайшоў арыгінальны падыход у вырашэнні сваёй задумы.

## АДНЫМ МІНУЛЫМ НЕ ПРАЖЫВЕШ

Першым жа абжываць новы палац давялося Крупяньковым. Самому Фёдару Фёдаравічу і ягонай жонцы Надзеі Аляксееўне, якая тады была метадыстам, а цяпер з’яўляецца мастацкім кіраўніком. Яны былі запрошаны на працу ў гэтую ўстанову культуры, калі яна толькі распраўляла свае крылы. Такую прапанову атрымалі падчас вучобы ў Мінскім інстытуце культуры. Аб тым, якое вялікае значэнне надавалася гэтаму палацу (хутчэй за ўсё, ужо тады ў вышэйшых эшалонах улады саспеў план менавіта ў Сарачах правесці згаданы ўсесаюзны семінар), гаворыць ужо тое, што пытанне з пераводам Крупяньковых на завочную форму навучання вырашалася не ў рэктараце ВНУ, як гэта звычайна практыкуецца, а адразу ў Міністэрстве культуры БССР. Кіраўніцтва ж гаспадаркі паабяцала даць такім патрэбным маладым спецыялістам і кватэру.

— Кватэру, праўда, мы атрымалі праз тры гады, — расказвае Надзея Аляксееўна. — Хоць яна і патрэбна была, бо пажаніліся яшчэ на другім курсе, а на трэцім ужо нарадзіўся наш першынец, сынок, якога назвалі Андрэем.

— І колькі дзяцей у вас?

— Чацвёра.

— Сыноў, — дадае Фёдар Фёдаравіч. — Андрэй, Дзіма, Гена і Сашка.

З Крупяньковымі прыемна размаўляць. За язык, як кажуць, цягнуць не даводзіцца. Не проста ахвотна расказваюць пра сябе і сваю работу, але і добра ўзаемадапаўняюць адно аднаго.

Надзея Аляксееўна — мясцовая. Спачатку скончыла вучылішча, а потым, прапрацаваўшы два месяцы, паступіла ў інстытут. Фёдар Фёдаравіч жа родам з вёскі Рагозіна Аршанскага раёна. Паступаў у інстытут, але не пашанцавала, таму пачаў загадваць клубам. Калі прызвалі ў армію, апынуўся ў Маскве, дзе скончыў сяржанцкую школу. Адтуль трапіў у Забайкальскую ваенную акругу, працягваў службу ў вайсковай часці, якая знаходзілася ў горадзе Байкальску.

— Начальнікам клуба быў, — з гонарам за мужа ўдакладняе Надзея Аляксееўна. — Ды не проста адбываў службу, а працаваў так, што пра яго неаднойчы пісалі ў друку. Цяпер, — яна не хавае захаплення, — нявесткам сваім паказваю гэтыя матэрыялы. Глядзіце, маўляў, якім арганізатарам быў прапаршчык Крупянькоў. Да ўсяго яму была справа, усё яго цікавіла, усё хвалявала.

Арганізатарскія здольнасці Фёдара Фёдаравіча асабліва спатрэбіліся тады, калі ён узначаліў Палац культуры і спорту. Канечне, пры здачы гэтага аб’екта недапрацовак было

няшмат. Усё ж новабудоўля з'яўлялася не звычайным клубам ці іншым аб'ектам, дзе можна нешта недагледзець, а на штосьці заплюшчыць вочы. Але гэта не значыць, што ўсё адразу выглядала ідэальна.

Фёдару Крупянькову давялося займацца і добраўпарадкаваннем навакольнай тэрыторыі, і набываць неабходнае абсталяванне, купляць апаратуру, мэблю. Зразумела, што і кадравае забеспячэнне лягло на ягоныя плечы, а яшчэ, што не менш важна, стварэнне калектываў мастацкай самадзейнасці. У гэтым выпадку таксама часу на раскачку не было.

Без вялікіх арганізатарскіх здольнасцей Фёдара Фёдаравіча, без яго чуйнага адчування ўсяго новага, без жадання не толькі працаваць, а працаваць творча, з натхненнем, з гарэннем наўрад ці ўдалося б утрымаць узятыя вышыні сёння. Больш за тое, зрабіць так, каб Сароцкі палац не толькі мог зладжана працаваць, а і шмат у чым сапернічаць з некаторымі гарадскімі ўстановамі культуры.

Гэта пры тым, што цяперашняе СПК «Чырвоная змена» імя К. Шаплыкі — не тое, што колішні калгас. На матэрыяльную дапамогу з іхняга боку разлічваць не даводзіцца. Самі, як кажуць, па вушы ў даўгах. Аддзел жа культуры выдзяляе толькі грошы на зарплату, на ўтрыманне палаца. У астатнім жа трэба рупіцца. Так працаваць, каб гэта давала жаданыя вынікі. Вынікі ж — відавочныя. Летась спецфонд палаца склаў 29 мільёнаў рублёў. Сёлета пры плане ў 33 мільёны на сярэдзіну мая было зароблена ўжо 20 мільёнаў рублёў. Канечне, яны не з'явіліся з неба, як тая манна нябесная. За імі праца, праца і яшчэ раз праца.

**НА ДЫСКАТЭКУ... НА ТАКСІ**

Скажам, колькі гадоў назад узнікалі праблемы з работай дыскатэкі. Якую толькі тэматыку не прапаноўвалі работнікі палаца, а моладзь не надта спяшалася сюды. Дый на іншыя мерапрыемствы не вельмі ахвотна ішла. Тады Крупянькоў, а было гэта ў 2004 годзе, звярнуўся з просьбай у райвыканкам, каб выдзелілі грошай на набыццё навейшай апаратуры. Не проста каб так далі, а ў крэдыт. На шчасце, мясцовая ўлада да такой прапановы паставілася з разуменнем.

Грошы ўзялі, але грошы і зарабілі. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што паступова дамагліся, каб дыскатэкі пачалі цікавіць не толькі мясцовую, а і гарадскую моладзь. Цяпер нават з'явілася свайго роду мода: пад'язджае вечарам да палаца з Любані таксі, з якога выходзяць некалькі чалавек (а то і адзін). Пасля заканчэння ж дыскатэкі яе заўзятыя ўдзельнікі на таксі адпраўляюцца дахаты.

Да гэтага, зразумела, можна паставіцца па-рознаму. Пачынаючы ўсмешкай «чым бы дзіця не цешылася» і завяршаючы пагардлівым стаўленнем — «нябось, за бацькоўскія грошы раз'язджаюць». А можна да таго, што адбываецца, падысці і з разуменнем. Трэба глядзець праўдзе ў вочы: на дыскатэкі ходзяць і прыязджаюць пераважна тыя, каго, мякка кажучы, выдатнікамі не назавеш. Паколькі ж яны знаходзяцца пры справе, стала меней правапарушэнняў, прыводаў у міліцыю. Адначасова ў сувязі з тым, што ўваход платны, ідзе і істотнае папаўненне на спецрахунак.

Вядома, работа дыскатэкі выклікае дадатковую турботу, павялічвае нагрузку на тых, хто яе абслугоўвае. Ды іншага выйсця няма. Прыклад паказвае сам Фёдар Фёдаравіч, які кіраўніцтва дыскатэкай узяў на сябе. Астатнім жа, дый яму самому, даводзіцца па чарзе дзяжурыць: то кантралёрам, то касірам... На грамадскіх пачатках, зразумела.

Каб яшчэ больш зацікавіць наведвальнікаў дыскатэкі, вечарам адкрыты свабодны доступ на другі паверх палаца. Сяму-таму падабаецца зверху паглядзець, як танцуюць сябры. Нехта гуляе ў більярд, якога тут два віды. Зразумела, у рэдкіх выпадках даводзіцца і міліцыю выклікаць, але ў асноўным за парадкам сочаць самі работнікі ўстановы культуры.

Увогуле, работа з моладдзю нязменна ў цэнтры ўвагі Крупянькова і тых, хто працуе з ім поруч. Па ініцыятыве дырэктара палаца летась з'явілася студыя сучаснай песні, якой ён жа і кіруе. Наталля ж Насановіч займаецца з дзяцьмі. Выступленні студыйцаў заўсёды запатрабаваны, таму яны выступаюць і з платнымі канцэртамі. Выязджалі і ў Лельчыцы, адкуль родам адзін са спевакоў. Было гэта 2 мая. Пасяўная, людзі спяшаюцца адсеяцца на сваіх агародах, але гэта не перашкодзіла ім прыйсці на канцэрт. Да



*Злева направа: Вольга Дзікун, Фёдар Крупянькоў,*
*Наталля Шаплыка, Надзея Крупянькова, рэжысёр Ала Каткавец, Галіна Шаплыка.*

ўсяго адбылося яшчэ і як бы паяднанне раёнаў, бо кіраўнік Любанскага райвыканкама родам з Лельчыччыны.

## ДОМА І НА ГАСТРОЛЯХ — АДНОЛЬКАВА ЦІКАВА

Усяго ў Сароцкім палацы працуе 11 самадзейных калектываў, агульная колькасць удзельнікаў у якіх складае 113 чалавек. Прынамсі, у танцавальным калектыве «Эдэльвейс» тры групы, адпаведна ўзросту. З усімі імі займаецца Вольга Дзікун. Адзін са старэйшых калектываў — народны хор «Прасніца», які ўзначальвае Наталля Шаплыка. Некалькі месяцаў назад ён пацвердзіў гэтае сваё ганаровае званне. Наталля Аркадзьеўна дапамагае і вакальнай групе ў вёсцы Рэдзькавічы — радзіме К. Шаплыкі, — з якой не толькі рэпетыцыі праводзіць, а і канцэрты арганізоўвае.

Надзея Крупянькова кіруе ансамблем «Росіца», які быў заснаваны ў 1991 годзе. Удзельнікі — самага living ўзросту. Увaходзяць у яго і тыя, хто размяняў восьмы дзесятак, і 40-гадовыя. Аднак усе такія зухі, што калі танцуюць, то нельга не захапляцца іхнім майстэрствам. У «Росіцы» ёсць і, калі можна так сказаць, дочкі — малодшая і старэйшая група дзіцячага хору «Росічка». Нядаўна чатыры пары дзетак вярнуліся з рэспубліканскага фальклорнага свята «Берагіня», у якім юныя артысты з Сарачоў удзельнічаюць не першы раз.

Сароцкія артысты ахвотна выязджаюць на гастролі. Адна з паездак была на Століншчыну. Канечне, далекавата, не адна сотня кіламетраў туды і назад. Ды не паехаць проста не маглі, бо з вёскі Альпень родам актыўная ўдзельніца сароцкай мастацкай самадзейнасці Раіса Герцмановіч. Хоць прайшло ўжо больш дзесяці гадоў, як яна развіталася са сваёй малой радзімай, ды зямлю маленства не забывае. Па просьбе Раісы Мікалаеўны ў Альпень прыехалі народны хор народнай песні «Прасніца» на чале з кіраўніком Наталляй Шаплыка, фальклорны танцавальны калектыў «Росіца» — яго, як вядома, узначальвае Н. Крупянькова, — і

вакальны гурт «Капрыз» — таксама дзецішча Н. Шаплыкі. Больш за паўтары гадзіны праходзіў канцэрт. Былі дружныя воплескі, гучалі і словы захаплення, а яшчэ шкадаванне з-за таго, што чагосьці падобнага ў Альпені няма.

## З ВЕРАЙ У ДАБРО

Не першы год у Сарачах праводзяцца і акцыі «Спартсмены — дзецям». Праходзяць яны пры падтрымцы Нацыянальнага алімпійскага камітэта, Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама Івана Семянені, які з'яўляўся два скліканні дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, а цяпер паранейшаму шмат дапамагае Любаншчыне. Далучаецца да гэтай важнай працы таксама Асацыяцыя спартыўных журналістаў. Акцыі гэтыя маюць дабрачынны характар і аднолькава неабходны як тым, каму адрасуюцца, так і самім арганізатарам, якія могуць праявіць сардэчнасць у дачыненні да тых, каму патрабуецца ўвага, пайсці ім насустрач, а тым самым зрабіць іхняе жыццё больш насычаным і яркім.

З кожным годам колькасць дабрадзеяў павялічваецца, як, на жаль, узрастае і колькасць тых, каму патрэбна дапамога. Канечне, ідэальна было б дажыць да часоў, калі адпадзе неабходнасць у спецыяльных дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах, ды рэальнасць пакуль такая, што ад яе нікуды не дзенешся. Таму добра, што ёсць тыя, хто гэта не толькі добра разумее, але і працягвае руку дапамогі.

У Сарачах пабывалі ледзь не ўсе знакамітыя спартсмены (як, дарэчы, і зоркі беларускай эстрады). Звычайна спартсмены запрашаюцца сюды пасля завяршэння чарговых Алімпійскіх гульняў, калі ёсць магчымасць парадавацца сваім спартыўным перамогам у коле прыхільнікаў, але адначасова прысутнічае і іншая мажлівасць — зрабіць свой уклад у справу падтрымкі тых, каму яна неабходна.

З гэтай акцыяй у Сарачах суседнічае і яшчэ адна, што мае падобную скіраванасць — «З верай у дабро». Яе мэта — таксама клопат аб мнагадзетных сем'ях, дзецях-сіротах. Прыкладаў можна прыводзіць шмат, але ў шэрагу іх на першым месцы будзе тое, што робіць сям'я Кубаравых з Мінска. Па ініцыятыве Міхаіла Паўлавіча яны ў 1998 годзе пачалі апекавацца дзяўчынкай Машай Куніцкай, якая засталася без бацькоў. Іхнюю пастаянную падтрымку Маша адчувала пачынаючы з першага класа, а сёлета скончыла сярэднюю школу. І, як іншыя выпускнікі, удзельнічала ў традыцыйным свяце апошняга званка «Знайдзі сваю зорку», на які запрашаюцца юнакі і дзяўчаты з Сарачоў і Рэдзькавіч.

У тым, што гэтае свята праходзіць паспяхова, немалая заслуга і Галіны Шаплыкі. Галіна Аляксееўна — родная сястра Крупяньковай, якая некалі і падказала ёй паступаць у Мінскі інстытут культуры. Шаплыка — вядучая ўсіх свят, яна ж і выдатны сцэнарыст іх.

Кубаравы нават арганізавалі для сваёй падапечнай паездку за мяжу, каб яна магла, як кажуць, і свет паглядзець, і сябе паказаць. Прыклад такога шэфства, канечне, унікальны, але гэта лішняе пацвярджэнне таму, што нашым людзям не бракуе чуласці, а ў жорсткім свеце, нягледзячы ні на што, застаецца месца дабрыні, спагадзе, душэўнасці.

Што спорт у Сарачах любяць, сведчаць і спаборніцтвы, якія ў аграгарадку ладзяцца штогод. Сёлетнія па хакею праходзілі на працягу трох дзён. Перад тым, як пачаць іхняе правядзенне, таксама некалькі дзён у тым месцы, што называецца Крыніца, кіпела работа. Ачышчалі лёд ад снегу, старанна рыхтавалі пляцоўку. У спаборніцтвах жа ўдзельнічалі не толькі дзеці і падлеткі, але і моладзь. І нават тыя, каму ўжо за пяцьдзесят.

А з якім уздымам праходзіў конкурс, калі вызначалася лепшая сям'я! У ім прымалі ўдзел тыя сем'і, у якіх узрост мужа і жонкі ў межах ад 30 да 50 гадоў. Ахапіў гэты конкурс чатыры населеныя пункты: самі Сарачы, Рэчань, Сосны і Урэчча, і праходзіў па чарзе ў кожным з іх. Сталася так, што пры вызначэнні пераможцаў узнікла заканамернасць: пераможцам у кожным выпадку выходзіла тая сям'я, якая жыве менавіта там, дзе ладзілася чарговае мерапрыемства.

Не абыдзены ўвагай і ветэраны. Вітаюць іх звычайна каля таго дома, у якім яны жывуць. Збіраюцца суседзі, родзічы. Праходзіць імправізаваны канцэрт, і, вядома ж, гучаць словы ўдзячнасці, прызнання, падзякі. Гэтыя ж словы жанчынам адра-

суюцца ў Дзень 8 Сакавіка — у палацы з 1999 года рэгулярна праводзіцца вечар-віншаванне «Любімым, родным, дарагім». Хоць гэтае мерапрыемства і платнае, але яно заўсёды праходзіць пры аншлагу. Спачатку разыгрываўся ўсяго адзін прыз, а цяпер іх некалькі, бо прапануюць іх старшыня савета, старшыня СПК, дэпутат.

* * *

Пакідаў Любань я пад вечар. Той парой ад’язджаў, калі стомленае за дзень сонца, як і ўсё жывое наўкола, рыхтавалася да адпачынку. Завяршаўся чарговы дзень у гэтым цудоўным краі, у якім людскія справы і планы паяднаны між сабой, бо тое, што задумваецца, з’яўляецца лагічным працягам таго, што ўжо ёсць. А яшчэ, што немалаважна, у тых мясцінах да культуры не ставіліся (тым больш не ставяцца сёння) як да чагосьці другаснага, бо разумеюць, што духоўнасць — гэта тое, што робіць чалавека дабрэйшым і шчадрэйшым, узбагачае яго маральна, а гэта, у свайго чаргу, спрыяе і лепшай працы.

Набліжаўся вечар. Адзін з тых вечароў, пра якія так хораша напісала ўраджэнка Любані, вядомы празаік і паэт Ніна Маеўская: «Якія вечары ў нас! Духмяныя, сінія, зорныя... Схіляецца да захаду сцішаны дзень, і сонца, як стомленая гаспадыня на круты ганак, садзіцца на грэбень лесу. Цішыня, чуйная, палахлівая, як бывае ў хаце, дзе толькі што заснула неспакойнае дзіця. Да чырвані распалены край неба на захадзе доўга не атухае, пераліваецца ружовасцю, але паціху пачынае шарэць, папялець, нібы пакінутае вогнішча, Здаецца, варта толькі дзьмухнуць ветру, і зноў нанава разгарыцца полымя захаду, асвеціць паўнеба. Але вецер недзе далёка, не кранецца, не шастае ніводная галінка, не шалахнецца лісток на дрэве. Цёплым, парным туманам пацягне зямлю, і паветра — нібы цягучы нектар... Цішыня, цёплая, пяшчотная цішыня...»

Хораша станавілася на сэрцы ад усведамлення таго, што яшчэ адна паездка на Любаншчыну дала столькі цікавых сустрэч і назіранняў. Сапраўды ўжо, «звонкая песня, звонкае сэрца» як у яе самой, так і ў людзей, якія жывуць тут. А яшчэ ўспомнілася, што і герб Любані, які зацверджаны пастановай раённага выканаўчага камітэта ад 20 красавіка 1996 года, адметны тым, што ў ім, наколькі гэта магчыма, паяднана мінулае і сучаснае, прытым не абыдзены ўвагай і культурныя традыцыі. У прыватнасці, дзве залатыя птушкі сімвалізуюць сабой духоўную культуру народа — дабро, гасціннасць, аптымізм, любоў — і асацыіруюцца з вобразамі традыцыйнага для Любаншчыны мастацтва маляваных дываноў.

Мая прафесія



# І ПАТРЭБНЫ, І ЗАПАТРАБАВАНЫ

***Калі б мне давялося пераехаць у Магілёў, то пасялілася б на вуліцы Чалюскінцаў, паблізу эканамічнага каледжа. І гэта не жарт. Я параўнала прэйскурант на розныя паслугі, якія аказваюць навучэнцы каледжа, з іншымі ўстановамі горада, — значна танней. Да таго ж, там шмат моладзі: прыгожай, імклівай, таленавітай, працавітай і, вядома, сур'ёзнай! Яны ж не проста навучэнцы, а навучэнцы аднаго з самых прэстыжных каледжаў краіны. І гэтым справядліва ганарацца.***

***Каледж мае свой герб, гімн. Штогод яго навучэнцы атрымліваюць каля сотні грамат, дыпломаў за ўдзел у конкурсах, спаборніцтвах, алімпіядах. Бывае, што на сцэну адначасова выходзяць больш за 200 выступоўцаў — удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Сапраўды грандыёзна!***

***— Мы трывала стаім на нагах, — гаворыць дырэктар установы Алег БАХАНОВІЧ. — Умеем лічыць грошы. Нам не патрэбная рэклама. Паступаюць да нас вучыцца на конкурснай аснове. (Падчас нашай размовы ў кабінеце зазваніў тэлефон.) Адрамантаваць аўтамабіль? Калі ласка, у нас ёсць цудоўныя майстры, і адзін з лепшых — пераможца абласнога конкурсу «Майстар года» Анатоль ЧАРНЯНКОЎ. Ён вам дапаможа. Колькі будзе каштаваць? Больш танна — толькі задарма... Якасць гарантуем!***

***Колькі б я ні гаварыў вам пра дасягненні, — вяртаецца да нашай размовы Алег БАХАНОВІЧ, — гэта будуць словы. Лепей пабачыць на ўласныя вочы. Звярніце ўвагу, — на сценах шмат фотаздымкаў і грамат. Гэта нашы зоркі. Вялікі гонар для навучэнца атрымаць права на тое, каб і яго фотакартка была ў зорнай рамачцы. У нас больш за 8000 экспанатаў, якімі распараджаецца Вікторыя Мікалаеўна ГЛАДКОВА. Каб размясціць іх у музеі, патрэбна плошча ў 600 квадратных метраў.***

***Так мы распачалі цікавую экскурсію па Магілёўскім дзяржаўным эканамічным прафесіянальна-тэхнічным каледжы, пра які варта расказаць чытачам «Маладосці». Кіраўнікі каледжа, улюбёныя ў людзей, навучэнцаў, у справу, якой прысвяцілі жыццё, паказалі мне сваю гаспадарку. Нягледзячы на вакацыі, паўсюдна былі навучэнцы. І не дзіва, бо дзяўчаты з хлопцамі не толькі тут вучацца, але і працуюць. Зарабляюць грошы для сябе і для роднага каледжа.***

***У майстэрні лозапляцення завіхаліся Кацярына ГЛУЗДЗІКАВА, майстар Данута ЧЭХ-АСТРАШЭЎСКАЯ, Мацвей ЛАБАЗА, Святлана ПЯНКРАТ. У наступным кабінеце адразу відно шмат аплікацый і іншых вырабаў з саломкі, дэкаратыўных пано на ільняной тканіне, геральдычных лагатыпаў, сувенірных выяў архітэктурных помнікаў. За працэсам іх стварэння сочыць кіраўнік гуртка Марыя РЭПІЧ.***

***Пад кіраўніцтвам майстроў вытворчага навучання Генадзя МАКАРАВА і Аляксандра МАТОЛІНА юнакі рабілі зэдлікі, сталы, аконныя рамы і нават архітэктуру малых формаў. Мяне зацікавіла прыгожая альтанка — дарэчы, на тэрыторыі каледжа іх некалькі. Разам з самаробнымі лаўкамі альтанкі прыгожа ўпісваюцца ў ландшафт. А калі дадаць, што тут рыхтуюць і рабочых зялёнага будаўніцтва, то прыгажосць на тэрыторыі каледжа прысутнічае незалежна ад часу года. Дадайце яшчэ паўсюдныя чысціню, парадак і вельмі паважлівыя адносіны навучэнцаў адзін да аднаго.***

**— Алег Адамавіч, ваш каледж апошнім часам называюць «бахановічаўскім». І, напэўна, маюць рацыю. Давайце перагорнем старонкі гісторыі ў сярэдзіну 90-х. З чаго пачыналася адраджэнне ўстановы?**

— Успомнім далёкі 1967 год, калі хімічны гігант на Дняпры, сённяшняе «Магілёўхімвалакно», меў вострую патрэбу ў кадрах. Іх, каб забяспечыць вытворчасць лабарантамі, слесарамі, перамотчыкамі нітак, пачало рыхтаваць вучылішча хімікаў № 70. Міналі гады, скараціліся аб'ёмы выпуску прадукцыі і, адпаведна, на прадпрыемстве знізілася патрэба ў кадрах. Вучылішча зрабілася кандыдатам на закрыццё. Як на той час, то быў знойдзены па-сапраўднаму наватарскі выхад.



*Дырэктар каледжа Алег Бахановіч.*

Усё пачалося з паездкі ў Швецыю ў 1996 годзе. На вучобу выправілася група адказных работнікаў міністэрстваў і ведамстваў краіны, у складзе якой быў і я, тады намеснік начальніка Магілёўскага абласнога ўпраўлення адукацыі. Падчас стажыроўкі пабачыў, як шмат робіцца ў Швецыі, каб адаптаваць да жыцця ў грамадстве абдзеленых лёсам людзей: дзяцей-інвалідаў і дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Знайшліся паплечнікі-аднадумцы, з якімі мы і пачалі рэанімацыю вучылішча.

Першы крок — сталі тварам да адной з самых цяжкіх праблем нашага грамадства, якая практычна ігнаравалася. На той час толькі ў Магілёўскай вобласці дзяцей-інвалідаў і дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця налічвалася больш за 5 тысяч. Вялікі дзякуй **Але Мікалаеўне Канаплёвай.** Яна як супрацоўніца Міністэрства адукацыі падтрымала нас. Раней Ала Мікалаеўна сама працавала ў школе для сляпых і ведала праблемы з адаптацыяй выхаванцаў. Без яе дапамогі, шчыра кажучы, справа не зрушылася б з месца. З калегамі мы распрацавалі палажэнне, статут і праграмы навучання ў Цэнтры прафесійнай і сацыяльнай рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў і дзяцей з асаблівасцямі разумовага і фізічнага развіцця. Цэнтр стаў структурным падраздзяленнем вучылішча — першым і адзіным на той час у краіне.

**— Стварыць Цэнтр — гэта палова справы. А што ж далей?**

— Далей — штодзённая цяжкая, карпатлівая работа. Трэба было **не на словах** давесці дзецям, што яны нічым не горшыя за сваіх здаровых аднагодкаў і маюць з імі практычна роўныя магчымасці стаць паўнапраўнымі членамі грамадства. Адзіная льгота для такіх дзяцей — паступленне па-за конкурсам. 871 чалавек з тых, якія навучаліся ў Цэнтры, атрымаў прафесію і знайшоў сваё месца ў жыцці. Сёння ў каледжы займаюцца 1100 навучэнцаў, 280 з іх — з асаблівасцямі развіцця (130 — у Цэнтры, 150 — у інтэграваных групах). 23 выпускнікі працуюць у самім каледжы на інжынерна-педагагічных пасадах, кіраўнікамі гурткоў, майстрамі.

У людзей з асаблівасцямі развіцця адзіны шанц стаць значымымі — быць лепшымі. Мы ім пра гэта ўвесь час гаворым. І калі іх навучылі быць рэзчыкамі па дрэве ці інкрустатарамі, яны будуць рабіць так, як навучылі — сумленна і прафесійна. Таму тыя, хто бярэ на працу нашых навучэнцаў, заўсёды імі задаволены. Да прыкладу, лепшы абутнік у горадзе — наш, лепшыя кіраўнікі гурткоў для дзяцей з асаблівасцямі развіцця — нашы. Дзякуючы нізкім цэнам на нашыя вырабы, я гэта не раз падкрэсліваў, іх якасці яны заўсёды карыстаюцца попытам.

Навучанне да 2000 года праводзілася па найбольш запатрабаваных на той час спецыяльнасцях: швачка-вышывальшчыца, цясляр, спецыяліст па рамонце абутку, інкрустатар, рабочы зялёнага будаўніцтва. Сёння выхаванцы навучаюцца па 19 спецыяльнасцях у інтэгрыраваных групах, у кожнай па два-тры чалавекі. Уявіце, што значыць для інваліда-калясачніка атрымаць спецыяльнасць тэхніка-праграміста.



*Урокі інфарматыкі праводзіць Вікторыя Маркава.*

Ён можа працаваць дома. Дарэчы, у самім каледжы створаны безбар'ерны асяродак, так што праблем з перамяшчэннем па навучальнай установе няма.

**— У вас сёлета маленькі, але юбілей — 10 гадоў, як вучылішча стала каледжам. Шмат навучэнцаў, шмат новых спецыяльнасцей. Вы забяспечваеце кадрамі самыя розныя ўстановы вобласці. Вядомасць не напружвае, неацяжарвае плечы?**

— Не люблю лічбу 13, але я яе ўжо пераадолеў, менавіта столькі знаходжуся на пасадзе дырэктара. Мы выпускаем эканамістаў, тэхнікаў-праграмістаў, агентаў па страхаванні, электраманцёраў па абслугоўванні электраабсталявання, па рамонце аўтамабіляў, вадзіцеляў... Ганарымся і тым, што цягам многіх гадоў каледж — нязменны лідэр і пераможца па ўсіх паказчыках выхаваўчай работы ў абласных і гарадскіх спаборніцтвах сярод навучальных устаноў. Уявіце сабе, дванаццаць гадоў запар Пераходны сцяг уручалі нам як самым лепшым у вобласці, адвозілі ў вызначаны час у аблвыканкам, а потым ізноў уручалі нам. Нарэшце зразумелі, што гэта тэндэнцыя, і на трынаццаты год сцяг пакінулі на пастаяннае захаванне ў каледжы.

За час існавання нашай установы многія выпускнікі скончылі ВНУ і займаюць цяпер адказныя пасады ў розных галінах гаспадаркі нашай краіны. У ліку сённяшніх выдатнікаў вучобы, якімі мы ганарымся, **Ірына Ермакова, Алеся Цвяткова, Дзяніс Якімаў, Фёдар Яшчанок, Яўген Котаў** і многія іншыя.

Стаць добрымі студэнтамі ім дапамагла вучэбна-матэрыяльная база каледжа, а таксама тое, што працуюць у нас неабыякавыя высокакваліфікаваныя спецыялісты, нават не бяруся называць некаторых, каб не пакрыўдзіць астатніх. Тым не менш адзначу маіх лепшых памочнікаў — **Людмілу Тадэвушаўну Сёмчэну**, якая ў 2005 годзе перамагла на абласным конкурсе ў намінацыі «Лепшы куратар вучэбнай групы», яна ж — фіналіст Рэспубліканскага конкурсу «Педагог-выхавацель», рэдактар нашай газеты «ПРОФІ» (газета неаднойчы займала прызавыя месцы сярод выданняў прафтэхустаноў краіны), і выпускніцу каледжа **Настассю Валер'еўну Навіцкую** — намесніка па гандлёва-эканамічных пытаннях. Менавіта яна курыруе такую значную для навучальнай установы пазабюджэтную дзейнасць. Вялікі аб'ём работы на самым пачатку быў зроблены ў гэтым накірунку **Валянцінай Уладзіміраўнай Свірчанковай**.

Матэрыяльна-тэхнічная база разлічана больш чым на 1250 месцаў. Гэта 41 аўдыторыя, 16 вытворчых майстэрняў, 9 камп'ютэрных класаў, лінгафонны кабінет. Бібліятэкай, якая налічвае больш за 45 000 экземпляраў кніг, шмат гадоў загадвае **Галіна Васіль-**



*Загадчык аддзялення, рэдактар газеты «ПРОФІ» Людміла Сёмчэна.*

**еўна Маісеенка**. Словам, ёсць усё для якаснага навучання. Забяспечаны навучэнцы і жыллём. У дзевяціпавярховым будынку інтэрната ёсць кухні з электраплітамі, санвузлы, пакоі для гурткоў, трэнажорныя залы, цудоўны лячэбна-аздараўляльны комплекс, свая сталовая, буфет, майстэрня па рамонце абутку, цырульня і нават аранжарэя. Шмат увагі надаём і мастацкай самадзейнасці. Працуе 21 гурток. За апошнія тры гады з пазабюджэтных сродкаў набылі 77 адзінак рознага абсталявання і тры аўтамабілі.

**— Што ўваходзіць у лік вашых прыярытэтаў?**

— Сёння мы — адна з самых вялікіх у краіне ўстаноў адукацыі сярод прафесійных і спецыяльных вучэбных устаноў па колькасці навучэнцаў. З пачатку навучальнага года ў нас навучаліся 1150 чалавек па 21 спецыяльнасці. Прыярытэт — якасць адукацыі. Мы даём магчымасць атрымаць сумежныя, двайныя спецыяльнасці. Людзі, якія атрымалі ў нас сярэднюю спецыяльную адукацыю, паступаюць адразу на трэці курс ВНУ ў сем вышэйшых навучальных устаноў Беларусі і дзве расійскія. Лепшых выпускнікоў запрашаем на працу да сябе. Многія з іх скончылі Магілёўскі дзяржаўны універсітэт.

Кожны год атрымліваем каля сотні міжнародных, рэспубліканскіх, абласных



*Майстра на ўсе рукі Кацярына Глуздзікава.*



*Чэмпіёнка Беларусі па штурханні ядра і кіданні дыска, выпускніца каледжа Вольга Луцаева.*

дыпломаў у аглядах-конкурсах, алімпіядах, мастацкай самадзейнасці, спорце... Напрыклад, у конкурсе «Горад майстроў» удзельнічала 228 устаноў адукацыі, і з 38 дыпломаў 15 узялі нашы навучэнцы. У Рэспубліканскім конкурсе навукова-даследчых прац «Пазнай сваю Радзіму» лепшай была работа **Таццяны Грудзіны.** На працягу васьмі год, пачынаючы з 2003, песенны калектыў каледжа тройчы атрымліваў Гран-пры абласнога конкурсу мастацкай самадзейнасці. У 2009 годзе на рэспубліканскай спартакіядзе па валейболе каманда дзяўчат заняла першае месца, а каманда хлопцаў — трэцяе. Гэтыя каманды неаднойчы былі прызнаны пераможцамі штогадовай абласной спартакіяды.

Днямі ўдзельнічалі ў 6-м рэспубліканскім фестывалі «Беларускі вянок». Самым яркім, гэта адзначыла і журы, стаў конкурс «Ясь і Яніна». Навучэнцы каледжа інсцэніравалі народныя святы. Сярод іх былі прадстаўлены і калядныя, і купальскія. На самой сцэне разгарнуўся кірмаш. І тыя 17 хвілін, на працягу якіх доўжылася пастаноўка, прайшлі на адным подыху і прынеслі нашай установе першае месца. На сцэне нашы дзеці выпякалі каравай, дэманстравалі абрад «кумаўства», гадалі на вянках. Стылізаваная Яніна спявала: «Ляці, ляці, мой вяночак. Лаві, лаві, мой дружочак!» Менавіта дзякуючы першаму месцу, занятаму нашай установай у намінацыі «Ясь і Яніна», вобласць выйшла на другое месца.

Вядома ж, дасягненні выхаванцаў каледжа стымулююцца кіраўніцтвам. Для кожнага навучэнца прэстыжна патрапіць у экспазіцыю музея або на Алею зорак, дзе вісяць партрэты многіх і многіх пераможцаў конкурсаў у розных намінацыях. Мы выкарыстоўваем старыя, але правераныя метады выхавання, якія дазваляюць чалавеку раскрыцца. Лічым, што ўсе павінны быць занятыя карыснай справай. 93 працэнты нашых навучэнцаў займаюцца ў гуртках і секцыях, у мастацкай самадзейнасці. Чатыры разы на год праводзім дні здароўя. Нас не ў поўнай ступені задавальняе спартыўная база, таму ўласнымі сіламі абсталявалі ў падвальных памяшканнях трэнажорныя залы і стралковы цір.

Мы выпускаем каля васьмісот разнастайных вырабаў. Намі створаны эксклюзіўныя калекцыі гербаў Магілёўскай вобласці, нашай краіны. Мы манапалісты па выпуску гербаў. Іх заказваюць у нас дзяржаўныя ўстановы. Кошты даступныя. Мы ганарымся тым, што пры святкаванні 75-годдзя Магілёўскай вобласці ўсе раёны выносілі гербы, зробленыя рукамі нашых навучэнцаў.

**— Як вы лічыце, што з'яўляецца крытэрыем адзнакі працы вашых педагогаў?**

— Наша навучальная ўстанова настолькі своеасаблівая, што ў ёй можа працаваць толькі чалавек вялікай душы. Некалі мы былі на 29-м месцы з 31 прафесіянальнай навучальнай установы. Сёння мы першыя. Не таму, што іншыя слаба працуюць, а таму, што мы не лянуемся думаць, вучыцца ў іншых і спяшаемся ўкараняць новае. Калі вы скажаце, што гэта мая заслуга, тое будзе няпраўдай, бо ў нас цудоўны калектыў аднадумцаў, якім я вельмі ўдзячны.

**— З нагоды святкавання юбілею пісьменніка, дзеяча культуры, старшыні дзіцячага фонду Уладзіміра Ліпскага святочны торт са свечкамі ўручаў юбіляру выпускнік вашага каледжа, спявак Іван Буслай. Я думаю, гэта не адзіны выпускнік, якім вы ганарыцеся?**

— **Ванечка Буслай (Казіміроўскі)** — наш гонар. Менавіта мы заўважылі ў ім талент і зрабілі агранку гэтаму дыяменту. Ён не забывае нас. Калі бывае ў Магілёве, абавязкова заходзіць павітацца з нашымі педагогамі і навучэнцамі. У нас шмат таленавітай моладзі, якой хочацца сказаць шчырае дзякуй. Сярод іх **Зоя Ракузава (Рабычына)** — мастак, лаўрэат шматлікіх рэспубліканскіх, абласных конкурсаў і выстаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Яна вельмі добры і адказны чалавек, скончыла факультэт выяўленчага мастацтва і чарчэння ў Віцебскім універсітэце імя Пятра Машэрава. Як і многія іншыя выкладчыкі, яна шчодра дзеліцца сваім талентам з навучэнцамі каледжа, вядзе гурток. Уражвае шматграннасцю свайго таленту і **Таццяна Капылова**: не толькі вышывае, вяжа, але і малюе, робіць кампазіцыі з айчынных прыродных матэрыялаў. Яна скончыла Магілёўскі тэхнічны універсітэт. **Міхаіл Янаў —** таленавіты сталяр і рэзчык па дрэве. **Віктар Дашкевіч** — адзін з лепшых майстроў-абутнікоў у Магілёве. Вырабы з лазы **Кацярыны Глуздзікавай** нікога не пакідаюць раўнадушнымі. Яна адна з лепшых у прафесіі. Захапляецца спевамі і паэзіяй. Вершы Кацярыны друкаваліся ў перыядычных выданнях рознага ўзроўню.

**— Ці не можа здарыцца так, што вам надакучыць быць педагогам?**

— У традыцыях каледжа дабрыня і цярпімасць. Таму і навучэнцы, і педагогі, і пенсіянеры увагай не абдзелены. Як і ў сям'і. І кожны імкнецца рабіць так, каб было добра, кожны разумее, што гэта патрэбна не толькі дырэктару. У нас вельмі добры калектыў — прафесійная, вельмі адказная каманда выкладчыкаў, майстроў — людзей, улюбёных і ў прафесію, і ў выхаванцаў, кожнаму з якіх яны аддаюць часцінку сваёй душы. Непрафесіяналам месца ў нас няма. Бо мы ў адказе за ўсё: як вучацца, як жывуць, як адчуваюць сябе нашы дзеці. На сваіх месцах і адміністрацыя, і адпаведныя службы. Мы глядзім уперад не на адзін крок і не на два, імкнёмся да таго, каб увесь час паляпшаць работу і ўмовы для навучэнцаў каледжа.

Жыццё — гэта барацьба. Запатрабаваны той, хто патрэбны. І патрэбны ён будзе толькі тады, калі запатрабаваны. Я добра разумею, што ў гэтым жыцці зайздроснікаў хапае. Калі гаварыць пра мяне, то жыццё біла не раз і вельмі моцна. Але я люблю людзей, таму спяшаюся рабіць дабро. І найперш — адрасаваць яго нашым дзецям. Без любові няма ні навучальнага працэсу, ні выхаваўчага. Мяркую, што і прафесія педагога — ад Бога…

***Гутарку вяла Валянціна СМАНЦАР.***

# «Я ВЕЛЬМІ ГАНАРУСЯ…», альбо «НЕ ВЕДАЮ, ЯК ПАЛЮБІЦЬ»:

## *ШАСНАЦЦАЦІГАДОВЫЯ ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ І ЛІТАРАТУРУ*

***У нашым грамадстве амаль перманентна абмяркоўваецца адна і тая ж балючая праблема: што з беларускай мовай? Але рэальна гэта не столькі праблема самой роднай мовы, колькі яе патэнцыяльных носьбітаў, а гэта значыць якраз грамадства. «Спадарства, што з намі?» — вось як трэба ставіць такое шчымліва-далікатнае пытанне. У сувязі з чым і ўзнікла ідэя даведацца, што думаюць аб наяўнай «білінгвістычнай сітуацыі» шаснаццацігадовыя, прычым не проста хлопцы і дзяўчаты з вуліцы, а навучэнцы прэстыжнай сярэдне-спецыяльнай сталічнай установы, тыя, каго небеспадстаўна прынята называць будучай элітай нацыі. Каб з большай верагоднасцю наблізіцца да ісціны, давялося паспадзявацца на фактар ананімнасці. Яна, натуральна, разняволіла большасць маладых людзей і толькі некаторых штурхнула на шлях непрыхаванай кампіляцыі. Таму ад асобных «меркаванняў» прыйшлося адмовіцца ўвогуле, з некаторых вылучыць найбольш значныя фрагменты, а з аднаго прывесці ўсяго адзін, калі і не самастойны, то, ва ўсякім разе, кідкі і варты ўвагі сказ. Канечне, у прапанаваных выказваннях розная ступень «самастойнасці». Зразумела, сустракаюцца і «скапіраваныя» думкі, рэдагаванне якіх з самага пачатку было несумяшчальным з маімі намерамі. Аднак у цэлым пераважае шчырасць і непасрэднасць, а таксама, што асабліва прыемна ўразіла і парадавала, сур’ёзная заклапочанасць далёка не толькі падлеткавымі праблемамі. Такім чынам, вашай увазе прапануецца даведзеная да ладу з пункта гледжання правапісу і пунктуацыі…***

### АЎТАПРЭЗЕНТАЦЫЯ: ЦІ ЗГОДНЫ МЫ З АЗНАЧЭННЯМІ, ЯКІЯ ДАЮЦЬ НАШАМУ ПАКАЛЕННЮ (NEXT, ДЗЕЦІ ІНДЫГА)?

* * *

Сучасную моладзь называюць пакаленнем next. Next у перакладзе з англійскай мовы азначае наступны. Я згодна з гэтай назвай. Наша пакаленне ідзе наперад, таму нашы ідэалы таксама адрозніваюцца ад бацькоўскіх. У мінулым стагоддзі моладзь жадала паходзіць на славутых гістарычных дзеячаў, адважных кніжных герояў, сваіх настаўнікаў. А цяпер мы не жадаем быць падобнымі на каго-небудзь, бо не існуе людзей ідэальных, а быць падобнымі да чалавека з недахопамі не хочацца. Ужо лепш удасканальваць сябе, чым збіраць у сабе недахопы іншых. Мы шануем індывідуальнасць. Галоўнае — застацца самім сабою. Перайманне — гэта пустое марнаванне часу. Маладосці кансерватызм чужы па азначэнні.

* * *

Ці адчуваю я сябе дзіцем новага пакалення? Адкажу адразу — не. Таму што я не жадаю далучацца да шматлікіх абазначэнняў, якія нам прыдумваюць старэйшыя пакаленні. Я сапраўдны сучасны чалавек… Дзеці з цягам часу, на мой погляд, толькі

дэградуюць. Інтэрнет, вялікая колькасць не вельмі станоўчых каналаў на тэлебачанні — усё гэта дапамагае нашай моладзі паступова тупець. Я не ведаю, што будзе заўтра, і што здарыцца з моладдзю, я таксама не ведаю. Але адно я магу сказаць — у большасці сапраўднай моладзі будучыня вельмі кепская.

* * *

Дзеці індыга — гэта дзеці ад Бога. З гэтай назвай я згодны напалову. Гэты дар даецца не кожнаму, і з такім дарам людзей на зямлі вельмі мала. Індыга валодаюць звышмагчымасцямі: развітая памяць, здольнасць чытаць думкі іншых людзей і інш. Даючы такія магчымасці, Бог скарачае іх жыццё. Але за гэты час дзеці індыга запісваюць сваё імя ў гісторыі чалавецтва.

Праўда, з іншага пункта гледжання феномен дзяцей індыга быў выдуманы для бацькоў, якія заўсёды лічаць менавіта сваіх дзяцей самымі лепшымі і разумнымі ў свеце…

А перад Богам усе роўныя!

* * *

Маё пакаленне называюць па-рознаму. Нехта яго ганіць, нехта ім, наадварот, захапляецца. Але факт застаецца фактам: тыя ж дзеці індыга сапраўды існуюць. Яны палохаюць старэйшае пакаленне сваёй агрэсіўнасцю, развітым у большай ступені пачуццём справядлівасці, складанай, часта непрадказальнай рэакцыяй на навакольную рэчаіснасць, учынкі, словы іншых людзей, падзеі, якія адбываюцца навокал. Але вельмі часта яны застаюцца незразуметымі сваімі ж аднагодкамі яшчэ ў большай ступені, чым дарослымі людзьмі. Сапраўдных дзяцей індыга існуе не так многа, таму называць так усё пакаленне можна толькі абапіраючыся на нейкае падабенства паміж імі і намі, напрыклад, імпульсіўнасць. Але ж гэтым адрозніваемся не толькі мы, але ўвогуле моладзь. Проста кожнае новае пакаленне робіць новы крок наперад, тым самым робячы немагчымым існаванне поўнага паразумення паміж бацькамі і дзецьмі, паміж старым і новым. Мы проста да іх не падобныя. Часта мы ўмеем рабіць нешта з тымі ж камп'ютэрамі, мабільнымі тэлефонамі лепш за іх, у школе нас навучаюць большаму. Лічыцца, што новае пакаленне можа засвоіць большую колькасць інфармацыі, за гады вучобы ў тым ліку. І гэта нармальна. Мы таксама будзем лічыць сваіх дзяцей іншымі, часам незразумелымі, разумнейшымі за нас. І абавязкова прыдумаем для іх пакалення сваю назву.

* * *

Большасць дарослых мае цяпер нязвыклыя цяжкасці ў зносінах з сучаснымі дзецьмі. Не з усімі. З новымі. У Амерыцы гэта пачалося раней. Раней замітусіліся бацькі, занерваваліся настаўнікі, забілі трывогу псіхолагі. Здавалася б, што тут дзіўнага — праблемныя дзеці бываюць заўсёды.

Але гэтыя — асаблівыя.

Іх інтэлект нязменна быў вышэй сярэдняга, пры тым што ў школе яны ледзь цягнуць на «троечкі». Разумныя, развітыя, яны не жадаюць падпарадкоўвацца стэрэатыпам паводзін. Што з імі рабіць? Педагогіка застрашвання і пакаранні, медыкаменты, пазбаўленне кніг… Але дзяцей з падобнымі паводзінамі становіцца больш, і нарэшце псіхолагі пачалі ўсведамляць маштабнасць такога «нашэсця».

Гэта «нетутэйшае новае» пакаленне дзяцей.

Яркую блакітную аўру бачаць над такімі дзецьмі экстрасенсы. Колер індыга, які раней сустракаўся рэдка, зараз ззяе над галовамі шматлікіх сотняў і тысяч маленькіх галовак. І таму іх назвалі дзецьмі індыга. Яны — іншыя, яны не такія, як мы. У іх паглядах з самага нараджэння дзіўная мудрасць, упэўненасць у сабе, царскасць. Яны як быццам прыйшлі ў гэты свет з асобнай місіяй, незразумелай дарослым. І таму паводзяць сябе незразумелым для дарослых чынам.

* * *

Я згодны з тым, што наша пакаленне называюць Next. На сённяшні дзень наша моладзь самая прагрэсіўная, яна жыве ў час новых магчымасцей і тэхналогій. Зараз зусім іншы менталітэт. Калі параўнаць моладзь сённяшнюю з моладдзю 20-гадовай даўнасці, то кожны заўважыць шмат адрозненняў. Нават параўнаць стараннасць у вучобе. У гады Савецкага Саюза галоўнай мэтай было

скончыць школу, паступіць ва універсітэт, атрымаць добрую прафесію, і таму моладзь вельмі старанна ставілася да вучобы. Зараз таксама існуе такі кірунак, але старраннасць ужо не тая. Сённяшняе пакаленне — гэта будучыня свету. Каб гэты свет існаваў далей, трэба рабіць так, каб моладзь не адыходзіла ад жыццёвых ідэалаў і не страціла імкненне да свайго развіцця.

## ШТО МЫ ДУМАЕМ ПРА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ І ЛІТАРАТУРУ

* * *

Я вельмі ганаруся тым, што нарадзілася і жыву ў Беларусі. Мне вельмі падабаецца мая краіна і мая родная мова. Мне прыемна, што ў Беларусі жылі такія знакамітыя пісьменнікі, як Якуб Колас, Янка Купала, Уладзімір Караткевіч… Я магу з лёгкасцю і задавальненнем размаўляць на беларускай мове як тыдзень, так і ўсё жыццё. Я лічу, што кожны павінен ведаць сваю родную мову і ўмець размаўляць на гэтай мове. Што датычыцца беларускай літаратуры, то мне яна вельмі падабаецца. Я люблю вучыць вершы беларускіх паэтаў на памяць. Яны дапамагаюць мне лепш размаўляць на маёй роднай мове, праз вершы я пазнаю сваю Беларусь. Не кожны любіць сваю мову, але я лічу, што кожны павінен яе ведаць. Таму я з задавальненнем буду вывучаць беларускую мову і літаратуру.

* * *

Наогул я добра стаўлюся да беларускай мовы і літаратуры, хоць і не лічу іх роднымі… Кожны чалавек самастойна выбірае, якая мова будзе яго роднай. Я зрабіла выбар на карысць рускай мовы.

* * *

Беларуская мова прайшла цяжкі шлях. У гісторыі былі часы, калі яе забаранялі. Людзей, што на ёй размаўлялі і пісалі, саджалі ў турму. Але знайшліся такія людзі, якія, не зважаючы на забарону, пісалі творы на роднай мове. У наш час беларуская мова — дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь. Я лічу, што кожны чалавек павінен ведаць родную мову. Так і беларусы. Мы павінны ганарыцца тым, што нашых пісьменнікаў, такіх як Якуб Колас і Янка Купала, ведаюць ва ўсім свеце. Іх творамі зачытваюцца і ў нашы дні. Творы беларускай літаратуры вельмі цікавыя, глыбокія па сэнсе. На жаль, у наш час рэдка пачуеш чыстую беларускую мову, асабліва ў гарадах.

Я лічу, што чалавека нельга лічыць патрыётам, калі ён ведае шмат моў свету, але не размаўляе на роднай. Я хачу больш дасканала вывучыць беларускую мову і літаратуру.

* * *

Я вельмі люблю чытаць беларускую літаратуру, асабліва Васіля Быкава, які і дапамог мне зразумець яе. Аднойчы нам задалі прачытаць «Жураўліны крык». Я не паспела прачытаць удзень, таму пачала чытаць, калі збіралася класціся спаць… Я не змагла заснуць, таму што гэты твор вельмі моцна ўразіў мяне. Тады я і пачала цікавіцца гэтым пісьменнікам і яго творчасцю (пазакласна). Прачытала «Альпійскую баладу», «Абеліск», «Пайсці і не вярнуцца», «Пастку» і іншыя творы. Я чытала, чытала, чытала… Слухала нават радыёпастаноўку «Пасткі». Тэма вайны і чалавечых пачуццяў больш выразна адлюстроўвалася ў яго творах. На жаль, я не паспела пазнаёміцца з гэтым пісьменнікам ужывую і магу разумець, што ён гаворыць толькі праз яго кнігі. Васіль Быкаў быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, таму прайшоў усё, аб чым піша.

Імёны Янкі Купалы і Якуба Коласа ведаюць усе, пачынаючы з першага класа. А я ніколі не хацела быць падобнай да іншых, любіць тых, каго ведаюць і чытаюць усе. Мне заўсёды хацелася захапляцца тымі людзьмі, пра якіх некаторыя не ведаюць нічога, некаторыя нават і не чулі іх імёны, а некаторыя «калісьці, штосьці, дзесьці чыталі»… Таму кажу так: «Мне падабаецца творчасць і Якуба Коласа, і Янкі Купалы, і Уладзіміра Караткевіча, і Максіма Багдановіча, але сапраўдным першаадкрывальнікам беларускай літаратуры як прадмета, неабходнага не толькі для развіцця, але і для ўнутранага разумення, стаў для мяне Васіль Быкаў. Толькі прачытаўшы яго творы, я пачала глядзець на беларускую літаратуру больш сур’ёзна.

Наша мова вельмі мілагучная, размаўляць на ёй мне падабаецца. Мая матуля з вёскі, таму калі мы прыязджаем туды, то заўсёды размаўляем на беларускай мове. Нават у Мінску магчыма такое, што загаворым па-беларуску і не заўважым гэтага. Выкладанне беларускай мовы мне падабалася і ў школе. Я ўдзельнічала ў раённай алімпіядзе, заняла дзесятае месца са 180 чалавек. Яшчэ я пішу вершы. У асноўным на рускай мове, але калі была на алімпіядзе, то ў мяне заставаўся час і я напісала верш пра Радзіму на беларускай мове. Ён, зразумела, не вельмі прыгожы, але я вырашыла яго не змяняць, а пакінуць у першапачатковым выглядзе…

* * *

Чалавек — самая дасканалая істота ў свеце. У яго незвычайна развіта пачуццё прыгожага, адчуванне хараства. З-пад яго рук выйшла шмат цудоўнага. Самым вялікім тварэннем чалавека з’яўляецца мова. Мова — гэта мастацтва слова. Мова — гэта самы універсальны сродак зносін. Пры дапамозе слова можна раскрываць думкі і перажыванні людзей, паказваць іх паводзіны і ўчынкі, знешняе аблічча, абставіны, у якіх яны жывуць і дзейнічаюць. Наша мова перажыла цяжкія часіны ў гісторыі, але яна выжыла, і мы, будучыня Беларусі, ніякім чынам не павінны знішчаць яе. Хаця я вучыўся ў рускамоўнай школе, але ў хаце, на вуліцы мне падабаецца размаўляць па-беларуску. Хаця ў нас у краіне дзве дзяржаўныя мовы — руская і беларуская, але для мяне беларуская мова заўсёды была на першым месцы. І таму на пытанне «Ці магу я размаўляць дзень, тыдзень ці месяц па-беларуску?» я адкажу: «Безумоўна, так, таму што наша мова самая лепшая мова ў свеце». Мы не маем права яе саромецца, не цаніць і забываць. Ці мы несапраўдныя беларусы? Беларусы, якія заўсёды былі з роднай мовай, любілі яе і паважалі.

* * *

Беларуская мова стала як лацінская, бо яе вывучаюць толькі ў школе.

* * *

Я ўпэўнена ў тым, што самы лепшы сродак адраджэння роднай мовы — гэта пачаць размаўляць на ёй самім людзям…

Я не ведаю, ці зацікавіць мяне беларуская літаратура ў гэтым годзе больш, чым раней, але вельмі на гэта спадзяюся.

* * *

Менавіта я паважаю сваю мову і нават магу гаварыць на ёй дзень-другі. Але не ўсе людзі могуць свабодна размаўляць па-беларуску… Таму дзень, калі людзі будуць размаўляць толькі на беларускай мове, тэарэтычна прыйдзе толькі тады, калі з’явіцца большая колькасць беларускамоўных каналаў, калі вакол нас будзе наша мова.

Наконт жа літаратуры… Большасць людзей, асабліва падлеткі, за межамі школы могуць па свайму жаданню чытаць толькі Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча (практычна я цікаўлюся гэтымі двума аўтарамі)… Сучасных жа аўтараў вельмі мала, напрыклад, я не ведаю ніводнага. Каб зацікаўліваць чытачоў, неабходна праводзіць шырокую агітацыю…

Не ведаю, ці атрымае мова Беларусі сваё адраджэнне або памрэ, але адно я ведаю добра — будучыня будзе толькі такой, якой яе зробім мы, сучасныя людзі.

* * *

Многія стагоддзі складвалася, шліфавалася і ўзбагачалася беларуская мова. Кожнае пакаленне імкнулася дадаць штосьці сваё, дарагое, вартае доўгай памяці. Але ў сённяшнія дні беларуская мова стала для моладзі пустой. Вельмі мала людзей размаўляе на бацькоўскай мове. Людзі, якія размаўляюць на роднай мове, — гэта ў асноўным старэйшае пакаленне. Але я прытрымліваюся думкі, што не мы стварылі нашу мову і таму нам трэба вельмі асцярожна абыходзіцца з ёй, каб не абразіць волю і вопыт беларусаў, што ўвайшлі ў гісторыю чалавецтва. За кожным словам стаіць іх жыццё, іх надзеі, пакуты і запавет.

* * *

У нашы дні я не карыстаюся беларускай мовай, таму што беларуская мова была выціснута з паўсядзённага выкарыстання рускай мовай. Многія беларусы ведаюць рускую мову лепш за беларускую, і таму можна запытацца: «А ці сапраўдныя мы беларусы?» Сапраўдны беларус павінен паважаць сваю мову, а не саромецца яе. Я не вучу беларускую мову, не чытаю беларускія кнігі (калі не задаюць), таму што ў цяперашні час людзі карыстаюцца англійскай мовай, а беларуская мова амаль што не патрэбна нам. Але калі беларуская мова стане пасапраўднаму дзяржаўнай, я буду згодны размаўляць на ёй і вучыць сваіх будучых дзяцей і ўнукаў беларускай мове.

* * *

Беларуская мова — гэта вялікая частка майго жыцця. З нараджэння я размаўляю на беларускай мове. Я жыву ў вёсцы, і там на ёй размаўляюць амаль усе. Таксама школа ў мяне была беларускамоўная, таму я лічу, што па-беларуску я размаўляю нядрэнна.

Мне здаецца, што час адраджаць беларускую мову ў нашай краіне ўжо згублены. Наш народ не адважыцца гэта выканаць.

Але трэба зрабіць нейкія крокі на шляху яднання нашага народа з яго мовай. Трэба каб мы, беларусы, размаўлялі на роднай мове, але, на жаль, гэта амаль немагчыма. Затое ведаць яе павінен кожны чалавек, які паважае сябе і дзяржаву, у якой жыве.

* * *

Я нарадзілася на беларускай зямлі. Таму мая родная мова — беларуская.

Родная мова — гэта мова нашых продкаў. Мова дапамагла нашаму народу мець гісторыю свайго развіцця. Таму кожны жыхар нашай Радзімы павінен разумець і ведаць сваю родную мову.

Быў час, калі людзі саромеліся размаўляць на беларускай мове. Цяпер многае змянілася. Усё больш і больш друкуюць кніг і часопісаў на беларускай мове. Маладыя людзі ствараюць свае гурткі, пішуць музыку і спяваюць беларускія песні. Усё гэта і многае іншае сведчыць аб тым, што наша мова адраджаецца. Яна ўсё часцей гучыць вакол нас. Сапраўдныя патрыёты ўвесь час размаўляюць на беларускай мове.

Мне падабаецца наша мова. Яна гучыць прыгожа, напеўна, як быццам цудоўная мелодыя, якую хочацца слухаць і слухаць.

На жаль, я заўсёды размаўляю на рускай мове. Свабодна размаўляць на беларускай мове мне цяжка, бо я не мела беларускамоўнага асяродку. Я буду сабой ганарыцца, калі авалодаю роднай мовай, стану яе носьбітам і захавальніцай.

* * *

Я лічу, што кожны беларус любіць сваю мову, бо ён стопрацэнтна любіць сваю Радзіму. Нават калі чалавек гаворыць, што беларуская мова непрыгожая, грубая і г. д., то, я мяркую, гэта проста ён так самавыражаецца, бо хоча паказаць сябе асаблівым. А ў спрэчцы, якая б датычылася Беларусі, роднага мястэчка і мовы, таксама кожны, я яшчэ раз паўтараю, будзе адстойваць сваё, роднае.

Што датычыцца непасрэдна мяне, я люблю родную мову, магу спакойна прагаварыць на ёй і тыдзень, часта ўжываю беларускія словы. Але грамадства дыктуе свае ўмовы ва ўсім, нават у мове, таму ў асноўным я размаўляю на рускай мове. А калі чытаць кнігу, то я не выбіраю паміж мовамі: «А, гэта беларуская, я чытаць яе не хачу, а вунь тую, рускую, магу і пачытаць…» Не, такога ў мяне няма, я выбіраю кнігі па іх цікавасці, па ўнутраным змесце. Бо кніга для мяне як жывая, і яна можа мець свае асаблівыя якасці: добрая або злая, цікавая або нудная, багатая або бедная… Напрыклад, некалькі гадоў таму я прачытала беларускую кнігу «Прынцэса з тусоўкі». Дык гэта кніга вельмі цікавая, яна проста цудоўная! Я перачытала яе потым яшчэ раз і доўга лічыла яе самай цікавай з прачытаных кніг.

Я не ведаю, што вы будзеце думаць пра мяне, аўтара гэтага ліста, бо настаўнікі заўсёды казалі, што пішу сачыненні я дзіўна. Нават аднойчы перапісваць давялося: мы пісалі сачыненне на тэму «Печорин — лишний человек», а я напісала, што лішніх людзей няма і быць не можа.

І ў канцы хачу сказаць, што на магазінных паліцах і ў бібліятэках Беларусі рускамоўных кніг значна больш, чым беларускіх.

Але вывады рабіць не мне. Хто ведае, што нас чакае ў будучым? Магчыма, беларуская мова будзе нарэшце адзінай для ўсіх (была ж старабеларуская ў ВКЛ), а можа, стане паступова знікаць, чаго мы дапусціць проста не павінны!

Але…

* * *

У маёй сям'і ніколі не размаўляюць на гэтай цудоўнай мове беларускага народа. І гэтак здараецца ў многіх сем'ях нашага краю. У выніку мова набывае ўсё меншае значэнне ў нашай краіне. Мне вельмі хочацца верыць, што яна не памрэ зусім, таму што нам на самой справе трэба ёй ганарыцца.

Пра беларускую літаратуру я нічога не магу сказаць, таму што яна мяне не цікавіць. Можа, я проста мала яе чытала, а тое, што чытала, мне не падабалася?

* * *

Я жыву ў Беларусі і ганаруся гэтым. У нашай краіне дзяржаўнымі з'яўляюцца дзве мовы — беларуская і руская, але ў штодзённым жыцці сучасная моладзь зусім не карыстаецца беларускай мовай. Мне здаецца, што ў нашай краіне трэба паглыбляць вывучэнне беларускай мовы, ужываць яе часцей. Нават калі паглядзець на мяне і на маіх равеснікаў, то можна заўважыць, што для нас вельмі цяжка гаварыць на чыстай беларускай мове, нам цяжка выказаць свае думкі. Мне б вельмі хацелася, каб беларуская мова ўжывалася нароўні з рускай!!!

Калі гаварыць пра беларускую літаратуру, то я магу сказаць, што для мяне гэта яшчэ не зусім спазнаны свет. Беларуская літаратура багатая на разнастайныя тэмы і фарбы, але я не вельмі люблю чытаць беларускія творы. Магчыма, гэта звязана з неразуменнем асобных слоў і сказаў, няздольнасцю зразумець сэнс. Але ёсць у беларускай літаратуры нямала твораў, якія выклікалі ў мяне моцнае ўражанне. Я дакладна ведаю, што ў беларускай літаратуры ёсць шмат таленавітых аўтараў і цікавых твораў, якія трэба абавязкова прачытаць! І любоў да беларускай літаратуры, як і да рускай, трэба прывіваць з маленства.

Беларуская мова і літаратура адышлі на другі план у сучасным жыцці. Я лічу, што гэта няправільна і сітуацыя можа змяніцца, калі людзі самі захочуць.

* * *

Я ніколі раней не задумваўся аб роднай мове і літаратуры. Але магу сказаць дакладна, што ніколі не меў дрэнных думак аб іх. З беларускай мовай упершыню я пазнаёміўся ў першым класе, дзе яна і паўстала ў маім уяўленні як спакойная, ціхая, шчырая і родная. Я ставіўся да яе з павагай, хоць і не моцна вылучаў сярод іншых прадметаў. Настаўніца беларускай мовы адразу пачала прывучаць нас да патрыятызму і любові да роднай краіны і мовы.

Літаратура спачатку мне не спадабалася, я не адкрываў кніжкі па літаратуры, здаралася, не хадзіў на заняткі, але з часам усё змянілася, тады я пачаў чытаць драмы, камедыі, лірыку. Тады я зразумеў, як цяжка жылося беларусам, калі забаранялі беларускую мову, як жылі паны, шляхта ды звычайныя вясковыя людзі.

Беларуская мова і літаратура, на мой погляд, дапамагае нам стаць патрыётамі і паўнацэннымі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь!

Мой хросны жыве ў пасёлку гарадскога тыпу Радашковічы, калі я, прыязджаючы да яго, пачынаю размаўляць там з суседзямі, то задумваюся: чаму гарадскія жыхары не размаўляюць на беларускай мове? Чаму ўсе людзі ведаюць, для чаго дадзена нам родная мова, што наша мова шмат перажыла, што наша мова — гэта гісторыя нашага народа, а народ без гісторыі — гэта проста групоўка людзей, і ўсё роўна ніхто не задумваецца аб сваёй мове? Навошта беларусам размаўляць на рускай мове, калі на ёй ужо размаўляе 310 млн. чалавек ва ўсім свеце. Дык чаму мы, беларусы, не можам развіваць сваю родную, беларускую мову так, каб на ёй размаўляла ўся Беларусь?! Калі я чуў і чую беларускае слова, то ў сэрцы пачынае нешта варушыцца, нешта цёплае грэе душу. Але ты не адчуваеш адразу гэтага і не разумееш, што з табой адбываецца. Я таксама не разумеў… Думаў, што стаў сентыментальнай, рамантычнай асобай… Але не! Проста калі я чытаю беларускія апавяданні, вершы, то мне становіцца вельмі добра, бо гэта маё… роднае, беларускае! Я люблю сваю радзіму! Я люблю сваю мову! Я люблю

сваю літаратуру! І я не саромеюся гэтага…, бо я — БЕЛАРУС!!!

* * *

Я лічу, што беларускую мову трэба «ратаваць». Яна знаходзіцца ў вельмі дрэнным становішчы. Мала хто гаворыць на ёй, асабліва ў гарадах. У правінцыі тым больш не пачуеш сапраўднай беларускай мовы, бо там толькі адна ўсім нам вядомая «трасянка»…

Кожны з нас павінен зразумець меладычнасць, лёгкасць, прыгожасць гэтай мовы. Тады нам будзе не толькі прыемна пачуць недзе ад раптоўнага знаёмага словы на роднай мове, але і самім гутарыць на ёй.

Я сапраўды лічу, што яшчэ не ўсё страчана. Наша мова будзе жыць!

* * *

Я не ведаю як хто, але калі чую словазлучэнне «беларуская мова», у мяне адразу ўзнікае асацыяцыя з нечым карэнным, родным. У маленстве я слухала казкі па беларускім радыё. Магчыма, менавіта тады ў мяне склалася ўяўленне, што беларуская мова такая ж натуральная, як і любая іншая, напрыклад, руская.

Калі я пайшла ў школу, то сутыкнулася з тым, што вельмі многія дзеці зусім не так ставяцца да беларускай мовы, не разумеюць яе і нават не жадаюць вучыць. Мяне заўсёды абурала іх пагарда да роднай мовы, тое, што яны не толькі не ведаюць яе, але і лічаць непрыгожай і непатрэбнай. Як можна меркаваць пра тое, чаго ты не ведаеш?..

Кожны чалавек, які хаця б крыху паважае сябе, павінен ведаць літаратуру, тым больш родную, і ставіцца да яе добра — з павагай і любоўю. А ведаць нашу літаратуру, хаця б на ўзроўні класікі, было б нядрэнна кожнаму грамадзяніну нашай краіны, тым больш што ў нас сапраўды ёсць што пачытаць…

На маю думку, было б вельмі добра, каб у нашай краіне надавалі больш увагі пытанням роднай мовы і літаратуры, выхаванню ў моладзі павагі і любові да іх, элементарнага патрыятызму.

* * *

Я мяркую, што пры любых умовах беларуская мова ніколі не знікне бясследна, што яна будзе жыць, пакуль будзе існаваць цывілізацыя.

І кожны, хто ўсвядоміў сябе часцінкай народа, павінен адчуваць сябе адказным за долю мовы, быць яе творцам.

Мне не цяжка размаўляць на беларускай мове, таму што я жыла і вучылася ў вёсцы, закончыла школу з беларускай мовай навучання.

Я люблю нашу мову і літаратуру за тое, што яны былі і ёсць. Упэўнена, што мова будзе яшчэ доўга-доўга, пакуль жывуць беларусы.

* * *

З самага дзяцінства мяне вучылі размаўляць па-руску… Тады за мяне зрабілі выбар мае бацькі, але я ведаю сваю родную мову і магу на ёй больш-менш добра гаварыць.

Я лічу, што пакуль на Зямлі ёсць такая мова, як беларуская, то і застанецца краіна пад назвай Беларусь.

Я перакананы ў тым, што кожны чалавек, які жыве на беларускай зямлі, ведае беларускую мову ў большай ці меншай ступені і ў гэтым праяўляецца сувязь паміж беларускай мовай і культурай з народам, скарбам нашай зямлі. Кожны народ у свеце мае сваю мову і кожны чалавек, які належыць да адпаведнага народа, размаўляе на ёй.

Але кожны з нас можа пачаць размаўляць па-беларуску, калі вельмі гэтага пажадае.

* * *

Вельмі прыемная на слых беларуская гаворка. А калі беларусы размаўляюць парасейску, заўжды можна пазнаць земляка. Я лічу, што беларускі акцэнт у расейскай мове мае права на існаванне. Ён гэтак жа прыемна і часам забаўна гучыць, як прыбалтыйскі, каўказскі альбо сярэднеазіяцкі.

* * *

Зараз многія жыхары Беларусі гавораць на рускай мове, а пра беларускую і слухаць не хочуць, бо не лічаць яе роднай. Мне гэта не вельмі зразумела. Мы жывём у Беларусі, мы ганарліва завём сябе беларусамі, таму і мова наша — беларуская…

Я не хачу сказаць, што зараз трэба ўсё перавесці на беларускую мову, гаварыць

толькі па-беларуску. Гэта наўрад ці магчыма. Але добра вывучаць яе, ведаць, прызнаваць, ганарыцца ёй, помніць і не забыць павінен кожны з нас, кожны беларус. Тады мы сапраўды будзем добрымі жыхарамі…

* * *

Я лічу, што выбар у кожнага свой. І кожны мае права сам выбіраць, якой мовай карыстацца. Пра сябе магу сказаць, што лічу сваёй роднай рускую мову, але мне вельмі крыўдна з-за гэтага. З самага пачатку трэба было ўводзіць толькі адну дзяржаўную мову, тады не было б гэтага пытання і ўсе адносіліся б да роднай мовы з павагай, не было б гэткіх жудасных стэрэатыпаў. На жаль, на гэты час ужо позна нешта мяняць, і трэба змірыцца, што ўсё ў нас будзе на рускай мове.

Прашу прабачэння за памылкі.

* * *

Я вельмі люблю беларускую мову і літаратуру, але размаўляю на роднай мове толькі на занятках. Дома з бацькамі размаўляю па-руску, з сябрамі таксама, на тэлебачанні і па радыё рэдка чую беларускую мову.

Я лічу, праблемы ўжывання мовы вельмі актуальныя ў наш час. Але чаму так? Мы жывём на Беларусі, у краіне, у якой ёсць свая мова, на якой павінна гаварыць насельніцтва. Чаму так атрымліваецца, што беларусам вельмі цяжка размаўляць па-беларуску? Мне здаецца, што ў нашай краіне яшчэ магчымыя змены да лепшага. Па-першае, пачнём з сябе. Чаму б не пачаць размаўляць на роднай мове з усімі людзьмі, якія нас акружаюць? Я ўпэўнена, што калі ўсе дзяўчынкі з нашай групы пачнуць размаўляць па-беларуску, то гэта будзе значны ўклад у адраджэнне нашай роднай мовы, бо большасць іх знаёмых таксама будзе гаварыць з імі па-беларуску і гэтак далей. Мне яшчэ здаецца, што калі бацькі будуць вучыць сваіх дзяцей беларускай мове з ранняга дзяцінства, то дзеці ніколі не забудуць яе, і не толькі не забудуць, але і будуць распаўсюджваць сярод іншых. Аднак, усё ж такі я лічу, што пераход насельніцтва да беларускай мовы не можа быць рэзкім і хуткім. Усё адбудзецца паступова ці не адбудзецца ўвогуле. Усё залежыць толькі ад нас.

Але наша родная мова не можа памерці! Колькі разоў ваявалі за яе нашы продкі, колькі людзей памерла за яе? Наша насельніцтва то апалячвалі, то прымусова ўводзілі рускую мову. Але наша мова дайшла да нашых дзён! Гэта значыць, што ёсць яшчэ людзі, якія любяць, шануюць і паважаюць беларускую мову.

У сувязі з гэтым я вельмі добра стаўлюся і да беларускай літаратуры. Я лічу, што кожны беларус павінен ведаць сваіх народных пісьменнікаў і іх творы. Беларуская зямля ўзгадавала шмат выдатных пісьменнікаў. Са зместу некаторых твораў беларускіх аўтараў можна даведацца пра гісторыю нашай краіны, яе народ, што павінна быць цікава кожнаму сапраўднаму беларусу.

Вось чаму я так люблю беларускую мову і літаратуру і прапаную ўсім задумацца пра Беларусь як пра краіну, якая мае сваю гісторыю, мову і культуру!

* * *

Чалавек не выбірае мову. Таксама як не выбірае і Радзіму. Менавіта мова і Радзіма даюцца чалавеку аднойчы і на ўсё жыццё. І дзе б ні апынуўся чалавек у розныя моманты свайго жыцця, куды б ні закінуў яго жыццёвы лёс, ён заўсёды будзе помніць і любіць мову, на якой ён пачынаў вымаўляць першыя словы, і той невялікі куточак велізарнай Зямлі, які даў яму жыццё. Я лічу, што кожны чалавек павінен не толькі ведаць гісторыю сваёй Радзімы і сваю мову, але яшчэ любіць і паважаць іх, нягледзячы нават на тое, што большасць людзей у нашай краіне аддае перавагу рускай, а не сваёй роднай мове. Я, як сапраўдны патрыёт сваёй краіны, люблю і паважаю сваю мову, хаця на ёй амаль і не размаўляю. Аднак у заключэнне хачу адзначыць, што не абавязкова заўсёды размаўляць менавіта на роднай мове. Дастаткова проста яе хаця б трошкі ведаць і любіць, каб пранесці праз многія пакаленні і зберагчы такой, якая яна ёсць і якой мы яе любім.

* * *

На жаль, нягледзячы на тое, што беларуская мова з'яўляецца адной з нашых дзяржаўных моў, карыстанне ёю ў нас, беларусаў, не

распаўсюджана. У паўсядзённым жыцці мы размаўляем на рускай мове. Я сама не карыстаюся роднай мовай кожны дзень. Не таму, што я цураюся яе, а таму, што мне няма з кім гаварыць па-беларуску.

А што датычыцца беларускай літаратуры, то яна мне вельмі падабаецца. Мая старэйшая сястра прывучыла мяне чытаць творы беларускіх пісьменнікаў. Сярод беларускіх аўтараў, якія абуджаюць мае пачуцці і эмоцыі, выклікаюць цікавасць, прымушаюць думаць, аналізаваць сітуацыі, я магу назваць І. Шамякіна, В. Быкава, У. Караткевіча, К. Крапіву, К. Чорнага, І. Мележа. Найбольш уразіў мяне твор І. Шамякіна «Злая зорка».

Было б цікава размаўляць на беларускай мове тыдзень, але толькі ў тым выпадку, калі б усе вакол мяне гаварылі таксама па-беларуску.

* * *

Беларуская мова — адна з самых мілагучных і прыгожых у свеце. Я вельмі люблю сваю вёску, часта наведваюся туды, а першыя гады жыцця ўвогуле правяла з бабуляй, дзядулем і іх сябрамі — вяскоўцамі. Таму родную мову чую часта і размаўляю на ёй з вялікай асалодай. Але, на жаль, толькі са старымі людзьмі: з сябрамі мы можам толькі пасмяяцца з «прышчэпак для трусоў» ды ў якасці эксперыменту паспрабаваць размаўляць на беларускай мове некалькі гадзін. Гэта ў вёсцы. У Мінску нельга загаварыць па-беларуску нават са сталым, дарослым чалавекам, бо ён або не зразумее, або гідліва скрывіцца — сяло! А на самой справе — гэта вельмі адукаваны чалавек; і прыйшоўшы дамоў, ён сядзе за разумную кнігу і будзе абурацца, што на нейкай тумба-юмбскай мове размаўляе толькі пяць чалавек, і ніхто не хоча яе адраджаць! І не разумее чалавек, што праз вельмі хуткі час яго мова можа апынуцца ў такім жа становішчы, і ўжо туземец не будзе разумець, чаму ў краіны з насельніцтвам амаль 10 мільёнаў чалавек памірае мова? А яна не можа без народа. Нехта падумае: ну яе, няхай памірае! Аднак толькі мы без яе не зможам. Гэта толькі здаецца, што руская мова змагла замяніць нам усё. Дык няпраўда — не змагла і ніколі не зможа, бо мы — БЕЛАРУСЫ, і мова наша — БЕЛАРУСКАЯ.

* * *

Амаль усе жыхары нашага горада размаўляюць па-руску. Хаця ўсе мы ведаем пра тое, што невялікая частка нашага горада размаўляе па-беларуску. Я лічу, тым людзям, якія размаўляюць па-руску, павінна быць сорамна. Бо яны беларусы і павінны размаўляць на роднай мове. У кожнай краіне ёсць свая мова, свой сцяг, свае звычаі і традыцыі, і ўсё гэта шчыльна звязана з іх мовай. Калі ты беларус, то павінен ведаць і выкарыстоўваць у паўсядзённым жыцці сваю мову. А калі ты забыўся, што ёсць беларуская мова, вядома, ты не можаш лічыцца беларусам. Табе павінна быць сорамна.

Яшчэ людзі, якія размаўляюць па-руску, робяць вельмі вялікую памылку: яны смяюцца з тых, хто размаўляе па-беларуску! Яны лічаць, што гэта не модна.

А што на іх погляд модна? Размаўляць на іншай мове, прытрымлівацца іншых традыцый, забывацца, хто яны такія? Няўжо гэта модна?

Давайце паразважаем, а хто мы? Беларусы ці нацыя без памяці?

Што трэба адзначыць, таксама, як і іншыя, я размаўляю па-руску. Каб размаўляць па-беларуску, мне не хапае моўнага асяроддзя і матыву. Я не здымаю поўнай адказнасці з сябе за тое, што не размаўляю па-беларуску. Але думаю, што я дзіця свайго часу, ніхто мяне не спытаў, на якой мове я хачу размаўляць.

* * *

Мне беларуская мова даецца намнога лягчэй, чым руская… Беларуская мова намнога мілагучней, чым тая ж руская, на якой гавораць у Беларусі. Калі параўнаць нашу рускую мову і «расійскую», то гэта неба і зямля. У Расіі яны не гавораць, а як бы спяваюць на ёй.

Беларуская літаратура — гэта частка маёй душы, бо ў мяне была вельмі добрая настаўніца, якая ў кожным творы знаходзіла нешта цікавае. Мінулым летам я з цікавасцю прачытала ўсе праграмныя творы і шмат што яшчэ, і амаль кожны пакінуў нешта ў маёй душы. Мае любімыя беларускія аўтары — гэта Уладзімір Караткевіч і Іван Шамякін.

* * *

Што я думаю пра беларускую мову? Гэта мова для мяне з’яўляецца лягчэйшай для вывучэння, чым руская… Але на гэтай мове я дрэнна размаўляю, на ёй мне цяжка выказваць свае думкі і меркаванні. Мае бацькі з вёсак, таму ў іх размове можна пачуць беларускія словы. Мне гэта не вельмі падабаецца, бо на слых для мяне лепей успрымаецца руская. Я не лічу беларускую мову галоўнай, але ведаць, на маю думку, мы яе павінны. Гэта мова нашых продкаў.

Што датычыць літаратуры, то яна ў маім жыцці не займае ніякай ролі, бо чытаю толькі тыя творы, якія нам задавалі па школьнай праграме… Калі ў мяне з’яўляўся вольны час, у маіх руках яшчэ ні разу не было твораў беларускіх пісьменнікаў. І ў чым тут справа, я не ведаю. Можа, таму, што калі заходзіш ў які-небудзь кніжны магазін, то ніколі на вочы табе не кінецца беларуская кніга, у той час калі рускай літаратурай закіданы ўсе паліцы.

* * *

Калі звярнуцца да гісторыі, то можна ўбачыць, што беларуская нацыя трапляла ў розныя становішчы: была пад прыгнётам, у росквіце, у забыцці… Але заўсёды нас вылучала нязмерная цяга да спрадвечнага, сталага, роднага. Гэтая рыса рабіла нас магутнымі, непераможнымі, жыццяздольнымі. А самае простае праяўленне жыццяздольнасці народа — яго мова…

Сучасныя дні. Беларусы маюць сваю незалежную краіну.

Некалькі дзён назад па тэлебачанні гляджу нейкую перадачу. Ідзе апытанне: «Якое самае прыгожае слова ёсць у беларускай мове?» Я пужаюся: амаль палова адказала, што яны наогул не ведаюць беларускую мову! А калі ўсё ж такі паказалі вынік апытання, то найменш галасоў атрымала слова «радзіма»! Чаму так здарылася?!

У апошні час я ўсё больш і больш пераконваюся, што большасць людзей лічыць, што беларуская мова — мова вёсак, і саромеюцца яе. Я ж лічу, што калі ты размаўляеш па-беларуску, то ты або з вёскі (на мой погляд, у гэтым нічога прыкрага, хаця я з Мінска), або ІНТЭЛІГЕНТ, адукаваны патрыёт, або і першае, і другое. Чамусьці ў мяне такое ўражанне, што калі чалавек, які належыць да нейкай нацыі, гаворыць на замежнай мове, то яго трэба пашкадаваць, бо ён згубіўся, а калі гаворыць на роднай мове, яму трэба зайздросціць: ён смелы, бо знайшоў сям’ю, бо яму ўтульна.

Безумоўна, цяжка пачынаць размаўляць па-беларуску, калі навокал усе цябе не разумеюць, глядзяць як на марсіяніна. Але калі толькі пачаць, то потым не спынішся. Гэта я гавару аб сваім уласным вопыце.

Што датычыцца літаратуры, то тут усё складана. Сучасная амаль не развіваецца, а ў тым, што напісана, шмат плагіяту. Раскрываюцца аднолькавыя тэмы: вайна і сяло, а мне цікава і патрэбна патрыятычнае апісанне мінулага і сучаснага, псіхалагічны аналіз. У беларусаў вельмі шмат нераскрытых тэм, нам ёсць аб чым напісаць.

Будзе што пачытаць — прачнецца цікавасць да ўсяго беларускага. Вось калі б адукацыю ва ўсіх школах зрабіць на беларускай мове, сродкі масавай інфармацыі, акружыць нас усім беларускім, глядзіш — дайшло б да нас, што мы — незалежныя, мы маем сваю Рэспубліку і павінны самі зараз хвалявацца аб будучым. А як папярэджваў нас Францішак Багушэвіч: «Не пакідайце ж мовы сваёй, каб не ўмерлі».

* * *

Я беларус. Мае дзяды і бацькі — беларусы. З самага маленства я чуў беларускую мову. Я лічу нашу мову прыгожай, пяшчотнай, пявучай, вобразнай, шчырай. Шмат у ёй розных ветлівых зваротаў, такіх як «калі ласка», «дзякуй», «добрай ночы», «будзьце ласкавы», шмат прымавак і прыказак, прамых параўнанняў.

У школе мае веды па мове грунтоўна ўдасканаліліся дзякуючы настаўніцы беларускай мовы і літаратуры. Свае заняткі яна звычайна пачынала з чытання выказванняў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў пра мову. Пры гэтым настаўніца заўсёды гаварыла: «Калі ласка, паслухайце мяне…» І мы слухалі вершы Пімена Панчанкі:

Як ты дарага мне, мая родная мова!
Мілагучнае, звонкае, спеўнае слова!
Ты калісьці з калыскі мяне падымала
І вучыла ў бацькоў на руках гаварыць.
Ў жыцці маім слова найпершае «мама»
І цяпер для мяне сама міла гучыць.

На ўроках беларускай літаратуры я пазнаёміўся з творамі многіх пісьменнікаў. Я даведаўся, што бурны росквіт беларуская мова атрымала ў скарынаўскі час, у Бібліі, у творах В. Цяпінскага, С. Буднага. У канцы XVI стагоддзя наступіў час заняпаду, мова страціла статус дзяржаўнай, а кнігі знішчаліся. Але ўсё ж народ любіў сваю мову. Яна гучала ў полі, у лузе, пад стрэхамі сялянскіх хат. 1991 год прынёс гарачую хвалю адраджэння. Беларускае слова ажыло ўсюды.

Яно льецца з радыёпрыёмнікаў, гучыць з экранаў тэлевізараў.

Але дасканала беларускай мовай я яшчэ не валодаю. Справа ў тым, што я вучыўся ў рускамоўным класе гімназіі г. Барысава. Выкладанне ўсіх прадметаў вялося на рускай мове. Таму адказваць па ўсіх прадметах, акрамя беларускай мовы і літаратуры, мне лягчэй на рускай мове. А вось з сябрамі, з бацькамі я мог бы размаўляць на беларускай мове і дзень, і тыдзень, і месяц у год, таму што беларуская мова мне падабаецца.

Я думаю, што пашыру свой кругагляд па беларускай мове і літаратуры, вывучаючы гэтыя прадметы далей.

* * *

Беларуская мова з'яўляецца нашай дзяржаўнай мовай. Яна вельмі мяккая, мілагучная, прыгожая. Але паколькі руская мова ўжываецца на нашай тэрыторыі вельмі шырока, то ўзнікаюць такія пытанні: «Што будзе далей з беларускай мовай і літаратурай? Як яны будуць развівацца? Што патрэбна зрабіць для іх развіцця?»

Я лічу, што кожны беларус павінен ведаць сваю родную мову і літаратуру. Мы павінны паважаць і любіць іх. Але людзі мала гавораць на беларускай мове і мала чытаюць беларускую літаратуру. Гэтую праблему трэба паступова вырашаць…

Пакуль жыве наш народ, будзе і далей развівацца літаратура, гучаць наша мова, наша слова.

* * *

Мая родная мова — беларуская. Яна вельмі багатая. Беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай. Я чытаю на беларускай мове часопісы, газеты, літаратурныя творы. Найбольш мне падабаюцца вершы. Мова ў іх пяшчотная, мілагучная.

Табе складаю шчыры свой санет,
Прапрадзедаў маіх жывая мова, —
Майго народа першая аснова,
Душы яго шырокі, чысты свет!

*Е. Лось*

Кожная мова жыве ўласным жыццём, развіваецца па пэўных законах, мае сваю гісторыю. Чым больш у мове слоў, тым яна багацейшая. Наша родная мова вельмі багатая, бо яна мае вялікі запас слоў — дзесяткі тысяч. Беларускую мову лічаць роднай каля васьмі мільёнаў чалавек. Большасць яе носьбітаў жыве на тэрыторыі Беларусі, але ведаюць нашу мову і далёка за яе межамі.

Усім вядома, што мова — адзін з галоўных стрыжняў нацыі, тая духоўная тэрыторыя, на якой народ адчувае сябе моцным і стойкім. Але некаторыя беларусы саромеюцца размаўляць на роднай мове. Спачатку я абураўся: ды якія ж яны беларусы? Але потым зразумеў, што саромеюцца яны свайго няведання мовы, няўмення правільна і прыгожа гаварыць, а гэта зусім іншая справа…

Мае адносіны да роднай мовы і літаратуры станоўчыя. Мне вельмі падабаецца наша мова. Я вельмі ганаруся тым, што я БЕЛАРУС.

Мне вельмі б хацелася, каб наша слова жыло шмат стагоддзяў, радавала сваёй мілагучнасцю і прыгажосцю іншыя пакаленні.

* * *

Больш за ўсё мне не хочацца, каб напісанае прагучала пафасна, але калі пачынаецца гутарка аб нацыянальнай мове беларускага народа, узвышаны настрой умомант апаноўваў мяне. Далей жа абставіны звычайна складаліся так, што мне прыходзілася займаць абарончую пазіцыю, бо мае былыя аднакласнікі дрэнна ставіліся да беларускай мовы. Лепшае, што я магла пачуць, загаманіўшы з імі на мове бацькоў, — гэта просьбу перайсці на «нормальный язык». І самае крыўднае тое, што часцей за ўсё людзі нават не заўсёды маглі растлумачыць прычыну сваёй непрыязі да нацыянальнай мовы: адны абвінавачвалі ва ўсім настаўнікаў, другія заяўлялі, што мова гэтая непрыемна гучыць, а трэція наогул лічылі сябе непатрыётамі і адкрыта гаварылі, што гэта краіна не мае ніякіх перспектыў, што рабіць

ім тут няма чаго, каб была магчымасць, дык пакінулі б яе даўно.

Можа, і гамоняць дзе па-беларуску? Але ўсё больш гэта энтузіясты, якія, на жаль, мала чаго могуць дамагчыся ў развіцці мовы. Адзін знаёмы майго бацькі, біёлаг, напісаў дысертацыю па-беларуску і тым самым загубіў сваю працу, бо па-беларуску амаль што ніхто не хоча яе чытаць.

Аднак такая «малавядомая» ў сваёй краіне мова, як ні дзіўна, дапамагла мне за мяжой. У той жа Польшчы альбо Чэхіі мяне хутчэй разумелі, калі гаманіла па-беларуску, што вельмі ўзрадавала мяне.

* * *

Я лічу, што няма кепскіх моў. Але для кожнага чалавека родная мова павінна быць самай лепшай, як маці. Янка Купала пісаў: «Што родная мова, хоць бедная мова, мілей найбагатшай чужой!» І гэта на самой справе так. Мне здаецца, што мы павінны карыстацца роднай мовай, не даваць яе ў крыўду. Беражлівыя і ўважлівыя адносіны да роднай мовы павінны быць з дзяцінства прывіты кожнаму чалавеку.

* * *

Беларуская мова з’яўляецца маёй роднай мовай, бо я да яе прывыкла, мне на ёй лягчэй размаўляць, выказваць свае думкі. Як мне здаецца, зараз многія саромеюцца сваёй роднай мовы, лічаць яе смешнай і непрыгожай. Але я так не лічу… Калі я пачынала размаўляць па-беларуску, на мяне глядзелі як на чалавека, які прыляцеў з іншай планеты…

Што датычыцца беларускай літаратуры, то яна падабаецца мне больш, чым руская. Ёсць шмат беларускіх пісьменнікаў, якія не саступаюць рускім пісьменнікам. Напрыклад, Колас, Купала, Караткевіч, Быкаў, Мележ і іншыя.

***Падрыхтаваў Ігар ЗАПРУДСКІ[1].***

[1] Выказваю ўдзячнасць за тэхнічную дапамогу ў падрыхтоўцы тэксту студэнтам філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

*Мастак і кніга*

# ВОСТРАЎ ІМПРАВІЗАЦЫЙ




***Асабіста для мяне сустрэча з новай дзіцячай кнігай — гэта і ўважлівае знаёмства з ілюстрацыямі, якія дапаўняюць паэтычны ці празаічны тэкст. Такая чытацкая работа дазваляе атрымаць найвышэйшую эстэтычную асалоду ад знаёмства з новым і неспадзяваным светам мастацкай гармоніі. І кніга вершаў «ЛЕБЕДИНЫЙ ОСТРОВОК» (першая паэтычная кніга вопытнага, сталага журналіста, які засведчыў сябе сур'ёзным аналітыкам на газетнай ніве!) Віктара Панамарова — з шэрага такіх сустрэч.***

Капельки по крыше
Барабанят лихо,
А в гнезде, всех выше,
Мокнет аистиха.

Чтобы не простыли
Малыши слегка,
Крылья распустила —
Вместо зонтика.

И покуда тучки
Вдаль не улетят,
Будет мама тут же,
Возле аистят.

Героі, якіх сабраў В. Панамароў на адмысловым востраве ў адной кнізе, — буслы, маленькі бегемот, вярблюдзіха, гіена, сабака, янот, вожык, жучок, індык, кракадзіл, маленькі мамант, насарог, асёл, павук, рак, сава, цюлені, фламінга, пыляня, шчука, эму ды яшчэ некалькі персанажаў птушынага і звярынага царства. Здавалася б, ніякай складанай задачы для мастака — варта зазірнуць у заалагічны атлас альбо знайсці іншую крыніцу знаёмства, ды малюй сабе, фантазіруй, выдумвай, дапаўняй казачнымі «аксесуарамі» тых жа буслоў, буслянят ці пылянят… Ды пачні пры гэтым, што ўслед за аўтарам бярэш на сябе выключную адказнасць за характар, інтанацыю расповеду для дзяцей. Помні аднойчы сказанае В. Р. Бялінскім: «Целию детских книжек должно быть не столько занятие детей каким-нибудь делом, не столько предохранение их от дурных привычек и дурного направления, сколько развитие данных им от природы элементов человеческого духа, — развитие чувства любви и чувства бесконечного. Прямое и непосредственное действие таких книжек должно быть обращено на чувство детей, а не на их рассудок…»

Ілюстратар кнігі — Наталля Кійко. Задачу мастачцы падказвае і анатацыя: «Кніга адрасавана дзецям малодшага школьнага ўзросту. Гэта вершы пра жывёл, птушак і насякомых ад «а» да «я»: казачныя, жартоўныя ці рэалістычныя. Багата ілюстраваная, яна павінна абудзіць дзіцячую фантазію. Разлічаная на хатняе чытанне, можа быць выкарыстана ў якасці нагляднага дапаможніка на ўроках малявання ці ў мастацкіх школах».

Наталля Кійко здолела «адкрыць» унутраныя, душэўныя памкненні паэта, тым самым выбудавала трывалы мост «тэксты — малюнак». Прыкладам, сімпатычнае немаўля-вожык, выпісанае В. Панамаровым, набывае не меней сімпатычнае выяўленне ў выкананні мастачкі. Вожык у нечым нязвыклы. Дакладней — на развароце ў атачэнні

паэтычных строф схаваліся пад рознымі коўдрамі трое вожыкаў. Высунуўшы востранькія мызачкі, спяць, пасопваюць малечы. Вочы-рысачкі. Востранькія лапкі. Адну герой паклаў пад галаву. На другім малюнку прытрымлівае лапкай коўдру. Ці такі вожык у жыцці? Канечне ж, не. І не спіць лясны звярок пад коўдрай на ложку. Нават у тым выпадку, калі вожык жыве ў кватэры ці хаце і сагрэты ўвагай дзяцей і дарослых людзей. Выходзіць, што «не жыццёвая» ілюстрацыя дапаўняе вершаваны тэкст В. Панамарова?.. Не будзем спяшацца з адказам. Мне здаецца, што ўсё ж такі тут ёсць самая сапраўдная жыццёвасць: яна заключаецца ў мастакоўскім пошуку гармоніі паміж сэнсам і адлюстраваннем. Колеры, лінія, сам выбар някідкага партрэта вожыка — і ёсць напружаны пошук, скіраваны на стварэнне цэласнага вобраза.

Уражваюць, прыцягваюць увагу палосныя ілюстрацыі Н. Кійко. А гэта — індык, бегемот, фламінга. Мастачка бярэ на сябе смеласць вольна абыходзіцца з колерамі. Прыкладам, індык у жыцці, відаць, зусім інакшы. Вядомая ўсім хатняя птушка не бывае брудна-шэрага колеру, якой намалявала яе Н. Кійко. Але ж пра чырвонага індыка і не згадваеш, адкрываючы вершаваны вобраз:

Он красавец хоть куда!
Только есть одна беда:
Все домашние слегка
Сторонятся индюка.
Если что ему не так,
Разозлится за пустяк,
С каждым разругается
Так, что заикается.
Даже клюнуть норовит
Несмотря на важный вид.

Уся справа ў тым, што… «Красота нам не видна, / Если птица не умна!» Індык — супярэчлівая фігура ў кантэксце размовы паэта з юным чытачом. І тут не абавязкова следаваць вожыкавай «праўдзе жыцця». Мастачка тонка выхоплівае інтанацыю аўтара кнігі і ідзе след у след за паэзіяй, хіба што пашыраючы абраную творцам прастору. Таму і ўхопліваеш у малюнку таксама характарыстыку паводзін, жыццёвай манеры індыка ў стасунку з навакольным светам, з тымі ж хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якім у вёсцы часам даводзіцца кідацца наўцёкі ад ганарыстай і злоснай, часам, сапраўды, неразумнай птушкі. І ўжо колер у такім выпадку, пры такім характары асацыятыўнага мыслення выконвае іншую задачу. Не ведаю, наўмысна ці не, але мастачка пазбегла ў малюнку чырвані. І такое рашэнне, відаць, правільнае.

Вандруючы па кнізе з мастачкай, перагортваючы яе старонкі, задумваешся над тым, што «ў дзіцячы свет нельга механічна пераносіць уяўленні, прынцыпы, заканамернасці адносін з свету дарослых…» Н. Кійко і В. Панамароў стварылі адмысловую сімпатычную кнігу, наладзілі агульны дыялог з дзецьмі, змадэліравалі сітуацыю, у якой супольна жывуць рэчаіснасць і фантазія. Мастак і паэт разумеюць дзяцей, адчуваюць матывацыю іх учынкаў. Таму і звяры і птушкі, падаючыся зразумелымі, блізкімі, пазбаўлены ў малюнках штучнасці, няшчырасці. Таму ра́кі, якіх рыбак прыхаваў у свой бот, падаюцца сур'ёзнымі і сапраўднымі. Таму і вослiку, запрэжанаму ў вазок, дазволена падскокваць да самых аблокаў. А што да аўстралійскай птушкі эму, то яна гаспадарыць ажно на цэлым кніжным развароце, адной паласы чужаземцы мала.

Страус эму, не совру,
Не один такой шустряк.
Длинноногий кенгуру
Бегает еще не так!

Все другие чудеса
Опишу едва ли я.
Хочешь убедиться сам?
Поезжай в Австралию.

Кніга В. Панамарова ў афармленні Н. Кійко адбылася такой сімпатычнай яшчэ і таму, што над выданнем працавала і вопытны мастацкі рэдактар Людміла Рудакоўская. І яе рука як рэдактара, і яе светапогляд — навідавоку. Калі, перагарнушы «Лебединый островок» у чарговы раз да апошняй старонкі, вярнуўся да вокладкі, падумалася і вось пра што. Шкада, што ў нас не выдаюць — альбомамі, наборамі паштовак — асобнымі, адным словам, выданнямі работы, ілюстрацыі кніжных графікаў. Наталля Кійко — з тых мастакоў, хто варты і такога ўшанавання.

***Кастусь ЛАДУЦЬКА***

*Нам пішуць*

# НАШ МІХАІЛ ПТАШУК




**П**амяць… Якое месца яна займае ў чалавечым жыцці? Рызыкну сказаць, што гэта галоўнае, з чаго складаецца жыццё, і адзінае, што застаецца ад нас пасля смерці.

Але… нас на Зямлі мільярды, і гэтак ужо складваецца, што большасць з нас сыходзіць у іншы свет, не пакідаючы значнага следу пасля сябе. Але ёсць людзі, якія жывуць і пасля смерці — жывуць у памяці людзей доўгія гады, а некаторыя — вечна. Хоць і памяць бывае рознай. Ёсць тужлівая памяць пра добрага чалавека, ёсць памяць, абмежаваная толькі датамі жыцця і смерці. Але яшчэ ёсць усеагульная ўдзячная памяць народа — за подзвігі, за навуковыя адкрыцці, якія змяняюць жыццё ўсяго чалавецтва і, безумоўна ж, не сыходзяць у нябыт людзі вялікага таленту, чыя творчасць прыцягвае ўвагу многіх і многіх пакаленняў. Прыкладам такой памяці, як мне здаецца, і з'яўляецца памяць пра майго земляка кінарэжысёра Міхаіла Мікалаевіча Пташука, які трагічна загінуў у Маскве 26 красавіка 2002 года, у чарговую гадавіну чарнобыльскай катастрофы.

На вялікі жаль, я не быў знаёмы з ім асабіста, але яго фільмы зрабілі яго адным з самых блізкіх па духу мне людзей. Таму знаёмства праз мае кнігі з яго жонкай Ліліяй Міхайлаўнай Пташук, якая ўсім сэрцам зберагае памяць пра мужа — Чалавека такога магутнага таленту, лічу пасланай мне ўзнагародай за маю сціплую літаратурную працу. Менавіта дзякуючы гэтаму знаёмству і з'явілася ў мяне магчымасць прысутнічаць на адкрыцці праваслаўнага крыжа ў вёсцы Федзюкі, што ў Ляхавіцкім раёне на Берасцейшчыне, дзе нарадзіўся славуты кінарэжысёр. Тым жа днём на доме яго бацькоў была адкрыта мемарыяльная дошка. Тады ж з'явілася і яшчэ адна — на вуліцы ў Ляхавічах, якая названа імем Міхаіла Пташука.

Асабліва кранула мяне цырымонія асвячэння праваслаўнага крыжа і адкрыцця мемарыяльнай дошкі ў Федзюках. Звычайная беларуская вёска, маленькая — з дзвюх-трох вуліц, але колькі людзей яна на гэты раз сабрала! Прычым у большасці людзі былі мясцовыя, з Федзюкоў ды навакольных вёсак. Яны ішлі і ішлі, каб яшчэ раз выказаць тым самым вялікую пашану да памяці свайго знакамітага земляка. І гэтая памяць у тых мясцінах будзе жыць вечна, як і фільмы, пастаўленыя Міхаілам Пташуком.

Там, у Федзюках, пачалося яго жыццё, там добра ведалі яго падлеткам, і хто мог прадбачыць, што гэты падлетак вырасце сусветна вядомым Майстрам!

Як гэта ўсё адбылося? Тут сцэнарый просты... Пасля заканчэння сярэдняй школы, без чыіх-небудзь падказак і пратэкцый паступіў у Маскоўскае тэатральнае вучылішча імя




*Злева направа: дачка Ліка Пташук,*
*унук Міша і ўдава — Лілія Міхайлаўна Пташук.*

Шчукіна. Гучыць даволі фантастычна: чаму пацягнуўся вясковы хлопец да тэатра і ці быў ён калі да гэтага ў ім? Можна ўявіць, якое недаўменне выклікаў гэты яго намер у аднавяскоўцаў. Ці ж не дзіва: падаўся ў артысты, а можа, так дзе гастралюе-бадзяецца?! І тады маці Міхаіла Мікалаевіча, каб спыніць непатрэбныя размовы, адважылася напісаць ліст рэктару вучылішча (славутаму артысту Б. Захаве, выканаўцу ролі Кутузава ў фільме С. Бандарчука «Война и мир»), на які ў адказ прыйшла падзяка за тое, што яна змагла выхаваць такога цудоўнага чалавека і таленавітага вучня. «Такім сынам можна ганарыцца», — так заканчваўся той ліст.

Міхаіл Пташук закончыў тэатральнае вучылішча і вышэйшыя рэжысёрскія курсы пры Дзяржкіно СССР у майстэрні вядомага кінарэжысёра Георгія Данелія і ўжо сваёй дыпломнай працай (фільмам «Пра Віцю, пра Машу і марскую пяхоту») заслужыў шырокую вядомасць. У 1974 годзе па запрашэнні Дзяржкіно БССР ён вярнуўся на радзіму і да апошняга дня свайго жыцця працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм». Адзін за адным выходзілі на вялікі экран яго фільмы: «Лясныя арэлі», «Час выбраў нас», «Вазьму твой боль», «Чорны замак Альшанскі», «Знак бяды», «Наш бранягоезд», «Кааператыў «Палітбюро», «У жніўні 44-га» і інш. Кожны фільм не толькі заўважаўся на шматлікіх кінафестывалях, але і адзначаўся высокімі ўзнагародамі. Але галоўнае тое, што за кожным фільмам стаяла вялікая і вялікая праца, дзе было і натхненне, і пакуты творчасці, і сардэчны боль ды спазмы галасавых звязак на здымачнай пляцоўцы. Затое ж гэтыя кінакарціны не проста «кіно», а творы сапраўднага мастацтва. Дарэчы, там, на малой радзіме творцы, на сустрэчах, прысвечаных яго памяці, жонка славутага кінарэжысёра Лілія Міхайлаўна Пташук расказвала, якім змучаным, літаральна паўжывым ад стомы бываў яе муж пасля завяршэння здымкаў, але пры гэтым усім — бясконца шчаслівым. «Чым больш укладзена, тым мацнейшая карціна», — казаў ён.

Прызнаюся, я заўжды лічыў, што мастацкі твор у экранізаваным варыянце значна прайграе ў параўнанні з кнігай. Але фільм «У жніўні 44-га» абверг гэтае маё перакананне. Выдатная праца акцёраў, напружанне і глыбіня, здымкі былі ў месцах, дзе падчас вайны і адбываліся падзеі, якія леглі ў аснову рамана, а затым фільма (наша беларускае Палессе), дакладныя карціны побыту людзей таго часу стваралі ўражанне і майго ўдзелу ў падзеях, якія разгортваліся на экране. Пасля заканчэння фільма я злавіў сябе на думцы, што ён захапіў мяне значна больш, чым некалі сама кніга — раман Багамолава «Момант ісціны». І, думаю, мала хто з чытачоў ведае, што кінакарціна «У жніўні 44-га» — гэта чацвёртая спроба экранізаваць вышэйзгаданы твор вядомага расійскага пісьменніка. Да гэтага рамана падступаўся шмат хто з кінарэжысёраў.

Творчасць Міхаіла Пташука годна ацаніла сусветная кінематаграфічная грамадскасць. Ён — уладальнік гран-пры многіх міжнародных кінафестываляў, Ганаровы акадэмік Белградскай мастацкай акадэміі, народны артыст нашай краіны, лаўрэат прэміі УЛКСМ і Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Але галоўная яго ўзнагарода, на маю думку, — гэта любоў і памяць тых, хто з захапленнем пакідаў глядзельныя залы кінатэатраў, для каго яго фільмы сталі гонарам

айчыннага кінематографа. Пацвярджэннем гэтаму стала для мяне пачутая ў Федзюках размова дзвюх бабулек падчас сустрэчы кінематаграфістаў, прэсы і тэлебачання з землякамі рэжысёра.

— Ты, глядзі, Галя, які Міша фільм пра вайну зрабіў! Без слёз глядзець немагчыма! Я адразу сваё дзяцінства згадваю.

— Дык гэта ж і яго дзяцінства таксама!

— Ну не скажы! Ён у сорак трэцім нарадзіўся. Я яго пасля вайны ў школу за руку вадзіла. Проста талент такі: ён усіх нас пра вайну распытваў, потым шмат што з таго здымаў. Вайна ж на ўсіх была адна!

Так, талент жыццёвыя рэаліі ўзносіць да вяршыняў мастацтва. І гэта толькі ўзмацняе памяць тых перажытых пакут. Добрае кіно не можа не хваляваць, не ўзрушваць, а часам гэта як арыенцір. Вось і бабулькі пра гэта.

— Ніна Свірыдовіч (прозвішча зменена) расказвала, што яе Міколка, свавольнік са свавольнікаў, паглядзеў апошні Мішаў фільм «У жніўні 44-га» і сказаў, што будзе паступаць у вайсковае вучылішча, што здзівіла і бацькоў, і настаўнікаў. Раней пра такое і чуць не хацеў.

Дух высокай любові да сваёй зямлі, да людзей, што спакон веку жывуць на ёй, пранізвае ледзь не ўсю творчасць Міхаіла Пташука. Ён не шукаў сцэнарыяў дзесьці збоку, знаходзіў тое, да чаго цягнулася душа, у чым хацелася развінуць свой талент у беларускай літаратуры: Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч…

«Калі адыходзіць адзін чалавек з жыцця — гэта вялікая страта для грамадства, але калі адыходзіць талент, гэта нацыянальная трагедыя», — так пісаў пра Пташука пасля яго трагічнай гібелі народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Дарэчы, на адкрыцці праваслаўнага крыжа і мемарыяльнай дошкі на бацькоўскім доме творцы яго ўдава Лілія Міхайлаўна расказвала, што галоўным праектам у творчых планах мужа быў фільм, які ён для сябе называў «Беларускі “Тытанік”», у аснову якога павінна была легчы біблейская тэма і незагойная рана Чарнобыля. Гэты фільм мог бы стаць трывожным набатам усяму чалавецтву, папярэджаннем, што нас можа чакаць у выпадку няспыннага насілля над прыродай і страты ўсялякай маралі, таго, на чым спрадвеку і трымаецца Чалавек.



*Паклонны крыж у вёсцы Федзюкі.*

Заканчваючы свой невялічкі артыкул, хачу сказаць, што я па-добраму зайздрошчу Міхаілу Пташуку. Ён пражыў кароткае, але надзвычай яркае жыццё, і пайшоў, пакінуўшы пра сябе ўдзячную чалавечую памяць. Хочацца яшчэ раз, цяпер ужо ў думках, спыніцца перад праваслаўным крыжам, што ўстаноўлены ў знак памяці аб ім, учытацца ў Словы, што ззяюць пазалотай, і памаўчаць.

**Спаси, Господи, люди Твоя**
**и благослови достояние Твое**
**Победы христианам на сопротивныя даруя**
**И Твое сохраняя Крестом Твоим жительство.**

*(Тропарь, гл.1)*

***Поклонный крест установлен во Славу Божию, в память кинорежиссера, народного артиста Беларуси Михаила Николаевича Пташука, уроженца д. Федюки Ляховичского района (1943—2002 гг.) Апрель месяц 2010 г.***

***Аляксандр ГАЛЬКЕВІЧ.***

*Фота Сяргея Варановіча.*

*Падрыхтавала Р. Касцюк*

Аляксей РАГУЛЯ

# «НЕ Ў АДНОЙ ТОЛЬКІ НАШАЙ ДУШЫ»

## *(Наваградскі кампанент у эстэтычным развіцці нацыі)*

Эстэтычная дзейнасць гістарычнага чалавека не заўсёды была інтэнсіўнай. Найбольш спрыяльнай для развіцця эстэтычнай культуры была эпоха тэрытарыяльнай абшчыны, калі земляробства стала галоўным спосабам вытворчай дзейнасці. Плён працы на зямлі быў гарантыяй свабоды і надзейнай будучыні. Прагматычныя адносіны да свету пераключаліся ў сферу супрацоўніцтва з зямлёй, вадой, сонцам, зорамі, вятрамі, свойскай жывёлай. У грамадзе (абшчыне) захоўваліся каштоўнасці культуры кроўна-сваяцкага тыпу і складваліся элементы першапачатковай дэмакратыі — самакіравання ў форме народнага сходу. У славян сфарміраваўся інстытут веча. Так складваўся самы паэтычны за ўсю гісторыю чалавецтва культурны канон — эстэтыка земляробчага календара, прасякнутая патрэбай заўсёды і ўсюды шукаць і знаходзіць красу свету, тварыць яе ў добрай згодзе з крэатыўным патэнцыялам самой прыроды. Ядром народнай дыялектыкі, як і эстэтыкі, з'яўляецца феномен зерня — канцэпцыя «адмаўленне адмаўлення». У народнай эстэтыцы пераважае матыў узвышэння, росту. Гармонія і прапарцыянальнасць маюць сэнс не самі па сабе, не як застылае нерухомае адзінства, а як стадыі ў працэсе станаўлення (жыцця). Ролю сімвала цывілізаванай прасторы ў народнай культуры выконвае фрэйм ***ніва*** — «рэч», феномен, у якім адлюстраваны рэальны вынік гарманічнага ўзаемадзеяння крэатыўных сіл прыроды і чалавека. Філасофскім эквівалентам нівы ў народнай культуры з'яўляецца універсалія ***хараство***. На жаль, у навуковым ужытку больш актыўна выкарыстоўваецца тэрмін ***прыгажосць*** — вельмі прыблізны пераклад з рускай ***прекрасное*** ці з нямецкай ***Schönheit.*** Рускамоўны варыянт арыентуе на пошук вышэйшага задавальнення ў трансцэндэнтным свеце.

Інтэнсіўнае развіццё грэчаскай і рымскай цывілізацый было забяспечана ўплывам дэмакратычнай культуры гіпербарэяў — народаў з Поўначы. Квітнеючая ніва і круглы стол былі вызначальнымі сімваламі ў культуры этрускаў, славян і кельтаў з часоў аграрнай неалітычнай рэвалюцыі. У Сярэдняй Еўропе складвалася альтэрнатыва лабірынтнай цывілізацыі ўсходніх дэспатыяў і тыраніяў. В. Ластоўскі быў ці не першым у Еўропе мысліцелем, які звярнуў увагу на ролю славян у станаўленні грэчаскай цывілізацыі. Гамер у «Іліядзе» невыпадкова паказаў маральную перавагу траянцаў над хцівымі і памаўзлівымі данайскімі базілеўсамі. Горад Троя быў заснаваны славянамі. Для траянцаў першапачатковай каштоўнасцю з'яўляецца лёс сям'і, Бацькаўшчыны. Стары Прыям, Гектар, яго жонка Андрамаха і іхні малалетні сын у паэме Гамера з'яўляюцца ўвасабленнем маральнай чысціні даверлівых і мужных траянцаў, якія стварылі цывілізацыю на аснове духоўных каштоўнасцей славянскай абшчыны. На фоне трагедыі траянскай грамады з асаблівай сілай успрымаецца пагроза татальнага геданізму, які на алімпе заснаванай Атрыдамі цывілізацыі спалучаўся з людажэрствам.

Г. В. Ф. Гегель адчуваў неадпаведнасць інтэгральнай навукі пра мастацтва мэтам развіццёвага існавання чалавецтва. Яго не задавальняў нават сам тэрмін «эстэтыка»: «Не зусім падыходзіць да нашага прадмета». Гегелю не падыходзілі дыдактызм і ілюстрацыйнасць неакласіцызму, эстэтызацыя ў сентыменталізме і рамантызме «няшчаснай свядомасці» — радыкальнага

індывідуалізму, няздатнага да ствральнага мыслядзеяння ў празаічным і жорсткім свеце гандлёвага грамадства. Больш за ўсё Гегелю не падыходзіў пазітывісцкі дух «канечнага». Абсалютызаваная ў гандлёвым грамадстве рынкавая кан'юнктура цікавіцца быццём з пункта гледжання выгады, якую можа даць бязлітасная эксплуатацыя энергетычных рэсурсаў. Пакарэнне прыроды яшчэ не так даўно трактавалася як вышэйшая мэта прагрэсу.

Праблемы эстэтыкі Гегель разглядаў у цеснай сувязі з праблемай анталогіі, быцця, існавання ўвогуле, а не ў рэдуцыраваным разуменні існавання ў індывідуалістычнай плыні экзістэнцыялізму. Ствараючы сваю «Навуку логікі», Гегель імкнуўся раскрыць дыялектыку быцця, цыклаў яго станаўлення і заняпаду,ператварэння ў ***нішто*** і ўзнікнення з яго ***нечага***. І. В. Гётэ і рамантыкі (В. Шэлінг) увялі ва ўжытак тэрмін «дух прыроды». Гегель прапанаваў такія катэгорыі, як Абсалютная ідэя і Абсалютны дух. Ідэя, такім чынам, станавілася тоеснай жыццю. У народнай культуры сутнасць жыццёвай дынамікі найбольш поўна выказана ў карнавале і містэрыі. Фенаменалогію народнай навукі пра логіку быцця Гегель ва ўмовах перманентнай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі актуалізаваў у абагульненых паняццях, даведзеных да апошняй мяжы абстракцыі: ён прадчуваў пагрозу мефістофельскай, д'ябальскай актыўнасці «без паняцця», прэтэнзій «няшчаснай свядомасці» і охласу, не абцяжараных тэарэтычным веданнем і пачуццём адказнасці, на асобае, кіраўнічае становішча ў грамадстве. Паставіўшы перад сабой задачу стварыць эстэтыку-навуку, Гегель рэальна ацэньваў стан рэчаў у гэтай галіне: «Да гэтага часу нікому не прыйшла ў галаву думка ўзяцца за вывучэнне прадметаў прыроднага свету з пункта гледжання іх ***красы*** і стварыць навуку, якая дае «сістэматычны выклад гэтай красы» (Г. В. Ф. Гегель. Лекции по эстетике. С.-Пб.: Наука, 1999, с. 81). Акрамя таго, «нашыя ўяўленні пра красу прыроды занадта *неакрэсленыя*», да таго ж «у гэтай галіне мыслення мы пазбаўлены *крытэрыя*». Пытанне пра суадносіны прыроднага і чалавечага тыпаў хараства Гегель адкладваў на потым. Першапачатковай была праблема жыццядзеяння аб'ектыўнага духу — свабоднага супольнага суб'екта.

Даследаванне крэатыўных магчымасцей прыроды і чалавека ў іх супольнасці вяло да кардынальных змен у жыццёвых арыентацыях чалавецтва. Ф. Шылер, вывучаючы вопыт антычнай эстэтызацыі соцыуму, выказаўся за стварэнне эстэтычнай дзяржавы. Ідэя, аднак, была зглумлена на рынках дзікага капіталізму. Гэта быў другі вялікі правал еўрапейскага рацыяналізму пасля спалення інквізіцыяй ідэі гераічнага энтузіязму разам з яе творцамі і носьбітамі. І ўсё ж «шылераўшчыну» знішчыць не ўдалося. У Расіі Ф. Дастаеўскі вуснамі свайго двайніка-рамантыка («Белыя ночы») паўтарыў, крыху перайначыўшы, ключавы тэзіс работы Ф. Шылера «Пісьмы пра эстэтычнае выхаванне чалавека»: «Толькі зносіны ў харастве з'яднаюць людзей, бо яно адносіцца да таго, што ўсім агульнае». Т. Шаўчэнка, моцна ўражаны вучэннем вандроўнага філосафа Г. Скаварады пра універсалію «зроднасць», паказаў быццё як абуджэнне і бунт супольнай чалавеку і прыродзе жыццятворнай сілы ў імперыі «мёртвых душ». Рэакцыяй культуры Сярэднееўрапейскага рэгіёна на імперскі націск у першай палове XIX ст. быў стыль, які атрымаў назву бідэрмайер. Для яго характэрным з'яўляецца непрыняцце афіцыёза, эстэтызацыя першапачатковых матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей як першаасновы існавання. Стыль бідэрмайер развіваўся як адзінства рамантычнай і рэалістычнай эстэтыкі. У беларускім яго варыянце былі з'яднаны ў арганічным сінтэзе лепшыя традыцыі сялянскага і рыцарскага эпасу, дух народнасці і дух ліцвінізму, культы гаспадара і абаронца Бацькаўшчыны. А. Міцкевічу і В. Дуніну-Марцінкевічу належыць асобая роля ў фарміраванні спецыфічнага для Сярэдняй Еўропы адраджэнскага руху ў эстэтыцы, неабходнасць якога ўсведамлялі нямецкія рамантыкі. Гегель, як ужо адзначалася, меў намер даць яму тэарэтыка-філасофскае абгрунтаванне, пачынаючы з перагляду існуючай прэдыкатызацыі. Філасофская эстэтыка беларускага фальклору прапанавала тэорыі тэрмін «хараство». («Культура» сучаснага гарадскога охласу навязвае грамадзе сваю альтэрнатыву хараства — «балдзёж».) Змест хараства складае адзінства ідэалаў дабра і красы — каштоўнасцей, якія ствараюцца дзеяннем крэатыўных сіл прыроды і чалавека. Ствараюцца не ў трансцэндэнтным, а ў рэальным свеце,

у якім монафізічная аснова быцця («зерне хараства» ў Я. Коласа) ёсць носьбіт неразгорнутых сіл духоўнасці. Арыентаваная на тварэнне хараства заўсёды і ўсюды, беларуская гаспадарская свядомасць здолела ператварыць «уздзірванелы курган векавечны» ў «нашу ніву» — своеасаблівы аналаг «Саду Эпікура» ці зямнога «квітнеючага райскага лугу». Менавіта гэтым вобразам архітэктар В. Р. Слюнчанка азначыў сутнасць эстэтычнай раўнавагі ў суадносінах ландшафту, экстэр'ера і інтэр'ера Каложскай царквы, характэрнай для культуры Наднямоння наогул. Гэта таксама істотны штрых да вырашэння праблемы суадносін эстэтыкі прыроднага і чалавечага свету, абазначанай Гегелем. У алегорыях Кірыла Тураўскага ўзаранае поле і «раса благадаці» таксама маюць не толькі рэферэнтную, але і самадастатковую каштоўнасць. Нават у самыя цяжкія часіны беларускі «працоўны дух» (У. Жылка) не шукаў «шчасця-долі на чужым, далёкім полі» ці ў трансцэндэнтным свеце. Такая каштоўнасная арыентацыя дазволіла вярнуць «забранаму краю» (Северо-Западному) яго сапраўдны назоў: «старонка родная», «родны кут», Бацькаўшчына. Семантыка названых лексікодаў здымае каштоўнасную дыхатамію «малой» і «вялікай» Радзімы. Невыпадкова пісьменнік родам з Наваградчыны Вячаслаў Адамчык у рамане «Чужая бацькаўшчына» трактуе адпрэчанасць як пачатак духоўнага выраджэння асобы.

XIII стагоддзе ў Беларусі было пачаткам протарэнесанснага руху. Наваградчына на гэтым вырашальным рубяжы еўрапейскай гісторыі пераймае ў Полаччыны эстафету дзяржаватворчай дзейнасці. Тут пачаўся пераход ад дзяржаў-зямель да цэнтралізаванай дзяржавы — шляхецкай рэспублікі. Ідэйным фокусам беларускай культуры гэтага часу было ўсведамленне патрэбы ў паўнацэнным жыцці ў сваім гаспадарстве-дзяржаве, непадуладнай не толькі прышлым заваёўнікам, але і сваім тыранам. Наваградчыне і Гарадзеншчыне ў XII—XV стст. належыць вядучая роля ў трансфармацыі гатычнага, вызначальнага на той час у Еўропе, стылю на мясцовы гаспадарскі лад. Ідэя зямнога Эдэму, уласцівая храмаваму дойлідству XI—XII стст., у XIII—XV стст. была інтэгравана ў стабільны стыль народнага дойлідства, для якога ўласціва стрыманасць аздаблення, акрэслены сілуэт, геаметрычная выразнасць структуры. Гатычны ўзлёт даху спалучаўся з кантрастнай статычнасцю сцен, дзякуючы чаму вобраз фарміраваў пачуццё ўстойлівага свету прыроды, па-рэнесанснаму суразмернага чалавеку («Гісторыя беларускага мастацтва». У 6 т. Т. 1. Рэд. С. В. Марцалеў, Л. М. Дробаў. — Мн.: «Навука і тэхніка», 1987). Гаспадарская парадыгма манументальнага стылю наваградскіх замкаў была своеасаблівым камертонам для замкавага дойлідства, якое было надзейным шчытом суверэнітэту. Эпічны стыль архітэктуры ствараў пачуццё нацыянальнай годнасці і еднасці з лёсам айчыны. наваградак у XII стагоддзі таксама быў цэнтрам мастацкіх рамёстваў. Наваградскія гутнікі ўдала ўпісвалі ў масіўны манументальны дэкор традыцыйную сімволіку земляробчага календара. Прызначаная для практычных мэт вухачыстка аздаблялася фігуркай музыканта. Інтэр'еры жылых дамоў упрыгожваліся фрэскамі. Адчуваецца ва ўсім дыханне народнай традыцыі: хараство трэба шукаць і знаходзіць усюды, яно павінна быць і ва ўсіх рэчах, зробленых чалавекам.

Для «душою чулых» насычаная эстэтыка наваградскай культурнай прасторы заўсёды была і застаецца крыніцай духоўнасці. У беларускай культуры чалавек у зносінах з прыродай звычайна выступае без сакральных пасрэднікаў. Усяслаў Полацкі ў народных паданнях і ў «Слове пра паход Ігаравы» сам, сваёю ўласнаю сілаю мог ператварацца ў ваўка ці якога іншага звера, калі вымагалі таго абставіны. Такую сілу ён меў ад нараджэння ад самой прыроды. Яраслаўна ў сваёй бядзе таксама непасрэдна звяртаецца да ветру і сонца з дакорам, просьбай і надзеяй, што яны выкарыстаюць сваю сілу на дабро і памогуць неадпавядзяльнаму і непрадказальнаму ў паводзінах князю Ігару вярнуцца з палавецкага палону. М. Гусоўскі першы ў еўрапейскай паэзіі стварыў узоры эстэтыкі рэалістычнага пейзажу ў паэме «Песня пра зубра». Жывучы доўгі час у Рыме, ён заставаўся творча свабоднай асобай. Стыль высокага італьянскага Адраджэння з яго арыентацыяй на ідэальную красу ніколькі не змяніў эстэтычную арыентацыю беларускага паэта на першапачатковую значымасць рэальнага хараства прыроды ў родным краі. Эстэтычны вопыт М. Гусоўскага быў вынікам асэнсавання спартанскага вопыту яго ўласнага жыцця ў прыродзе з дзяцінства і жыцця і лёсу беларускага народа на

ўсходняй мяжы сутыкнення еўрапейскай сярэдневяковай цывілізацыі з імперскімі амбіцыямі ўсходніх дэспатыяў. Адчуванне і разуменне повязі чалавека з прыродай на мяжы архетыпнага монафізіцтва ў паэме «Песня пра зубра» спалучаецца з такім жа глыбокім пранікненнем у сутнасць гістарычнага сэнсу дзяржаватворчай дзейнасці вялікага князя Вітаўта і спасціжэннем ролі беларускай дзяржавы ў гісторыі еўрапейскага Сярэднявечча. Беларускія мысліцелі М. Гусоўскі і Ф. Скарына былі ў Італіі ў той час, калі Н. Макіявелі выступіў са сваёй крайне індывідуалістычнай і рэлятывісцкай канцэпцыяй улады. Беларуская думка была першай у Еўропе альтэрнатывай макіявелізму. Гнасеалагічныя вытокі нормы «паспалітае добрае» пачынаюцца ў глыбінях этыкі і эстэтыкі грамады — сялянскай абшчыны. М. Гусоўскі, Ф. Скарына і С. Будны паказалі заходнееўрапейскаму свету беларускія ўзоры самарэалізацыі індывідуальнага і супольнага суб’екта — шлях фарміравання свядомасці на аснове адзінства і паразумення з навакольным светам. Беларуская рэнесансная канцэпцыя грамадзянскай свядомасці зыходзіць з асэнсавання гістарычнага вопыту нацыі — па аналогіі з вопытам станаўлення чалавека з маленства ў вялікай радзіне. Імперскія амбіцыі ўсходніх тыраніяў, дэградацыя «сваёй» кіраўнічай касты скіроўвалі духоўныя пошукі беларускай інтэлігенцыі да спасціжэння законаў рэальнай гісторыі. М. Гусоўскі свядома адмежаваўся ад містыкі, схаластычнага канструявання і відзяжоў. Праўда і дакладнае веданне — зыходныя пазіцыі яго эстэтычнай сістэмы: «мана для вушэй — асалода», але «тым, для каго я спяваю, / Праўда за ўсё даражэй». Перажыванне і асэнсаванне праўды гістарычнага быцця свайго народа — гэта неабходная ўмова дасканалення інтэлектуальнага і духоўнага свету асобы:

Што да мяне, то сваё паляванне і ловы
Адпаляваў я. Адзіная ўцеха ў самоце —
Жыць успамінамі. Думкай ляціш быстракрылай
Ноччу і днём на радзіму, у памяці сеці
Вабіш той час незабыўны, што некалі ў нетрах
Родных лясоў разгубіўся, і кліч — не даклічаш...
Што ў іх, тых закліках? Час улавіць немагчыма.
Гонішся, смертны, за страчаным часам, прыстанеш,
Не даганяеш, бо што прамінула — не вернеш.
Гэты пясок-плывунец высыпаецца ў вечнасць.

«Песня пра зубра» — гэта форма лірыка-філасофскай паэмы, у якой выразна бачацца рысы эстэтычнага трактата і споведзі. Беларускі аўтар прапанаваў заходнееўрапейскаму свету новы пасля эпахальных твораў А. Аўгусціна і П. Абеляра варыянт духоўнага жыццядзеяння асобы — шлях *эстэтычнага* перажывання і спасціжэння феноменаў рэальнага быцця. Галоўным жа крытэрыем ацэнкі з’яўляецца крытэрый хараства, калі больш дакладна — дык крытэрый адпаведнасці чалавечага быцця норме хараства, захаванага ў жыватворчай сіле самой прыроды. На гэтым напрамку паэт вылучае гераічны, баладны кампанент быцця ўвогуле:

Лютасцю больш небяспечны, чым люты драпежнік,
Зубр для людзей не страшны, не чапай — не зачэпіць,
Будзе стаяць, як укопаны — пастыр на варце,
Не страпянецца, а позіркам пасціць няспынна
І чараду, і сям’ю ў чарадзе на папасе.
Смелы, і ў гэтым няма яму роўнага звера
У свеце жывёльным пушчанскага нашага краю.

Вобраз зубра-ратніка не з’яўляецца алегорыяй, іншасказаннем. Гэта самадастатковы феномен, ліра-эпічны фон, на якім разгортваецца гераічны вобраз ратніка і пастыра чалавечай грамады — вялікага князя Вітаўта. Акрамя гэтага, прасочваецца яшчэ адзін кампанент чалавечага быцця — напружанне і паэзія штодзённых клопатаў працаўнікоў лесу і нівы. Сінтэз гэтых двух кампанентаў — адзінства гаспадарскай і рыцарскай парадыгмаў — складае сутнасць ліцвінізму як нацыянальнай беларускай дактрыны. М. Гусоўскі вызначыў на стагоддзі напрамак станаўлення беларускага духу: узлёт пачынаецца з вяртання думкі на радзіму, у «той час незабыўны, што ў нетрах / Родных лясоў разгубіўся». З гэтага ж парыву да Беларусі вырастаў рамантычны эпас А. Міцкевіча — яго паэма «Пан Тадэвуш». Разам з аўтарскім парываннем імкнуўся душою да родных гоняў з польскай турмы ў пачатку 30-х гадоў і перакладчык Браніслаў Тарашкевіч:

Радзіма Літва! Як здароўе, так ты, дарагая;
як шмат цябе трэба цаніць, толькі той і спазнае,
хто страціў цябе. Ўсю красу тваю бачу дзіўную,
й сягоння апісваю, бо па табе я сумую.

У А. Міцкевіча пераймаў эстафету Якуб Колас. Яго унікальны шэдэўр «Новая зямля» пачынаў свой шлях у час знаходжання аўтара ў Мінскім астрозе:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.

Паэтыка вяртання на працягу стагоддзяў узбагачалася дадатковымі сэнсамі. Філасофскае папярэджанне М. Гусоўскага пра пагрозу, звязаную з бездухоўнасцю і безадказнасцю кіраўнічай магнатэрыі, было вельмі своечасовым. Кунтушовы патрыятызм, які выстаўлялі напаказ адэпты сарматысцкай шляхецкай выключнасці, быў здрадай рыцарскім традыцыям ліцвінізму. Беларускае рыцарства не распыляла сваю сілу ў куртуазных забавах. Сваю годнасць беларускія рыцары пацвердзілі ў шматлікіх сутычках з варожым насланнём. У XIII стагоддзі пад Наваградкам татара-мангольскія орды былі спынены. Немалую ролю ў вызваленні краю ад іга адыграла дыпламатыя добра адукаванага князя і царкоўнага дзеяча Войшалка. Гэты момант справядліва падкрэсліваецца ў рамане Г. Далідовіча «Кліч роднага звону». Пад Наваградкам былі разбіты крыжаносцы. Разгром пад Грунвальдам у 1410 г. спыніў на стагоддзі прусацкі захопніцкі імпэт на ўсходзе Еўропы. У 1514 годзе войска К. Астрожскага нанесла скрышальны ўдар па імперскіх амбіцыях маскоўскіх ваявод. У зацяжной Лівонскай вайне войскі ВКЛ здолелі спыніць прасоўванне на Захад тыраніі Івана IV. Ліцвінізм як тып дзяржаўнага мыслення з'яўляецца вялікім укладам беларускага рыцарскага саслоўя ў развіццё агульнанацыянальнай культуры. Вытокі яго пачынаюцца ў наваградскім перыядзе новай дзяржавы. У часы Рэнесансу і Рэфармацыі лепшыя сілы шляхецка-рыцарскага саслоўя актыўна развівалі і ўмацоўвалі прынцыпы дэмакратыі ў заканадаўчай дзейнасці, вяршыняй якой з'яўляецца створаная высокакваліфікаванымі юрыстамі пад кіраўніцтвам Льва Сапегі канстытуцыя — Статут 1588 г. Рэнесансны дух гэтага помніка бачыцца надзвычай выразна на фоне створанага ў XVI ст. у Масковіі «Дамастроя».

Беларускія рамантыкі жылі марай пра адраджэнне «ліцвінскага» часу, які магнатэрыя «растварыла» ў раскошы, марнатраўстве і ваенных разборках, што разгортваліся да маштабаў грамадзянскай вайны. Права ліберум вета было выкарыстана для таго, каб паралізаваць парламенцкую дзейнасць. Патрыятычнае паспалітае рушэнне было ператворана ў канфедэрацыю — права ўзброенага мяцяжу магнатаў супраць цэнтральнай улады, калі б тая паспрабавала абмежаваць анархісцкую свабоду магнатэрыі. Сарматызм узнік як каставая ідэалогія апраўдання магнацкай безадказнасці за сацыяльна-палітычнае становішча ў дзяржаве. Ліквідацыя пастановай Сойма ў 1697 г. дзяржаўнага статуса беларускай мовы ўзаконіла права на рэнегацтва ў адносінах да нацыянальнай культуры і свайго народа. Так, змагаючыся нібыта супраць тыраніі і дэспатыі, дэградаваная магнатэрыя стварыла ў Рэчы Паспалітай абодвух народаў (польскага і беларускага) мультытыранію. У беларускіх народных баладах і казках гэты сацыяльна-псіхалагічны феномен азначаны псіхічным комплексам магната, непрадказальнага ў сваіх жорсткіх прыхамацях, п'яных оргіях і крывавых гульнях. Аналагам еўрапейскага замка ў гатычным рамане з яго містыкай і прывідамі ў беларускай народнай прозе стаў вобраз палаца, збудаванага з чалавечых касцей. Цыклы народных легенд пра немінучасць расплаты за здраду і здзекі звязаны з воднай прасторай. У Наваградчыне «веча балад» і казак, заснаваных на матывах вернасці, здрады і самаахвяравання, гучала па-над Свіцяззю, Кроманню і Ракой — басейнам Нёмана. Культура вернасці з яе акрэсленай каштоўнаснай арыентацыяй якраз і вызначыла напрамак эстэтычнай праграмы ў беларускім рамантызме і рэалізме. У творчым лёсе А. Пушкіна вялікая роля належыць беларускай сялянцы Арыне Радзівонаўне. Талент А. Міцкевіча фарміраваўся пад уплывам казак беларускага дзядзькі Блажэя. Разам з Янам Чачотам і Адамам Міцкевічам струмень народных балад пра вернасць прыйшоў у Дамініканскую школу ў Наваградку, а затым — у Віленскі універсітэт. Жывая вада свіцязянскага цыкла ўзгадавала дух філаматаў і філарэтаў, беларуска-ліцвінская пазіцыя якіх была альтэрнатывай не толькі афіцыёзу, але і паланізатарскай палітыцы кіраўніка Віленскай навучальнай акругі А. Чартарыйскага. Балады і паэмы Я. Чачота і А. Міцкевіча паказалі заходнееўрапейскаму грамадству беларускую народную культуру ў польскамоўнай вопратцы. Тым не менш энергія, закладзеная ў структуры беларускай балады, скіроўвала еўрапейскую эстэтычную думку на перадоленне ў рамантызме банапартысцкага і байранісцкага эгацэнтрызму. У баладах дзейнічае душа беларускай нацыі, персаніфікаваная пераважна ў жаночым абліччы:

Што ж болей злачынна: тым ордам паддацца,
Адзець кайданы ўсім з пакорай
Ці самазабойцамі ў свеце нам стацца?
Што лепей, скажыце, што горай?
*(«Свіцязь»)*

Каб не стаць царскімі нявольніцамі, беларускія жанчыны прынялі смерць, але праераслі кветкамі:

Такія бялюткія гэтыя кветкі!
Нібы матылі над вадою!
Ліст — цёмна-зялёнага колеру: гэткі
У елкі пад снегам зімою.

Бель і чысціня духу сталі выбуховай сілай у сквапных руках захопнікаў:

Ды кожны, хто кветак рукамі кранаўся —
Была ў іх нябачная сіла, —
У крук ад страшэнных пакутаў згінаўся,
І смерць яго тут жа валіла.

Асуджаючы рабскае цярпенне і «гераізм няволі», творы А. Міцкевіча адкрывалі чытачу здольнасць нацыі да гераізму ў змаганні. У творах А. Міцкевіча поруч з героямі легендаў і казак дзейнічаюць рэальныя героі нацыянальна-вызваленчага руху: Т. Рэйтан, І. Дамейка, А. Т. Касцюшка, Т. Зан, Я. Ясінскі, Т. Ваўжэцкі, Эмілія Плятэр. Нашчадкі гераічнага ліцвінізму паказаны як людзі высокай культуры, падрыхтаваныя маральна для таго, каб за свабоду айчыны змагацца самаахвярна і рашуча. А. Міцкевічу належыць вялікая роля ў раскрыцці гераічнага характару беларускай жанчыны. Пры гэтым падкрэсліваецца, што сіла і прывабнасць чалавечай асобы знаходзіцца ў непасрэднай залежнасці ад таго, як у яе выхавана здольнасць быць вернай айчыне. Здрада — гэта кляймо ганьбы на тысячагоддзі. Радзіма заўсёды была вышэйшай каштоўнасцю ў народнай культуры:

«Клятву забыў ты, забыў і параду,
Помніш, казала я: мілы,
Ведай жа, кара чакае за здраду
Нават у змроку магілы.

Дзе табе бавіцца рыбкай са мною,
Ластаўкай віцца над вірам!
Цела засыплюць сырою зямлёю,
Вочы юнацкія жвірам.

Ну, а душа? Ёй — пякельная кара,
Хай жа гарыць на вуголлі
Там, дзе ты кляўся каля ясакара,
Тысячу год без патолі».
*(«Свіцязянка»)*

Актуалізацыя гераічных традыцый народнага эпасу і рэальнай «замкавай» мінуўшчыны Літвы-Беларусі і ў паэзіі Я. Чачота сфарміравала пачуццё роднасці пакаленняў, далучанасці сучаснікаў да велічы духу продкаў. Эстэтызацыя гераічнай наваградскай мінуўшчыны ў беларускім рамантызме адыграла вялікую ролю ў фарміраванні заснаванага на рэальным гістарычным грунце патрыятызму і духоўнага імунітэту супраць спусташальнай ідэалогіі бяспамяцтва і непрыкаянасці. Семантыка хранатопу патрабавала пераадолення супярэчнасці паміж яго змястоўным сэнсам і іншанацыянальнай формай выказвання. Узяты «краёвай» школай напрамак заканамерна выводзіў адраджэнскі рух да праблем сацыяльнай эстэтыкі. Зразумела, што найбольш плённым гэты рух быў у культуры народаў, якія сталі на шлях усвядомленага адраджэння. Сацыяльная эстэтыка Дж. Мадзіні («Пра гістарычную драму», 1841) у Італіі ўзняла творчую актыўнасць сацыяльных нізоў. Дж. Гарыбальдзі змог абаперціся на іх падтрымку. У выніку была вырашана сацыяльная праблема, над якой творчая эліта Італіі пакутліва працавала з часоў Дантэ: бацькаўшчына дамаглася сапраўднай незалежнасці. Не лішнім будзе зазначыць, што крытэрыем сацыяльнай эстэтыкі Дж. Мадзіні з’яўляецца каштоўнасная тоеснасць у ацэнках драмы чалавечага існавання — у гістарычным жыцці і ў літаратуры. Гэты шлях мыслядзеяння скіроўваў намаганні нацыі на максімальнае збліжэнне стыляў культуральнага тэксту і штодзённага быцця, ідэалу з «жыццёвымі клопатамі» будняў. У рэчышчы рамантычнага стылю нарастала цікавасць да сацыяльнага факта. Гнеўна асудзіўшы забойства А. Пушкіна, А. Міцкевіч паказвае значэнне генія рускай літаратуры на фоне дакладнай сацыялагічнай ацэнкі грамадзянскага стану ў імперыі:

«Трэба ведаць, што ў гэтай краіне ўсе і заўсёды ў большай ці меншай ступені бываюць незадаволенымі сваім урадам; яго абвінавачваюць употай, яго ганьбяць уголас. Нягледзячы на гэта, усе па-ранейшаму працуюць, словам, усе служаць гэтаму ўраду. Іншаземец, які не ведае характару і сілы гэтай апазіцыі, спрадвечнай і ўсеагульнай, а між тым так мала небяспечнай, сустракаючы ўсюды ворагаў існуючага парадку і нідзе не бачачы яго абаронцаў, прыходзіць да высновы, што Расія гатова пачаць рэвалюцыю, што яна чакае толькі зручнай хвіліны, чакае толькі закліку.

Гэтыя настроі і гэтыя рэвалюцыйныя размовы ў грамадстве падвялі ўрэшце рускіх і, на няшчасце, самых высакародных людзей з іх асяроддзя» («Пушкін і літаратурны рух у Расіі»).

А. Міцкевіч свядома імкнуўся надаць эстэтычнаму рамантызму дзейсную асветніцкую накіраванасць. «Асвета краю, — пісаў у праграме для філаматаў Я. Чачот, — найважнейшая спружына яго шчасця» («Думкі для ніжэйшага класа», 1821). Беларускія рамантыкі не шукалі заспакаення ці эстэтычнага задавальнення ва ўцёках у экзатычныя землі ці ў прыгодах. Яны ставілі перад сабой задачу «падтрымліваць мастацтва, рамёствы, засноўваць і развіваць фабрыкі, асабліва паперні, суконныя і ткацкія фабрыкі, што найлягчэй можна ажыццявіць у краі». Менавіта так і дзейнічаў у Шчорсах граф Іаахім Храптовіч (1729—1812) — заснавальнік Адукацыйнай камісіі (1773), пазней канцлер ВКЛ. Яго сын Адам, удзельнік паўстання А. Т. Касцюшкі, заснаваў ланкастэрскую школу для сялянскіх дзяцей Шчорсаў і навакольных вёсак. І гэта не адзінкавыя праявы рэалізацыі асветніцкай утопіі. У Беларусі была нават лакальная «Паўлаўская рэспубліка» з уласным парламентам і грашыма. Практычна-асветніцкі вопыт Храптовічаў, Тышкевічаў, Манюшкаў, Радзівілаў, Тызенгаўза, Скірмунтаў быў пачатковым этапам інтэнсіўнай фальклярызацыі духоўнай і сацыяльнай беларускай культуры, сацыялізацыі эстэтыкі. Сацыялогія культуры ў праграме філаматаў апярэдзіла на дзесяцігоддзі ідэю сацыяльнай кансалідацыі грамадства, выказаную заснавальнікам класічнай сацыялогіі Эмілем Дзюркеймам у яго «Падзеле працы» (1893). Беларускія асветнікі не прынялі радыкальнага нігілізму Вальтэра і Русо, якія перакрэслівалі разам з забабонамі і традыцыйную мараль, закладзеную ў міфалогіі і фальклоры. «Ашчаднасць, — разгортваў сваю канцэпцыю Я. Чачот, — з'яўляецца маткай выгоды, парадку і багацця, словам, дамашняга і грамадскага шчасця, з'яўляецца рысай сапраўднага грамадзяніна, бо яна вядзе да прыстойнага карыстання дастаткамі, якімі трэба дзяліцца і з іншымі, яна працівіцца ўсякім празмернасцям і раскошы — самай галоўнай прычыне дэмаралізацыі». Эстэтыка беларускага рамантызму не выключае пазітыўнага стаўлення да рэчаіснасці — наадварот, карысць, у адрозненні ад карыслівасці, з'яўляецца неад'емнай часткай цэласнасці. «Хараство» нацэлена на карысць.

Вучэнне пра тэндэнцыю, якое ўзнікла ў Еўропе як рэакцыя на амерыканскі прагматызм, у Беларусі не стала альтэрнатывай рамантычнаму ідэалу. Паэт Вінцэсь Каратынскі — ураджэнец Наваградчыны (в. Селішча) — быў нейкі час хатнім настаўнікам у в. Сенная (цяпер Сенна) — папярэджваў аб пагрозе марнатраўства ў сферы духоўнага жыцця. Сапраўдны твор абавязкова мае тэндэнцыю, скіраваную супраць марнатраўства: «Гэтая тэндэнцыя звяртаецца да пачуццяў, каб схіляць да прасякнення *Праўдай жыцця*, якая разбеглася на тысячы праменьчыкаў, пульсуе ў рэчаіснасці жыва, хоць і прыхавана. Сабраная ў адзін фокус творам мастацтва, яна бачна, як на далоні» (Каратынскі В. Творы / Уклад., прадм. і камент. Ул. Мархеля. — Мн., 1981, с. 76). Тэндэнцыю В. Каратынскі разумее як сканцэнтраваную ў творы энергію сонечнага промня — носьбіта жыцця. На першы план, такім чынам, выносяцца не праблемы абстрагаванай ад рэчаіснасці прыгажосці, а праўды жыцця. У рэальнай беларускай сітуацыі вектар усіх намаганняў у пошуках праўды выводзіў на балючую праблему *мужыцкай праўды* — праўды коласа, нівы. Кастусь Каліноўскі, які азначанаму фрэйму надаў статус сацыялагічнай катэгорыі, пераконваў суайчыннікаў сілай аголенай праўды: рабскае становішча селяніна ў дзяржаве, рэкрутчына, каланіяльная залежнасць нацыі ёсць глумленне над нівай і сейбітам, знішчэнне будучыні. Ён, Яська гаспадар з-пад Вільні, таксама гістарычнай беларускай сталіцы, — звяртаўся ў «Мужыцкай праўдзе» перш за ўсё да дзецюкоў — будучыні нацыі. Пераемніцай «Мужыцкай праўды» невыпадкова стала «Наша Ніва». Эстафета перадавалася на ўзроўні культурнай семантыкі. Абазначаны В. Каратынскім рух да эстэтыкі праўды жыцця паступова набіраў сілу. У нарысе «Карціны з берагоў Нёмана» пісьменнік спыніў увагу на асаблівым харастве ваколіцы правага ўзбярэжжа Нёмана, што «месціцца між яго рэчышчам і балотамі Палесся». На гэтай зямлі В. Каратынскі ўбачыў своеасаблівую повязь у эстэтыцы ўзаемадзеяння прыроды і чалавека. Спрадвечная лёгкая «літоўская» саха тут «выпісвае на ніве лініі так роўна і такой дакладнай вышыні, што лепш няхай не паказваецца пісар, калі выводзіць вершыкі ў альбоме каханай. А ўжо слава за прыгожае ворыва ідзе вялікая ў гэтых прынёманскіх ваколіцах, і хіба толькі чалавек, які не дбае пра добрае імя перад суседзямі, дазваляе сабе пагарджаць

ёю. Можа, якраз гэтая любоў да прыгожага ўраблення памагла, каб апошні эканамічны крызіс не пакінуў у Прынёманшчыне такога следу занядбання, як дзе-нідзе». В. Каратынскі, як бачым, праігнараваў вульгарную тэндэнцыю «быццё вызначае свядомасць». Можна да сказанага дадаць, што не меншая слава ў гэтым краі ідзе і за прыгожую касьбу і за прыгожае жніво.

У творчасці Я. Коласа сінтэз каштоўнасцей народнай эстэтыкі Палесся і Прынямоння ўвасоблены ў ліра-эпічных ёмкасцях яго мастацкай фенаменалогіі. Найперш — у духоўных скарбах яго беларускага пяцікніжжа: «Новай зямлі», «Сымона-музыкі», «Казак жыцця», трылогіі «На ростанях» і наскрозь сімвалічнай алюзіі «Рыбаковай хаты». Я. Колас, адначасова лірык і эпік, валодаў здольнасцю канцэнтрацыі энергіі духу ў малых, па-філасофску насычаных формах праграмнага выказвання. Яго паэтычныя прадмовы да «Казак жыцця», да паэмы «Сымон-музыка» з’яўляюцца адказам на істотныя пытанні, пастаўленыя ў свой час заснавальнікамі класічнай эстэтыкі. Канцэнтруючы энергію «тысячы праменьчыкаў» у накіраваным фокусе філасофскага паэтычнага выказвання, Я. Колас здымае дыхатамію прыроднага і чалавечага харастваа, якая прымусіла Гегеля глыбока задумацца над неабходнасцю перагляду сутнасці вучэння пра эстэтыку. Я. Колас сваёй мастацкай творчасцю сцвердзіў права фенаменалагічнай фальклорнай эстэтыкі на жыццё ў формах новага часу, што ніколькі не перашкаджае існаванню эстэтыкі філасофскай:

Не ў аднэй толькі нашай душы
  Зерне ёсць хараства —
Аб ім казку складае ў цішы
  Колас нівы, трава.
Не ў адным толькі сэрцы людзей
  Іскра праўды гарыць —
Аб ёй песню пяе салавей,
  Аб ёй рэчка журчыць.
У той песні, шырокай, як свет,
  Чутны ветры і гром.
Дык прымі ж ты прывет,
  Свет бязмежны, мой дом.

В. Каратынскі ў эстэтыцы народнага побыту ўбачыў анталагічны змест. Хараство на Палессі і ў Прынёманшчыне трактуецца як умова чалавечага існавання. Абноўленая паэтыка казак Рэдкага («Музыка») і Старога дзеда Савіцкага («Дзеўчына») можа быць успрынята як працяг дыялогаў, пачатых рамантыкамі ў XIX ст. Трагічны лёс Дзеўчыны і Музыкі папярэджвае: хараство можа ўратаваць свет, але існуе пагроза таго, што людзі могуць раней зглуміць само хараство.

Фальклорная эстэтыка валодае вялікімі магчымасцямі паглыбленага пазнання супярэчлівай рэчаіснасці XX ст., здольнасцю супрацьстаяць націску афіцыйнай ідэалогіі. Партыйна-савецкая прапаганда навязвала грамадскасці канцэпцыю казённага аптымізму. У глыбінях беларускага духу выспявала, аднак, канцэпцыя «крытычнага аптымізму». У філасофскім даследаванні У. Самойлы («Гэтым пераможаш!..») беларуская крытычная дактрына паўстала як заканамернасць у развіцці беларускай адраджэнскай культуры і аналітыка-крытычнай традыцыі класічнай філасофіі — насуперак модзе на нігілізм. Абсалютызацыя ўсеагульнай «непачатай Маткі-прыроды» ў эсэ Ігната Канчэўскага «Адвечным шляхам» была з’явай трансфармацыі гегелеўскай Ідэі абсалютнага станаўлення, пераадолення паласы абсалютнага зніштожання, абсалютнага чалавечага Нішто, часу без чалавечага быцця. Так кваліфікуецца стан чалавечай сітуацыі і ў працы М. Хайдэгера «Быццё і час», напісанай напярэдадні трыумфу фашысцкіх і камуністычных рэжымаў.

Мастацтва на пачатку XX ст. імкнецца да «абсалютнага» вызвалення ад ненавіснай рэчаіснасці, да «абсалютнай» мастацкасці. Пошукі універсальнай формулы абстрагавання і абагульнення заканамерна вывелі на шлях рэдукцыі, палемічнага спрашчэння, радыкальнага прымітывізму. Прадчуваннем пагрозы абсалютнага абніштойвання быцця на Зямлі прасякнута, па сутнасці, уся мастацкая культура гандлёвага грамадства з першых крокаў яго станаўлення. Каларыстычная экспрэсія рамана Стэндаля «Чырвонае і чорнае» абазначыла тэндэнцыю да універсальнай тыпізацыі і абагульнення на ўзроўні калярoвай сімволікі карціны татальнага зла ў грамадстве. Страта пачуцця меры на гэтым напрамку ў XX ст. закончылася разбурэннем фігуратыўнай вобразнасці. К. Малевіч выявай чорнага квадрата на чырвоным фоне засведчыў крах яго ўласнай канцэпцыі пазавыяўленчай вобразнасці і пачаў усё спачатку — з пластыкі новага дызайну, адпаведнага эпосе выхаду ў касмічную прастору.

У беларускай літаратуры экспрэсія чорнага і белага, цёмнага і светлага не вельмі кідаецца ў вочы, хоць і мае канцэптуальнае значэнне. Свядома ўзмацняў экспрэсію колераў З. Бядуля. Іншым шляхам пайшоў Янка Нёманскі. Жыццёвая чорнасць у яго творах

існуе як асяроддзе чалавечага быцця: смалакурня, чорная багна, курныя хаты, чорная бездань чортавага вока, чорная доля... Янка Нёманскі нарадзіўся ў Шчорсах. У маленстве застаўся без маці. Гадавалі яго бацька і дзед. Суровая сялянская навука жыцця была аздоблена атмасферай шчырасці і павагі да чалавека любога ўзросту. А «нязмерныя паўзнёманскія роўнядзі і жыццярадасныя ўзвышшы Навагрудчыны з іх светлымі крыніцамі і вясёлымі гаёчкамі» абудзілі ў падсвядомасці патрэбу жыць па законах харадства. Я. Колас атаясамліваў хараство з разлегласцю наднёманскіх прастораў. Повязь сялянскай этыкі з эстэтыкай прыроды была асэнсавана Я. Нёманскім як цэласны комплекс *жыццё*: «Першым і, трэба сказаць, лепшым маім настаўнікам было само жыццё, сама натура. Таму навучанне, якое я атрымаў ад іх, самае дасканалае і не сатрэцца ніколі, пакуль мне выпадзе жыць і працаваць» («Вытокі песні: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў». Мн., 1973, с. 197). Эстэтыка прозы Янкі Нёманскага прасякнута напружаннем станаўлення светласці ў нетрах чорнасці. У невялікіх яго аповесцях, рамане «Драпежнікі» паказаны новы, бальшавіцкі накат чорнасці на беларускую роўнядзь пасля банкету чорнага груганння — апошніх нашчадкаў сарматысцкага дэкадансу.

Плынь эстэтычнай свядомасці ў Навагрудскім Панямонні рухаецца па сваіх прыродных законах. На працягу тысячагоддзяў лічылася, што эманацыя дабра здзяйсняецца толькі зверху, з неба. У эстэтыцы Я. Коласа «ўгару, святое аддаленне», сосны і елкі пасылаюць не толькі «ціхусенечкі шум», малітву, але і «густы, духмяны пах смалы», дух жывіцы. Зямля, такім чынам, здзяйсняе эманацыю чалавечага жыцця ў сусветную прастору. У эстэтыцы Янкі Брыля раскрыта таямніца звычайнага чалавека, паказана знутры эманацыя святла, «жменя сонечных промняў» беларускай душы. Ды толькі ў светлай душы краіны,ператворанай у XX стагоддзі ў «вогненную вёску», засталося чорнае папялішча. Такія раны гояцца не хутка. Пафас вяртання да жыцця, абпаленага ў маленстве вайной пакалення, прасвятленне духу, часцей за ўсё «па часе» — у гэтым сутнасць эстэтыкі слоўнай творчасці Вячаслава Адамчыка. Пісьменнік суровай праўды факта, В. Адамчык стварыў сродкамі своеасаблівага слоўнага сфумата візаж беларускага *шарага* часу ў XX стагоддзі.

Працягам дыялогу пра час і жыццё стала проза Г. Далідовіча, аднаго з яркіх «пасляваеннікаў» у літаратуры, які ўздымаўся да творчага жыцця на правым узбярэжжы Наднямоння, калі на папялішчах спаленых у вайну партызанскіх вёсак марудна ўставалі зрубы новых хат. Эманацыя святла новых сцен вызначыла настраёвасць і галоўны пафас творчасці Г. Далідовіча, які можна характарызаваць як *покліч жыцця*. Героі яго твораў як сацыяльна-бытавой, так і гістарычнай тэматыкі — не якія-небудзь «отстраненные» ці «чудики», а *пакліканыя* голасам жыцця да яго тварэння.

Навагрудчына на працягу ўсёй гісторыі Бацькаўшчыны была і застаецца культурнапрадуктыўнай часткай нацыянальнай айкумены. Арыгінальная плынь духоўнай свядомасці тут дасягнула ўзроўню, на якім эстэтыка фенаменалагічная перарастае ў эстэтыку філасофскую. Філосафам, здольным трансфармаваць культурныя сэнсы мастацкага вобраза ў ёмкасці філасофскага паняцця, стаў ураджэнец вёскі Плянта, непадалёку ад Вераскава, Уладзімір Конан. У яго шматлікіх манаграфіях і артыкулах адлюстравана гісторыя развіцця беларускай эстэтычнай думкі ў агульнаеўрапейскім кантэксце. У. Конан стаў першым даследчыкам гісторыі беларускай канцэпталогіі. У яго працах перакануўча паказаны наватарскі характар беларускай мастацкай літаратуры Навейшага часу. Характэрным у гэтых адносінах з’яўляецца каментарый да паэтычнай прадмовы ў паэме «Сымон-музыка»: «Мастацтва, на думку паэта, — скарб, пазычаны ў народа, які ў сваю чаргу ідзе да тых, хто «чулы душою», хто можа жыць з паэтам аднымі думкамі, аднымі пачуццямі, аднымі імкненнямі» (У. Конан. Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі. Мн., 1963, с. 64). Значэнне гэтага назірання выходзіць далёка за межы літаратуразнаўства, бо яно можа быць паспяхова пашырана на сферу культурфіласофскай інтэрпрэтацыі. Большасць аўтараў культуру трактуюць з прагматысцкага пункта гледжання — як суму энергіі, узятай у прыроды, перапрацаванай і засвоенай (Л. Уайт). Коласаўская, а значыць і беларуская ў цэлым канцэпцыя прадугледжвае ўзбагачэнне і вяртанне прыродзе і грамадству, г. зн. нашчадкам, скарбу ў новым яго выглядзе.

Духоўная культура Навагрудчыны сёння, як і ў мінулым, валодае ўласнымі рэсурсамі, неабходнымі для таго, каб паспяхова вырашаць актуальныя праблемы агульначалавечага развіцця.

Дар'я ГУШТЫН

# ПРАФЕСІІ БУДУЧЫНІ

***Варта было Юрыю Гагарыну адправіцца ў космас, як на некалькі пакаленняў наперад прафесія касманаўта стала самай чаканай і прэстыжнай. Змяняўся час. І дзеці марылі стаць то кіроўцамі аўтобуса, то юрыстамі, то бізнесоўцамі, то мадэлямі. Часта школьніку складана зрабіць у 18 год выбар, кім ён хоча быць пасля вучобы ва універсітэце і якой справе плануе прысвяціць жыццё. Прапаноўваю пагаварыць пра спецыяльнасці, якія ў наш час з'яўляюцца самымі запатрабаванымі і ўжо цяпер ацэньваюцца як адны з найбольш перспектыўных на сусветным рынку працы.***

У нашыя дні нікога не здзівіш зменай прафесіі. Сітуацыя на рынку працы змяняецца літаральна кожны год. Калі ў 2008 годзе працадаўцы шукалі бойкіх менеджэраў па продажах, то праз год ім былі патрэбныя спецыялісты з эканамічнай адукацыяй. З 2009 года на рынку працы лідзіруюць спецыялісты па збыце. Кампаніям як паветра патрэбны гандлёвыя прадстаўнікі, дырэктары па продажах і камерцыйныя дырэктары, спецыялісты па маркетынгу. Гэта залежыць ад таго, што вырабляе ці прадае тая ці іншая фірма. Таксама летась былі запатрабаваны спецыялісты па рэкламе і PR, г. зн. па сувязях з грамадскасцю.

На першы погляд, на рынку працы ўсё змяняецца імкліва і непрадказальна, але тым часам ён — сфера прагназуемая. Як паказваюць даследаванні сацыёлагаў, у дзесятку самых запатрабаваных прафесій найбліжэйшай будучыні патрапяць наступныя спецыялісты.

## ЗА КІМ НАША БУДУЧЫНЯ?

### Інжынерныя спецыяльнасці

Па прагнозах спецыялістаў, на вядучыя пазіцыі выйдуць інжынерныя спецыяльнасці, звязаныя з прамысловай вытворчасцю. Заходні капітал яшчэ толькі робіць першыя крокі па ўваходжанні на беларускі рынак і прысутнічае галоўным чынам у сталіцы і абласных гарадах, але ўжо цяпер узнікае востры недахоп прафесійных інжынераў, тэхнічных спецыялістаў і кіраўнікоў сярэдняга звяна на вытворчасці. Асабліва будзе шанавацца спалучэнне тэхнічнай і эканамічнай ці юрыдычнай адукацыі, валоданне англійскай ці любой іншай еўрапейскай мовай. Запатрабаванасць інжынераў-маркетолагаў і менеджэраў расце ва ўсіх галінах прамысловасці.

### Інфармацыйныя тэхналогіі і распрацоўшчыкі камп'ютэрнага апаратнага забеспячэння

Праграміст — гэта спецыяліст, які стварае і адладжвае праграмнае забеспячэнне. У сучасным свеце ўсё большае значэнне набывае імідж фірмы, і сайт — не што іншае, як паказчык узроўню і надзейнасці арганізацыі. Як вынік, веб-дызайнер — адна з самых высокааплатных «камп'ютэрных» прафесій. Многія кампаніі гатовыя заплаціць немалыя грошы, каб на іх звярнулі ўвагу карыстальнікі Інтэрнета.

### Нанатэхналогіі

Наступныя найбольш запатрабаваныя прафесіі будучыні звязаныя з нанатэхналогіямі.

Гэта тэхналогіі, заснаваныя на працы з малекуламі і атамамі, гэта тэхналогіі, якія выкарыстоўваюць найбольш утоеныя і каштоўныя ўласцівасці рэчыва. Нанатэхналогіі — гэта велізарная сфера, якую можна падзяліць на тры часткі: вытворчасць мікрасхем, робатаў у нанапамерах, а таксама інжынерыя на атамным узроўні. Па

прагнозах, будуць запатрабаваны ўсе спецыяльнасці, звязаныя з нанатэхналогіямі. Ужо зразумела, што нанатэхналогіі ахопяць усе сферы: машынабудаванне, касмічныя тэхналогіі, харчовую прамысловасць, медыцыну і г. д. Лічыцца, што краіну, якая дасягнула прарыву ў развіцці нанатэхналогій, чакае сусветнае лідэрства.

**Спецыяльнасці на стыку электронікі і біятэхналогій**

Гаворка ідзе пра тэхналогіі, якія выкарыстоўваюць біялагічныя сістэмы і іх элементы.

У наш час біятэхналогіі даволі шырока ўжываюцца ў сельскай гаспадарцы, дзе з дапамогай геннай інжынерыі і метадаў мікрабіялогіі атрымліваюць генна-мадыфікаваныя прадукты. Біятэхналогіі выкарыстоўваюцца ў малекулярнай медыцыне, у біяфармацэўтычных вытворчасцях і ў іншых галінах. Спецыяльнасці на стыку электронікі і біятэхналогій патрабуюць ад спецыяліста глыбокіх ведаў як у электроніцы, так і ў біяінжынерыі. Цалкам верагодна, што працоўныя біячыпы зусім хутка з’явяцца ў нашым жыцці.

**Маркетынг і продажы**

Эксперты прагназуюць, што гадоў праз пяць на беларускім рынку адбудзецца перанасычэнне тавараў і паслуг. Маркетолаг — гэта найперш стратэг кампаніі. Справа маркетолага — кіраваць сістэмай, арыентаванай на вытворчасць разнастайных выгод і задавальненне інтарэсаў вытворцаў і спажыўцоў. Ён праводзіць даследаванне рынку, плануе асартымент і аб’ёмы прадукцыі, вызначае кошты, стымулюе збыт. Высокакваліфікаваны спецыяліст у вобласці маркетынгу распрацоўвае бізнес-планы, прапануе найбольш выгадныя варыянты ўкладання грошай прадпрыемства.

**Спецыяльнасці, звязаныя з сэрвісам**

Прыбыткі насельніцтва растуць, расце колькасць сярэдняга класа. Адзін з паказчыкаў гэтай тэндэнцыі — усё большае запатрабаванне ў якасным сэрвісе. Гэта і хімчыстка, і цырульня побач з домам, і добры дзіцячы садок і іншае. Прычым попыт на прафесіі сферы абслугоўвання, як паказвае досвед заходнееўрапейскіх краін і ЗША, будзе штогод узрастаць, пры гэтым тэмпы росту запатрабавання ў прафесіях сферы абслугоўвання будуць апярэджваць тэмпы росту запатрабавання ў іншых запатрабаваных прафесіях.

**Лагістыка**

Далейшая інтэграцыя Беларусі ў сусветны рынак непазбежна запатрабуе прытоку прафесійных лагістаў. Прафесія лагіста падыходзіць тым, каму не падабаюцца ў працы цвёрдыя межы, хто не любіць шаблонаў і зададзеных абмежаванняў. Каб зрабіць паспяховую кар’еру, лагісту спатрэбяцца аналітычны розум і сістэмнае мысленне, інтуіцыя, уменне хутка знаходзіць выйсце са складаных сітуацый, навыкі зносін з людзьмі, камунікабельнасць. Не абысціся без практычнага досведу, а таксама без глыбокіх ведаў матэматыкі, тэхнікі, права і, вядома, без разумення прынцыпаў бізнесу. Многія прадпрымальнікі перакананыя, што добрым лагістам можа быць толькі гулец па прыродзе, надзелены талентам перасоўваць тавары і грузы, як фігуры на шахматнай дошцы.

**Экалогія**

Тэрмін «экалогія» ўзнік даўно, яшчэ ў 1866 г. І далей усё большае месца будуць займаць праблемы захавання навакольнага асяроддзя. Рост шкодных выкідаў у атмасферу ставіць праблемы экалогіі на адно з першых месцаў у будучым глабальным свеце. З аднаго боку, пачне павялічвацца попыт на прафесійных эколагаў, а з іншага — пашырацца спектр патрабаванняў да абаронцаў прыроды. Спецыяльнасць эколага будзе патрабаваць ведаў фізікі, хіміі і біялогіі, навыкаў камп’ютэрнага мадэліравання. Прафесія эколага стане адной з найважнейшых і самых запатрабаваных.

**Медыцынскія спецыяльнасці, звязаныя з пошукам сродкаў падаўжэння жыцця**

Медыцына паспяхова выкарыстоўвае дасягненні ў вобласці электронікі, біятэхналогій, якія сёння толькі яшчэ ствараюцца, даследуюцца, а праз 10 гадоў, напэўна, увойдуць у практыку, стануць звыклай у медыцыне справай. Але таксама зразумела і тое, што і праз дзесяцігоддзе гэта будуць яшчэ вельмі дарагія тэхналогіі. Пачнецца актыўная праца, каб зрабіць іх даступнымі

для большасці людзей. І тут спатрэбяцца адпаведныя спецыялісты, імя якім — герантолагі.

**Хімія**

Спецыялісты ў вобласці хіміі будуць асабліва запатрабаваны ў сферы энергетыкі. Хоць, як вядома, на бліжэйшыя 10 гадоў запасаў нафты хопіць, ужо цяпер чалавецтва працуе над развіццём альтэрнатыўных крыніц энергіі. Да 2016 г. распрацоўкі і даследаванні ў вобласці альтэрнатыўных, экалагічна чыстых крыніц энергіі дасягнуць свайго піку — і без хімікаў тут будзе проста не абысціся.

**Новыя і перспектыўныя спецыяльнасці ў беларускіх універсітэтах**

У Беларускім дзяржаўным універсітэце з'явіцца адразу некалькі новых спецыяльнасцей. На факультэце прыкладной матэматыкі і інфарматыкі будзе распачаты набор на прыкладную інфарматыку (кірунак — праграмнае забеспячэнне камп'ютэрных сістэм). Важна, што на гэтай спецыяльнасці студэнты атрымаюць зусім новую спецыялізацыю і прафесію — «інфарматык» (а не «матэматык-праграміст»). Асноўная ўвага тут будзе надавацца інфарматыцы як навуцы. Навучальныя планы будуць складзены па міжнародных стандартах. На факультэце радыёфізікі і электронікі абітурыенты маюць магчымасць паступаць на спецыяльнасць «Аэракасмічныя радыёэлектронныя і інфармацыйныя сістэмы і тэхналогіі». Тут фундаментальная радыёфізічная адукацыя будзе спалучацца з прыкладнымі дысцыплінамі, накіраванымі на распрацоўку і выкарыстанне новых інфармацыйных тэхналогій і радыёэлектронных сістэм. Спецыяльнасць «Прыкладная інфарматыка» (кірунак — веб-праграмаванне і камп'ютэрны дызайн) адкрываецца на гуманітарным факультэце. У адрозненне ад аналагічнай спецыяльнасці на факультэтах прыкладной матэматыкі і інфарматыкі, а таксама радыёфізікі і электронікі, тут увага будзе надавацца яшчэ і творчаму, дызайнерскаму падыходу да інфарматыкі. А вось на факультэце журналістыкі ўжо ў верасні пачнуць рыхтаваць прафесійных пісьменнікаў.

У Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце з новага навучальнага года на факультэце транспартных камунікацый адкрываецца спецыяльнасць геадэзія. У Мінску будуецца шмат буйных аб'ектаў («Мінск-Арэна», напрыклад), а інжынераў для гэтых будоўляў не хапае. Для гэтага БНТУ і адкрывае сваю новую спецыяльнасць, дзе студэнтаў навучаць працаваць з геадэзічнымі прыборамі і апрацоўваць іх вынікі. А вось педагагічны універсітэт імя Максіма Танка прапаноўвае абітурыентам новыя спецыяльнасці на факультэце фізічнай культуры. Гэта фізкультурна-аздараўленчая і турысцка-рэкрэацыйная дзейнасць, спартыўна-педагагічная дзейнасць (спартыўная рэжысура), спартыўна-турысцкая дзейнасць (менеджмент у турызме).

Абітурыентаў парадуюць новымі спецыяльнасцямі не толькі сталічныя ВНУ. Напрыклад, сёлета ў Брэсцкім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце на факультэце водазабеспячэння і гідрамеліярацыі адкрываецца спецыяльнасць «Экалагічны маніторынг, менеджмент і аўдыт».

У Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя Пятра Машэрава з гэтага часу будуць рыхтаваць педагогаў-мастакоў на спецыяльнасці «Выяўленчае мастацтва» (мастацка-графічны факультэт).

У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы новых спецыяльнасцей ажно чатыры: «Камп'ютэрная бяспека (матэматычныя метады і праграмныя сістэмы)», «Матэматыка (інфармацыйныя тэхналогіі)», «Інфарматыка», а таксама «Вытворчасць прадукцыі і арганізацыя грамадскага харчавання» (факультэт біялогіі і экалогіі). У Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны з гэтага часу можна будзе вывучаць «Музейную справу і ахову гісторыка-культурнай спадчыны (гісторыя і музеалогія)» (гістарычны факультэт).

У беларускіх ВНУ працягваецца папаўненне пераліку спецыяльнасцей усё новымі і новымі пунктамі. Стварэнне «Камп'ютэрнай бяспекі» ў Полацкім дзяржаўным універсітэце, «Web-журналістыкі» ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, «Ядзернай бяспекі» ў Міжнародным дзяржаўным экалагічным універсітэце імя А. Д. Сахарава, асобнага факультэта турызму і сэрвісу ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы дае ўпэўненасць у тым, што вышэйшая адукацыя ў Беларусі не саступае лепшым і найсучаснейшым еўрапейскім і сусветным стандартам.

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## КАПЫЛЬСКІ РАЁН

**Вёска Слабада-Кучынка**, цэнтр сельсавета

**Бабарэкі Адама** [2(14).10.1899—10.10.1938], пісьменніка і крытыка, радзіма. З беззямельных сялян. Бацькі рана памерлі. Адама як сірату прынялі ў Слуцкую бурсу. Пасля заканчэння Мінскай духоўнай семінарыі (1918) настаўнічаў на Случчыне, загадваў аддзелам народнай асветы. Скончыў БДУ (1927). Удзельнічаў у падпольным руху супраць польскіх акупантаў (1920—1921). У 1921—1922 гг. — палітработнік у Чырвонай Арміі. У 1926—1929 гг. выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Камуністычным універсітэце Беларусі, з 1928 г. — асістэнт кафедры беларускай літаратуры БДУ. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў літаратурна-мастацкіх аб'яднанняў «Маладняк» (1923) і «Узвышша» (1926). Друкаваўся з 1919 г. Вершы і апавяданні падпісваў псеўданімамі Адам Чырвоны, Якім Каліна і інш. Выдаў зборнік «Апавяданні» (1925). У 1930 г. беспадстаўна арыштаваны. 10.4.1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі. Жыў у г. п. Слабадской (Вятчына), у Вятцы, працаваў бухгалтарам. У 1937 г. рэпрэсіраваны паўторна. Памёр у 1938 г. Рэабілітаваны ў 1957 г. У 1984 г. у мясцовай школе адкрыўся музей баявой і працоўнай славы. Сярод экспанатаў — матэрыялы, прысвечаныя **Бабарэку Адаму.** Тут змешчаны ўспаміны жонкі літаратара, а таксама Уладзіміра Дубоўкі, Кандрата Крапівы, Максіма Лужаніна і інш. Стварыць музей дапамог настаўнік гісторыі Рыгор Несцерчык.

**Вёска Станькі** Доктаравіцкага сельсавета

**Ясючэні Уладзіміра** (17.11.1925—12.3.1945, узбярэжжа р. Одэр, пахаваны ў мяст. Грапфенхаген, цяпер ФРГ), паэта, радзіма. Матэрыялы пра яго ёсць у Доктаравіцкім саўгасным музеі Капыльскага р-на. Імя яго высечана на абеліску ў саўгасным скверы.

**Вёска Труханавічы** Камсамольскага сельсавета

**Скрыгана Яна** (Івана; 16.11.1905—18.9.1992), пісьменніка, радзіма. Скончыў БДУ (1932). Працаваў у газеце «Вясковы будаўнік» (Слуцк, 1924—1925), загадчыкам народнага дома (Расоны, 1925—1926), у газетах «Чырвоная Полаччына» (1926—1927), «Літаратура і мастацтва» (1933—1936), Дзяржаўным выдавецтве БССР (1955—1975). З 1975 г. быў адказным сакратаром Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Першыя вершы апублікаваў у 1924 г. Аўтар кніг прозы «Затока ў бурах» (1929), «Шугае сонца» (1930), «Недапісаны профіль» (1932), «Сустрэчы» (1935), «Апавяданні» (1956), «Наталя» (1957), «Няпрошаная сляза» (1958), «Скажы адно слова» (1961), «Свая аповесць» (1964), «Ранішнія росы» (1965), «Кругі» (1969), «Некалькі хвілін чужога жыцця» (1979), літаратурных партрэтаў беларускіх пісьменнікаў.

---

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—6 за 2010 г.

**Вёска Цімкавічы,** цэнтр сельсавета
**Вул. Слуцкая**

Мясцовая школа з 1950 г. носіць імя **Чорнага Кузьмы.** 24.6.1964 г. у школе адчынены літаратурны музей пісьменніка. Заір Азгур падарыў музею бюст К. Чорнага. У фондах — больш за тысячу экспанатаў. З 1980 г. музею нададзены статус народнага. Арганізатар музея — Зінаіда Раманенка.

У Цімкавічах з 1908 г. жыў з бацькамі **Кузьма Чорны**. Дзед пісьменніка быў дзесяціннікам, жыў на Капыльскай вуліцы — з таго краю, што звернуты быў да Капыля. Потым бацькі Чорнага жылі ў Борках на той жа Слуцкай шашы, у маёнтку пана Эдварда Вайніловіча — у Лапацічах. Вучыўся ў народным вучылішчы, працаваў у ваенным аддзеле валаснога рэўкама. У 1921 г. настаўнічаў у Цімкавіцкай школе. У час настаўніцтва многа чытаў, спрабаваў свае сілы ў літаратуры, пісаў вершы і апавяданні. У маі 1923 г. газета «Савецкая Беларусь» друкуе яго першае апавяданне «На граніцы». Усе найбольш значныя творы Чорнага звязаны з Цімкавічамі, а героямі іх з'яўляюцца землякі пісьменніка. Ранняе апавяданне «Восень і радасць» — слова пра маці, яе вялікае сэрца, замілаванасць прыродай, жыццём. Лірычны герой апавядання «Хвоі гавораць» — сам Мікалай, дзядзька Язэп — далёкі сваяк, цімкавец Адамовіч, у якога сапраўды быў сын Міхал; дзяўчына Дося — гэта Вікця. «Трагедыя майго настаўніка» — гісторыя трагічнага лёсу настаўніка Ляхоўскага, таго, што рыхтаваў К. Чорнага і яго сяброў да паступлення ў Нясвіжскую семінарыю. Калі з'явілася апавяданне «Брыгадзірава памылка», то ўсе цімкаўцы пазналі ў ім брыгадзіра Кастуся Кастэцкага і яго жонку Лізавету. У рамане «Трэцяе пакаленне» многае ўзята з побыту Міроўшчыны (месца, дзе жыла сквапная сястра бацькі пісьменніка з сям'ёй). Правобразам старога Скуратовіча стаў нелюдзімы і сквапны Гжэгаж Сухавей (муж Марылі), яго жонка — панская ахмістрыня Марыля. У час Вялікай Айчыннай вайны К. Чорны ў рамане «Вялікі дзень» зноў вярнуўся да сямейнай хронікі Сухавеяў.

**Бельскага Алеся** (псеўд. Алесь Ветах, н. 23.7.1963), літаратуразнаўца, пісьменніка, радзіма. Доктар філалагічных навук, прафесар. Закончыў Цімкавіцкую СШ і філалагічны факультэт БДУ. Працаваў настаўнікам СШ № 55 г. Мінска, намеснікам дырэктара Слабадской васьмігодкі Мінскага р-на. Затым вярнуўся выкладаць у БДУ. Паралельна ўзначальваў лабараторыю навучання беларускай літаратуры ў Нацыянальным інстытуце адукацыі. Адначасова з 2001 г. — галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура». Аўтар зборнікаў прозы «Ружовая знічка» (1994), «Хроніка смутку» (1999, Літаратурная прэмія імя І. Мележа — 2000 г.), аповесці «Час акселерацыі» (1994), літаратуразнаўчых манаграфій «Сучасная беларуская літаратура: станаўленне і развіццё творчых індывідуальнасцей (80—90-я гг.)», «Жывая мова краявідаў», «Свет ад травы да зор» і інш.

**Вёска Чыжэвічы** Доктаравіцкага сельсавета

**Даманскай Міхаліны** (Фядушка, 1875—1936), польскай пісьменніцы, грамадскага дзеяча, радзіма. Наведвала ў якасці вольнай слухачкі Ягелонскі універсітэт у Кракаве. Атрымала прэмію бібліятэкі «Спраў выбарчых» за аповесць «Брыдкая». Напісала і выдала аповесці пад рознымі назвамі («Ціхая сіла», «Ззянне»). У навелах і абразках апісала жыццё землякоў, якія вызнаюць праваслаўе. У час Першай сусветнай вайны пражывала ў Мінску, прымала ўдзел у таварыстве «Асвета». Пасля рэвалюцыі выехала ў Варшаву. Там жыла за кошт апублікаваных работ і займалася перакладчыцкай дзейнасцю. На французскую мову пераклала творы Элізы Ажэшкі і Генрыка Сянкевіча.

**Вёска Чырвоная Дуброва** (да 1961 г. Макраны) Семежаўскага сельсавета

**Ралько Івана** (21.11.1920—27.12.1979), літаратуразнаўца, крытыка, паэта, радзіма. Скончыў БДУ (1958). Настаўнічаў у Баранавіцкім р-не (1951—1957), з 1961 г. — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Друкаваўся з 1958 г. Аўтар даследаванняў «Беларускі верш. Старонкі гісторыі і тэорыі» (1969), «Вершаскладанне. Матэрыялы і даследаванні» (1977). Перакладаў з украінскай і польскай моў.

# КЛЕЦКІ РАЁН

## г. Клецк

**Вуліцы Астроўскага А., Горкага Максіма, Коласа Якуба, Купалы Янкі, Лермантава Міхаіла, Някрасава Мікалая, Пушкіна Аляксандра, Талстога Льва, Ясеніна Сяргея, зав. Коласа Якуба, Лынькова Міхася, Талстога Льва, пл. Маякоўскага**

**Вул. Гагарына, 6**
**Гісторыка-этнаграфічны музей**
Заснаваны ў 1961 г. як школьны, з 1979 г. дзяржаўны. Пад экспазіцыяй 194 $м^2$, каля 5 тыс. адзінак асноўнага фонду. Сярод экспанатаў — кнігі з аўтографамі **Гарэцкага Гаўрылы, Крапівы Кандрата,** успаміны **Іверса Анатоля.**

**Вуліца Пушкіна** (былая Татарская)
У 1920-х гадах тут працавала прыватная беларуская гімназія, у якой вучыўся паэт Міско Іван (псеўд. **Іверс Анатоль**), ураджэнец в. *Чамяры* Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.

* * *

Месца жыхарства **Буднага Сымона,** беларускага гуманіста, асветніка, рэлігійнага рэфарматара, філосафа, сацыёлага, гісторыка, ураджэнца в. Буды ў Мазовіі (Польшча). У 1560 г. канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл прызначыў Сымона Буднага прапаведнікам клецкай саборнай царквы кальвіністаў. Яму быў дадзены ва ўладанне двор з сялянамі, асабісты дом, прыслуга. У Клецку Будны захапіўся асветай «простага люду», пераклаў на беларускую мову «Катэхізіс» М. Лютэра, напісаў да яго прадмову.

* * *

**Вёска Арэшніца** (да 1964 г. Навозы) Заастравецкага сельсавета
Вуліца **Купалы Янкі**.

**Вёска Бабаевічы** Красназвёздаўскага сельсавета
**Апанасевіча Анатоля** (н. 4.10.1955), паэта, радзіма. Вучыўся ў Янавіцкай і Клецкай школах. У 1974—1976 гг. служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (1982). Працаваў у саўгасе «Сапоцкінскі» Гродзенскага р-на. З 1985 па 1992 г. старшыня Адэльскага сельсавета, з 2002 г. галоўны эканаміст Гродзенскай птушкафабрыкі. Друкуецца са студэнцкіх часоў. Аўтар зборніка вершаў «Пад фатальнай ценню» (1997). Вядомы таксама як бард, самадзейны мастак і скульптар. Жыве ў Гродне.

**Вёска Вароніна** Грыцэвіцкага сельсавета
**Галубовіча Леаніда** (н. 12.8.1950), паэта, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў Грыцэвіцкую СШ (1967), Слуцкае ПТВ-97 (1969). Працаваў электрыкам Жабінкаўскага цукровага завода (1969—1970). Служыў у Савецкай Арміі (1970—1972). Пасля працаваў электрыкам раённых электрасетак у Слуцку (1972—1974), СПТВ-36 (1974—1976), з 1976 г. электрык Клецкага раённага «Сельэнерга». Жыў у в. Вароніна. Затым, у 1987—1989 гг., вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. З 1990 г. працаваў рэдактарам Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, з 1994 г. загадчык аддзела часопіса «Крыніца». З 2002 г. у РВУ «Літаратура і Мастацтва». Друкуецца з 1967 г. Аўтар кніг: «Таемнасць агню», «Споведзь бясоннай душы», «Таемнасць споведзі», «Заложнік цемры», «Аист без гнезда» (Масква), «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча». Жыве ў Мінску.

**Вёска Драбаўшчына** Заастравецкага сельсавета
Вуліцы **Талстога Льва, Ясеніна Сяргея**.

**Вёска Заастравечча,** цэнтр сельсавета
Вуліцы **Гогаля Мікалая, Маякоўскага Уладзіміра, Чэхава Антона**.

**Вёска Заслоня** Грыцэвіцкага сельсавета
Вуліца **Талстога Льва**.

**Вёска Лецяшын** Гурнаўшчынскага сельсавета
Тут выхоўваўся ў свайго дзядзькі Ксаверыя Чарноцкага вядомы славяназнавец, піянер славянскай фалькларыстыкі **Даленга-Хадакоўскі Зар'ян** (сапр. Адам Чарноцкі), ураджэнец в. *Гайна* Лагойскага р-на Мінскай вобл. Зберагліся лісты вучонага да Караля Чарноцкага, яго стрыечнага брата, што застаўся жыць у Лецяшыне. Вучоны заахвочваў Караля збіраць беларускі фальклор, вельмі цікавіўся блізкай ад Ляхавіч вёскай Мыслабаж.

**Вёска Межная Слабада** Тучанскага сельсавета
**Яроша Міхася** (10.1.1929—10.7.1987), літаратуразнаўца, крытыка, радзіма. Кандыдат філалагічных навук (1958), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980). Скончыў Клецкую рускую сярэднюю школу (1948), філфак БДУ (1953). З 1956 г. — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Друкаваўся з 1955 г. Даследаваў праблемы развіцця беларускай дакастрычніцкай і савецкай літаратуры. Аўтар прац «Драматургія Янкі Купалы» (1959), «Міхась Чарот» (1963), «Янка Купала і беларуская паэзія» (1971). Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (т.1-2, 1964—1966), «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 2, 1969), «Гісторыі савецкай шматнацыянальнай літаратуры» (М., 1972, т. 4), «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (1977), манаграфіі «Беларуская савецкая лірыка» (1979, у сааўт. з В. Бечыкам).

**Вёска Морач**, цэнтр сельсавета
**Абабаркі Мікалая** (н. 15.5.1941), мовазнаўцы, празаіка, радзіма. У 1966 г. скончыў БДУ, настаўнічаў. З 1970 г. — у Магілёўскім універсітэце (у 1973—1983 загадчык кафедры). Аўтар кніг па беларускім мовазнаўстве, навучальных дапаможнікаў. Піша апавяданні.

**Вёска Сцяпужычы** Даматканавіцкага сельсавета
Вуліца **Пушкіна Аляксандра**.

**Вёска Узнога** Морацкага сельсавета
Вуліца **Пушкіна Аляксандра**.

## КРУПСКІ РАЁН

### Гарадскі пасёлак Крупкі

**Вул. Інтэрнацыянальная, 1**
**Бібліятэка імя Янкі Купалы**
Пры Крупскай раённай газеце «Ленінскім курсам» (цяпер «Крупскі веснік») у 1987 г. было створана літаратурнае аб'яднанне «Ручаіны».

* * *

**Вул. Інтэрнацыянальная, 67**
Тут да вайны скончыў 8 класаў, а пасля вайны жыў **Шуцько Іван,** пісьменнік, ураджэнец в. *Гаць* гэтага ж р-на. У 1958—1961 гг. — літсупрацоўнік крупскай раённай газеты «Голас калгасніка», затым — фотакарэспандэнт крупскай раённай газеты «Ленінскім курсам». Тут памёр і пахаваны.

* * *

**Калачынскага Міхася** (12.1.1917—10.8.1990), паэта, радзіма. У 1934 г. закончыў сярэднюю школу і пайшоў працаваць у мястэчку Бобр старшым піянерважатым, потым — літработнік крупскай раённай газеты «Камуністычны шлях». Скончыў курсы пры Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. Кірава ў Мінску (1936), у 1936—1938 гг.

быў адказным сакратаром рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». У 1938—1953 гг. — у Савецкай Арміі. Удзельнік савецка-фінскай вайны 1939—1940 гг., у Вялікую Айчынную вайну — армейскі журналіст. У пасляваенныя гады працаваў спецкарэспандэнтам газеты «Защитник Родины» (Адэса, 1945—1947), «Во славу Родины» (Мінск, 1947—1953). Пасля дэмабілізацыі прызначаны галоўным рэдактарам альманаха «Советская Отчизна». З 1954 — адказны сакратар, а з 1958 г. намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1960—1978 гг. галоўны рэдактар часопіса «Беларусь». Друкаваўся з 1932 г. Аўтар кніг «Косця-чэкіст» (1939), «Пакет» (1940), «Сонца ў блакіце» (1949), «Насустрач жыццю» (1951), «У вялікім паходзе» (1952), «На лясным паўстанку» (1955), «Прыпар» (1956), «Прыгоды Патапкі» (1958), «Сосны і дзюны» (1960), «Гронка рабіны» (1964), «Лясныя казкі» (1967), «Паясы» (1968), «За палямі, за лясамі» (1969), «Мая мазаіка» (1971), «Докшыцкі каравай» (1974), «Кніга дружбы» (1975), «Суквецце» (1977), «Рэха зямлі» (1978). У 1971 г. выйшлі выбраныя творы ў 2 тамах. Шэраг яго вершаў пакладзены на музыку. Аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў.

**Святлова Уладзіміра** (1.5.1926), пісьменніка, радзіма. Да вайны закончыў 5 класаў, у час вайны працаваў у гарадскім тэатры. Пасля вызвалення Мінска быў рэпрэсіраваны, тэрмін зняволення адбываў у Варкуце. Рэабілітаваны ў 1971 г. З 1957 г. працаваў на беларускай студыі тэлебачання рэжысёрам, потым на кінастудыі «Беларусьфільм». З'яўляўся сябрам Саюза кінематаграфістаў СССР. Аўтар кнігі «Незабыўнае».

* * *

**Вёска Белае** Хацюхоўскага сельсавета

Тут у 1944 г. нарадзіўся лётчык-касманаўт СССР **Кавалёнак Уладзімір.** У першы свой палёт У. Кавалёнак браў паэму **Коласа Якуба** «Новая зямля» і там чытаў яе сваім напарнікам па-беларуску. А першы верш, які вывучыў маленькі Вова, быў верш **Купалы Янкі** «Хлопчык і лётчык». У сувязі з гэтым вёсцы і касманаўту прысвяцілі вершы **Пецюкевіч Уладзімір (**«На радзіме касманаўта»), **Макарэвіч Васіль** («Сяло Белае»).

**Гарадскі пасёлак Бобр**, цэнтр пассавета

Настаўнікам Бобрскага народнага вучылішча працаваў у 1873—1874 гг. **Раманаў Еўдакім** — беларускі фалькларыст, аўтар манументальнага выдання «Беларускі зборнік».

**Вёска Вялікі Вазок** Дзянісавіцкага сельсавета

**Цітаўца Івана** (н. 7.10.1936), паэта-песенніка, радзіма. Інжынер-механік па прафесіі. З сям'і калгаснікаў. Закончыўшы сямігодку, 13 гадоў вучыўся ў завочнай і вячэрняй сістэмах адукацыі. Працаваў на заводах, новабудоўлях, на педагагічнай рабоце, намеснікам рэдактара часопіса «Акно». Узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Першая кніга вершаў «Дзіўная старана» выйшла ў 1995 г. Многія творы І. Цітаўца пакладзены на музыку. Родным мясцінам прысвечаны яго вершы «Крупшчына», «З дзяцінства», «Сяўба 45-га», «Школа» і інш.

**Вёска Гаць** Выдрыцкага сельсавета. У 1957 г. выселена, бо побач быў хімпалігон.

**Шуцько Івана** (20.12.1925—31.8.1984), пісьменніка, радзіма. Да вайны скончыў 8 класаў у Крупках. У 1944—1946 гг. служыў у Савецкай Арміі. Працаваў брыгадзірам калгаса ў роднай вёсцы. У 1958—1961 гг. літсупрацоўнік крупскай раённай газеты «Голас калгасніка». У 1963 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў фотакарэспандэнтам крупскай раённай газеты «Ленінскім курсам». Друкаваўся з 1949 г. Аўтар кніг «Мой меч» (1953), «Чужая хатка» (1958), «Лепшая сяброўка» (1959), «Дзедава рэліквія» (1960), «Першае слова» (1964), «Дзіма хоча быць героем» (1965), «Са свайго пункта гледжання» (1966) і інш. Памёр у г. п. Крупкі, пахаваны на пасялковых могілках.

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***